Чарняўскі Фёдар Віктаравіч



#Ураднікі менскага ваяводства XVI—XVIII стст.

Біяграфічны даведнік

Выпуск I

Мінск, 2007

**Чарняўскі Ф. В.**
Ураднікі (пасады, тытулы) Менскага ваяводства XVI — XVIII стагоддзяў (Біяграфічны даведнік) / Ф. Чарняўскі. — Мн.: Олдеран, 2007. — 224 с.

У першы выпуск даведніка ўвайшлі біяграфічныя звесткі пра асобаў, якія на працягу XVI — XVIII стагоддзяў атрымалі урады стольнікаў, падстоліяў, лоўчых і струкцасаў або толькі менаваліся ўраднікамі Менскага ваяводства, не маючы на гэта ніякага права. Зроблена спроба апісаць жыццё людзей, якія складалі эліту ваяводскай шляхты і аказвалі вялікі ўплыў на развіццё падзей у ваяводстве, паказаць іх маёмасны стан, сямейныя повязі і ўзаемаадносіны. Даведнік разлічаны на гісторыкаў, генеалогаў і ўсіх тых, хто цікавіцца гісторыяй сваёй Бацькаўшчыны.

# Змест

# Спіс скарачэнняў, крыніц і літаратуры, выкарыстаных пры складанні даведніка

АВАК — Акты Виленской археографической комиссии. Т. 1—39. Вильно: 1865—1908.

A.B. — Woiodkowiczowie herbu Radwan. Studium genealogiczne / W opracowaniu Andrzeja Woiodkowicza. Ottawa, 1978.

Б.А. — Беларускі Архіў. Т. 1—3. Менск, 1927—1931.

Б.Г.Ч. — Беларускі гістарычны часопіс.

Банецкі Адам. «Гербоўнік Польскі». — Boniecki, Adam. Herbarz Polski. T. 1—16. Warszawa, 1899–1913.

Вольф Юзэф. «Сенатары і дыгнітары...» — Wolff, Jyzef. Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Ksiкstwa Litewskiego 1386—1795. Krakyw, 1855.

ВПБ — Варшаўская публічная бібліятэка. З матэрыялаў А. Рахубы.

«Дэпутаты Галаўнога Трыбунала ВКЛ (1697—1794 гг.)» — Deputaci Trybunaiu Giywnego Wielkiego Ksiкstwa Litewskiego (1697—1794). Spis / Pod red. A. Rachuby; Opracowali A. Rachuba, P. Romaniuk; Przy wspyipracy A. Macuka, Jew. Aniszczenki. Warszawa, 2004.

Жыхлінскі Тэадор, Штогоднік 1—7 — Ziota Ksiкga Szlachty Polskiej / Przez Teodora Ïychlicskiego. T. 1—7. Poznac, 1879—1883.

ЗРМ у ГАСА — Збор розных матэрыялаў у Галоўным Архіве Старажытных Актаў (AGAD) у Варшаве. З матэрыялаў А. Рахубы.

Каяловіч. «Кампендыум». — Kojalowicz, Wojciech Wijuk S. J. Herbarz Rycerstwa W. X. Litewskiego» tak zwany Compendium. Krakyw, 1897.

НГАБ — Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Менску.

Незабытоўскі С. — Nezabytowski, Stanisiaw. Dzenniki 1695—1700. Poznac, 1998.

Нясецкі К. — Niesiecki K. Herbarz Polski. T.I—IX / Wyd. J. N. Bobrowicz. Lipsk, 1839—1845.

«Рэестр падымнага Навагародскага ваяводства» — Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Ksiкstwa Litewskiego. Wojewydztwo Nowogrydzkie 1690 r. / Pod red. A. Rachuby, opracowali H. Lulewicz, A. Rachuba. Warszawa, 2002.

«Рэестр падымнога Віленскага ваяводства» — Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Ksiкstwa Litewskiego. Wojewydztwo Wileckie 1690 r. / Opr. A. Rachuba. Warszawa, 1989.

«Собрание древних актов и грамот городов Вильны, Ковно, Трок...» — Собрание древних грамот и актов городов Вильны, Ковно, Трок, православных монастырей, церквей и по разным предметам. Ч. 1. Вильно, 1843.

«Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии...» — Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии, православных монастырей, церквям и по разным предметам. Мн., 1848.

Ураднікі цэнтральныя і дыгнітары ВКЛ... — Urzкdnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Ksiкstwa Litewskiego XIV—XVIII wieku. Spisy / Oprac. Henryk Lulewicz i Andrzej Rachuba // Urzкdnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku. Spisy / Pod red. Antoniego G№siorowskiego. Tom XI. Kyrnik, 1994.

Ураднікі Віленскага ваяводства... — Urzкdnicy Wielkiego Ksiкstwa Litewskiego. Spisy. Tom 1. Wojewydstwo Wilecskie. XIV—XVIII wiek / Pod red. A. Rachuby; Opr. H. Lulewicz, A. Rachuba, P. Romaniuk, przy wspyipr. Ui. Jemialianczuka, A. Macuka. Warszawa, 2004.

Ураднікі Інфлянцкія... — Urzкdnicy inflanccy XVI—XVIII wieku. Spisy / Oprac. Krzysztof Mikulski i Andrzej Rachuba // Urzкdnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku. Spisy / Pod red. Antoniego G№siorowskiego. Tom IX: Inflanty. Kyrnik, 1994.

Э.Г.Б. — Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1—6. Мн., 1993—2003.

## Службовыя партрэты. Уступнае слова рэцэнзента

Прапанаваная шаноўным чытачам праца з'яўляецца пачаткам серыйнага выдання пра ўрады і персаналіі службоўцаў рэгіянальнай адміністрацыі Менскага ваяводства XVI—XVIII стст. Абумовім тут адразу значэнне старабеларускага слова «ўраднік» — гэта значыць службовец, а ягоная пасада, адпаведна, — «урад». Ужо ў XIX—XX стст. у беларускай мове за гэтым словам замацавалася больш вузкае значэнне — як вышэйшага выканаўчага органа дзяржавы, Рады міністраў.

Падобнага кшталту інфармацыйныя даведнікі, дзе былі б дакладна пазначаны даты службовай кар'еры ўраднікаў пэўнага рэгіёну, вельмі патрэбныя ў працы гісторыкаў, генеалогаў, гісторыкаў культуры, краязнаўцаў... А па беларускай гісторыі, доўгі час дэперсаніфікаванай, брак такіх выданняў асабліва адчувальны.

Хоць выданні па генеалогіі шляхты Вялікага княства Літоўскага («гербоўнікі») пачалі з'яўляцца яшчэ ў XVI ст., але першая сістэматычная праца пра службовыя і ганаровыя пасады ВКЛ (назавем такія працы «службоўнікамі»), дзе прынцыпам арганізацыі тэксту былі не прозвішчы, а дзяржаўныя пасады, выйшла ў свет толькі ў 1885 г.[1] Кніжка Юзэфа Вольфа «Сенатары і саноўнікі Вялікага княства Літоўскага 1386—1795» вылучалася крытычнасцю падыходу да крыніц і стала пачаткам новага этапа генеалогіі ВКЛ. Нягледзячы на некаторыя памылкі і лакуны, адзначаныя ў рэцэнзіях[2] і самім Вольфам, ягоная праца застаецца класічнай і колькасць спасылак на яе ў літаратуры не змяншаецца. Польскі даследчык рыхтаваўся да ўдакладненага перавыдання сваёй працы, але здзейсніць яму гэта не ўдалося. Няскончанасць даследавання не пакідала ў спакоі іншых гісторыкаў. У прыватнасці, вядомы польскі спецыяліст па гісторыі Рэчы Паспалітай XVI—XVIII ст. прафе-

[1] Wolff J. Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Ksiкstwa Litewskiego 1386—1795. Krakyw, 1885.

[2] S...cki. Dostojnicy litewscy. Rozbiyr krytyczny i uzupeinienie dzieia J. Wolfa «Senatorowie» // Ateneum. T. I, 1886. S. 150—164; Ptaszycki S. Dzieje rodyw litewskich jako materiai do archeologii historycznej // Ateneum. T. III, z. 3, 1886. S. 525—530; Luba-Radzimicski Z. Siowo o namiestnikach rusko-litewskich i marszaikach woiycskiej ziemi // Przegl№d Polski. 1885. №. 20, kwartai I. S. 379—390.

сар Тадэуш Васілеўскі ўсяляк пашыраў ідэю падобнага праекта. Але ўжо ягоныя вучні Анджэй Рахуба і Генрык Люлевіч здолелі пачаць рэалізоўваць гэтую задуму — іх даведнік «Ураднікі цэнтральныя і саноўнікі Вялікага княства Літоўскага XIV—XVIII ст.» пабачыў свет у 1994 г. як частка вялікага праекта «Ураднікі даўняй Рэчы Паспалітай XII—XVIII ст.Спісы»[3] . Да Вялікага княства мелі дачыненне таксама яшчэ два тамы гэтай серыі — ураднікі падляшскія[4] і інфлянцкія[5] , якія з'явіліся ў тым жа 1994 годзе.

І толькі амаль праз 10 гадоў дайшла чарга да выданняў новых спісаў ураднікаў ВКЛ. Пад рэдакцыяй доктара габілітаванага Анджэя Рахубы ў Варшаве была заснавана выдавецкая серыя «Ураднікі Вялікага княства Літоўскага». Заяўленая ў рамках серыі праграма ахоплівае ўсю тэрыторыю ВКЛ на стан пасля Люблінскай уніі 1569 г., гэта значыць без украінскіх земляў. Разам запланавана 10 тамоў: I. Віленскае ваяводства; II. Троцкае ваяводства; III. Жмудскае княства; IV. Смаленская зямля і Смаленскае ваяводства; V. Полацкая зямля і Полацкае ваяводства; VI. Наваградская зямля і Наваградскае ваяводства; VII. Віцебская зямля і Віцебскае ваяводства; VIII. Берасцейская зямля і Берасцейскае ваяводства; IX. Мсціслаўскае ваяводства; X. Менская зямля і Менскае ваяводства. На цяперашні час з'явіліся тамы віленскі[6] і смаленскі[7] .

Такім чынам, запаўняюць інфармацыйныя лакуны і вядуць тут рэй польскія гісторыкі. Але ў наш час пачалі з'яўляцца і беларускія публі-

[3] Urzкdnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Ksiкstwa Litewskiego XIV—XVIII wieku. Spisy / Oprac. Henryk Lulewicz i Andrzej Rachuba // Urzкdnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku. Spisy / Pod red. Antoniego G№siorowskiego. Tom XI. Kyrnik: Biblioteka Kyrnicka, 1994.

[4] Urzкdnicy podlascy XIV—XVIII wieku. Spisy / Oprac. Ewa Dubas-Urwanowicz, Wiodzimierz Jarmolik, Michai Kulecki, Jerzy Urwanowicz // Urzкdnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku. Spisy / Pod red. Antoniego G№siorowskiego. Tom VIII. Kyrnik: Biblioteka Kyrnicka, 1994.

[5] Urzкdnicy inflanccy XVI—XVIII wieku. Spisy / Oprac. Krzysztof Mikulski i Andrzej Rachuba // Urzкdnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku. Spisy / Pod red. Antoniego G№siorowskiego. Tom IX. Kyrnik: Biblioteka Kyrnicka, 1994.

[6] Urzкdnicy Wielkiego Ksiкstwa Litewskiego. Spisy. Tom I. Wojewydztwo wilecskie. XIV—XVIII wiek / Pod red. A. Rachuby; Oprac. H. Lulewicz, A. Rachuba, P. Romaniuk, przy wspyipr. Ui. Jemialianczuka, A. Macuka. Warszawa: Wydawnictwo DiG, 2004.

[7] Urzкdnicy Wielkiego Ksiкstwa Litewskiego. Spisy. Tom I. Ziemia smolecska i wojewydztwo smolecskie. XIV—XVIII wiek / Pod red. A. Rachuby; Oprac. H. Lulewicz, A. Rachuba, P. Romaniuk. Warszawa: Wydawnictwo DiG, 2003.

кацыі (сумесна з літоўскім спецыялістам). Гаворка ідзе пра «Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства», што выйшлі ў свет у рубрыцы «Матэрыялы» новага альманаха «Commentarii Polocenses Historici»[8]. Спіс гэты яшчэ не скончаны, але публікацыя не мае прадмовы ці каментарыяў, таму казаць пра далейшыя перспектывы праекта складана.

І вось цяпер мы бярэм у рукі новае, шматабяцальнае выданне. Неаспрэчная вартасць працы — гэта тое, што яна пабудавана на базе апрацоўкі і аналізу найперш архіўных крыніц: матэрыялаў Нацыянальнага Гістарычнага Архіва Беларусі і Метрыкі ВКЛ. Аўтар таксама актыўна выкарыстаў апублікаваныя матэрыялы. Прынцыповае адрозненне працы ад падобнага, класічнага для такіх даведнікаў, даследчага і выдавецкага праекта «Ураднікі Вялікага княства Літоўскага» — беларускі аўтар не спыняецца толькі на лаканічнай фіксацыі датаў справавання ўрадаў той ці іншай асобай, а падае шырокі фон персанальнай, сямейнай і службовай гісторыі асобаў, што выконвалі тыя ці іншыя функцыі ў Менскім ваяводстве. Адзначым асобна — гэта зроблена на падставе мала вывучаных і неапублікаваных архіўных матэрыялаў, а ў тэксце маюцца адпаведныя спасылкі. Зразумела, што такая пашыраная канструкцыя даведніка патрабуе большага часу на падрыхтоўку, таму аўтар і абраў шлях асобных выпускаў. Фёдар Чарняўскі справядліва жадае як найхутчэй зрабіць даступным для чытачоў ужо напрацаваны матэрыял.

Вядома, працэс даследавання не скончаны і з цягам часу будуць з'яўляцца дапаўненні і ўдакладненні да гэтай публікацыі. Але мы павінны быць удзячныя аўтару, які з уласнай ініцыятывы праводзіць багата часу ў архіўнай зале і якому хапае жывой энэргіі давесці сваю справу да канца. Фёдар Чарняўскі падарыў нам нізку партрэтаў менскіх службоўцаў мінулага — і гэта гісторыя без ідэалізацыі, але з пэўнай эмацыйнай ангажаванасцю, бо ўсе перыпетыі сямейных здарэнняў і персанальнай кар'еры вельмі блізкія, цікавыя аўтару. Чытач таксама не застанецца ў баку.

А мы ўсё ж павінны быць вельмі патрабавальнымі да аўтара, які абвясціў пра сваю рашучасць цалкам выканаць уласную праграму па менскіх ўрадніках. Мы будзем чакаць наступныя выпускі гэтага даведніка.

Алег Дзярновіч

У Менску, 5 ліпеня 2006 года

[8] Радаман Андрэй, Галубовіч Віталь, Вілімас Дарус. Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства (другая палова XVI — першая палова XVII стст.) // Commentarii Polocenses Historici. Tomus Primus, Anno MMIV (Полацкія Гістарычныя Запіскі. Т. I, 2004). С. 73—80.

# Прадмова

Прапанаваны чытачу першы выпуск даведніка з біяграфічнымі звесткамі ўраднікаў Менскага ваяводства складаецца з чатырох раздзелаў: 11. «Стольнікі», 12. «Падстоліі», 21. «Лоўчыя» і 29. «Струкцасы». Падставай для ўключэння ў першы выпуск асобаў, што займаюлі менавіта гэтыя ўрады, была толькі наяўнасць матэрыялу, дастаткова прапрацаванага. Даведнік ураднікаў Менскага ваяводства ў канчатковым выглядзе павінен складацца з 36 радзелаў, пачынаючы з ваяводаў, кашталянаў, старастаў судовых і заканчваючы крайчымі, канюшымі, каморнікамі і вознымі, якія займалі самыя апошнія, ніжэйшыя, прыступкі лесвіцы ўрадаў. Кожнаму ўраду прысвечаны асобны раздзел, якому прысвойваецца парадкавы нумар, паказваючы месца гэтага ўрада ў агульнай сістэме ўрадаў Менскага ваяводства. Іерархія ўрадаў (пасадаў і тытулаў) у агульнай ваяводскай сістэме складзена з улікам пастановы каранацыйнага сойма Рэчы Паспалітай ад 1764 г.

Улічваючы, што кожны павет, які ўваходзіў у склад Менскага ваяводства, меў сваю сістэму ўрадаў, аналагічную ваяводскай, то Менскіх ваяводскіх ураднікаў лагічна было б менаваць ураднікамі Менскага павета. Унутры раздзела асобы, якія займалі ўрад або менавалі сябе ўраднікамі, але не мелі на гэта прывілея, размешчаны ў храналагічным парадку. Па кожнай асобе, у залежнасці ад наяўнасці матэрыялу, даецца артыкул, дзе прыведзены звесткі пра яго маёмаснае і сямейнае становішча. Унутры раздзела кожны артыкул нумаруецца, і ў імянным паказальніку прозвішча кожнай асобы прыведзена з пазначэннем парадкавага нумара артыкула і нумара раздзела, дзе згадваецца гэтая асоба. Пасля прозвішча і імя ўрадніка, у дужках, прыводзяцца даты справавання ўрада, пры адсутнасці каралеўскага прывілея на ўрад замест дат ставяцца пытальнікі. У такім выпадку пасля пытальніка пазначаюцца вядомыя з дакументаў даты менавання дадзенай асобы адпаведным урадам.

Даведнік дапоўнены спісам крыніц, выкарыстаных пры яго ўкладанні, а таксама імянным паказальнікам. Спіс крыніц змяшчаецца пасля кожнага артыкула, імянны паказальнік прыведзены ў канцы кожнага раздзела. Пасля завяршэння складання даведніка мяркуецца перавыдаць біяграфічны даведнік у адной кнізе, дзе імянны паказальнік будзе агульным для ўсяго выдання.

У канцы 80-х гадоў XVI ст. каралём Польскім і вялікім князем Лі-

тоўскім Жыгімонтам III было прынята рашэнне аб чарговым рэфармаванні сістэмы ганаровых званняў (урадаў) у паветах і ваяводствах Вялікага княства Літоўскага. Для ўзнагароды ваяроў, што найбольш праявілі сябе на вайне, уплывовых палітыкаў і, нарэшце, для папаўнення скарбу княства было вырашана ўвесці ў паветах і ваяводствах два ўрады, якія дагэтуль існавалі толькі ў цэлым па ВКЛ: урады стольнікаў і падстоліяў адпаведных паветаў і ваяводстваў.

Першыя прывілеі на гэтыя ўрады былі падпісаныя ў сакавіку 1590 г.: у Менскім ваяводстве ўрад стольніка атрымаў Юр'я Капашчэўскі, у Полацкім — Павел Кідачэўскі, Навагародскім — Павел Дзевялтоўскі, у Браслаўскім павеце — Васіль Масальскі. Былі ўзведзеныя ва ўрад стольнікаў найбольш заслужаныя і ўплывовыя зямяне ў паветах Лідскім, Упіцкім, Слонімскім і некаторых іншых.

Гэта была першая хваля стварэння сістэмы ўзнагародаў для найбольш уплывовых і заслужаных прадстаўнікоў шляхецтва Вялікага княства Літоўскага. Другая хваля, з увядзеннем у паветах і ваяводствах урадаў мечных, лоўчых, скарбнікаў, падчашых і чэснікаў, мела месца пасля ўзыходжання на вялікакняскі сталец Уладзіслава IV і датуецца 1635 г. У другой палове XVII стагоддзя адбылося ўвядзенне такіх ганаровых адзначэнняў, як стражнікі, канюшыя, крайчыя, абозныя і будаўнічыя ваяводстваў і паветаў. Сістэма ўрадаў працягвала змяняцца і ў XVIII ст.: у судовую сістэму ўводзілася практыка замены пажыццёвых суддзяў так званымі сурагатарамі, звычайным станавілася перадача ўрада за адпаведную плату, з папярэднім узгадненнем з вышэйшымі ўладамі княства, другой асобе. Пасля абрання на каралеўскі стол Станіслава Аўгуста былі ўнесены значныя змяненні ў сістэму земскіх і гродскіх судоў. Замест суддзі і падсудка сталі выбіраць чатырох суддзяў. Больш праў пры наданні ўрадаў у паветах і ваяводствах атрымалі штогадовыя павятовыя і ваяводскія соймікі.

Пры выкананні гэтай працы былі прагледжаны шматлікія гістарычныя і літаратурныя крыніцы. Прапрацаваны актавыя кнігі Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, Менскага земскага, гродскага судоў, матэрыялы Менскай магдэбургіі. Былі выкарыстаны матэрыялы, змешчаныя ў працах Т. Жыхлінскага, А. Банецкага, В. Каяловіча, І. Лапо, А. Рахубы. Прааналізаваны матэрыялы па генеалогіі беларускай шляхты, распрацаваныя маладымі беларускімі даследчыкамі і змешчаныя ў часопісах «Беларуская Мінуўшчына», «Спадчына», «Беларускі гістарычны часопіс» і нумарах «Беларускага гістарычнага агляду» Г. Сагановіча і выданне Згуртавання Беларускай шляхты «Годнасць» У. Вяроўкіна-

Шэлюты. Выкарыстаны звесткі па генеалогіі Валадковічаў, змешчаныя ў рукапісе Андрэя Валадковіча. На жаль, амаль некранутымі аказаліся актавыя кнігі іншых ваяводстваў і паветаў Вялікага княства Літоўскага. З-за немагчымасці свабоднага доступу зусім не праводзілася праца па выкарыстанні архіўных і літаратурных крыніц, што знаходзяцца на захаванні ў замежных сховішчах. Зразумела, што гэта значна звузіла магчымасці па больш глыбокім асвятленні дзейнасці і жыцця выяўленых ураднікаў Менскага ваяводства. Па гэтай жа прычыне некаторыя з ураднікаў ваяводства не могуць быць выяўленымі і ўнесенымі ў даведнік.

Неабходна адзначыць, што пры складанні даведніка былі выкарыстаны звесткі з попісу падымнога Менскага ваяводства, складзенага гродскімі судовымі ўраднікамі ваяводства ў 1667 годзе. Аднак у нашы рукі дакумент трапіў пашкоджаным, адсутнічаюць першыя і апошнія кадры стужкі. Толькі прыблізна можна ўстанавіць, што да 1967 года стужка захоўвалася ў фондах архіва Літоўскай ССР. Таму спасылкі на дакумент даюцца толькі ў тэксце даведніка.

Улічваючы, што да гэтага часу на асабовы склад урадаў ваяводстваў і паветаў гісторыкамі не звярталася асаблівай увагі, у многіх працах па гісторыі Беларусі былі дапушчаны некаторыя памылкі: некаторым гістарычным асобам навукоўцамі прыпісваюцца ўрады, якія яны ніколі не займалі. Так, у працы Каяловіча «Herbarz rycerstwa W. X. Litewskiego...» (1) паведамляецца, што ўрад стольніка ваяводства Менскага меў Крыштоф Мінькоўскі Нагорны, пісар гродскі Менскі. Сапраўды, існаваў такі пісар гродскі Менскага ваяводства Крыштоф Мінькоўскі, які атрымаў першым у 1635 г. ганаровы ўрад мечнага Менскага і памёр каля 1640 г. Урад жа стольніка ваяводства Менскага на гэты час займалі прадстаўнікі роду князёў Жыжэмскіх. Да таго ж, нам не давялося сустрэць ні ў адной крыніцы ўпамінання імя гэтага ўрадніка з прыдомкам «Нагорны», хаця і не выключана, што ў будучым будуць знойдзены матэрыялы, пацвярджаючыя гэтую інфармацыю Каяловіча. На наш погляд, дапускаюцца аналагічныя памылкі і ў выданнях сённяшняга дня.

На жаль, намі не поўнасцю ўстаноўлены ўсе асобы, займаўшыя ўрады Менскага ваяводства ў другой палове XVII ст. Так, мы не можам дакладна прывесці імёны ўсіх стольнікаў Менскіх, пачынаючы з 1650 г., пасля адыходу з урада Уладзіслава Комара, і аж да сярэдзіны 1687 г., першай, з тых, што мы маем, даты трымання гэтага ўрада Тэадорам Антоніем Ваньковічам, падстарастам судовым Менскім. Час знішчыў дакументы гэтага перыяду гісторыі ВКЛ, і нам прыходзіцца літаральна па

дробязях устанаўліваць парадак перадачы і атрымання ўрадаў Менскага ваяводства.

На наш погляд, з'яўляецца неабходным устанаўленне ўсіх асобаў, якія мелі прывілеі на які-небудзь урад або, з невысветленых дагэтуль прычын, менавалі сябе ўраднікамі Менскага ваяводства. З-за недасканаласці арганізацыі працы канцылярыі Вялікага княства Літоўскага мелі месца злоўжывані ў справе надання ўрадаў. Як тады пісалі, «па няведама якіх прычынах» адзін і той жа ўрад адначасова, з-за пратэкцыі розных вяльможных асобаў, зразумела, не бескарысна, атрымлівалі некалькі прэтэндэнтаў адразу. І гэта было характэрна не толькі для Менскага ваяводства. Так, 15 снежня 1649 г. асэсарскі суд княства разглядаў скаргу Людвіка Еўлашэўскага, старасты Вількамірскага, на Тэадора Друцкага Горскага, войта Менскага, нямала паслужыўшага Айчыне ў першых шэрагах яе абаронцаў, і на Мальхера Савіцкага, каралеўскага сакратара. Справа заключалася ў тым, што адначасова з Людвікам Еўлашэўскім урад стольніка Полацкага ваяводства быў нададзены і Тэадору Друцкаму Горскаму і Мальхеру Савіцкаму. Абодва абвінавачваліся Еўлашэўскім у бяспраўным трыманні гэтага ўрада, ранейшым пасэсарам — гэта значыць трымальнікам яго — быў Францкевіч, а цяпер «невядома якім спосабам яны мянуюць сябе стольнікамі Полацкага ваяводства». Членам асэсарскага суда прыйшлося моцна паламаць сабе галаву, каб без значных стратаў для аўтарытэту дзяржавы выйсці з даволі прыкрага становішча. Было прынята пад увагу атрыманне зусім нядаўна Людвікам Еўлашэўскім староства Вількамірскага, а Мальхерам Савіцкім — староства Драгіцкага, і, нарэшце, улічаны баявыя раны Тэадора Друцкага Горскага. У выніку стольнікоўства Полацкага ваяводства рашэннем асэсарскага суда было пакінута за Тэадорам Друцкім Горскім, войтам Менскім (2). У Менскім ваяводстве аналагічнае становішча склалася ў канцы XVII — пачатку XVIII ст. У адзін і той жа час некалькі чалавек менавалі сябе лоўчымі Менскага ваяводства. Наколькі гэта было магчымым, мы пастараліся выявіць усіх асобаў, якія па якіх-небудзь прычынах менаваліся ўраднікамі Менскага ваяводства. Праўда, патрэбна прызнаць, што трыманне адразу некалькімі асобамі ўрада лоўчага або, да прыкладу, урадаканюшага, не выклікала, па нашых звестках, судовых працэсаў. Бо з трыманнем гэтых урадаў не былі звязаныя значныя матэрыяльныя набыткі. Зусім іншая справа была звязана з судовымі ўрадамі. Вядомы судовы працэс, які распачаў Давыд Міцкевіч са Станіславам Свірскім з-за ўрада падсудкоўства земскага Менскага.

Згодна з Ю. Вольфам, агульная колькасць урадаў у Польшчы скла-

дала каля 40 000. Аднак колькасць асобаў, адначасова менаваўшыхся (тытулаваўшых сябе) ураднікамі, значна (магчыма ў некалькі разоў) перавышала гэтую лічбу. У Польшчы кожны павінен быць кімсьці, кожны імкнуўся атрымаць тытул або ўрад (3). У Вялікім княстве Літоўскім было столькі звышнарматыўных ураднікаў, што з іх можна было сфармаваць не адну харугву.

Да ўсяго сказанага вышэй неабходна дадаць яшчэ адно: калі чалавек за сваё жыццё памяняў у Менскім ваяводстве некалькі ўрадаў, паступова падымаючыся па гэтай лесвіцы, то па кожнай асобе, па якой намі даюцца звесткі, абагульняючая інфармацыя за ўвесь перыяд яго жыцця будзе змяшчацца толькі ў раздзеле, дзе прыводзяцца звесткі пра апошні ўрад, які ён займаў у Менскім ваяводстве. Гэта тычыцца, напрыклад, такіх асобаў, як Лявон Павел Валадковіч, Фларыян з Яксаў Быкоўскі, Ян Юзэф Клакоцкі, Іахім Хмара, якія займалі ў розныя перыяды свайго жыцця ўрады стольнікаў Менскіх, а потым атрымалі больш высокі ўрад.

Укладальнік даведніка выказвае падзяку за аказанне фінансавай і тэхнічнай дапамогі спадарству Надзеі і Наталлі Чарняўскім, Таццяне Пашэвалавай, спадару Вячаславу Чарняўскаму, Сяргею Астахаву. Наўрад ці была б рэалізавана ідэя стварэння гэтай кнігі без іх бескарыснай дапамогі, прадстаўлення неабходных фінансавых і тэхнічных сродкаў. Вялікая падзяка Алегу Іванавічу Дзярновічу, кандыдату гістарычных навук, супрацоўніку Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. Яго шчырая падтрымка спробы стварэння даведніка, высокапрафесійныя парады дапамаглі ўкладальніку даведніка пазбегнуць многіх памылак. Выказваю вялікую ўдзячнасць спадарам Сяргею Рыбчонку, Герману Брэгеру, Уладзіславу Вяроўкіну-Шэлюту за атрыманыя ад іх парады, а таксама ўсім супрацоўнікам Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі на чале з дырэктарам Алай Купрыянаўнай Галубовіч. Вялікая дапамога ў адшуканні неабходных крыніц для напісання гэтага даведніка аказана ўкладальніку даведніка наступнымі супрацоўнікамі архіва: галоўным архівістам Губінай Вікторыяй Уладзіміраўнай, загадчыкам аддзела захаванасці дакументаў і фондаў архіва Кутуковай Галінай Мікалаеўнай, супрацоўнікамі аддзела інфармацыйна-пошуковых сістэм Юцэвіч Яўгеніяй Іванаўнай, Коцік Тамарай Мікалаеўнай і Новікавай Ірынай Леанідаўнай. Вялікая ім падзяка!

Укладальнік даведніка спадзяецца, што гэтае выданне будзе выкарыстана гісторыкамі пры далейшай распрацоўцы генеалогіі асобных родаў шляхты Вялікага княства Літоўскага.

Крыніцы:
1. Каяловіч. «Кампендыум», л. 182.
2. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 339, л. 126.
3. Вольф Юзэф. «Сенатары і дыгнітары ВКЛ...», л. 196.

---

# Раздзел 11. Стольнікі ваяводства Менскага

Стольнікі. Урад стольніка ў ВКЛ у архіўных крыніцах упамінаецца з з сярэдзіны XV ст. Стольнік вялікакняскага двара загадваў сервіроўкай стала і парадкам падачы страў пры правядзенні афіцыйных прыёмаў. Улічваючы вялікую колькасць запрошаных гасцей, у распараджэнне стольніка прадстаўляліся памочнікі, якія менаваліся падстоліямі. З 1590 г. па рашэнні каранацыйнага сойма Жыгімонт III пачаў уводзіць урад стольніка ў паветах і ваяводствах ВКЛ, дабіваючыся стварэння адзінай сістэмы ўрадаў ва ўсёй дзяржаве. З гэтага часу ўрад страціў свае функцыі і пераўтварыўся ў тытул, надаваемы пажыццёва. Улада выкарыстоўвала наданне тытула для вырознівання асабліва дастойных прадстаўнікоў павятовай і ваяводскай эліты і для папаўнення скарбу дзяржавы. Таксама і члены сям'і стольніка мелі права ўжываць тытул у побыце і пры складанні афіцыйных дакументаў. Жонка стольніка, пажыццёва або да атрымання мужам новага, больш высокага ўрада (пасады, тытула), менавалася стольнікавай. Сын стольніка менаваўся стольнікавічам, і гэта, пры скарачэнні запісу, часта прыводзіць даследчыкаў да памылак пры выкарыстанні дакументаў, датычных сына стольніка. У канцылярыях судоў ВКЛ урады рэдка запісваліся поўнасцю і, звычайна, даваліся ў скроце — «стольн.», што магло азначаць і самога стольніка, і яго сына — стольнікавіча адпаведнага ваяводства ці павета. Дачка стольніка менавалася стольнікаўнай. Права на ўжыванне тытула мела і жонка сына стольніка, яна менавалася стольнікавічавай.

## 11.1. Капашчэўскі Юр'я Багданавіч (20.03.1590 — да снежня 1624 года)

Юр'я Багданавіч Капашчэўскі да моманту атрымання ўрада стольніка Менскага паспеў шмат чаго ў жыцці дасягнуць ды і перажыў нямала. Як сказана ў каралеўскім прывілеі на гэты ўрад ад 20 сакавіка 1590 г., «...з маладосці гадоў сваіх продкам нашым, каралям, іх

міласцям Польскім і Вялікім князям Літоўскім, службу аказваў на вайне...» (1). Быў першым у Менскім ваяводстве, атрымаўшым урад стольніка ваяводства.У адным з дакументаў ад 10 снежня 1612 г., складзеным Марцінам Карыбутам Вішнявецкім, палкоўнікам войскаў Рэчы Паспалітай, сярод ваяроў Пяцігорскай харугвы пана Глябовіча, падскарбія ВКЛ і 2-й панцырнай харугвы пана Крыштофа Радзівіла, ваяводы Віленскага, «застаючыхся» на службе ў Камянцы Падольскім, дваццатым пазначаны Юр'я Капашчэўскі (2).

Належаў да пашыранага ў Менскім ваяводстве роду. Так, на пачатак XVII ст. у межах Менскага павета мелі аселасць зямяне Мацвей, Васіль і Іван Капашчэўскія. Разам з Геліяшам, Рыгорам і Філонам Капашчэўскімі, верагодна блізкай раднёй, Юр'я Капашчэўскі сумеснa валодаў меннем Капашчэўскае, якое ў 1596 г. было абменена з Ганнай Радзівіл на Чэрнеўскія двары (3).

На 1585 г. Юр'я Капашчэўскі служыць пану Астафію Валовічу. Па яго загадзе Юр'я Капашчэўскага разам з наместнікам маетнасці Крошынскай Берасневічам праводзіць замену сваіх грунтоў на грунты Калдычоўскія царэвіча Пунскага (4).

Верагодна, пасля смерці ў 1587 г. Астафія Валовіча перайшоў на службу да Радзівілаў. Вядома, што на 1616 г. займаў урад намесніка ў Радзівілаўскім Слуцку (5). На 20 сакавіка 1616 года атрымаў ад Януша Радзівіла, на вечнасць, вялікую маетнасць Тонва ў Менскім павеце. Разам з самой маетнасцю атрымаў ад Радзівіла і інвентар самой маетнасці, складзены Мацеем Ломжынскім (6). Займаў пасаду намесніка Слуцкага, як і ўрад стольніка ваяводства Менскага, да самай сваёй смерці, якая наступіла ў канцы 1624 г., бо ўжо 4 студзеня 1625 г. быў унесены ў акты тэстамент Юр'я Капашчэўскага (7), а 6 лютага 1625 г. прывілей на ўрад стольніка Менскага атрымаў каралеўскі сакратар Мікалай Анфаровіч (8).

Юр я Капашчэўскі ўступіў у шлюб з пані Раінай Салагубаўнай і меў з ёю некалькі дзяцей, з якіх нам пакуль што вядомыя толькі сын Пётр Капашчэўскі, падстолій і падстараста судовы Менскі, і дачка Кацярына, уступіўшая ў шлюб з Рыгорам Мірскім, стражнікам ВКЛ, вядомым удзельнікам усіх войнаў, якія вяла ВКЛ у першай палове XVII стагоддзя. Як даводзіць Анджэй Рахуба, Тамаш Андрэевіч Волан, спачатку суддзя гродскі Ашмянскі, а потым, з 1633 года, і маршалак Ашмянскага павета, уступіў у свой першы шлюб з прадстаўніцай роду Капашчэўскіх (9).

Вызнаваў кальвінізм і па даручэнні Януша Радзівіла, падчашага ВКЛ, старасты Берасцейскага, і на яго фундуш, займаўся будоўляй у

Слуцку на Зарэччы евангелісцкага збору разам са школай пры ім (10).

Некалькі разоў, у 1598 і 1619 гадах, абіраўся шляхтай Менскага ваяводства дэпутатам Галаўнога Трыбунала ВКЛ, а ў 1607 годзе займаў урад маршалка Трыбунала.

Жонка пана Юр'я Капашчэўскага, пані Раіна Салагубаўна, жыла яшчэ ў 1649 годзе. Па рашэнні Галаўнога Трыбунала ад 21 студзеня 1649 года Лукашу Чарнеўскаму быў выданы адпаведны ліст на баніцыю на Раіну Салагубаўну Юр'евую Капашчэўскую і яе сына Пятра Капашчэўскага, падстолія і падстарасту судовага Менскага, за невяртанне пазыкі. Праўда, услед за лістом на баніцыю і вываланне былі выданы пані Раіне Салагубаўне дзве сублевацыі (дазволы на адтэрміноўку выканання прыгавору суда): ад 10 студзеня і 20 красавіка 1650 года (11).

На 1667 год Капашчэўскія ў межах Менскага павета ўжо не сустракаліся.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 77, л. 70.
2. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 27, л. 58.
3. Там жа, ф 1926, воп. 5, с. 1, л. 172.
4. АВАК, т. 28, л. 50.
5. НГАБ. Ф 694, воп. 4, с., л. 95.
6. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 9, л. 936.
7. «Герольд Literland», № 2–2, Гародня, 2001, лл. 76–77.
8. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 100, л. 361.
9. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 1804, л. 277.
10. АВАК, т. 12, л. 435.
11. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 340, лл. 43, 51.

## 11.2. Анфаровіч Мікалай Міхайлавіч (06.02.1625 — да лютага 1633)

Мікалай Анфаровіч, сакратар Жыгімонта III, таксама як і Юр'я Капашчэўскі, атрымаў урад стольніка Менскага ў якасці ўзнагароды за свае заслугі перад каралём Рэчы Паспалітай. Да моманту атрымання ўрада стольніка Мікалай Анфаровіч ужо быў каралеўскім чыноўнікам з вялікім жыццёвым вопытам. Невыпадкова, што іменна яму даручалася выконваць волю караля, як яго даверанай асобе, пры вырашэнні розных складаных пытанняў. Так, Мікалай Анфаровіч займаўся вырашэннем судовых спраў паміж высокімі дастойнікамі Літоўскага кня-

ства або спраў, узнікаючых паміж ураднікамі і жыхарамі круляўшчызнаў (дзяржаўных менняў, знаходзячыхся ў чыімсьці часовым трыманні). Так, у 1628 годзе Мікалай Анфаровіч быў пасланы каралём для вырашэння спрэчных пытанняў, узнікшых паміж Аляксандрам Служкам, кашталянам Жамойцкім, старастам Рэчыцкім, і рэчыцкімі месцічамі, чыніўшымі шмат шкодаў кашталяну Жамойцкаму (1).

Каралеўскі прывілей на ўрад стольніка Менскага ваяводства атрымаў 6 лютага 1625 года (2).

Вядомы таксама ўдзел Мікалая Анфаровіча і ў дыпламатычных перамовах з Масквой: да 1625 года ездзіў з пасольствам да Масквы. Адышоў з урада стольніка Менскага ваяводства да лютага 1633 года (3).

Анфаровічы жылі на тэрыторыі ваяводства спрадвеку: як тады казалі, «Анфаровічы здаўна ў Менскім ваяводстве аселыя». Менні прадстаўнікоў гэтага роду знаходзіліся каля Нястанавіч і ў Гараўцы Менскага павета. На 30 красавіка 1582 года возны Менскі Ціхан Васільевіч праводзіў агляд маетнасці Нястанавіцкай, належачай Багдане Паўлаўне Анфаровічаўне, сястры Міхала і Яна Анфаровічаў, пацярпелай ад пагрому, учыненага суседзямі (4). Пані Багдана жыла яшчэ ў 1600 годзе. У Менскім гродскім судзе, у лістападзе гэтага года, разглядалася справа па яе адмове вярнуць ліст і мамрам Станіславу Душэўскаму і ўзяць у яго грошы, пазычаныя ім некалі (5). Як даводзіць Адам Банецкі, адзін з братоў Анфаровічаў, а менавіта Міхал, і быў бацькам Мікалая Анфаровіча, стольніка Менскага (6). Міхал Анфаровіч акрамя Мікалая меў яшчэ сына Андрэя і дачку Еву, уступіўшую ў шлюб з Сымонам Навашом. Мікалай, старэйшы сын Міхала Анфаровіча, уступіў у шлюб з Ядвігай Францаўнай Умястоўскай, але нашчадкаў не пакінуў. Яго малодшы брат Андрэй атрымаў значныя зямельныя наданні ад караля ў Смаленскім ваяводстве, займаў урад войскага Рэчыцкага і пакінуў двух сыноў — Крыштофа, падчашага Смаленскага, і Уладзіслава, стольніка Мсціслаўскага, уступіўшага ў шлюб з Барбарай Косакоўнай, дачкой Андрэя Косакоўскага, спачатку стольніка Менскага, а потым падсудка земскага Віленскага ваяводства.

У 1579 годзе адзін з Анфаровічаў, Ян Анфаровіч Пятровіч (так у тэксце, хаця сястра яго Багдана мянуецца Паўлаўнай), каралеўскі дваранін увязаў Міхала Рагозу ў кіраванне манастыром святога Уваскрашэння (7). У 1605 годзе Пётр Анфаровіч пазычыў Адаму Ваньковічу, будучаму войскаму Менскаму, буйную суму грошай і ўзамен трымаў ягоную маетнасць Гаравецкую (8). Як паведамляе Каяловіч, яшчэ адзін з Анфаровічаў, Самуэл, у 1651 годзе быў абраны дэпутатам Галаўно-

га Трыбунала (9). Каяловіч, праўда, не ўдакладняе, ад якога ваяводства быў абраны Самуэл Анфаровіч дэпутатам, але сцвярджае, што быў ён сакратаром караля. Праверкай па матэрыялах Галаўнога Трыбунала ў Метрыцы Вялікага княства Літоўскага было выяўлена абранне на 1651 год ад Менскай шляхты Анфаровіча, але толькі Мікалая (10). Пры гэтым былі выяўлены дэпутаты ў ГТЛ ад усіх ваяводстваў і паветаў Вялікага княства Літоўскага, але другога Анфаровіча сярод іх не знайшлося.

На 12 лютага 1678 года ў Менскім гродскім судзе разглядалася справа пляменніка памёршага Мікалая Анфаровіча, стольніка Менскага, Уладзіслава Анфаровіча, стольніка Мсціслаўскага, і яго жонкі Барбары Косакоўскай, пазваных Самуэлам Бародзічам і Тэадорай Валадковічоўнай за ператрыманне ў застаўным валоданні маетнасці Касцяневічы (11). Верагодна, справа не знайшла свайго вырашэння і ў 1680 годзе ў ГТЛ, пры маршалкоўстве Быхаўца, разглядалася справа братоў Анфаровічаў — Уладзіслава, стольніка Мсціслаўскага, і Крыштофа, падчашага Смаленскага (12). Вядома, што Крыштоф Анфаровіч, яшчэ таварыш харугвы гусарскай падскарбія ВКЛ, па каралеўскім прывілеі ад 30 ліпеня 1661 года атрымаў вёскі Слабодка і Шымацеева ў Смаленскім ваяводстве па здрайцу Паўлу Варанцу, «веру скруціўшаму» і перайшоўшаму на бок ворага (13). Згодна з рэестрам падымнога Менскага павета, складзеным Марцінам Казімірам Валадковічам, гараднічым і падстарастам судовым Менскім, і Аляксандрам Танаеўскім, пісарам гродскім, у 1667 годзе, яшчэ адзін прадстаўнік гэтага роду — Адам Анфаровіч валодаў двума дымамі ў Гараўцы і чатырма — у Баярах (14). Згодна з Банецкім, Станіслаў Анфаровіч, стольнік Мсціслаўскі, быў абраны Менскай шляхтай на элекцыю караля Яна III Сабескага (15).

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с.307, л. 65.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 100, л. 361.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с.109, л. 2.
4. АВАК, т. 36, л. 12.
5. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 1, л. 1071.
6. Банецкі Адам. «Гербоўнік Польскі», т. 1, л. 30.
7. «Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии...», л. 32.
8. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 290, л. 374.
9. Каяловіч. «Кампендыум», л. 290.

10. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 502, лл. 329-330.
11. Там жа,ф 1727, воп. 1, с. 35, л. 1511.
12. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 504, л. 444.
13. Там жа,кмф 18, воп. 1, с. 131, л. 444.
14. Рэестр падымнога Менскага павета ад 1667 г., л. 9.
15. Банецкі Адам. «Гербоўнік Польскі», т. 1, л. 35.

## 11.3. Жыжэмскі Ян Янавіч (люты 1633 — да канца 1635)

Мы ўжо гаварылі раней, што такія высокія ўрады, як урады стольнікаў і падстоліяў ваяводстваў і паветаў, у першай палове XVII стагоддзя надаваліся людзям, добра праявіўшым сябе ў часы войнаў і паходаў, як узнагарода за праяўлены гераізм. Усё гэта ў поўнай меры адносілася і да асобы Яна Жыжэмскага. Асноўным матывам надання яму такога ўрада было прызнанне несумненных заслугаў Яна Жыжэмскага перад краінай, яго гераізм, праяўлены ім у часы так званай Старадубаўскай вайны і паходу ў Валахію. Каралеўскі прывілей на наданне Яну Жыжэмскаму ўрада стольніка Менскага ваяводства быў падпісаны ў лютым 1633 года (1).

Спавядаў праваслаўе і лічыўся адным з найбольш адданых прыхільнікаў гэтага веравызнання ў межах Менскага ваяводства. Актыўна ўдзельнічаў у фундаванні цэркваў і манастыроў. Разам з усім праваслаўным людам Менска 2 чэрвеня 1633 года спрабаваў дабіцца выканання каралеўскага прывілея, выданага толькі што абраным каралём Польскім і Вялікім князем Літоўскім Уладзіславам IV, на перадачу праваслаўным вернікам Менскай царквы святой Тройцы, некалі захопленай уніятамі (2).

Урад стольніка займаў нядоўга, і ўжо па яго смерці, да лютага 1635 года, прывілей на ўрад стольніка быў нададзены Аляксандру Жыжэмскаму. Пасля смерці Яна Янавіча Жыжэмскага, стольніка Менскага, улічваючы адсутнасць нашчадкаў, менне Еўцікеевічы перайшло да Аляксандра Жыжэмскага (3).

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 109, л. 2.
2. «Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии...», л. 170.
3. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 111, л. 231.

## 11.4. Жыжэмскі Аляксандр (пасля 14.02.1635 — да 31.10.1640)

Аляксандр Жыжэмскі, пакаёвы дваранін караля Уладзіслава IV, мянованы стольнікам ваяводства Менскага пасля смерці Яна Янавіча Жыжэмскага пасля 14 лютага 1635 года. У прывілеі на вёску Еўцікеевічы, што раней належала памёршаму Яну Жыжэмскаму, датаваным 14 лютага, Аляксандр Жыжэмскі яшчэ мянуецца пакаёвым дваранінам (1). На жаль, сам прывілей нам не давялося адшукаць.

На ўрадзе стольніка Менскага прабыў да 31 кастрычніка 1640 года, калі па адыходзе Антонія Яна Тышкевіча быў мянованы чэснікам ВКЛ, а ўжо ў сакавіку 1643 года, згодна з А. Рахубам, быў мянованы на падстолія ВКЛ (2). Узлёт Аляксандра Жыжэмскага ў верхнія сферы ўлады ВКЛ быў нечакана перапынены ягонай смерцю: у 1645 годзе ягоная жонка, пані Зося з Фульштына Гербультаўна Аляксандравая Жыжэмская, падстоліна ВКЛ, самастойна вяла судовыя справы з крэдыторамі і памежнымі суседзямі. Справы часцей за ўсё ішлі аб пазыках, улакаваных — г. зн. забяспечаных коштам якой-небудзь маетнасці — на менне Засулле, размешчанае ў Менскім ваяводстве.

Ужо 14 лютага 1635 года атрымаў каралеўскі прывілей на менне Еўцікеевічы (3), што раней належала памёршаму Яну Янавічу Жыжэмскаму, былому стольніку Менскаму. Стрыечныя браты, якія разлічвалі таксама на нейкі кавалак спадчыны па памёршым, пазвалі Аляксандра Жыжэмскага ў суд. Справа цягнулася даволі доўга. Ужо ў красавіку 1636 года асэсарскім судом быў выданы дэкрэт па судовай справе паміж Жыжэмскімі — стрыечнымі братамі Янам Ярашавічам, Пятром і яго жонкай Крыстынай Саламярэцкай з аднаго боку і Аляксандрам Жыжэмскім, дваранінам каралеўскім, стольнікам Менскім, па іх прэтэнзіях на права валодання маетнасцю Еўцікеевічы (Еўтушкевічы) у Рэчыцкім і Карповічы ў Мозырскім паветах. Для Яна Ярашавіча і Пятра Жыжэмскіх справа ўскладнялася тым, што, будучы набліжаным да каралеўскай асобы, Аляксандр Жыжэмскі, у абыход іншых крэўных, паспеў атрымаць каралеўскі прывілей на Еўцікеевічы і Карповічы як на ленныя на пажыццёвае ўладанне імі. Добра, што ў стрыечных братоў захаваліся некаторыя дакументы на гэтыя маетнасці. Зразумела, што знайсці што-небудзь у Метрыцы Вялікага княства за мінулыя гады было даволі цяжка, ды і, здаецца, доступ да кніг самой Метрыкі быў абмежаваны. Ян і Пётр Жыжэмскія ў судзе давялі, што гэтыя маетнасці, Жыгімонтам Аўгустам былі

нададзены 24 сакавіка 1565 года на вечнасць каралеўскаму зямяніну Андрэю Голубу. Яшчэ ў 1601 годзе ягоны сын Станіслаў Андрэевіч Голуб за 1600 коп (цана маетнасці паказвае, што справа каштавала таго, каб за яе паспрачацца) прадаў бацьку Яна Жыжэмскага, таксама Яну, гэтыя маетнасці (3). Ян і Пётр Жыжэмскія змаглі абараніць у судзе свае правы на часткі гэтых маетнасцяў.

Аляксандр Жыжэмскі, падстолі ВКЛ, пакінуў трох сыноў: Тамаша, падкаморага Менскага ў 1670—1680 гг., Стэфана і Крыштофа, а таксама дачку Ганну. Пасля смерці мужа пані Зося з Фульштына Гербултаўна паўторна ўступіла ў шлюб з Міхалам Францкевічам Радзімінскім, старастам Аранскім і Пярэлайскім (4). Падзел спадчыны па памёршым бацьку і ўступленне маці ў новы шлюб прывялі да ўзнікнення варожасці ў сям'і. Зося Гербултаўна, былая Аляксандравая Жыжэмская, падстоліна ВКЛ, а цяпер Міхалавая Францкевічавая Радзімінская, старасціна Аранская і Пярэлайская, як піша ў позве ў суд яе сын Стэфан, «усю спадчыну, грошы, маёмасць па дакументу без подпісаў печатароў (сведкаў), толькі з подпісам рукі бацькі забрала сабе».

На 20 снежня 1647 года Вацлаў Горскі, харужыц Віленскі, і яго жонка Кацярына Тышкевічаўна пазвалі ў суд асэсарскі Тамаша, Стэфана і іх сястру Ганну. Справа раней ужо разглядалася ў Галаўным Трыбунале ў часе яго паседжання ў Менску, але да вырашэння справы было яшчэ далёка. Да ўдзелу ў судзе была пазвана і маці Жыжэмскіх — пані Зося Аляксандравая Жыжэмская, падстоліна ВКЛ, з яшчэ адным сынам — Крыштофам. Справа тычылася вяртання грошай у суме 2010 польскіх злотых, некалі пазычаных і ўлакаваных усё ў тое ж Засулле. Жыжэмскія праявілі характар і не дапусцілі каралеўскага двараніна ў Засулле для выканання спагнання грошай, уключаючых не толькі суму пазыкі, але і судовыя налічэнні. За супраціўленне выкананню дэкрэта Галаўнога Трыбунала 12 лютага 1648 года на ўсіх Жыжэмскіх была вынесена баніцыя, і яны абвяшчаліся вываланцамі — г. зн. ім забаранялася пражыванне ў межах краіны (5). Крыштоф Жыжэмскі, падстоліч Вялікага княства Літоўскага, доўга хварэў і памёр да студзеня 1652 года, не пакінуўшы нашчадкаў (6).

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 111, л. 231.
2. «Ураднікі цэнтральныя і дыгнітаржы ВКЛ...», т. 11, лл. 35, 70.
3. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 317, лл. 32-34.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 34, лл. 726, 892.

5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 343, л. 434.
6. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 341, л. 217.

## 11.5. Мінькоўскі Нагорны Крыштоф (?—?)

Згодна з Каяловічам (1), Крыштоф Мінькоўскі Нагорны адначасова з урадам пісарства гродскага Менскага трымаў і ўрад стольніка Менскага. Па нашых звестках Крыштоф Мінькоўскі, пісар гродскі Менскі, па каралеўскаму прывілею ад 25 красавіка 1636 года атрымаў першым у Менскім ваяводстве толькі што ўтвораны ўрад мечнага Менскага і трымаў яго да самай сваёй смерці (2). Па яго смерці ўрад мечнага Менскага быў перададзены, па каралеўскім прывілеі ад 21 сакавіка 1640 года, Вяжэвічу, з пазначэннем у тэксце прывілея імя і прозвішча яго папярэдніка (3). Больш падрабязна пра Крыштофа Мінькоўскага, мечнага і пісара гродскага Менскага, будзе даведзена ў раздзелах «Мечныя…» і «Пісары гродскія Менскага ваяводства».

Крыніцы:

1. Каяловіч. «Кампендыум», л. 182.
2. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 111, л. 609.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 113, л. 508.

## 11.6. Дамброўскі Мікалай Казімір (?—?)

Як паведамляе Каяловіч (1), Мікалай Казімір Дамброўскі займаў не толькі ўрад стольніка Менскага, але і быў пісарам гродскім Менскім. Ад вялікага архіва гродскага суда Менскага ваяводства за першую палову XVII стагоддзя захавалася толькі тры кнігі. Некаторыя судовыя рашэнні гродскага суда былі пазней унесены паўторна, для актыкацыі, у актавыя кнігі гродскіх і земскіх судоў розных паветаў і ваяводстваў ВКЛ. Аднак ні ў адным прагледжаным намі дакуменце Мікалай Казімір Дамброўскі не згадваецца ў якасці пісара гродскага Менскага ваяводства. Як сведчыць А. Рахуба, Мікалай Казімір Дамброўскі сапраўды займаў урад пісара гродскага на 2 верасня 1636 і 10 студзеня 1653 гадоў, але толькі не Менскага, а Ашмянскага павета. З матэрыялаў задворнага асэсарскага суда ВКЛ вынікае, што 15 мая 1646 года татарын Аліевіч атрымаў у канцылярыі Вялікага княства сублевацыю (адтэрміноўку выканання) на баніцыю ад Мікалая Казіміра Дамброўскага, пісара гродскага Ашмянскага павета (2). У красавіку 1653 года Міка-

лай Дамброўскі займаў урад падстарасты судовага гродскага Ашмянскага павета (3). Апошняе паведамленне, датычнае Мікалая Казіміра Дамброўскага, падстарасты судовага гродскага Ашмянскага павета, ад 20 верасня 1656 года, як і больш ранейшыя, зноў не пацвярджаюць трыманне ім урада стольніка Менскага. Меў брата Андрэя і сына Яна, памёршага да сакавіка 1665 года. Ленныя добры, якія знаходзіліся ў пажыццёвым трыманні Яна Дамброўскага, у сувязі з яго смерцю, па прывілеі ад 12 сакавіка 1665 года, былі перададзеныя ў трыманне Угліку, стольніку Троцкаму (4).

Крыніцы:
1. Каяловіч. «Кампендыум», л. 260.
2. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 332, л. 25.
3. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 1588, л. 251; № 1733, л. 268.
4. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 503, л. 262.

## 11.7. Жыжэмскі Ян Ярашавіч (12.10.1640 — да 11.10.1649)

Ян Жыжэмскі, сын Яраша Жыжэмскага, старасты судовага і суддзі земскага Рэчыцкага павета на 1582 год (1), атрымаў прывілей на ўрад 12 кастрычніка 1640 года, па адыходзе Аляксандра Жыжэмскага на іншы, як тады пісалі ў дакументах, «больш пожыточнейшы» (2) урад чэсніка Вялікага княства Літоўскага. Прычым стольнікаўства Менскае Ян Ярашавіч Жыжэмскі, па нашых меркаваннях, атрымаў не без дапамогі свайго стрыечнага брата, нягледзячы на былыя ў іх у мінулым вялікія непаразуменні ў справе валодання спадчынай памёршага Яна Янавіча Жыжэмскага, першага стольніка Менскага з іх сям'і.

Звестак пра яго жыццё знайсці ўдалося вельмі мала, але і гэта дазваляе нам хоць крышачку дамаляваць агульны малюнак жыцця шляхты таго часу. Пачынаючы ад 1641 года, як дваранін каралеўскі быў вызначаны разам з Францыскам Касакоўскім у камісію па праверцы праваў на валоданне Пузынамі маетнасцямі Нястанавічы і Дзвіноса. Мікалай Есман, каралеўскі ротмістр і падчашы Менскі, дабіўся ад караля права правядзення дахаджэння (праверкі законнасці трымання маетнасці яго цяперашнімі ўладальнікамі) для прызнання гэтага маёнтка ленным уладаннем. Аднак яшчэ Жыгімонт Аўгуст сваім прывілеем ад 21 лістапада 1561 года надаў гэтае менне Пятру Цімафеевічу князю

Пузыну (3), потым першаму войскаму Менскага ваяводства, на вечнасць. Знайсці ў кнігах Метрыкі канцылярыі Вялікага княства Літоўскага гэты дакумент аказалася немагчымым, і вялікія каралеўскія камісары ў 1646 годзе шляхам апытання мясцовых жыхароў, шляхцічаў і падданых, спрабавалі ўстанавіць, ці памятаюць яны, што калі-небудзь, у мінулым, Нястанавічы і Дзвіноса з'яўляліся круляўшчызнамі (4) — г. зн. належалі скарбу. Немалаважным для Мікалая Есмана ў гэтых абставінах было тое, што Ян Ярашавіч Жыжэмскі быў жанаты з дачкой Мікалая Есмана — Ганне Мікалаевай Есманавай, падчашанкай Менскай. Зразумела, што вынік рашэння суда можна было прадказаць яшчэ на першапачатковай стадыі расследавання: яно будзе на карысць каралеўскага ротмістра. Пры гэтым Ян Ярашавіч Жыжэмскі ў якасці каралеўскага двараніна яшчэ ў лютым 1641 года (5) увеў Мікалая Есмана ў валоданне Нястанавічамі. Аднак браты Пузыны не пагадзіліся з такім рашэннем судоў княства і яшчэ доўга спрабавалі аспрэчыць яго, хаця справа аказалася для іх беспаспяховай.

Жыў Ян Ярашавіч Жыжэмскі ў сядзібе, размешчанай у самым цэнтры тагачаснага Менска насупраць Ратушы, каля дамоў, дзе жылі Рыгор Друцкі Горскі, староста Аршанскі, і Крыштоф на Бакштах Завіша, пісар ВКЛ. Дом быў прададзены ў 1641 годзе за неблагую суму — 600 коп, пану Юр'ю Гарабурду (6).

Як і ўся шляхта, адчуваў востры недахоп грашовых сродкаў і для павелічэння іх колькасці ўжываў самыя розныя спосабы. Так, адзін спосаб, што быў даволі папулярны у тыя часы і не толькі Янам Жыжэмскім, абапіраўся на пошук людзей, маючых значныя зямельныя багацці, але не маючых сур'ёзнай падтрымкі на верхніх паверхах улады. Такія асобы праз канцылярыю Вялікага княства аб'яўляліся людзьмі простага стану, без права, згодна са Статутам ВКЛ, трымаць «добры шляхецкія». Гора было для іх, калі яны не мелі дакументаў на пацвярджэнне свайго шляхецтва і прывілея на атрыманне гэтых зямельных уладанняў. Ян Жыжэмскі, стольнік Менскі, і яго жонка пані Ганна Мікалаевая Есманавая, стольнікавая Менская, дабіліся атрымання дакумента на аб'яўленне братоў Мацея, Андрэя, Івана, Марціна, Паўла і Калістрата Хацеевічаў Супраноўскіх людзьмі простага стану, без права трымаць у Мсціслаўскім ваяводстве сёлы Афіровічы, Каробчын і Арманаў. Справа разглядалася 11 верасня 1641 года ў асэсарскім судзе, і насуперак жаданням Жыжэмскіх каралеўскі дэкрэт пацвердзіў правы Хацеевічаў Супраноўскіх на трыманне грунтоў, якія яны атрымалі яшчэ ў 1631 годзе па каралеўскім дэкрэце, як

кадуковыя (пасля смерці людзей, якія не пакінулі спадчыннікаў) (7).

На працягу доўгага часу судзіўся з Менскімі месцічамі з-за грунтоў Сухарава і прылеглых да яго земляў Пятроўшчыны. Раней гэтыя землі належалі, ці былі, як цяпер кажуць, «прыватызаванымі», былому войту Менскаму Карэйву яшчэ пры Жыгімонце Аўгусце. У 1622 годзе Яраш Жыжэмскі, бацька Яна, купіў землі Сухарава і Пятроўшчыны ў нашчадкаў былога войта Войцэха і Пятра Карэйвы. У 1636 годзе пані Гелена Канстанцінавая Карэйвавая прадала яму ж застаcomponentаўшуюся ў яе валоданні чацвёртую частку былых войтаўскіх земляў. Рэальныя прэтэнзіі на гэтыя землі былі і ў нашчадкаў Крыштофа Служкі, ваяводы Вендэнскага. Яго сын Рафал Аляксандр Служка спрабаваў праз суд атрымаць гэтыя землі ў сваю ўласнасць. Суд прызнаў больш слушнымі доказы Яна Жыжэмскага. Вырашыць жа справу з Менскімі месцічамі ў сваю карысць, як гэта атрымалася ў выпадку судовай справы з Рафалам Служкам, з першага падыходу не атрымалася. Горад прадставіў доказы, што некалі гэтыя землі належалі жыхарцы горада Менска Кацярыне, якая была ў шлюбе з Каспрам Карэйвам, былым войтам Менскім. Гэтыя землі пачыналіся ад урочышча Бічыжовыя Камяні і цягнуліся да Друшлякоўшчыны, а потым ішлі да ўрочышча, званага імем Маскаліхі, да Папоўкі і адтуль да Карпавага Лога і даходзілі зноў да Сухарава мення і фальварка Пятроўшчына (8). Было вырашана на самым высокім узроўні ўтварыць каралеўскую камісію, якая і павінна была на месцы разабрацца ў самыя кароткія тэрміны з сутнасцю справы і вызначыць прыналежнасць сухараўскіх земляў. Памёр да кастрычніка 1649 года (9).

Пасля смерці Яна Жыжэмскага, стольніка Менскага, яго жонка Ганна Есманаўна, пасля мая 1649 года і да верасня 1653 года паўторна ўступіла ў шлюб з Францыскам Ейсімонтам. Апошнія гады свайго жыцця вяла бясконцыя судовыя працэсы з Аляксандрам Багуфалам і Крыстынай Вяжэвічавай, патрабаваўшых вяртання пазыкі, улакаванай у Вербкавічы. Уся сума з судовымі налічэннямі складала нямала — 3388 коп грошай у літоўскай лічбе. Пасля таго як Ганна Есманаўна, былая Янавая Жыжэмская, стольнікавая Менская, а цяпер Францыскавая Ейсімонтавая не дапусціла ў сваё менне каралеўскага двараніна на спагнанне грошай, Галаўны Трыбунал абвясціў на яе баніцыю і асудзіў на выволанне (10). Аднак гэтае рашэнне каралеўскага асэсарскага суда не паставіла кропку ў шматгадовым судовым працэсе, давёўшым бакі да поўнага знясілення: справа працягвалася яшчэ і ў 1670 годзе, але вялася яна ўжо сынам Аляксандра Багуфала панам Рафалам Самуэлем

Багуфалам. Зноў на Ганну Есманаўну і Францыска Ейсімонта была аб'яўлена баніцыя і вываланне, але гэта іх мала хвалявала. Ад першага мужа у Ганны Есманаўны засталося трое сыноў: Яраш, Ян і рана памёршы Адам, падкаморы Мозырскі (11).

Крыніцы:
1. АВАК, т. 36, л. 14.
2. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 113, л. 560.
3. Там жа, ф 1769, воп. 1, с.25, л. 742–743.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 120, л. 633–635.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 319, л. 816.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с.3, л. 250.
7. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 321, л. 23.
8. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 320, л. 389.
9. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 3, л. 1351.
10. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 344, л. 383.
11. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 357, л. 14.

## 11.8. Комар Уладзіслаў (19.01.1649 — 11.10.1649 — да 20.08.1650)

Прывілей на стольнікаўства Менскае Уладзіславу Комару, падчашаму Браслаўскага павета, пакаёваму дваранін караля, вакантнае пасля смерці былога стольніка Менскага Яна Ярашавіча Жыжэмскага, быў падпісаны 19 студзеня 1649 года (1) і ўнесены ў гродскія судовыя кнігі Менскага ваяводства 11 кастрычніка 1649 года (2). Крыху раней, 16 студзеня 1645 года, атрымаў каралеўскі прывілей на падчаства Браслаўскае, якое стала вакантным па адыходзе Багдана Агінскага на харуства надворнае ВКЛ (3). Як вынікае з матэрыялаў Метрыкі, у 1649 годзе быў абраны дэпутатам Галаўнога Трыбунала ВКЛ ад Ашмянскага павета (4) і падпісаўся пад рашэннем Трыбунала ад 21 ліпеня 1649 года ўжо ў якасці стольніка Менскага ваяводства. Цікава, што на наступны 1650 год Уладзіслаў Комар зноў абіраецца дэпутатам гэтай судовай установы, але ўжо ад шляхты Полацкага ваяводства і падпісвае чарговае рашэнне ГТЛ ад 20 жніўня 1650 года ўжо ў якасці струкцасы Вялікага княства Літоўскага (5). Зразумела што гэты ўрад быў больш высокі, чым урад стольніка Менскага, і таму зусім верагодна, што Уладзіслаў Комар прабыў на ўрадзе стольніка Менскага зусім малы час. На 28 мая 1652 года, пасля смерці ранейшага суддзі земскага Ашмян-

скага павета Яраша Волана, Уладзіслаў Комар атрымаў прывілей на суддзю земскага гэтага павета (6). Як і старэйшы брат Яраш (Гіеронім), Уладзіслаў Комар прымаў удзел у дыпламатычных перамовах з прадстаўнікамі ўладных колаў Масквы і нават быў пасланы ў Маскву ад кароннага і літоўскага сената, які засядаў на той час у Калішу. Ажаніўся з пані Гальшцкай Ізабэлай Дольскай, падкамаранкай Ваўкавыскай, якая памерла да 3 студзеня 1656 года. У гэтым шлюбе нарадзілася дачка Барбара, уступіўшая ў шлюб з Казімірам Мінкевічам, чэснікам Смаленскім на 1683 год (7). Каяловіч паведамляе, што Казімір Мінкевіч займаў урад падстолія Ашмянскага, але, на жаль, не прыводзіць даты трымання ім гэтага ўрада (8). Як вынікае з тлумачэнняў А. Рахубы, Казімір Мінкевіч атрымаў намінацыю на падстолія Ашмянскага павета толькі 23 лістапада 1694 года, па адыходзе з гэтага ўрада Міхала Уладзіслава Катла, старасты Скірстамонскага. Памёр Казімір Мінкевіч, падстолі Ашмянскі, да 28 лістапада 1698 года. Пані Барбара Камароўна Казіміравая Мінкевічавая, падстоліна Ашмянская, жыла яшчэ ў 1703 годзе (9).

Як вынікае са знойдзеных намі ў кнігах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага матэрыялаў, Уладзіслаў Крыштофавіч Комар, суддзя земскі Ашмянскага павета, на пачатак 1662 года быў ужо ў шлюбе з пані Ганнай Давыдаўнай Нараўнікоўнай, былой Уладзіслававай Дуніна Раецкай, старасцінай Румбаркскай. З-за маетнасці Жэрмелі, што размешчана ў межах Ковенскага павета, амаль дзевяць год ішлі судовыя працэсы, якія ўзбудзіў Станіслаў Юрага Гедройц. Яму быў выданы па рашэнні судоў асаблівы ліст з баніцыяй і вываланнем на Уладіслава Комара, яго жонку Ганну Нараўнікоўну, Гедэона Дуніна Раецкага, старасту Румбаркскага, Мікалая Корфа, падстолія Браслаўскага, і яго жонку пані Эльжбету Раецкую, сястру памёршага Уладзіслава Раецкага, старасты Румбаркскага (10). Як нам падаецца, абвінавачаныя звярнуліся да караля з прашэннем аб атрыманні сублевацыі (адтэрміноўкі) выканання прысуду і атрымалі яе. Так, верагодна, паўтаралася шмат разоў, і Гедройцу наўрад ці давялося правесці спагнанне з гэтай маетнасці даўняй пазыкі. Пані Ганна Давыдаўна Нараўнікоўна памёрла да 1668 года. Пасля яе смерці пасерб (пасынак) Уладзіслава Комара Уладзіслаў Раецкі, старасціч Румбаркскі, спрабаваў прыцягнуць вотчыма да адказнасці ў асэсарскім судзе з-за невяртання папер на розныя маетнасці, некалі належаўшых яго памёршаму бацьку.

Уладзіслаў Комар, суддзя земскі Ашмянскі, жыў яшчэ ў пачатку 1683 года. На 27 студзеня гэтага года з канцылярыі ВКЛ Яну Каралю

на Дольску Дольскаму, падчашаму ВКЛ, старасцу Пінскаму, каралеўскаму палкоўніку, была выдана кантумацыя (дазвол на працяг судовага пераследу) на Уладзіслава Комара, суддзю земскага Ашмянскага, Казіміра Мінкевіча, чэсніка Смаленскага, і яго жонку за недапушчэнне двараніна Актавіяна Грота Вядыцкага да спагнання адправы з іх маетнасці Жодзішкі, размешчанай у Ашмянскім павеце (11).

Уладзіслаў Комар, суддзя земскі Ашмянскі, памёр да ліпеня 1685 года. Па яго смерці каралеўскую намінацыю на ўрад суддзі земскага Ашмянскага павета амаль адначасова атрымалі: Ежы Ваўрынец Земла, падстолі Ашмянскі — у ліпені і Эразм Ян Свіхоўскі, падсудак земскі Ашмянскі, — у верасні 1685 года (12). Справа была вырашана ў вышэйшых судах ВКЛ на карысць Яна Свіхоўскага.

Некаторыя звесткі пра род Комароў прыводзіць Каяловіч. ¨н паведамляе, што родапачынальнік Комароў — Комар Забужынскі — меў некаторыя менні ў воласцях паміж Бугам і Днястром, на Украіне, адкуль яго ўнук Васіль Астаф’евіч Комар, стольнікавіч Валынскі, і перасяліўся ў ВКЛ. Услед за Васілём Комаром і яго стрыечны брат Мацей Уладзіміравіч Комар, дваранін караля Аляксандра, атрымаўшы значнае зямельнае наданне ў Мсціслаўскім ваяводстве, таксама выехаў у ВКЛ. Яго сын Гіеронім Мацеевіч Комар доўга служыў з Хадкевічам і ўдзельнічаў ва ўсіх войнах таго часу. Бацька Уладзіслава Комара — Крыштоф Гіеронімавіч Комар, каралеўскі ротмістр, таксама вызначыўся ў многіх войнах таго часу. Так, у часе рокашу (паўстання шляхты) Крыштоф Комар ставіў сваім коштам каралю харугву вяроў, а пад Хоцімам ужо быў ротмістрам. З Чэрніцкай меў двух сыноў — Яраша (Гіероніма) і Уладзіслава, будучага стольніка ваяводства Менскага (13).

З матэрыялаў судовага працэсу Комараў з панам Крыштофам Хадкевічам, ваяводам Віленскім, вядома, што пан Крыштоф Гіеронімавіч Комар памёр да 1643 года і пані Ягнешка з Чэрніц Чэрніцкая Крыштофавая Комаравая, з сынамі Ярашам (Гіеронімам) і Уладзіславам, пакаевымі дваранамі каралевіча Караля Фердынанда, вяла самастойна гэты цяжкі для Комараў працэс. Справа з магнатам узнікла не на пустым месцы: Крыштоф Хадкевіч, ваявода Віленскі, трымаў леннае ўладанне Высокі Двор у Ашмянскім павеце, ад якога некалі была аддзелена маетнасць Жодзішкі, што знаходзілася на гэты час у трыманні Комараў. Падданыя ваяводы, не без волі Хадкевіча, захапілі сумежныя сенажаці і звезлі сена. Справа мела працяг і ў 1645 годзе, Крыштоф Хадкевіч спадзяваўся, паступова ўзмацняючы націск на непакорных суседзяў, дабіцца далучэння Жодзішак да Высокага Двара. Аднак, насупе-

рак яго чаканням, у Комараў захаваліся дакументы канца XVI стагоддзя. Згодна з імі, дзед Комараў, Яраш Комар, выкупіў у Мікалая Крыштофа Радзівіла, ваяводы Троцкага, і ў пані Гальшкі Яўфіміі з Вішняўца Вішнявецкай, належачыя ім часткі Жодзішак, аб чым і быў 24 мая 1598 года складзены адпаведны дакумент, актыкаваны праз два дні ў Ашмянскім земскім судзе. На баку Ягнешкі Крыштофавай Комаравай і яе сыноў выступаў і Аляксандр з Чэрніц Чэрніцкі, каралеўскі сакратар (14). Што ж тычыцца пана Яраша Комара, то звесткі пра яго сямейныя повязі з Гіеронімам і Мацеем Комарамі, на жаль, адсутнічаюць.

Верагодна, асабістай уласнасцю пані Крыштофавай Комаравай была маетнасць Бабры ў Аршанскім павеце, бо 12 снежня 1644 года ў Менскім гродскім судзе слухалася справа ад пані Кацярыны Зяновічавай Севярынавай Станскай, пісаравай гродскай Менскай, і яе сыноў да пані Чэрніцкай Крыштофавай Комаравай і яе сыноў аб зводзе падданых з яе маетнасці ў дзедзічную маетнасць Комараў Бабры (15). Тут жа, у судовай справе прыведзена і імя старэйшага брата Уладзіслава, але тут ён мянуецца інакш, чым у Каяловіча, у справе пазначаецца, што позва ўручана маці і яе сынам Ярашу і Уладзіславу Комарам. Зразумела, што менавацца Гіеронімам пан Яраш Комар пачаў значна пазней гэтага часу.

Маюцца звесткі, што яшчэ адзін Комар — Крыштоф, падчашы Браслаўскага павета (тут, бясспрэчна, размова ідзе пра сына Гіероніма Комара — старэйшага брата Уладзіслава), быў абраны шляхтай Аршанскага павета ў склад ГТЛ пры маршалкоўстве Доўманта Сесіцкага, на гэты час мечнага ВКЛ, і падпісаў рашэнне Трыбунала ад 20 сакавіка 1656 года (16). Крыштоф Комар трымаў урад падчашага Браслаўскага яшчэ на 1656 год, а на 1680 год быў ужо суддзёй гродскім Ашмянскім (17). Яго першы вядомы нам шлюб з пані Марыянай Мозырскай, былой Янавай Германавай, быў нешчаслівы. Як стала вядома з матэрыялаў каралеўскага асэсарскага суда, 28 жніўня 1689 года пані Марыяне Мозырскай Крыштофавай Комаравай, падчашынай Браслаўскай, і яе сыну Юзэфу Герману з канцылярыі княства была выдана сублевацыя (адтэрміноўка выканання судовага прысуду) на баніцыю ад яе мужа пана Крыштофа Комара, падчашага Браслаўскага (18). Справа хутчэй за ўсё скончылася разводам, бо на 1690 год Крыштоф Комар, падчашы Браслаўскі, быў у шлюбе з пані Ганнай Матушэвічаўнай (19).

Яраш (Гіеронім) Комар, старэйшы брат Уладзіслава Комара, стольніка ваяводства Менскага, згодна з Каяловічам, падсудак земскі

Аршанскі, потым суддзя земскі Аршанскі, прысвяціў сваё жыццё дыпламатыі: па сканчэнні вайны з казакамі і Масквой, у другой палове XVII стагоддзя, займаўся перамовамі з прадстаўнікамі Маскоўскай дзяржавы. Яго ўнёсак у паляпшэнне становішча дзяржавы быў добра адзначаны каралём: у 1662 годзе, 16 мая, быў падпісаны каралеўскі мараторый на адтэрміноўку вяртання пазык, зробленых Гіеронімам Комаром, падсудкам Аршанскім, дваранінам каралеўскім, таму што ён «усе добры ад непрыяцеля страціў» (20). У 1670 — 1675 гадах доўга і зацята судзіўся з суддзямі каптуровымі Менскага ваяводства — Марцінам Казімірам Валадковічам, гараднічым і падстарастам судовым, Пятром Капашчэўскім, падстоліем Менскім, і Янам Францыскам Косакоўскім — з-за іх няслушнага суджэння (21). Згодна з рэестрам падымнога Менскага ваяводства, складзенага ў 1667 годзе (л. 21), Яраш Гіеронім Комар валодаў у межах Менскага павета Замасточчам з 96 дымамі падданых. У 1675 годзе абіраецца, на час міжкаралеўя, маршалкам каптуровым Аршанскага павета (22). Жанаты, як даводзіць Каяловіч, з Дзевялтоўскай, з якой меў двух сыноў: Крыштофа, падчашага Браслаўскага павета, і Казіміра, чэсніка Мсціслаўскага ваяводства, памёршых беспатомнымі (23). На жаль, у нас няма інфармацыі, каб абвергнуць або пацвердзіць гэтае паведамленне Каяловіча. Аднак звесткі, што ёсць у нас, дазваляюць сумнявацца ў яго праўдзівасці. Мы ўжо распавядалі пра старэйшага сына Гіероніма Комара — Крыштофа, падчашага Браслаўскага. Дык вось, Анджэй Рахуба (24) даводзіць, што Крыштоф Комар, падчашы Браслаўскі, здолеў атрымаць у 1686 годзе каралеўскую намінацыю на Аршанскае падстольства, але не ўтрымаў гэты ўрад у сваіх руках. Пры яго дапамозе Юзэф Комар, верагодна, сын Крыштофа, двойчы ў гэтым жа годзе атрымліваў каралеўскі прывілей на падчаства Браслаўскае. У сувязі з тым, што Крыштоф Комар не ўтрымаўся на падстольстве Аршанскага павета, ён лёгка вярнуў сабе падчаства Браслаўскага павета. Неабходна адзначыць, што на гэты час мелі правы і менаваліся падчашымі Браслаўскімі некалькі чалавек адразу.

Акрамя вышэйпералічаных, у межах Віленскага ваяводства трымаў ленныя маетнасці Ежы Комар, дзяржаўца Буцянскі і Медніцкі, каралеўскі дваранін і, у дадатак, як даводзіць Каяловіч, яшчэ і пісар гродскі Віленскі (Каяловіч. Кампендыум, л. 147). На 10 лютага 1643 года, з-за супраціўлення пры выкананні адправы (спагнання грашовых сум па рашэнні судоў ВКЛ) на яго маетнасці каралеўскім асэсарскім судом была вынесена баніцыя на Ежы Комара, дзяржаўцу Буцянскага і Мед-

ніцкага (25). У 1659 — 1662 гг. Ежы Комар займаў ужо ўрад войскага Вендэнскага (26). Для сваіх сыноў Міхала, Уладзіслава і Гіероніма атрымаў 11 мая 1659 года каралеўскі кансенс (дазвол) на пераход ленных маетнасцяў, якія знаходзіліся ў трыманні Ежы Комара: Панене, Жабуртын і Вайткуні, спустошаных мінулай вайной на пажыццёвае (да самай смерці) трыманне (27). Ежы Комар, войскі Вендэнскі, а на 15 студзеня 1661 года і пісар гродскі Віленскага ваяводства, другім шлюбам быў жанаты з пані Кацярынай Доўмантавай Сесіцкай. Памёрлі абое амаль адначасова ў 1666—1667 гадах (28).

З усіх нашчадкаў Ежы Комара, войскага Вендэнскага, для нас найбольш цікавым з'яўляецца Уладзіслаў. Праўда, А. Рахуба мянуе яго Уладзіславам Міхалам, аб'ядноўваючы, на нашу думку, памылкова двух сыноў войскага Ведэнскага ў аднаго. Так, 28 жніўня 1686 года Андрэй Кгадзейскі, рэгент канцылярыі ВКЛ, пазваў у суд асэсарскі Адама, Міхала, Гіероніма і Уладзіслава Комароў за неадданне грошай (29). У позве ў суд Уладзіслаў Комар пазначаецца апошнім, пасля Гіероніма, пры гэтым імя кожнага сына войскага Вендэнскага выдзяляецца коскамі. Без дастатковай падрыхтоўкі можна лёгка пераблытаць Уладзіслава Комара, падчашага Браслаўскага, з Уладзіславам Комарам, падчашым Віленскім, тым болей, што падчашы Віленскі актыўна дзейнічае ў канцы 80 — пачатку 90-х гадоў XVII стагоддзя, ужо пасля смерці падчашага Браслаўскага, суддзі земскага Ашмянскага павета.

Уладзіслаў Комар, вайсковіч Вендэнскі, трымаў падчаства Віленскае ўжо на 10 мая 1671 года (30). З гэтым урадам ва Уладзіслава Комара, вайсковіча Вендэнскага, было звязана нямала непрыемнасцяў. Як заўсёды, бяда прыйшла да яго нечакана: адначасова з наданнем урада падчаства Віленскага Уладзіславу Комару, зноў, як і ў многіх падобных выпадках «невядома якім чынам», урад падчашага Віленскага быў нададзены і пану Яну з Русінава Укольскаму. Уладзіславу Комару прыйшлося прыкласці шмат высілкаў і панесці значныя матэрыяльныя страты, пакуль у красавіку 1681 года па рашэнні задворнага асэсарскага суда прывілей Яна Укольскага на падчаства Віленскае не быў скасаваны (31). Ян Укольскі ў будучыні дасягнуў значных поспехаў і, на 1693 год, займаў урад падкаморыя Троцкага і нават быў, у час міжкаралеўя, дырэктарам Трыбунальнага кола. Уладзіслаў Комар, падчашы Віленскі, уступіў у шлюб з пані Марыянай Тэадорай Вільгельмавай Платэраўнай, у першым шлюбе Уладзіслававай Грычынай Войнінай, цівуновай Ужвенскай, памёршай пасля 1710 года (32).

У 70 — 80-ыя гады XVII стагоддзя ў матэрыялах Метрыкі сустракаюцца імёны Міхала, Даніэля, Адама Комараў. Нам пра іх існаванне стала вядома з судовай справы, якая разглядалася ў каралеўскім асэсарскім судзе ў красавіку 1670 года (33). Крыштоф Тавянскі ўзбудзіў судовую справу супраць Комараў за землі, бары, сенажаці і лясы, якія адносіліся да маетнасці Буцяны, або Давейкі, што была размешчана ў Вількамірскім павеце. Верагодна. браты ўпарта супраціўляліся і дабіліся глейта (адтэрміноўкі) на выкананне судовага дэкрэта. На судовым паседжанні яны прадставілі дакументы, што гэтыя ленныя ўладанні па каралеўскім кансенсе яны атрымалі ад свайго бацькі Ежы Комара. Да 1640 года гэтыя бары і сенажаці нейкім чынам былі аддзелены ад дзяржавы Буцянскай і захоплены Крыштофам Тавянскім. Праўда, у адказ Тавянскі заўважае, што самі Комары аб захопленых нібыта ім землях на працягу 1640 — 1653 гадоў зусім не ўспаміналі і толькі пасля 1653 года пачалі судовыя працэсы па вяртанні земляў. Як даводзіў прадстаўнік Комараў у судзе, да Ежы Комара, дзяржаўцы Буцянскага і Медніцкага, гэтыя землі перайшлі ад продка свайго, пана Гіероніма Комара. Зусім слушным з’яўляецца меркаванне, што Крыштоф Гіеронімавіч Комар меў роднага брата пана Ежы Гіеронімавіча Комара, войскага Вендэнскага.

З нашчадкаў Ежы Комара, войскага Вендэнскага, кепскую славу па сабе пакінуў Адам Комар, падчашыц Віленскі, чэснік Ашмянскі, каралеўскі ротмістр, стараста Вешвянскі. У часе грамадзянскай вайны, на пачатку XVIII стагоддзя, паводзіў сябе як сапраўдны бандыт і рабаўнік. За забойства нявінных людзей і грабяжы іх маёмасці 18 чэрвеня 1708 года быў пакараны смерцю ў Вільні (34).

У матэрыялах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, пад 1652 годам знаходзім упамінанне пра яшчэ аднаго Комара, Яна, жанатага з Юстынай Косаўнай, разам з якой вёў судовы працэс у Галаўным Трыбунале з Янам Мастыкам (35). Пан Ян Комар быў сынам Яраша Комара і Кацярыны Красоўскай, уладальнікаў маетнасці Бертанава, размешчанай у Менскім ваяводстве. Паны Ян і Лявон Мастыкі дабіваліся выканання рашэння ГТЛ аб вяртанні пазык, зробленых некалі Ярашам Комарам і ўскладзеных на гэтую маетнасць. Яраш і Кацярына Комары памерлі да 24 снежня 1652 года, і Ян Комар у далейшым выступаў самастойна ў судах (36).

На тэрыторыі Менскага ваяводства Комары сустракаюцца і ў XVIII і XIX стагоддзях. Так, на 17 ліпеня 1704 года Гіеронім Комар, падстолі Мозырскі, падстараста судовы Ашмянскі, праводзіў судовую справу ў

Менскім гродскім судзе (37). У 1770 годзе Тадэуш з Казельска Агінскі, ваявода Троцкі, атрымаў каралеўскі дазвол на перадачу староства Бабініцкага, размешчанага ў Мсціслаўскім ваяводстве, Яну Комару (38). У XIX стагоддзі занатавана існаванне ў межах Менскай губерніі сялян Фёдара і Івана Комараў (39).

Крыніцы:

1. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 4281, л. 551.
2.НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 3, л. 1351.
3. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 4281, л. 551.
4. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с.502, л. 187.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 502, л. 326.
6. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 1838, л. 281.
7. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 375, л. 614.
8. Каяловіч. «Кампендыум», л.147.
9. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 1771, л. 273.
10.НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 364, л. 261.
11.Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 375, л. 614.
12. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 1839,1840, лл. 281–282.
13. Каяловіч. «Кампендыум», л.147.
14. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с.321, л. 746; с.350, л. 188.
15. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 34, л. 371.
16. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 461, л. 173.
17. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 1814, л. 278.
18. НГАБ. КМФ 18,воп.1, с. 386, л. 221
19. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 4288, л. 551
20. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 131, л.475.
21. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 363, л. 430; с.366, л. 51; с.459, л. 222.
22. Там жа, кмф 18, воп. 1,с. 460, л. 288.
23. Каяловіч. «Кампендыум», л. 147.
24. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 4296, л. 552.
25. НГАБ. КМФ 18, воп.1, с. 325, л. 570.
26. Там жа, кмф 18, воп. 1, с.131, лл.713—714; с. 349, л.77.
27. Там жа, кмф 18, воп. 1, с.131,лл. 713—715.
28. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 610, л. 136.
29. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 386, л. 79.
30. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 672, л. 144.
31. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 372, л. 295.
32. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 672, л. 144.

33. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 357, л. 128; с. 361, л. 20.
34. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 1296, л. 219.
35. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 345, л. 46; с. 502, л. 275.
36. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 345, лл. 47, 96.
37. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 485.
38. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 189, л. 311.
39. Там жа, ф 136, воп. 1, т. 7 вопісу, л. 334.

## 11.9. Косакоўскі Крыштоф Гіеронімавіч (да 1658 — да 28.02.1658)

Дата атрымання ўрада стольніка Менскага панам Крыштофам Косакоўскім намі не ўстаноўлена. Магчыма, што ў да яго яшчэ хто-небудзь кароткачасова трымаў гэты ўрад, але, на жаль, дакументы на гэты час, у большасці сваёй, былі знішчаны. Згодна з Каяловічам, Крыштоф Косакоўскі, каралеўскі ротмістр, актыўны ўдзельнік усіх войнаў Вялікага княства першай паловы XVII стагоддзя, родам з Мазоўшы. Перасяліўся ў ВКЛ у канцы XVI стагоддзя, пры Жыгімонце III (1). Як даводзіць Т. Жыхлінскі, быў жанаты з Людвікай Храпавіцкай. Патрэбна, аднак, адзначыць, што ён не быў першым Косакоўскім, пераехаўшым у ВКЛ з каронных, польскіх, земляў. Так, пан Нікадэм Францыск Косакоўскі ўзначальваў ахову караля Стэфана Баторыя, а ў бітве пад Кірхгольмам, у 1605 годзе, камандуючы левым крылом войскаў Хадкевіча, у значнай меры забяспечыў перамогу аб'яднаных войскаў Польшы і Літвы над шведамі (2). Як падае Каяловіч (Compendium, л. 285), быў жанаты з Валовічаўнай, ад якой меў сына Яна Еўстахія, займаўшага ўрад кашталяна Мсціслаўскага. Адзін з Косакоўскіх, Марцін Альбрыхт, жанаты са Шчаснай Катлоўнай, меў 16 дзяцей і яшчэ ў 1555 годзе займаў урад падваяводы Троцкага (3). Род Косакоўскіх быў даволі разгалінаваны і прадстаўлены на Літве многімі асобамі. Так, у 1620 годзе Ян Косакоўскі пазычыў Адаму Ваньковічу, сыну былога войскага Менскага Стэфана Ваньковіча і самому ў будучым войскаму Менскаму, даволі буйную суму грошай пад заклад яго маетнасці пад Крайскам (4). Верагодна, што гэта быў той самы Ян Францішак Косакоўскі, які ў 1650 годзе быў абраны дэпутатам Галаўнога Трыбунала ад Менскага ваяводства і выконваў свае абавязкі пры маршалкоўстве Крыштофа Паца (5). У часе міжкаралеў'я, пасля смерці Уладзіслава IV, менская шляхта абрала Яна Косакоўскага ў склад каптуровага суда. Ян Косакоўскі памёр да 1653 года, але застаўся яго сын Стэфан Косакоўскі,

суддзя гродскі Рэчыцкі, які ў 1653 годзе правеў аж два працэсы: 9 мая з Крыштофам Трызнам аб прыналежнасці Дзядзілавіч і 7 кастрычніка з Менскім генералам (возным) Самуэлем Зяневічам аб няслушным уручэнні судовай позвы (6).

У актах Метрыкі захаваліся звесткі пра многіх прадстаўнікоў гэтага роду. Так, на 11 чэрвеня 1638 года Міхал Косакоўскі паставіў свой подпіс пад квітацыйным лістом Юр’я Друцкага Горскага, старасты Аршанскага, пану Рафалу Служку, ваяводзічу Вендэнскаму, аб завяршэнні разлікаў па раней нанесеных крыўдах і шкодах (7). У 1639 годзе, пад датай 11 студзеня, пазначаны ўдзел у працы ГТЛ ВКЛ яшчэ аднаго Косакоўскага — пана Ежы, дэпутата ад Старадубаўскага павета (8). Верагодна, што гэта яго жонка, Дарота Волкаўна Юр’евая Косакоўская, судзіна гродская Старадубаўская, вяла ў Галаўным Трыбунале, пры маршалкоўстве Крыштофа Хадкевіча, ваяводы Віленскага, судовую справу са сваімі крыўдзіцелямі (9).

Памёр Крыштоф Косакоўскі да 28 лютага 1658 года, пакінуўшы двух сыноў: Паўла, каралеўскага двараніна, і Тамаша, спачатку кашталяна Парнаўскага, а потым Віцебскага ваяводстваў (10). Праўда, Тэадор Жыхлінскі даводзіць, што Тамаш Косакоўскі пасля Парнаўскай кашталяніі атрымаў прывілей на кашталяна Дэрпцкага ваяводства (11). Сын Тамаша Косакоўскага Андрэй, як і дзед Крыштоф, займаў на працягу значнага часу ўрад стольніка ваяводства Менскага. Па звестках Тэадора Жыхлінскага, гэтая галіна роду Косакоўскіх па сынах Тамаша Косакоўскага Андрэю, стольніку Менскім, і Якубу, каралеўскім ротмістры, выгасла (12).

Крыніцы:
1. Каяловіч. «Кампендыум», л. 285.
2. Там жа, л. 284.
3. Жыхлінскі Тэадор, штогоднік 2, л. 114.
4. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 2, л. 1132.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 458, л. 357.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 34, лл. 1339, 1363.
7. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 502, л. 362.
8. Там жа, л. 354.
9. Там жа, л. 242.
10. Каяловіч. «Кампендыум», л. 285.
11. Жыхлінскі Тэадор, штогоднік 2, л. 114
12.Там жа, л. 114.

## 11.10. Гарабурда Януш (28.02.1658 — ?)

Пасля смерці Крыштофа Косакоўскага, «караняржа», як тады называлі жыхароў польскіх каронных земляў, прывілей на стольнікоўства Менскае, унесены ў акты Метрыкі пад 28 лютым 1658 года (1), атрымаў Януш Гарабурда, сын Юр'я (Ежы) Гарабурды на Свіслачы і пані Крыстыны Завішанкі. Вядома, што Юр'я Гарабурда прымаў актыўны ўдзел у экспедыцыі Уладзіслава IV пад Смаленскам, шмат ваяваў з казакамі. Не меншай адвагай у ваенных экспедыцыях таго часу быў адзначаны і яго сын Януш. Вядома імя брата пана Юр'я Гарабурды — Крыштоф.

Пан Юр'я Гарабурда вызначаўся вельмі няўрымслівым характарам: колькасць судовых спраў, заслуханых у каралеўскім асэсарскім судзе, бадай што ці не самая большая, чым у каго-небудзь у гэты перыяд існавання ВКЛ. Так, на 28 сакавіка 1648 года на яго была вынесена баніцыя. Разам з Юр'ем Гарабурдам, пад баніцыю і вываланне падпадала і яго маці — пані Кацярына Солтанаўна Янавая Гарабурдзіна. І маці і сын не дапусцілі выканання адправы (спагнання) нявернутай пазыкі, ускладзенай на іх маетнасць Лукаўніцкія Галынкі. Неабходна было вярнуць не толькі пазычаныя грошы, але і судовыя выдаткі. Да вяртання была вызначана, з далічэннем судовых выдаткаў, вялізная сума ў 12364 коп грошай літоўскай лічбы (2). Зразумела, што пасля выканання адправы ад маетнасці Галынкі нічога б і не засталося.

Звестак пра самога Януша Гарабурду захавалася вельмі мала. Мы не змаглі нават устанавіць час сканчэння спраўвання ўрада стольніка Менскага Янушам Гарабурдам. Цікава, што ў 1675 годзе яшчэ адзін Гарабурда, таксама Януш, падчашы Менскі, быў абраны суддзёй каптуровым Менскага ваяводства. На 5 кастрычніка гэтага года Януш Гарабурда, падчашы і суддзя каптуровы Менскі, прымаў удзел у разглядзе справы Казіміра Кастравіцкага з оберстлейтэнантам Бекерам з-за прыналежнасці маетнасці Самуэлевае (3). А. Рахуба прыводзіць звесткі аб трыманні ў 1700 годзе ўрада падстолія Браслаўскага яшчэ адным Янушам Гарабурдам (4).

На 1704 год вядома імя Міхала Караля Гарабурды, маршалка Слонімскага, перадаўшага ў заставу за пазыку буйнай сумы грошай сваю маетнасць Лапічы, размешчаную ў межах Менскага павета (5).

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 131, л. 62.

2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с.336, л. 50.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 504, л. 454.
4. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 4440, л. 569.
5. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 481.

## 11.11. Косакоўскі Андрэй (? — 1662 — да 1679)

Намі пакуль што не ўстаноўлена, калі і пасля каго атрымаў прывілей на стольнікаўства Менскае Андрэй Косакоўскі, унук Крыштофа Гіеронімавіча Косакоўскага, стольніка Менскага. Вядома толькі, што займаў гэты ўрад ужо на 1662 год і менаваўся ім аж да 1679 года, калі быў абраны на ўрад падсудка ваяводства Віленскага (1). Патрэбна адзначыць, што час трымання Андрэем Косакоўскім урада стольнікаўства Менскага быў бадай ці не самым багатым на людзей, менаваўшыхся, на законных асновах, стольнікамі Менскімі.

Андрэй Косакоўскі — сын Тамаша Косакоўскага, спачатку кашталяна Парнаўскага ваяводства, а потым непасрэдна перад самай сваёй смерцю атрымаўшага ўрад кашталяна Віцебскага ваяводства. Пані Канстанцыя Корсакаўна, маршалкоўна Мозырская, для таго каб быць маці Андрэя Косакоўскага, па нашых меркаваннях, была занадта маладая і хутчэй за ўсё была яго мачыхай; пасля смерці свайго мужа, Тамаша Косакоўскага, да 1662 года ўступіла паўторна ў шлюб з Каралем Уніхоўскім, харужыцам Менскім. Андрэй Косакоўскі валодаў Лукаўцом каля Менска і, маючы вялікую патрэбу ў грошах, за пэўную суму заставіў маетнасць Каралю Уніхоўскаму і пані Канстанцыі Корсакаўне (2).

У 1668 годзе абраны менскай шляхтай дэпутатам Галаўнога Трыбунала ВКЛ (3). Прычым, патрэбна сказаць, на гэтае абранне зусім не паўплываў зроблены ў лютым гэтага ж года напад «з многімі паддане і памочнікамі» на маетнасць Пуцілава, належачую суседу Мікалаю Валіцкаму. Прычына, якая вымусіла Андрэя Косакоўскага рушыць у гэты, арганізаваны па ўсіх ваенных правілах, паход была да простага звычайнай: пану Андрэю Косакоўскаму, стольніку Менскаму, зусім не хацелася вяртаць грошы, пазычаныя некалі ў Валіцкіх яго бацькам Тамашом Косакоўскім, кашталянам Віцебскім (4). Выступіўшы з сваёй Трусавіцкай маетнасці, дзе яму належала каля 17 дымоў падданых, з вялікім атрадам, пан Андрэй Косакоўскі нечакана напаў на Пуцілава і ўварваўся ў дом, дзе ляжаў хворы Мікалай Валіцкі. Былі пагрозы, страляніна са зброі над галавой хворага. Нападаўшых не засмуціла

нават тое, што адна з куль пашкодзіла абраз панны Марыі. Як нам вядома, за такую абразу ніхто не панёс адказнасці. Скончылася справа пад слёзы і енкі блізкіх Валіцкага тым, што хворага вынеслі на вуліцу, а хату падпалілі. Праз некалькі дзён Міхал Валіцкі памёр.

У 1675 годзе, у перыяд міжкаралеўя, абіраецца шляхтай Віленскага ваяводства ў склад каптуровага суда ваяводства, дзе, у сваю чаргу, абраны быў дырэктарам гэтага часовага судовага ўтварэння (5). У гэты час Андрэй Косакоўскі яшчэ мянуецца стольнікам ваяводства Менскага, нягледзячы на тое, што ўжо амаль тры гады гэты ўрад займае Пётр Дэмбоўскі (Дамброўскі).

Пасля атрымання ўрада падсудка Віленскага земскага суда пражыў зусім нямнога і памёр у другой палове 1681 або ў пачатку 1682 гадоў. Польскія гісторыкі Генрык Люлевіч, Анджэй Рахуба і Пшэмыслаў Раманюк сцвярджаюць, што Андрэй Косакоўскі, падсудак земскі Віленскі, памёр 18 сакавіка 1684 года (6). Па нашых звестках, на 2 сакавіка 1682 года ў каралеўскім асэсарскім судзе разглядалася справа, узбуджаная пані Дунінаўнай Раецкай Войцэхавай Пражмоўскай, харужынай надворнай кароннай. Некалі, у 1676—1677 гадах, Андрэй Косакоўскі на паседжанні задворнага асэсарскага суда дабіўся выгоднага для сябе рашэння суда ў справе з пані Дунінаўнай Раецкай былой Мікалаевай Патоцкай, генералавай Падольскай. Справа пачалася яшчэ ў канцы 60-х гадоў XVII стагоддзя. На 20 чэрвеня 1672 года Андрэю Косакоўскаму, стольніку Менскаму, выдалі ў канцылярыі Вялікага княства адпаведны ліст з баніцыяй на пані Свентаславу Дунінаўну Раецкую, ваеводзянку Менскую, былую Адамавай Мацеевай Саковічавай, ваяводзінай Смаленскай, а яшчэ раней, у 1653 годзе, Уладзіслававай Ляшчынскай, падкаморынай Берасцейскай, а цяпер Мікалаевай Патоцкай, генералавай Падольскай, з патрабаваннем унесці вялізную суму, склаўшую, разам з пазыкай і судовымі накладамі, 23 321 польскі злоты (7). Пані Свентаславе прыйшлося чакаць яшчэ шмат гадоў, пакуль не наступіў зручны момант для хадайніцтва аб пераглядзе справы. Памёр і Патоцкі, генерал Падольскі, а Свентаслава Дунінаўна Раецкая ў чарговы раз паспела ўступіць у шлюб з Войцэхам Пражмоўскім, харужым надворным каронным. Зразумела, што на гэты раз жонка Андрэя Косакоўскага, пані Марыяна Пратасовічаўна, у першым шлюбе Андрэевая Вайніловічавая, якая была пазвана ў суд у сувязі са смерцю свайго мужа Андрэя Косакоўскага, цалкам прайграла гэты працэс і была абавязана выплаціць не толькі ўсе праўныя (судовыя) выдаткі, але і шкоды, панесеныя самой

пані Дунінаўнай Раецкай за ўвесь час працэсу (8), што, зразумела, склала немалую суму.

Дакладна вядома, што на 1688 год жылі дзве дачкі Андрэя Косакоўскага, падсудка Віленскага: Ефрузына Косакоўна Гіеронімавая Корсакавая, маршалковічавая Мозырская і Тэадора Косакоўна Ярашавая Аляксандравая з Крэтушава (у некатарых крыніцах — з Скрэтушава) Ваўрэцкая, пісаравая земская Браслаўская. Трэцяя дачка Андрэя Косакоўскага, падсудка Віленскага, Барбара Косакоўна, уступіўшая ў шлюб з Уладзіславам Анфаровічам, стольнікам Мсціслаўскім, памерла пасля 1672 года, не пакінуўшы нашчадкаў. Ефрузына і Тэадора, на 23 чэрвеня 1688 года, разам са сваімі мужамі, як адзіныя спадчыннікі па памершай сястры, Марыяна Пратасовічаўна, хутчэй за ўсё, ужо не жыла на гэтым свеце, хаця яна, верагодна, і не была маці Барбары, пазвалі ў асэсарскі задворны суд Уладзіслава Анфаровіча, стольніка Мсціслаўскага, для вяртання пасаговых сум (9).

На 29 сакавіка 1683 года яшчэ адна прадстаўніца гэтага роду, а менавіта Зося Косакоўская, былая Юзэфавая Мешчарынавая, чэснікавая Смаленская, а цяпер Таліпская, была пазвана ў суд задворны асэсарскі Матэушам Рэмерам, падстоліем Парнаўскім (10).

Яшчэ адзін Косакоўскі, пан Крыштоф, чэснік Рэчыцкі, быў у 1699 годзе абвінавачаны Гаенскім плябанам Пятром Паўлам Шчэхлейскім у крадзяжы дрэва з касцёльнай пушчы пад Кацялямі ў Менскім ваяводстве. Валодаючы невялікім засценкам Аўрусаў, размешчаным каля самой пушчы, пан Крыштоф Косакоўскі меў кепскі звычай свае патрэбы ў драўніне і, асабліва ў дубовай, задавальняць за кошт крадзяжу чужога лесу (11).

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 138, л. 427.
2. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 16, л. 426.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 457, л. 82.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 35, л. 310.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 458, л. 318.
6. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 751, л. 153.
7. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 363, л. 51.
8. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 373, л. 142
9. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 381, л. 512
10. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 375, л. 505
11. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 50, л. 90.

## 11.12. Горскі Габрыел Казімір (? — 10.1666 — ?)

Звесткі аб трыманні Габрыелем Казімірам Горскім урада стольніка Менскага прыводзіць Анджэй Рахуба (1). Вядома, што быў цівуном Цверскім і жанаты з пані Люцыяй Геўлаўнай. На 10 мая 1693 года склаў тэстамент яшчэ адзін Горскі — Ян Мікалаевіч, цівуновіч Цверскі (2). Згодна са звесткамі А. Рахубы, Ян Мікалаевіч Горскі на 8 жніўня 1691 года займаў урад падстолія Браслаўскага павета. Быў жанаты з Ефрузынай Самуэлеўнай Кеўнарскай.

У Менскім ваяводстве мелі маетнасці з Горскіх — Марцыян, харужы Віленскі, і яго сын Вацлаў. Але наўрад ці мелі яны адносіны да Габрыеля Горскага, тым болей што ў Вацлава Горскага, харужыца Віленскага, было толькі тры дачкі. У каралеўскім задворным асэсарскім судзе 21 красавіка 1688 года разглядалася судовая справа па скарзе Міхала Вінка Ратамскага, лоўчага Рэчыцкага, да пані Зосі Мадашэўскай Якубавай Станіслававай Горскай і яе сыноў Мікалая, Гіполіта і Сымона (3). Аднак на пытанне, ці мелі вышэйназваныя Горскія якія-небудзь повязі з Габрыелем Горскім, адказу мы не маем.

Каяловіч сцвярджае, што род Горскіх у межах ВКЛ быў даволі шматлікі і разгалінаваны: адна галіна на Жмудзі ўжывала герб Наленч, а другая месцілася ў межах Віленскага і Менскага ваяводстваў (4). Адзін з Горскіх, Станіслаў, займаў нават уплывовую пасаду каралеўскага сакратара. Яшчэ адзін Горскі, Казімір, значную частку свайго жыцця прысвяціў вайсковай службе, удзельнічаючы як таварыш гусарскай гетманскай харугвы ўва многіх войнах XVII стагоддзя.

Улічваючы, як піша А. Рахуба, патрэбу людзей, якія займалі высокія пасады ў меншай і большай канцылярыях ВКЛ, у грашовых сродках, проста дзіўна, што колькасць стольнікаў, падстоліяў і іншыхураднікаў не перакрочыла ўсе магчымыя памеры і не прывяла да дэвальвацыі ўсіх урадаў у Вялікім княстве Літоўскім.

Крыніцы:
1. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 4164, л. 537.
2. Там жа, № 4443, л. 569.
3. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 380, л. 614.
4. Каяловіч. «Кампендыум», лл. 176, 250.

# 11.13. Дэмбоўскі Пётр (? — 04.07.1672 — 11.05.1685 — ?)

Першыя звесткі пра Пятра Дэмбоўскага (або Дамброўскага) датычацца 23 студзеня 1649 года: згодна з дэкрэтам каралеўскага асэсарскага суда Пётр Дэмбоўскі, пакаёвы дваранін караля, вёў судовы працэс з Адамам з Брусілава Кісялём, ваяводам Кіеўскім (1). Амаль праз сямнаццаць гадоў, 1 снежня 1666 года, Казіміру Дамброўскаму была выдана кантумацыя (дазвол на працяг судовага працэсу) у дачыненні да ваяводзіча Кіеўскага (2). Несумненна, што гэтыя два паведамленні цесна звязаны паміж сабой. Зусім верагодна, што Казімір быў сынам Пятра Дэмбоўскага (Дамброўскага).

У матэрыялах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага прывілей на ўрад стольніка Менскага Пятру Дэмбоўскаму не захаваўся. Але гэта не значыць, што наданне ўрада стольніка Менскага Пятру Дэмбоўскаму не было: магчыма, што прывілей быў унесены ў іншыя каралеўскія дакументы і захоўваецца там сёння, будучы недаступным для беларускіх даследчыкаў. У той час, калі Андрэй Косакоўскі ўсю першую палову 70-х гадоў XVII стагоддзя працягваў менавацца стольнікам Менскім, у дэкрэце каралеўскага асэсарскага суда ад 4 ліпеня 1672 года пішацца аб атрыманні Пятром Дэмбоўскім, стольнікам Менскім, і яго жонкай Крыстынай Хржанстоўскай, стольнікавай Менскай, у канцылярыі княства адпаведнага ліста аб баніцыі і вываланні на Яраша Казіміра Масальскага за недапушчэнне дваraніна скарбовага да выканання спагнання з яго маетнасці Бічэлі сумы ў 4025 польскіх злотых (3). Цікава, што яшчэ 20 ліпеня 1658 года Валерыян Дэмбоўскі вынес з канцылярыі ВКЛ ліст з баніцыяй на таго ж Масальскага, ваяводзіча Берасцейскага (4). З-за гэтых маетнасцяў — Бічэль (або Бічэмль) і Волкавічы, размешчаных у Берасцейскім ваяводстве, — Дэмбоўскаму, стольніку Менскаму, і яго жонцы Крыстыне Хржанстоўскай прыйшлося ўступаць у судовыя спрэчкі з самымі рознымі прэтэндэнтамі на гэтыя маетнасці: 7 мая 1689 года каралеўскі задворны асэсарскі суд вынес баніцыю на пані Ганну Любавіцкую Францыскавую Сапежыную, канюшыну надворную ВКЛ (5), таксама прэтэндаваўшую на гэтую маетнасць.

Сярод матэрыялаў, змешчаных у 144 томе Метрыкі да Пятра Дэмбоўскага, стольніка Менскага, мае непасрэднае дачыненне дакумент ад 23 сакавіка 1690 года, дзе Пётр Дэмбоўскі, праўда ўжо памёршы, мянуецца стольнікам Менскім. Гэта цэсія (дазвол) караля Яна III на дзельчы ліст па маетнасцям, належачым Дэмбоўскаму: Кезгалаў у Полацкім і Бічемль

у Берасцейскім ваяводствах. З дакумента вынікае, што менні Пятра Дэмбоўскага, стольніка Менскага, дзяліліся паміж яго дочкамі: Ганнай Станіслававай Падоскай, войскай Браслаўскай (жыла яшчэ ў 1723 годзе), і Рэгінай Янавай Бучынскай (6). Верагодна, што Пётр Дэмбоўскі, стольнік Менскі, памёр пасля 1685 года, якраз 11 мая гэтага года пазначаны разгляд судовай справы ў каралеўскім асэсарскім судзе, узбуджанай Пятром Дэмбоўскім, стольнікам Менскім і адміністратарам Кобрынскай эканоміі, супраць Ежы Скопа і яго жонкі Марыяны Міцкевічаўны Ежынай Скопавай. Згодна з дэкрэтам Галаўнога Трыбунала на іх маетнасць было прызначана спагнанне вялікай сумы, але Ежы Скопа не дапусціў судовага двараніна да выканання дэкрэта (7).

Наогул, прозвішча Дэмбоўскі (Дамброўскі) не характэрна для Менскага павета. Хутчэй за ўсё, што Дэмбоўскія месціліся і мелі ўладанні ў асноўным у межах Ашмянскага павета. Так, на пачатку 50-х гадоў XVII стагоддзя дэпутатам Галаўнога Трыбунала ад шляхты Ашмянскага павета абіраўся Станіслаў Дэмбоўскі, чэснік Ашмянскі (8). У 1688 годзе Станіслаў Касцюшкевіч, лоўчы Менскі, і пані Альжбета Дэмбоўская Станіслававая Касцюшкевічавая, лоўчыня Менская, атрымалі ў заставу маетнасць Дабрынева ад пані Рэіны Тэафіліі Мірскай Казіміравай Клакоцкай, харужыны Менскай (9). У 1689 годзе ў Галаўным Трыбунале Вялікага княства Літоўскага раглядалася справа, узбуджаная Тэадорам Антоніем Ваньковічам, стольнікам і падстарастам судовым Менскім, апекуном нялетніх Глушынскіх, супраць Станіслава Орды, кашталяна Троцкага, яго брата Мікалая і Станіслава Дэмбоўскага, жанатага з пані Ганнай Ардзянкай (10).

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 339, л. ?
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 355, л. 14.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 358, л. 145.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 347, л. 59.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 386, л. 31.
6. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 144, л. 12.
7. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 378, л. 38.
8. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 502, л. 332.
9. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 4, л. 842.
10. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 503, л. 370.

## 11.14. Рудаміна Дусяцкі Ежы (23.05.1679 — ?)

Вядома, што ў 1679 годзе Андрэй Косакоўскі дабіўся атрымання прывілея на падсудкоўства Віленскае. Пасля гэтага ад розных асобаў паступілі прапановы на заняцце ўрада стольніка Менскага. Згодна з матэрыяламі «Метрыкі...», 23 мая 1679 года прывілей на стольнікаўства Менскае атрымаў прадстаўнік роду Рудамінаў Дусяцкіх, Ежы, старасціч Старадубаўскі (1).

Патрэбна заўважыць, што якраз у гэты час у межах Менскага павета жыў яшчэ адзін стольнік ваяводства Менскага — Караль Казімір Уніхоўскі, харужыц Менскі, сын былога Менскага харужага Януша Уніхоўскага. Ежы Рудаміна Дусяцкаму давялося перажыць нямала прыкрых хвілін з гэтай нагоды, бо справа пайшла так, што прыйшлося звярнуцца ў каралеўскі асэсарскі суд, прайсці праз слуханне ў Галаўным трыбунальскім судзе ВКЛ, каб, нарэшце, пазбавіцца ад непажаданага прэтэндэнта на ўрад. Цікава, што на пачатак 1682 года па меншай меры пяць чалавек менавалі сябе стольнікамі Менскамі: Пётр Дэмбоўскі, Аттон Вільгельм Гротуш, Ежы Рудаміна Дусяцкі, Мікалай з Індрана Касцялкоўскі і Караль Казімір Уніхоўскі. Аднак, як нам сёння вядома, судовыя спрэчкі за права трымання ўрада стольнікаўства Менскага ўзгарэліся толькі паміж Рудаміна Дусяцкім і Уніхоўскім.

Род Рудаміна, названы па назову належачых ім добраў Дусяты Дусяцкімі, асабліва моцна ўкараніўся ў межах Браслаўскага павета. Стала звычайнай з'явай, што найбольш уплывовыя ўрады гэтага павета займалі прадстаўнікі Рудаміна Дусяцкіх. У XVI ст. многія з іх пастаянна служылі ў войску і ў званні ротмістраў узначальвалі элітныя харугвы войска ВКЛ. На 1654 год Ян Рудаміна Дусяцкі займаў вельмі ўплывовы ўрад кашталяна Навагародскага, даваўшага магчымасць яго ўладальніку засядаць у сенаце Рэчы Паспалітай (2).

Бацькі Ежы Рудаміна Дусяцкага: Пётр, стараста Старадубаўскі, і пані Гальшка Сулістроўская. Пётр Рудаміна Дусяцкі 3 снежня 1665 года, разам са сваімі братамі Крыштофам, маршалкам Браслаўскага павета, і ксяндзом Жыгімонтам, канонікам Віленскім, пробашчам Харышовіцкім і Пякелішскім, нашчадкі памёршага ў 1654 годзе Крыштофа Рудаміны Дусяцкага, ваяводы Менскага, дзялілі спадчынныя маетнасці (3).

Ежы Рудаміна Дусяцкі менаваўся стольнікам ваяводства Менскага і на 23 сакавіка 1683 года, калі ён паставіў свой подпіс пад дакумен-

там аб продажы Янам Плятэрам дому ў Вільні (4). Пры Радзімінскім Франскевічу, маршалку Галаўнога Трыбунала ВКЛ, падпісваючы дэкрэт трыбунальскі ад 24 мая 1688 года, Ежы Война Рудаміна Дусяцкі, дэпутат ГТЛ ад Ашмянскага павета, таксама мянуе сябе стольнікам Менскім (5).

Згодна з А. Рахубам, Ежы Войцэх Рудаміна Дусяцкі, старасціч Старадубаўскі, стольнік Менскі з 1680 года, на 1690 год трымаў у маетнасці Дукшты Віленскага ваяводства 2 дымы. У гэтай жа маетнасці, што засталася ў спадчыну нашчадкам Пятра Рудаміна Дусяцкага, старасты Старадубаўскага, 3 дымы трымаў Ян Казімір Рудаміна Дусяцкі, пісар земскі Браслаўскі, і адзін дым знаходзіўся ва ўладанні яшчэ аднаго прадстаўніка гэтага дому — пана Тамаша, таксама старасціча Старадубаўскага, стольніка, на 1690 год, Браслаўскага павета (6). Верагодна, што стольнікам ваяводства Менскага Ежы Войцэх Рудаміна Дусяцкі менаваўся да самай сваёй смерці, нягледзячы на тое, што на 1687 год у судах Вялікага княства Літоўскага разглядаліся розныя справы з удзелам яшчэ аднаго стольніка Менскага, на гэты раз Тэадора Антонія Ваньковіча, былога падчашага Пінскага. Аднак іншых судовых спраў з удзелам Ежы Рудаміна Дусяцкага за адстойванне права аднаасобна менавацца стольнікам Менскім нам не давялося сустрэць.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 138, л.427.
2. «Рэестр падымнага Навагародскага ваяводства...», л.34.
3. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 132, л. 618.
4. АВАК, т. 20, л. 465.
5. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 504, л. 218.
6. «Рэестр падымнага Віленскага ваяводства...», л.275.

## 11.15. Уніхоўскі Казімір Караль (03.06.1679 — 1681 — 29.03.1682)

Як мы ўжо пісалі, Ежы Рудаміна Дусяцкаму прыйшлося вытрымаць цяжкую барацьбу за ўрад стольнікаўства Менскага з Казімірам Каралем Уніхоўскім, харужыцам Менскім. У матэрыялах Метрыкі Вялікага княства (справа 370, л. 478) намі знойдзены дэкрэт асэсарскага суда ад 9 красавіка 1680 года па скарзе Ежы Рудаміна Дусяцкага на Казіміра Караля Уніхоўскага, які, амаль адначасова з Дусяцкім, пасля пераходу Станіслава (так у тэксце, правільна — Андрэй) Касакоўскага на

ўрад падсудкоўства Віленскага, таксама атрымаў прывілей на гэты ж урад. Нешта было не так з гэтым прывілеем у Казіміра Уніхоўскага, бо на паседжанне асэсарскага суда сам дакумент так і не быў прадстаўлены. Уніхоўскаму далі тэрмін для прадстаўлення ў суд арыгінала прывілея. Здаецца, што Уніхоўскі стараўся зацягнуць справу на як мага даўжэйшы час і зусім не збіраўся выконваць патрабаванне суда. Яшчэ адна згадка, якая падмацоўвае гэтае наша меркаванне, аб атрыманні прывілея на ўрад стольнікаўства Менскага Казімірам Каралем Уніхоўскім знойдзена намі ў матэрыялах Менскага гродскага суда пад датай 1681 года. Якраз 10 чэрвеня 1681 года разглядалася справа, узбуджаная пані Пятровай Васілеўскай і Янам Васілеўскім, братам яе мужа, супраць Караля Казіміра Уніхоўскага, былога харужыца Менскага, арганізаваўшага наезд сваіх слуг Стэфана Чуліцкага і Казіміра Троскі на гасподу ў Менску на Замкавай гары ў доме Супрона Плаксіча, якую займаў Пётр Васілеўскі. Пётр Васілеўскі быў захоплены, жорстка збіты, а потым нападаючыя прывязалі яго да каня і яшчэ жывога працягнулі праз увесь горад. Мёртвае цела завезлі ў маетнасць Уніхоўскага Снаксараўскую і там патаемна ўтапілі ў балоце (1). У матэрыялах гэтай справы Уніхоўскага мянуюць стольнікам Менскім.

Справа, узбуджаная Ежы Рудаміна Дусяцкім, мела вырашэнне толькі 29 сакавіка 1682 года, у гэты дзень у Яваравe адбылося паседжанне асэсарскага суда, на якім прывілей Караля Уніхоўскага быў прызнаны правільным, бо быў падпісаны самім каралём. Толькі Караль Уніхоўскі, харужыц Менскі, атрымаў яго 3 чэрвеня 1679 года, а Ежы Рудаміна Дусяцкі яшчэ 23 мая гэтага ж года (2). Зыходзячы з больш позняга тэрміну атрымання прывілея Каралем Уніхоўскім яго правы на ўрад былі скасаваныя. Праўда, Казімір Караль Уніхоўскі не скарыўся. ¨н працягваў менавацца стольнікам Менскім і, у дадатак да ўсяго, здолеў атрымаць з каралеўскага асэсарскага суда дазвол на працяг судовага пераследу свайго былога судовага агента, які, нібыта, на судовым працэсе за стольнікаўства Менскае ўступіў у зносіны з Ежы Рудаміна Дусяцкім, стольнікам Менскім, і перадаваў яму розную інфармацыю. Справа за правы на стольнікаўства Менскае скончылася толькі пасля атрымання Уніхоўскім урада харужага Менскага.

Казімір Караль Уніхоўскі — сын Януша Уніхоўскага, харужага Менскага, памёршага да ліпеня 1649 года. У гэтым жа годзе была забіта пані Фларэнцыя Мілеўская Янушавая Уніхоўская, харужына Менская. З абвінавачваннем у адрас забойцаў на судзе асэсарскім выступіў Казімір Уніхоўскі, харужыц Менскі. Усю віну за забойства харужыны

Менскай ён усклаў на мясцовых зямян Акулічаў: Сямёна, генерала ваяводства Менскага, і яго брата, ксяндза Аляксандра. Непасрэдна забойства Фларэнцыі Мілеўскай Янушавай Уніхоўскай здзейсніў войт Вяпрацкай маетнасці, некалі, у 1604 годзе, купленай Янушам Уніхоўскім (2). Як нам падаецца, Казімір Уніхоўскі быў сынам Януша Паўлавіча Уніхоўскага і яго першай жонкі Рэіны Бяняшаўны Чаркоўскай (3). Меў брата Рэміяна, на 1661 год суддзю земскага Браслаўскага павета (4), і сястру Сузану (у шлюбе за Аляксандрам Рафалам Шалухам) (5).

На 1662 год быў у шлюбе з пані Канстанцыяй Корсакаўнай, маршалкоўнай Мозырскай. Для яе гэта быў другі шлюб: у першым шлюбе яна была за Тамашом Косакоўскім, кашталянам Віцебскім. Пані Канстанцыя Корсакаўна Казіміравая Уніхоўская жыла яшчэ ў 1677 годзе (7). Ад шлюбу з Канстанцыяй Корсакаўнай засталіся сыны: Януш, Аляксандр, Феліцыян і Казімір (8). Ад свайго пасынка Андрэя Косакоўскага Казімір Караль Уніхоўскі доўгі час трымаў у заставе маетнасць Лукавец. Будучы сапраўдным шляхцічам, ніякага ўдзелу ў кіраванні застаўнай маетнасцю не прымаў, даверыўшы гэтую справу арандатарам. У выніку атрымаў тое, што і патрэбна было чакаць, — поўнае спусташэнне сваёй маетнасці: 9 кастрычніка 1671 года, у Галауным Трыбунале Вялікага княства Літоўскага слухалася справа Караля Казіміра Уніхоўскага, харужыца Менскага, да былога арандатара Лукавецкага Голуба, які ў сваіх інтарэсах і ўчыніў гэтае спусташэнне (9).

Каля 1685 года атрымаў урад харужага Менскага, які і трымаў да сваёй смерці ў пачатку 90-х гадоў XVII стагоддзя.

Род Уніхоўскіх паходзіў з зямян Северскай зямлі. Пасля адыходу гэтай тэрыторыі да Масквы, Уніхоўскія не пажадалі заставацца з новымі ўладарамі і выехалі ў межы Вялікага княства Літоўскага. Найбольшае распаўсюджванне Уніхоўскія мелі ў межах Навагародскага ваяводства. Па найменні сяла Уніхова, што ў межах ваяводства, атрымаў род сваё прозвішча. У Менскім ваяводстве Уніхоўскія з'явіліся ў пачатку XVI стагоддзя, з набыццём Янушам Уніхоўскім у Мікалая Янавіча Глябовіча, старасты Анікшцянскага, і іншых сумежных уладальнікаў земляў, што склалі вялікую маетнасць Вяпраты.

Многія прадстаўнікі гэтага роду дасягалі высокіх пасадаў у сістэме кіравання княствам. Так, Крыштоф Казімір Уніхоўскі, да 1649 года быў сакратаром караля, а пасля і інстыгатарам ВКЛ. Яшчэ адзін з Уніхоўскіх, Крыштоф, пасля заняцця тэрыторыі беларускіх земляў мас-

коўскімі войскамі разам з усёй праваслаўнай шляхтай перайшоў на бок заваёўніка і нават быў абраны, незадоўга да сваёй смерці, харужым Менскага ваяводства. У ліпені 1656 года Крыштоф Уніхоўскі, харужы Менскі, пісаў цару Аляксею Міхайлавічу: «от твоих, государёвых, неприятелей, от польских и от литовских людей слышечи всякое слово твоему государёву воеводе в Минске сказываю...» (10).

Багуслаў Аляксандр Уніхоўскі, сын Гіероніма і Ганны Пяшацкай Уніхоўскіх, нарадзіўшыся ў 1640 годзе, на працягу значнага часу займаў урад пісара земскага Навагародскага ваяводства і карыстаўся вялікім аўтарытэтам у мясцовай шляхты. Неаднаразова, супраць волі ваяводскай адміністрацыі, праводзіў зборы шляхты, аб'яўляючы іх павятовымі соймікамі і дабіваючыся прыняцця патрэбных сабе рашэнняў. У канцы жыцця атрымаў прывілей на ваяводства Троцкае (11), а не на Навагародскае, як сцвярджае А. Рахуба (12).

Важкі след у гісторыі ваяводства пакінулі і такія дзеячы з роду Уніхоўскіх, як Аляксандр Юзэф Уніхоўскі, суддзя земскі Менскі, атрымаўшы ў свой час прывілей на староства судовае Менскае, але па нейкіх прычынах так і не заняўшы гэты ўрад, у канцы жыцця кашталян Жамаіцкі, Казімір Караль Уніхоўскі, пісар земскі Менскі, і, нарэшце, Францыск Уніхоўскі, суддзя земскі Менскі, займаўшы гэты ўрад у апошні перыяд існавання Вялікага княства Літоўскага. Аповед пра гэтых палітыкаў будзе змешчаны ў адпаведных раздзелах нашага даведніка.

Крыніцы:

1. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 35, л. 1399.
2. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 4, лл. 452—455.
3. Там жа, ф 1769, воп. 1, с.4, лл. 452—455.
4. «Собрание древних актов и грамот городов: Вільны, Ковно, Трок...», № 130.
5. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 34, л. 966.
6. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 16, л. 426.
7. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 35, л. 965.
8. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 369, л. 707.
9. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 35, л. 647.
10. «Б.А.», т. 3, л. 193, № 129.
11. Незабытоўскі, лл. 303, 373.
12. «Рэестр подымнага Навагародскага ваяводства...», л.113.

## 11.16. Касцялькоўскі Мікалай Казімір з Індрана (03.10.1681 — 27.07.1686 — ?)

Як паведамляе А. Рахуба, Мікалай Казімір Касцялкоўскі атрымаў прывілей, або, як ён піша, «быў авансаваны» на стольнікаўства Менскае па прывілеі ад 3 кастрычніка 1681 года (1). Бацька Мікалая Касцялкоўскага, стольніка Менскага, таксама Мікалай, нарадзіўся ў 1584 годзе. Ад шлюбу з Ганнай Расахацкай акрамя Мікалая меў яшчэ аднаго сына Яна, займаўшага па чарзе ўрады: скарбніка Смаленскага, пісара гродскага і земскага Вількамірскага, а потым і харужага гэтага ж павета (2). Яшчэ адзін Ян Касцялкоўскі, сын Габрыела, у 1624 — 1625 гады займаў пасаду пісара земскага Браслаўскага павета. Вядома, што ўступіў у шлюб з пані Ганнай Стэцковічаўнай (3).

Мікалай з Індрана Касцялкоўскі, стольнік Менскі, меў маетнасці, або, як тады пісалі, «сталую аселасць», у межах Вількамірскага павета. І зразумела, што ўсе папярэднія ўрады атрымліваў у гэтым жа павеце. На 1668 — 1679 гады займаў урад канюшага, а ў перыяд 1678 — 1681 гадоў урад падчашага гэтага ж павета. Быў абраны дэпутатам Галаўнога Трыбунала ад Вількамірскага павета на 1686 год. Пры маршалкоўстве Тэафіла Алендзьскага, падкаморыя Ваўкавыскага, падпісаў 27 ліпеня гэтага года дэкрэт Трыбунала па справе Яна Плаза Хадакоўскага са Станіславам і Аляксандрам Ямантамі, мянуючы сябе стольнікам Менскім (4). Жанаты з пані Кацярынай Ефрузынай Даніелаўнай Нагурчанкай. Памёр, згодна з даследаваннямі А. Рахубы, у 1699 годзе. З яго нашчадкаў вядома імя яго сына Міхала Касцялкоўскага, быўшага ў шлюбе з Зосяй Явойшаўнай. Як паведамляе А. Рахуба, Міхал Касцялкоўскі, стольнікавіч Менскі, займаў па чарзе ўрады: канюшага на 30 лютага 1685 года і падчашага Вількамірскага павета на 23 красавіка 1700 года і да 26 лютага 1726 года. Памёр Міхал Касцялкоўскі 11 ліпеня 1727 года (5).

Прадстаўнікі гэтага роду займалі ўрады ў асноўным у Вількамірскім павеце. Сярод іх былі канюшыя, падчашыя, стражнікі, стольнікі і харужыя павета. Асабліва можна выдзяліць Францыска, Мікалая і Ігнацы Касцялкоўскіх, займаўшых з 1764 года і па 1793 год урады маршалкаў Вількамірскага павета (6).

Крыніцы:

1. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», №, 3379, л. 450.
2. Там жа, №№ 2983, 3325, 3354, лл., адпаведна, 408, 444, 447.

3. НГАБ. Ф 1747,воп. 1, с. 5, л. 159
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 386, л. 66.
5. «Урадніка Віленскага ваяводства...», №№ 3131, 3379, лл., адпаведна, 423, 450.
6. Там жа, л. 675.

## 11.17. Васілеўскі Казімір Хвалібог (? — ?)

З дэкрэта каралеўскага асэсарскага суда ад 15 чэрвеня 1694 года вядома, што пані Ганна Пажарыская, лаўчынянка Менская Казіміравая Хвалібогавая Васілеўская, стольнікавая Менская, атрымала вечную баніцыю на пана Крыштофа Камароўскага, кухмістра ВКЛ (1). Справа пачалася з-за няслушных (г. зн. нязгодных з правам) прэтэнзій пана кухмістра на права ўладання маетнасцю Дольцы ў Полацкім ваяводстве. Гэтая маетнасць была набыта Казімірам Васілеўскім у Аляксандра і Пятра Няміраў, але, верагодна, на ёй ляжалі нявернутыя пазыкі, і зразумела, што Крыштоф Камароўскі стараўся вярнуць хоць частку з іх. Пан Крыштоф Камароўскі павёў сябе як сапраўдны шляхціч таго часу, паспрабаваў сілай устанавіць справядлівасць, як сказана ў дакуменце, «учыніў экспульсію», і відаць, што беспаспяхова. На час суда Казімір Хвалібог Васілеўскі ўжо не жыў, і судовую справу вяла яго жонка. Існуе верагоднасць таго, што ў гэтым выпадку была дапушчана звычайная пісарская памылка і замест стольніка Віцебскага ваяводства, якім Казімір Васілеўскі хутчэй за ўсё і быў, у канцылярыі княства яго запісалі стольнікам Менскага ваяводства. У падтрымку гэтага сцвярджэння можна прывесці довад, што Васілеўскія здаўна мелі аселасць у межах Віцебскага ваяводства і трымалі толькі ўрады гэтага ваяводства. З матэрыялаў асэсарскага суда вынікае, што Казімір Васілеўскі мог атрымаць свой урад стольніка Віцебскага пасля 1671 года. У гэтым годзе ён судзіўся за захоп 3-х сваіх падданых з панам Янам Вільбутовічам Паплонскім і нідзе не менаваў сябе ўраднікам Менскага або Віцебскага ваяводстваў (2). Магчыма, што яго сынам быў Міхал Васілеўскі, палкоўнік войскаў Літоўскіх, падчашы Віцебскі, які з 1711 года і па 1725 год трымаў Гаенскае староства, размешчанае ў межах Менскага ваяводства.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 394, л. 69.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 363, л. 37.

## 11.18. Гротуш Аттон Вільгельм (? — 28.03.1682 — 29.04.1683 — ?)

У матэрыялах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага нам сустрэлася толькі некалькі згадак пра Аттона Гротуша, стольніка ваяводства Менскага, хаця сам Гротуш, як і яго крэўныя асобы, даволі вядомыя на палітычным небасхіле княства. Першы раз сутракаецца прозвішча Гротуша ў спісах «зацяжных» (наёмных) харугваў Багуслава Радзівіла, ставіўшых адпор казацкім палкам Багдана Хмяльніцкага і войскам Маскоўскага княства, уварваўшымся ў 1654 — 1656 гадах у межы княства.

Нашчадкі наёмнікаў, верна служыўшых ВКЛ, знайшлі сваю новую радзіму на Літве і стала аселі ў яе паветах і ваяводствах. З матэрыялаў Пінскага гродскага суда вядома, што на 1660 год адзін з Гротушаў быў кашталянам Кіеўскага ваяводства (1).

Першая справа, датычная Аттона Гротуша, стольніка Менскага, і яго блізкіх крэўных — Яна Рэйнгольда Гротуша, падчашага Інфлянцкага, Теафіла Гротуша, Вільгельма Гротуша, цівуна Ужвенскага і Аляксандра Фрыдрыха Гротуша распачалася даўно. Гротушы атрымалі 15 сакавіка 1681 года дэкрэт Галаўнога Трыбунала аб спагнанні грашовых сум з Самуэла Багдана Юшкевіча, падчашага Ковенскага, і з каралеўскім дваранінам паспрабавалі спагнаць іх з маетнасці Юшкевіча, размешчанай у Упіцкім павеце. Юшкевіч, згодна з практыкаў таго часу, разумеючы, чым скончыліся аналагічныя спагнанні з іншых маетнасцяў, не дапусціў дваранiна да выканання яго абавязкаў. Не губляючы дарэмна часу, сабраўшы неабходную суму грошай на ўлагоджванне апетытаў канцылярыстаў, Самуэл Юшкевіч пачаў дабівацца адтэрміноўкі выканання судовага дэкрэта. Час Самуэл Юшкевіч не траціў дарма, і Гротушы пачалі разумець, што яны так і не ўбачаць ні сваіх грошай, ні кампенсацыі за панесеныя выдаткі. Тады 6 чэрвеня гэтага ж года Гротушы, прыцягнуўшы да ўдзелу ў сапраўднай ваеннай экспедыцыі і Фрыдрыха Шрэдэра з яго вайсковай харугвай, напалі на маетнасць Юшкевіча і самі арганізавалі спагнанне ўсіх грашовых сум, вызначаных дэкрэтам ГТЛ. Зразумела, што маетнасць была вынішчана дашчэнту. За аказанае супраціўленне былі забіты ўраднікі Юшкевіча: Войцэх Мінкевіч і Крыштоф Кунцэвіч, а Міхалеўскага ўтапілі. Былі забітыя і сярод падданых, але пра іх справа ў судзе не ішла. На ўсіх Гротушаў была ўскладзена баніцыя і вызначана для ўплаты Юшкевічу значная сума грошай (2).

Патрэбна прызнаць, што Аттон Гротуш не заўсёды менаваўся

стольнікам Менскім: у судовых справах, што разглядаліся ў каралеўскім асэсарскім судзе на працягу першай паловы 1682 года, ён выступае без пазначэння якога-небудзь урада (3).

Другая судовая справа распачалася даўно і, відаць, вялася з пераменным поспехам. Аттон Гротуш выставіў да пана Яна Даўгялы Агінца патрабаванне аб вяртанні сумы ў 530 польскіх злотых. Па рашэнні ГТЛ у маетнасць Агінца Пукняны, размешчаную ў межах Упіцкага павета, з адпаведным лістом аб баніцыі на гаспадара маетнасці і рашэннем аб правядзенні адправы (спагнанні пазыкі з судовымі накладамі) у Пукняны быў накіраваны каралеўскі дваранін. Як гэта было заведзена здаўна, ведаючы, якім чынам праводзіцца адправа, Ян Агінец не дапусціў гаспадарскага двараніна да правядзення адправы, за што атрымаў ад Галаўнога Трыбунала дэкрэт аб вечным вываланні (выгнанні) за межы краіны. Аттон Гротуш, стольнік Менскі, не супакоіўся на дасягнутым і падаў чарговую скаргу на дзеянні Агінца на разгляд у асэсарскі задворны суд. Якраз 29 красавіка 1683 года і праходзіла слуханне скаргі пакрыўджанага стольніка Менскага ваяводства (4).

1 сакавіка 1691 года ў Галаўным Трыбунале ВКЛ, на яго Віленскай кадэнцыі (сесіі), разглядалася справа, узбуджаная Юр'ем Гротушам, падстоліем Смаленскім, супраць Фердынанда Рора, стольніка Троцкага (5).

Род Гротушаў не перасекся ў Літве. Гэтае прозвішча сустракаецца ў актавых дакументах судоў Вялікага княства Літоўскага і ў XVIII стагоддзі.

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1733, воп. 1, с. 1, л. 75
2. Там жа, кмф 18, воп.1, с. 373, л. 33.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 385, лл. 146, 237.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 375, л. 740.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 394, л. 1305.

## 11.19. Выгоўскі Ян (11.15.1690 — ?)

Яну Выгоўскаму, таварышу гусарскай роты Радзівіла, падканцлера Вялікага княства Літоўскага, прывілей на ўрад стольніка Менскага быў падпісаны 11 лістапада 1690 года (1). На гэты час па крайняй меры ўжо тры гады як гэты ўрад знаходзіўся ў трыманні Ваньковіча, падстарасты судовага Менскага. Аднак у прывілеі на ўрад пазначана, што ўрад надаецца Яну Выгоўскаму з нагоды пераходу Тэадора Антонія Вань-

ковіча з урада падстарасты на ўрад войскага Менскага. Вядома, што Тэадор Антоні Ваньковіч так і памёр праз 26 гадоў, застаючыся падстарастам судовым. Што ж тычыцца ўрада войскага Менскага, то яго, згодна з паведамленнем Адляніцкага Пачобута, яшчэ з 1680 года займаў Уладзіслаў Ваньковіч (2). Па прычыне таго, што ўрады надаваліся пажыццёва або да атрымання іншага, больш высокага ўрада, то і трымаў гэты ўрад Уладзіслаў Ваньковіч да самай сваёй смерці, якая і наступіла пасля 1693 года (3). Так што яшчэ прыйдзецца даследчыкам разбірацца і з гэтай таямніцай, бо, як вядома, дыму без агню не бывае, без усялякай прычыны гэты прывілей у акты Метрыкі не мог быць упісаны.

Што ж датычыцца Яна Выгоўскага, то ён, як сказана ў прывілеі, удзельнічаў «у розных экспедыцыях і за захаванне маестату нашага і ўсёй Рэчы Паспалітай добраў сваіх і крыві сваёй не шкадаваў» і, зразумела, меў усе правы на гэты ганаровы ўрад і не застаўся потым, калі не спраўдзіліся яго надзеі на атрыманне ўрада стольніка Менскага, без высокага адзначэння за свае вайсковыя заслугі. Вядома, што родам з Віленшчыны паходзіў гетман запарожскі Іван Выгоўскі. У 1665 годзе яшчэ аднаму Выгоўскаму, Стэфану, была нададзена ад каралеўскага асэсарскага суда сублевацыя (адтэрміноўка на ўступленне ў сілу) на баніцыю ад Мікалая Арахоўскага і Зосі Ліпніцкай, якая была атрымана Арахоўскімі з-за невяртання Стэфанам Выгоўскім пазыкі ў 8700 коп грошай літоўскіх, узятай яшчэ ў 1655 годзе (4). Нельга выкінуць з гісторыі Менскага ваяводства і Выгоўскага Данііеля, які ў 1713 годзе атрымаў прывілей на Менскую кашталянію і апісанне жыцця якога будзе прыведзена ў асобным раздзеле.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 146, л. 218.
2. Paczobut Odlanicki Jan, «Pamiktniki Jana Wiadysiawa». Warszawa, 1877, л. 151.
3. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 147, л. 70.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 348, л. 76.

## 11.20. Ваньковіч Тэадор Антоні (да 1690 — 15.07.1716)

Як мы паказвалі раней, захаванасць дакументаў Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, як і іншых дакументаў, датычных 2-й паловы XVII

стагоддзя, не з'яўляецца вельмі высокай: шмат дакументаў было знішчана ў выніку ваенных дзеянняў, характэрных для гэтага перыяда, а шмат што проста згарэла ў полымі пажараў, звычайнай з'явы як для Вільні, так і для іншых гарадоў княства. Так, у выніку вялікага пажару, ахапіўшага Менск у пачатку 70-х гадоў XVIII стагоддзя, былі знішчаны дакументы за значны час не толькі земскага і гродскага Менскіх судоў, але і дакументы Галаўнога Трыбунала Менскай кадэнцыі, падкаморскіх судоў і шмат чаго яшчэ, чаго так бракуе сёння даследчыкам мінулага. Таму і каралеўскага прывілея на наданне Тэадору Антонію Ваньковічу ўрада стольніка Менскага нам ужо не давядзецца адшукаць. Дату атрымання прывілея можна ўстанавіць толькі ўскосна і вельмі прыблізна.

Тэадор Антоні Ваньковіч, яшчэ ў 1671 і 1676 годзе, пад дакументамі падпісваўся як падчашы Пінскага павета (1). На жаль, і дакумента аб наданні Тэадору Ваньковічу гэтага ўрада нам не давялося знайсці. Верагодна, што да 1679 года адмовіўся ад гэтага ўрада на карысць Станіслава Валадковіча, зямяніна Ковенскага павета. Недзе да кастрычніка 1687 года атрымаў прывілей на стольнікаўства Менскае. Падцвярджэннем гэтага можа служыць дакумент аб судовай справе, узбуджанай Гіеронімам Набароўскім, войскім Мозырскім, аб правах уласнасці на маетнасць Пярэжыры, унесены ў акты Менскага гродскага суда пад датай 4 кастрычніка 1687 года. У гэтым дакуменце Тэадор Антоні Ваньковіч мянуецца стольнікам Менскім.

Для разумення становішча спраў, характэрнага для Вялікага княства Літоўскага ў другой палове XVII стагоддзя, нялішнім будзе прывесці тлумачэнне даверанай асобы Ваньковіча, прадстаўляўшай яго інтарэсы ў судзе. Міхал Аколаў адмаўляўся выехаць у Навагародак для ўдзелу ў паседжанні Галаўнога Трыбунала ВКЛ, апраўдваючыся існаваннем пагрозы для яго жыцця з боку самога Гіероніма Набароўскага. Як тады пісалі, ніводзін чалавек не можа з'явіцца ў суд без рызыкі для свайго жыцця (2). Справа, аднак, на гэтым не скончылася, але для Ваньковіча мела шчаслівае завяршэнне. У наступным 1688 годзе, засядаўшы ў Гародні, каралеўскі асэсарскі суд усё-такі выдаў 24 сакавіка Тэадору Ваньковічу, стольніку Менскаму, кантумацыю (дазвол на працягванне судовага пераследу) на Гіероніма, войскага, і Данііеля, скарбніка Мозырскага з Набарова Набароўскіх.

Улічваючы, што асноўныя даты жыцця Тэадора Антоні Ваньковіча, стольніка і падстаросты судовага Менскага, будуць прыведзены ў радзеле «Падстаросты судовыя гродскія Менскага ваяводства», мы аб-

мяжуемся толькі апісаннем асноўных этапаў жыцця гэтага выбітнага дзеяча Менскага ваяводства.

У раздзеле, датычным Яна Выгоўскага, мы ўжо казалі аб незразумелай фармулёўцы, дапушчанай у прывілеі Выгоўскаму на ўрад стольніка Менскага, дзе пісалася аб пераходзе Тэадора Антонія Ваньковіча на ўрад войскага Менскага. Магчыма такі пераход і планаваўся Тэадорам Ваньковічам, але не быў здзейснены з-за смерці ў 1689 годзе Тэадора Валадковіча, пісара земскага Менскага, некалі, пасля смерці Адама Ваньковіча ў 1636 годзе, перахапіўшага з рук Ваньковічаў урад войскага Менскага. На ўрад пісара земскага Менскага яшчэ з пачатку 60-х гадоў прэтэндаваў Марцін Казімір Валадковіч, гараднічы і падстараста судовы Менскі. Верагодна, адбылася, па папярэдняй дамоўленасці, перадача ўрада падстарасты Тэадору Антонію Ваньковічу, урад жа гараднічага Менскага, таксама як і ўрад падстарасты, несумяшчальны з выкананнем абавязкаў пісара земскага Менскага, быў нададзены старэйшаму сыну Марціна Казіміра Валадковіча Стэфану, будучаму падсудку Менскаму (3).

Апошняе ўпамінанне ў гродскіх судовых кнігах Менскага ваяводства аб выкананні абавязкаў падстарасты судовага Марцінам Казімірам Валадковічам адносіцца да 5 сакавіка 1689 года (4), а ўжо 5 чэрвеня гэтага ж года першае, вядомае нам, паседжанне гродскага суда правёў Тэадор Антоні Ваньковіч, стольнік Менскі (5).

На працягу свайго жыцця Тэадор Антоні Ваньковіч двойчы адхіляўся ад выканання абавязкаў па кіраванні справамі гродскага суда: першы раз гэта адбылося ў 1706 годзе, калі ў Менскім ваяводстве, дарэчы, як і ў некаторых іншых ваяводствах і паветах ВКЛ, замест гродскага суда была ўведзена сурагаторыя гродская. Верагодна, гэта было звязана з шырокім распаўсюджваннем злоўжыванняў судовых ураднікаў. Правы суррагтара гродскага Менскага былі прадстаўлены Уладзіславу Францыску з Белага Краева Краеўскаму, палкоўніку і суддзі войскаў ВКЛ. Сурагаторыя працягвала дзейнічаць у Менскім ваяводстве аж да самай смерці Уладзіслава Краеўскага ў 1708 годзе. Толькі пасля смерці Уладзіслава Францыска Краеўскага Тэадор Ваньковіч змог ізноў прыступіць да выканання сваіх абавязкаў (6). Яшчэ раз быў адхілены Тэадор Ваньковіч ад выканання сваіх абавязкаў пажыццёвага судовага падстарасты і суддзі гродскага Менскага ў чэрвені 1709 года, калі Крыштоф Станіслаў на Бакштах Завіша, староста судовы Менскі, прызначыў на гэтую пасаду Андрэя Бенедыкта Карніцкага, лоўчага, на той час, Менскага ваяводства (7). Тэадору Антонію Ваньковічу прыйшлося прыкласці нямала сіл, каб

вярнуць у свае рукі ўрад падстарасты судовага Менскага і, урэшце, Андрэю Бенедыкту Карніцкаму прыйшлося адступіцца ад прывабнага месца і яшчэ амаль семь гадоў чакаць, пакуль урад падстарасты судовага Менскага не стане вольным.

Як сцвярджаюць услед за Юзэфам Вольфам аўтары артыкула ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», Тэадор Антоні Ванькoвіч незадоўга да смерці атрымаў прывілей на ўрад кашталяна Менскага (8). На нашу думку, атрыманне прывілея на ўрад кашталяна Менскага было магчымым у 1709—1713 гадах, бо пазней, з 13 лютага 1713 года, каралеўскі прывілей на гэты ўрад атрымаў Даніел Выгоўскі (9), які трымаў гэты ўрад аж да сваёй смерці. Справа была ў тым, што пасля смерці ў канцы 1709 года Міхала Шчукі, кашталяна Менскага, справа з пошукамі новай кандыдатуры на гэты ўрад ішла даволі туга. Вакантны ўрад прапаноўваўся па чарзе Шымону Друцкаму Любецкаму і Яну Фрэдэрыку Сапегу, але абодва адмовіліся ад урада. Вось тады, магчыма, была звернута ўвага на фінансавыя магчымасці і жаданне Тэадора Антоні Ванькoвіча на атрыманне гэтага ўрада. Быў яшчэ адзін спрыяльны для Тэадора Ванькoвіча момант, ужо пасля атрымання Даніелем Выгоўскім Менскай кашталяніі: у 1713 годзе Выгоўскаму прапанавалі дворнае падскарбства, аднак справа не заладзілася па нейкіх прычынах, і Даніел Выгоўскі адмовіўся ад прапанаванага яму ўрада дворнага падскарбія ВКЛ. Такім чынам, калі і былі намеры ў Тэадора Ванькoвіча заняць урад кашталяна Менскага, то пасля адмовы Выгоўскага ад павышэння ўсялякія размовы аб прэтэнзіях Тэадора Ванькoвіча на Менскую кашталянію павінны былі спыніцца самі сабой. Магчымасць прапановы ад Аўгуста II Тэадору Ванькoвічу, якраз у 1709 годзе абранаму дэпутатам у склад ГТЛ ад Менскага ваяводства, падцвярджае і Юзэф Вольф (10). Пазней, з-за хваробы Тэадора Ванькoвіча, усе думкі аб новым урадзе страцілі сэнс. Да таго ж у матэрыялах Метрыкі намі не знойдзены прывілей Тэадору Антонію Ванькoвічу на ўрад кашталяна Менскага. Сам жа Тэадор Антоні Ванькoвіч ніколі не менаваў сябе кашталянам Менскім, і нават апошнія судовыя яго справы, якія ён веў перад сваёй хваробай, былі падпісаны ім як стольнікам Менскім.

Быў жанаты некалькі разоў, першы раз, у пачатку 1672 года, уступіў у шлюб з Ганнай Войшнараўнай (11), унучкай Мікалая Даменіка Булгака, падсудка Менскага, якая толькі што разышлася з сваім мужам Станіславам Свірскім, падсудкам Менскім. Развод мог мець месца ў першай палове 1671 года, бо ўжо на 4 чэрвеня гэтага года Станіслаў Свірскі падпісваўся ў якасці суддзі земскага Менскага, атрымаўшы гэты ўрад

пасля смерці былога суддзі — Яна Валадковіча (12). Ганна Войшнараўна памёрла да 1711 года, і стольнік і падстараста судовы Менскі ўступае ў новы шлюб з Феліцыянай Эйдонаўнай, у першым шлюбе Быкавай (13).

Вядома, што меў некалькі дачок, дзве з якіх, Зося і Гелена, былі ў шлюбе, адпаведна за Францыскам Валадковічам, войскім Менскім, і Янам на Рдултове Рдултоўскім, на той час скарбнікам Менскім. Яшчэ дзве дачкі ўступілі ў Менскі жаночы кляштар святога Бенедыкта, дзе адна з іх, Францыска, займала некаторы час пасаду старэйшай гэтага кляштару (14).

Памёр Тэадор Антоні Ваньковіч, стольнік і падстараста Менскі, стараста Падусвяцкі і Рушаўскі, 15 ліпеня 1716 года пасля доўгай хваробы. Апошні запіс судовай справы, разгледжанай з удзелам Тэадора Ваньковіча, зроблены 8 лістапада 1715 года (15), а першы разгляд судовай справы, праведзены новым падстарастам Менскім Андрэем Бенедыктам Карніцкім, лоўчым Менскім, пазначаны 5 жніўнем 1716 года (16).

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 457, л. 29.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 36, л. 251.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 520, л. 31.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 36, л. 315.
5. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 36, л. 325.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 37, л. 898; с. 4, л. 773; с. 5, лл. 309, 679.
7. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 6, л. 361.
8. Э.Г.Б., т. 2, л. 219.
9. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с.157, л. 30.
10. Вольф Юзэф. «Сенатары і дыгнітары ВКЛ...», лл. 111—113.
11. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 35, л. 750.
12. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 35, л. 567.
13. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 7, л. 632.
14. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 51, лл. 277–278.
15. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 52, л. 706.
16. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 38, л. 801.

## 11.21. Паплонскі Ян Пётр Вільбутовіч ( ? — 1711 — ?)

Адзіны вядомы нам дакумент, датычны атрымання Янам Паплонскім урада стольніка Менскага, быў унесены ў гродскія акты Мен-

скага ваяводства ў лістападзе 1711 года (1). Існуе высокая верагоднасць, што атрыманне Паплонскім урада стольніка Менскага было звязана з намерамі Тэадора Ваньковіча атрымаць прывілей на кашталянію Менскую.

Ян Вільбутовіч Паплонскі, зямянін ваяводства Віцебскага, як вынікае з дакументаў Метрыкі, асоба добра вядомая тагачасным жыхарам Віцебшчыны. Меў характар вельмі ваяўнічы і, хаця вайна ў межах краіны не вялася, паводзіў сябе з суседзямі, як на вайне. Адносіны з суседзямі настолькі былі папсаваныя, што на яго неаднойчы выносіліся дэкрэты Галаўным Трыбуналам аб баніцыі і выгнанні за межы краіны. Патрэбна прызнаць, што ў вышэйшых колах у Яна Паплонскага была даволі моцная падтрымка, і, напэўна з гэтай прычыны, усе яго набегі, захоп падданых і маёмасці суседзяў зыходзілі яму з рук, а ў канцы жыцця дазволілі атрымаць урад стольніка Менскага. Так, 12 сакавіка 1671 года Казімір Васілеўскі атрымаў «па дэкрэту судоў гродскіх і земскіх ваяводства Віцебскага і з ліста дэкрэта Галаўнога Трыбунала» рашэнне аб чарговай баніцыі на Яна Паплонскага і яго жонку за перахоп на дарозе і перапрымліванне 3-х падданых Васілеўскага з Масквы, запісаных у земстве (2). Праз чатыры гады Ян Рымвід, чэснік Мозырскі, атрымаў баніцыю на Яна Паплонскага за недапушчэнне двараніна скарбовага ў маетнасць Паплонскага для спагнання пазыкі, склаўшай, з рознымі судовымі налічэннямі, суму ў 6680 польскіх злотых (3). На 3 жніўня 1685 года Пятру Яну Паплонскаму даецца сублевацыя (адтэрміноўка) ад выканання быніцыі, вынесенай па патрабаванні пані Янавай Каралёвай Абрынскай і яе сына Хрызастома Абрынскага, падкаморыя Парнаўскага (4). Верагодна яго ўчынкі былі такога кшталту, што Тамаш Герасімавіч Старасельскі ў 1695 годзе дабіўся інфаміі на Яна Вільбутовіча Паплонскага і яго дзяцей. Як пісалася ў адным з дакументаў, «цяпер на чарзе арышт і сказанне Паплонскага на горла». Суды па скаргах Старасельскага пачаліся яшчэ ў 1667 годзе, і кожны раз, калі справа даходзіла да прыняцця рашэнняў аб пакаранні Паплонскага, у справу ўмешваліся ваяводы Віцебскія і бралі яго пад сваю абарону. У сваім лісце да ваяводы Віцебскага Андрэя Казіміра Крыспіна Кіршэнстайна Ян Паплонскі, выступаючы супраць інфаміі Старасельскага, піша, што ў 1677 годзе Храпавіцкі, ваявода Віцебскі, аказваў яму дапамогу, у 1685 годзе, пры вынясенні баніцыі, яму выдаваўся каралеўскі глейт (адтэрміноўка выканання судовых дэкрэтаў на 6 месяцаў), у 1693 годзе, у чарговы раз, выратаванне Паплонскаму прынёс Пацей, ваявода Віцебскі (5).

Ян Вільбутовіч Паплонскі быў жанаты на Гелене Ардынцоўне, якая памёрла да 1685 года. Вядома, што меў сына Андрэя і некалькі дачок. Як стала вядома з матэрыялаў Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, адзін з яго нашчадкаў, а менавіта Адам Вільбутовіч Паплонскі, палкоўнік Лідскага павета, быў абраны ў 1780 годзе дэпутатам Галаўнога Трыбунала на Рускую кадэнцыю ад шляхты Слонімскага павета (6).

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 6, л. 886.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 363, л. 37.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 359, л. 116.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 456, л. 117.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 145, л. 9.
6. «Дэпутаты Галаўнога Трыбунала ВКЛ (1697—1794 гг.)...», л. 347.

## 11.22. Валадковіч Дамінік Алойзы (21.11.1716 — 11 жніўня 1731)

Пасля смерці Тэадора Антонія Ваньковіча, стольніка і падстарасты судовага Менскага, 21 лістапада 1716 года, у кнігу № 155 Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, быў унесены каралеўскі прывілей на стольнікаўства Менскае былому падстолію гэтага ж ваяводства Дамініку Алойзы Валадковічу (1), сыну Марціна Казіміра Валадковіча, пісара земскага Менскага, і Гелены з Кастравіцкіх Марцінавай Казіміравай Валадковічавай, пісаравай земскай Менскай.

Дамінік Валадковіч, згодна з Тэадорам Жыхлінскім, меў шэсць братоў: Стэфана, падсудка, Францыска, войскага і палкоўніка ваяводства Менскага, Андрэя, каноніка Віленскай кафедры і пробашча капліцы пры гэтай кафедры, на якую запісаў свае маетнасці Корвін і Лабуноў, Якава, уступіўшага ў закон іезуітаў і кіраваўшага іх Полацкай і Менскай калегіямі, Пятра, падчашага Мельніцкага, і, нарэшце, Яна, які, будучы невылечна хворым, знаходзіўся ў пастаяннай апецы сваіх старэйшых братоў. Былі яшчэ і дзве сястры — Тэкля і Клара, уступіўшыя ў закон святога Базыля (2). Вядома, што Тэкля значны час была старэйшай Менскага жаночага базыліянскага кляштара.

Першы ў сваім жыцці высокі ўрад падстолія Менскага ваяводства Дамінік Валадковіч атрымаў у 1697 годзе праз некалькі гадоў пасля смерці былога падстолія Яна Кенсоўскага (3). Наступны, больш высокі ўрад стольніка Менскага Дамініку Валадковічу прыйшлося чакаць

амаль дваццаць гадоў, пакуль не памёр Тэадор Антоні Ванькові.

На працягу амаль 20 гадоў Дамінік Валадковіч знаходзіўся ў вельмі непрыязных адносінах з прадстаўнікамі дому Прэрадоўскіх, і асабліва з Міхалам, канонікам Віленскім, Мікалаем, канюшым Смаленскім, і Браніславам Прэрадоўскімі. Патрэбна прызнаць, што гэтыя ж адносіны да Прэрадоўскіх былі характэрны і для іншых прадстаўнікоў сям'і Валадковічаў — Міхала, старасты Гаенскага, яго бацькі Францыска, войскага Менскага, Лявона Паўла Валадковіча, былога стольніка, а потым і войскага Менскага, а таксама і іх крэўных. Паміж прадстаўнікамі гэтых фамілій, як тады называлі кланавыя групоўкі шляхты Вялікага княства Літоўскага, аб'яднаных па прыкмеце роднасці, увесь час ішла сапраўдная вайна, прымаючая часта вельмі жорсткія формы. Звычайнай справай для тых часоў былі напады на маетнасць суседа, спальванне пабудоў, звоз з палёў ураджаю або сена з сенажацяў, вываз у свае маетнасці чужых падданых з усім іх дабром. Нярэдкімі былі выпадкі забойства слуг, а ў асобных выпадках гінулі нават і самі гаспадары прывабных маетнасцяў. Матэрыяльныя страты, панесеныя ўладальнікамі маетнасці, былі вельмі вялікія, як тады пісалася, «нібы вораг наляцеў». Зразумела, што ніхто не ўспамінаў пра страты падданых. Верагодна, што і Прэрадоўскім даставалася ад Валадковічаў нямала, бо Дамінік Валадковіч сур'ёзна прэтэндаваў на частку маетнасці Пухавіцкай, размешчанай вакол Турына з прылеглымі да Турына фальваркамі, што знаходзілася ў пасэсіі (трыманні) Прэрадоўскіх.

Справа пачалася яшчэ да 1711 года, калі пасля смерці Багуслава Прэрадоўскага, скарбніка Навагародскага, яго жонка Петранэла Янішэўская, сястра Тэрэзы з Янішэўскіх Дамінікавай Валадковічавай, падстоліны Менскай, маючы па тэстамента (афіцыйна аформленае перадсмяротнае распараджэнне аб лёсе сваёй маёмасці) мужа правы ўласнасці на Турын і Балочу, паўторна ўступіла ў новы шлюб з Ежы Біроевым, оберстлейтэнантам войскаў ВКЛ, і неўзабаве памёрла. Перад смерцю паспела пазычыць у Дамініка Валадковіча, падстолія Менскага, і ў яго жонкі, сваёй сястры, 40 000 польскіх злотых і перадала Турын і Балочу ў заставу Валадковічам. Аднак радня мужа не захацела пазбыцца маетнасці і, нягледзячы на шматлікія рашэнні судоў ВКЛ, не дапусціла Валадковічаў да ўладання Турынам (4). Прыклаўшы шмат высілкаў, Дамінік Валадковіч змог адарваць ад Пухавіцкай маетнасці Турын, размешчаны на адлегласці каля дванаццаці кіламетраў ад Пухавіч. Турынская маетнасць так і засталася ў валоданні яго нашчадкаў

і пасля яго смерці: яна аказалася ва ўладанні яго сына Марціна Валадковіча, войскага Старадубаўскага.

Не ў лепшых адносінах знаходзіўся Дамінік Валадковіч і з менскімі месцічамі. Як сам Дамінік Валадковіч, так і яго шматлікія крэўныя ў звычайным жыцці дзейнічалі вельмі нахабна, калі справа датычылася павелічэння асабістага багацця. Пры гэтым у разлік не прымалася ні прыстойнасць, ні спагадлівасць да блізкага суседа. У Менску захапілі шмат уласнасці, не плацілі ніякіх падаткаў і былі гатовыя адстойваць захопленае са зброяй у руках. У 20-я гады XVIII стагоддзя справа абвастрылася настолькі, што месцічы Менска, уключаючы такіх высокіх ураднікаў, як Андрэй Бенедыкт Карніцкі, падстараста судовы Менскі, былі вымушаны звярнуцца да караля са скаргамі на дзеянні не толькі Дамініка Валадковіча, але і на ўчынкі ўсіх яго крэўных. Была створана адпаведная камісія, кароль, улічваючы шматлікія скаргі жыхароў Менска, якія абвінавачвалі Дамініка, стольніка, Стэфана, падсудка, Францыска, войскага Менскага, і іх нашчадкаў у розных крыўдах, якія яны чынілі жыхарам горада, быў вымушаны выступіць у 1724 годзе з пратэстам супраць крыўдзіцеляў месцічаў. Патрэбна, аднак, прызнаць, што і на гэты раз з вялікай хмары нарадзіўся малы гром: усё засталося па-ранейшаму. Валадковічы, як і ўсе іншыя абвінавачаныя, маглі і, напэўна, атрымалі дзейсную падтрымку ад многіх параднёных з імі магнацкіх родаў — Радзівілаў, Палубінскіх, Сапегаў і некаторых іншых. У 1739 годзе Станіслаў з Бужына Бужынскі, інстыгатар ВКЛ, войт Менскі, вымушаны быў узнавіць абвінавачванні ў адрас усіх парушальнікаў законаў княства, сярод якіх было шмат Валадковічаў, і выступіў з маніфестам, абяцаючы прыцягнуць да судовай адказнасці за злоўжыванні, здзейсненныя імі (5). Калі да ўсяго гэтага дадаць, што Дамінік Валадковіч, падстолі Менскі, на працягу значнага часу быў камісарам і адміністратарам ваяводства Менскага (на тэрыторыі Менскага павета) па зборы чопавага і шэляжнага падаткаў, то прычын для крыўды жыхароў павета было хоць адбаўляй. У судах земскіх і гродскіх Менскага ваяводства прайшло некалькі працэсаў, узбуджаных падаткаплацельшчыкамі супраць Дамініка Валадковіча з-за злоўжыванняў, дапушчаных ім пры зборы падаткаў.

Пасля смерці бацькі Марціна Казіміра Валадковіча, пісара земскага Менскага ваяводства, у 1701 годзе і ў 1717 годзе маці Гелены з Каставіцкіх атрымаў, у выніку «дачаснага», гэта значыць яшчэ да смерці бацькоў, падзелу спадчыны паміж братамі значныя зямельныя ўладанні. Дамініку Валадковічу ў канцы яго жыцця належала частка Ка-

верланаў, Дзегцяроўшчына, Буцаўшчына, Восава, Качын, Новы Двор і Балцэроўшчына. За 40 000 польскіх злотых трымаў у заставе (часовае, да вяртання пазыкі, трыманне) Турын. Некаторыя з вышэй пералічаных маетнасцяў знаходзіліся ў яго бацькоў у доўгатэрміновай заставе. Дамініку Валадковічу пасля смерці бацькоў, на працягу значнага часу, прыйшлося весьці працяглыя судовыя справы з ранейшымі ўладальнікамі гэтых маетнасцяў, спрабуючых вярнуць Валадковічу пазычаныя некалі грошы і атрымаць сваю дзедзічную ўласнасць. Яму ж належала ў Менску да 30 пляцаў (6) з пабудовамі, некаторыя з якіх былі размешчаны ў самым цэнтры горада, на Замкавай вуліцы. Значныя пазыкі, зробленыя малодшым братам Дамініка Валадковіча Пятром Казімірам Валадковічам, падчашым Мельніцкім, прывялі да пераходу сёл Пацкі, Аброткі і Беланоўшчына ў рукі Дамініка Валадковіча, шчодра даваўшага малодшаму брату грошы ў пазыку пад заклад яго маетнасцяў. Пасля смерці Пятра Казіміра Валадковіча, падчашага Мельніцкага, у ліпені 1730 года, яго старэйшы сын Станіслаў Валадковіч, падчашыц Мельніцкі, унёс у акты Менскага гродскага суда дакумент аб канчатковым урэгуляванні з Дамінікам Валадковічам, стольнікам Менскім, усіх спрэчных пытанняў па пазыках і перадачы, за няевернутыя грошы, гэтых сёл (7). Нягледзячы на даўнія прыяцельскія адносіны з Завішамі, Марцін Казімір Валадковіч, пісар земскі Менскі, аж да самай сваёй смерці быў дарадчыкам Крыштофа Станіслава Завішы, судовага старасты Менскага. Дамінік Валадковіч, стольнік Менскі, перад самай сваёй смерцю здолеў пасварыцца з яго нашчадкамі. На працягу 1729 — 1730 гадоў у Менскім гродскім судзе цягнуўся судовы працэс Дамініка, стольніка, Лявона Паўла, абознага, і Станіслава, крайчага Менскага ваяводства, Валадковічаў з Ежы Завішам з-за маетнасці Відагошчаў (8).

Патрэбна прызнаць, што яшчэ адной з прычын такога хуткага ўзбагачэння Дамініка Валадковіча паслужылі яго блізкія адносіны з камандзірамі рускіх войскаў, што знаходзіліся ў гады Паўночнай вайны на тэрыторыі ВКЛ. Пастаўкі фуражу, збожжа, прадуктаў харчавання моцна паспрыялі накапленню значных сум грошай, якія, потым, па звычаю таго часу, даваліся ў пазыку пад заклад маетнасцяў. Толькі наяўнасцю вялікіх сум грошай можна растлумачыць і атрыманне Дамінікам Валадковічам ад гетмана ВКЛ Міхала Серваты Вішнявецкага ахоўнага ліста на ахову сваіх маетнасцяў і забарону пастою войскаў (9), што, зразумела, не рабілася дарма.

Неаднаразова абіраўся дырэктарам (маршалкам) ваяводскіх сой-

мікаў: грамнічнага ў 1706 годзе (10) і сойміка ў студзені 1710 года (11). Згодна са сведчаннем Андрэя Валадковіча, быў абраны маршалкам скарбовага Трыбунала, а ў 1697 годзе займаў пасаду сеймавага сакратара (12). Шляхтай Менскага ваяводства быў абраны паслом на сойм Рэчы Паспалітай і ў 1703 годзе (13).

Даволі складаным пытаннем для даследчыкаў аказалася пытанне аб нашчадках Дамініка Валадковіча і яго жонкі Тэрэзы, дачкі Адама Янішэўскага, пісара гродскага Менскага. Тэадор Жыхлінскі (14), а ўслед за ім і Андрэй Валадковіч (15), паведамляюць аб чатырох сынах Дамініка і Тэрэзы Валадковічаў і, наогул, нічога не гавораць аб нараджэнні ў гэтай сям'і і дачок. Праўда, Тэадор Жыхлінскі прыводзіць думку Нясецкага аб шасці сынах Дамініка Валадковіча, але і сам лічыць гэтую думку мыльнай. Слушнасць паведамлення Нясецкага пацвярджаецца тэстаментам Тэрэзы з Янішэўскіх Дамінікавай Валадковічавай, стольнікавай Менскай, складзеным 30 сакавіка 1735 года ў Буцавічах і ўнесеным ў акты Менскага гродскага суда 15 ліпеня гэтага ж года (16). Магчыма, былі ў гэтай сям'і дзеці, якія паміралі ў маленстве, але пра гэта мы не маем звестак. Усяго ж у гэтай сям і вырасла дзевяць дзяцей: шасцёра сыноў і тры дачкі: Тэафілія, свецк. Францыска, якая ўступіла ў закон святога Францыска і была пэўны час старэйшай усіх францысканак у Менскім жаночым кляштары, Марцыяна ў першым шлюбе за Станіславам Ратамскім, запіс аб атрыманні пасаговых сум складзены 23 красавіка 1713 года, а на 1735 год, пасля смерці свайго першага мужа, быўшая ў шлюбе ўжо за Сулкоўскім, падстоліем зямлі Драгіцкай. Самая малодшая дачка Ганна ўступіла ў шлюб з Антоніем з Ратна Крукоўскім, падчашым Аршанскім. Запіс аб атрыманні Крукоўскімі пасаговых сум складзены 16 лютага 1722 года. Самым старэйшым сынам Дамініка і Тэрэзы Валадковічаў быў Ян Станіслаў, крайчы ваяводства Менскага, якому бацькі вызначылі быць спадчыннікам асноўных багаццяў сям'і, крыху маладзейшым быў Лявон Павел, спачатку абозны ваяводства Менскага, затым стольнік і ў канцы жыцця войскі і палкоўнік Менскі. Не жадаючы здрабнення набытых багаццяў, Дамінік і Тэрэза Валадковічы вызначылі лёс чатырох малодшых сыноў у служэнні богу ў найбольш прывелігіраваных кляштарах Менску і Навагародку: Феліцыян Філіп стаў мітрапалітам усяе Русі, першасвятаром уніяцкае царквы Рэчы Паспалітай, Антоні, свецк. Лявон, быў на 1732 год ксяндзом у Навагародскім канвенце дамініканаў, Станіслаў, свецк. Пётр, на 1731 год быў ужо прэорам Менскім і вікарыем Беларускім і, нарэшце, самы малодшы Марцін, якога смерць бацькі застае ў адным

з Навагародскіх кляштараў, дзе ён праходзіў навіцыят — падрыхтоўку да ўступлення ў кляштар. У звычаі таго часу была практыка, пры шматлікасці нашчадкаў, большую іх частку прысвячаць служэнню богу, каб не зубожваць сям'ю. Аднак заўчасная смерць бацькі 11 жніўня 1731 года, а не ў 1736 годзе, як згадвае Андрэй Валадковіч (17), або ў 1720 годзе, як паведамляе Тэадор Жыхлінскі (18), літаральна выратавала маладога чалавека. Старэйшыя браты адклікалі Марціна Валадковіча з кляштара, і ён удзельнічаў у падзеле спадчыны па памёршым бацьку. Праз некаторы час уступіў у шлюб з прадстаўніцай сям'і Дэ Раесаў і нават атрымаў першы ў сваім жыцці ўрад войскага Старадубаўскага. Верагодна, на такое рашэнне старэйшых братоў сур'ёзны ўплыў аказала і заўчасная смерць старэйшага брата Яна Станіслава Валадковіча, крайчага ваяводства Менскага, праз два месяцы пасля пахавання бацькі.

Адсутнасць тэстаменту бацькі, дзе б вызначалася кожнаму сыну яго доля, прывяла да рэзкага пагаршэння адносінаў паміж братамі: Лявон Павел, абозны ваяводства Менскага, Феліцыян Філіп, будучы першасвятар уніяцкай царквы, разам з Марцінам, войскім Старадубаўскім, падзялілі паміж сабой агромністыя ўладанні бацькі, зусім нічога не пакінуўшы Пятру Станіславу і Даменіку Лявону Валадковічам, якія знаходзіліся ў законе святога Даменіка (19).

Жонка Даменіка Валадковіча, стольніка Менскага, Тэрэза з Янішэўскіх Даменікавая Валадковічавая, стольнікавая Менская, памёрла ў 1735 годзе, пакінуўшы тэстамент, складзены 30 сакавіка, а ўнесены ў акты 15 ліпеня гэтага ж года (20).

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 155, л. 883.
2. Жыхлінскі Тэадор, штогоднік 5, л. 424.
3. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 149, л. 127.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 6, л. 721.
5. «Б.А.», т. 3, лл. 270, 288—290.
6. НГАБ. Ф 319, воп. 2, с. 524, л. 77.
7. Там жа, ф 1727, воп. 1, с.9, л. 871.
8. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 41, лл. 371, 631.
9. Там жа, ф 1727, воп. 1, с.5, лл. 365—366.
10. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 421.
11. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 6, л. 448.
12. А.В., л. 7.

13. НГАБ. Ф 1926, воп. 5, с. 4, л. 181.
14. Жыхлінскі Тэадор, штогоднік 5, л. 428.
15. А.В., л. 7.
16. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 10, лл. 459–461.
17. А.В.. л. 7.
18. Жыхлінскі Тэадор, штогоднік 5, л. 428.
19. НГАБ. Ф 319, воп. 2, с. 524, лл. 77, 79, 151.
20. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 10, лл. 459–461.
15. Там жа, ф 319, воп. 2, с. 524, л. 77.
16. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 10, лл. 459–461.

## 11.23. Валадковіч Лявон Павел (30.11.1731 — да 28.11.1748)

Пасля смерці Дамініка Алойзы Валадковіча, па каралеўскім прывілеі ад 30 лістапада 1731 года, урад стольніка Менскага перайшоў да яго сына Лявона Паўла Валадковіча, абознага ваяводства Менскага (1). Верагодна, гэты ўрад перайшоў бы да старэйшага сына Дамініка Валадковіча — Яна Станіслава Валадковіча, крайчага ваяводства Менскага, аднак праз паўтара месяца пасля смерці бацькі з гэтага свету зышоў і крайчы ваяводства Менскага — Ян Станіслаў Валадковіч.

Дата нараджэння Лявона Паўла Валадковіча намі не ўстаноўлена, але ёсць падставы лічыць, што нарадзіўся Лявон Павел Валадковіч да пачатку XVIII стагоддзя, бо ў каралеўскім прывілеі ад 23 чэрвеня 1716 года на Менскае абозенства, выданым пасля смерці Данііеля Філіповіча, былога абознага ваяводства Менскага (2), гаварылася, што ўрад надаецца Лявону Паўлу Валадковічу і за ўдзел у некаторых ваенных экспедыцыях. Найбольш верагодным падаецца нам удзел Лявона Паўла Валадковіча ў вайне са шведамі і іх прыхільнікамі з ліку мясцовай, беларуска-літоўскай шляхты.

Быў двойчы жанаты. Першай яго жонкай была пані Канстанцыя з Цэханавецкіх, старасцянка Апеская. Верагодна, яго адносіны з жончынай раднёй склаліся нялепшым чынам, бо ў судовых матэрыялах захавалася нямала судовых спраў, якія ішлі ў 20-х гадах XVIII стагоддзя паміж Лявонам Паўлам і Канстанцыяй з Цэханавецкіх Валадковічамі з аднаго боку і Цэханавецкімі з другога. Так, судовая справа з-за прыналежнасці Бачэйкава ў Полацкім ваяводстве прывяла да таго, што адзін з удзельнікаў судовай справы, Феліцыян Цэханавецкі, харужы Браслаўскі і староста Апескі, у студзені 1726 года загадаў сваім слу-

гам перахапіць на дарозе свайго любага зяця Лявона Паўла Валадковіча і жорстка збіць яго разам з яго памочнікамі (3). Судовыя справы мелі працяг: яшчэ 5 красавіка 1737 года з-за нявырашаных пытанняў па прыналежнасці некаторых маетнасцяў у Менскім гродскім судзе разглядалася справа, узбуджаная Марцінам і Антоні Цэханавецкімі, старасцічамі Хаслаўскімі, з Лявонам Паўлам і Канстанцыяй з Цэханавецкіх Валадковічамі (4). У студзені гэтага ж года там жа, у Менскім гродскім судзе, разглядалася справа, узбуджаная Лявонам Паўлам і Канстанцыяй з Цэханавецкіх Валадковічамі, стольнікамі ваяводства Менскага, да Феліцыяны з Падбярэзскіх Цэханавецкай, старасціны Апескай, маці Канстанцыі (5).

Ад шлюба з Канстанцыяй з Цэханавецкіх у Лявона Паўла Валадковіча засталося чацвёра дзяцей, але толькі лёс дачкі Тэрэзы, уступіўшай у шлюб з Дамінікам Рэйтанам, падкаморым Наваградскім, можна назваць шчаслівым. Сам Дамінік Рэйтан памёр у 1760 годзе і пахаваны ў Нясвіжы. Ад шлюбу з ім у Тэрэзы Валадковічавай, стольнікаўны Менскай, нарадзілася трое дачок і адзін сын — Тадэуш Рэйтан, народны герой Польшы. Абраны паслом на сойм РП у 1773 годзе ад Навагародскага ваяводства, мужна змагаўся супраць падзелу сваёй Радзімы і паглынання яе царскай Расіяй. Па няўдачы сваёй спробы адстаяць непадзельнасць краіны, скончыў сваё жыццё самагубствам у 1780 годзе.

Акрамя Тэрэзы ў Лявона Паўла і Канстанцыі з Цэханавецкіх было яшчэ трое сыноў: Юзэф займаў урад палкоўніка ваяводства Менскага пасля смерці бацькі і памёр у выгнанні ў Дрэздэне, Міхал (расстраляны ва ўзросце 25 гадоў у 1760 годзе за абразу крыжа з выявай Ісуса Хрыста па прысудзе Галаўнога Трыбунала, дэпутатам якога, дарэчы, быў абраны шляхтай Менскага ваяводства) і, нарэшце, Антоні (прысвяціў сваё жыццё служэнню богу ў шэрагах ордэна іезуітаў).

Канстанцыя з Цэханавецкіх Лявонавая Паўлавая Валадковічавая, войская ваяводства Менскага, памёрла да 1745 года. Адчуўшы сябе моцна хворай, запісала мужу ўсе свае маетнасці і наяўныя грошы, і ён яшчэ 13 снежня 1744 года «прыняў усіх падданых сваёй жонкі» (6). На 1749 год Лявон Павел Валадковіч, войскі Менскі, ужо ў паўторным шлюбе. На гэты раз яго абранніцай была Францыска, дачка Казіміра і Феліцыяны з Эйсмантаў Дэ Раесаў, скарбнікаў Менскага ваяводства. Цікава, што крыху раней, у пачатку 30-х гадоў XVIII стагоддзя, з Ганнай з Дэ Раесаў, скарбніцы Менскай, сястрой Францыскі, ажаніўся малодшы брат Лявона Паўла Валадковіча -Марцін, на той час войскі Старадубаўскі.

Шлюб Лявона Паўла Валадковіча і Францыскі з Дэ Раесаў быў нядоўгі: падарванае здароўе Лявона Паўла Валадковіча не перанесла чарговай хваробы, і войскі Менскі памёр, хутчэй за ўсё, у канцы лістапада 1752 года, бо ўжо 22 снежня гэтага ж года каралеўскім прывілеем урад вайскоўства Менскага быў нададзены Міхалу Жыжэмскаму, падстолію Менскаму (7). У Лявона Паўла Валадковіча і Францыскі з Дэ Раесаў нарадзілася трое дзяцей: Ганна, якая была выдана апякунамі за Яна Гурко, гараднічага і пісара земскага Віцебскага, Вінцэнты і Алойзы, памёршы зусім маладым. У 1764 годзе, у часы бескаралеў'я памёрла і Францыска з Дэ Раесаў Лявонавая Паўлавая Валадковічавая, войская Менская, пакінуўшы непаўналетніх дзяцей. Дзякуючы таму, што апекунамі былі прызначаны такія ўплывовыя асобы, як Феліцыян Філіп Валадковіч, мітрапаліт усяе Русі, Марцін Валадковіч, гараднічы Менскі, і Юзэф Дэ Раес, суддзя земскі Троцкага ваяводства (8), нашчадкам Лявона Паўла Валадковіча І Францыскі з Дэ Раесаў пашанцавала захаваць усе спадчынныя землі, нягледзячы на тое, што пазыкі бацькі і маці прывялі, па іх смерці, да пачатку шматлікіх судовых спраў з Хмарамі, Кастравіцкімі і Жыжэмскімі, якія патрабавалі вярнуць грошы.

Мы ўжо пісалі раней, што першым урадам, Лявона Паўла Валадковіча быў урад абознага Менскага, які ён трымаў аж да моманту смерці бацькі Дамініка Алойзы Валадковіча ў 1731 годзе. Па каралеўскім прывілеі ад 24 лістапада 1731 года, вакантны пасля смерці бацькі ўрад стольніка Менскага быў нададзены Лявону Паўлу Валадковічу (9). На грамнічным сойміку Менскага ваяводства, у пачатку лютага 1734 года Лявон Павел Валадковіч быў абраны і палкоўнікам Менскага ваяводства. Па сканчэнні выбараў новы палкоўнік прынёс прысягу і выступіў з палымянай прамовай, у якой абяцаў мужна абараняць Айчыну і шляхецкія вольнасці (10). Пасля смерці ў сярэдзіне 1748 года былога войскага Менскага Уладзіслава Ваньковіча адмовіўся на карысць Стэфана з Яксаў Быкоўскага, суддзі гродскага Менскага, ад урада стольніка Менскага і дабіўся прывілея, выдагага 28 лістапада 1748 года, на атрыманне вайскоўства Менскага ваяводства, вельмі важкага ў сістэме ваяводскай іерархіі ўрадаў (11).

Неаднаразова абіраўся паслом на соймы Рэчы Паспалітай. На ваяводскім сойміку 9 жніўня 1732 года абраны паслом на экстраардынарыйны сойм Рэчы Паспалітай (12), на нечарговым сойміку 12 лютага 1733 года атрымлівае дэпутатства на элекцыйны (па абранні караля РП) сойм (13) і, нарэшце, 26 чэрвеня 1750 года ізноў абіраецца паслом на

экстраардынарыйны сойм Рэчы Паспалітай (14).

На працягу свайго жыцця прыкладаў нямала намаганняў, каб не толькі ўтрымаць у сваіх руках спадчынныя землі але і значна павялічыць свае багацці. Значныя добры трапілі ў рукі Лявона ПаўлаВаладковіча пасля смерці бацькоў. Дамінік Валадковіч, стольнік ваяводства Менскага, памёр раптоўна, не паспеўшы нават скласці тэстамент. Неўзабаве памёр і старэйшы брат Ян Станіслаў Валадковіч, крайчы ваяводства Менскага. Праз некалькі гадоў памёр і адзіны, нялетні сын Яна Станіслава Міхал.

Па тэстаменце маці Тэрэзы з Янішэўскіх Дамінікавай Валадковічавай, стольнікавай Менскай, складзеным 30 сакавіка 1735 года, а ўнесеным у акты Менскага гродскага суда 15 ліпеня гэтага ж года, Лявон Павел і Марцін Валадковічы атрымалі Турын, Буцавічы, Восава, Качын, Лахаўшчызну, Дзегцяроўшчыну, Новы Двор і 30 пляцаў з будынкамі ў Менску (15). Тады тры браты — Феліцыян Філіп, мітрапаліт усяе Русі, Лявон Павел і Марцін Валадковічы падзялілі ўсю спадчыну паміж сабой, не зважаючы на інтарэсы яшчэ двух братоў — Пятра Станіслава і Антоні Лявона, уступіўшых у закон святога Дамініка. Гэта выклікала доўгія судовыя працэсы. Грунтуючыся толькі на ўскосных звестках з-за браку дакладнай інфармацыі, нам падаецца, што пакрыўджаныя так і не змаглі дабіцца справядлівага падзелу спадчынных маетнасцяў. Меліся яшчэ тры сястры: Марцыяна (Эмерцыяна), спярша ў шлюбе за Ратамскім, а на 1735 год ужо ў шлюбе за Сулкоўскім, падстоліем зямлі Драгіцкай, Ганна за Антоніем з Ратна Крукоўскім, падчашым Аршанскім, і Францыска, абраўшая служэнне богу ў Менскім жаночым кляштары святога Францыска пад імем Тэафіліі (16). Тэафілія Валадковічоўна на працягу значнага часу была старэйшай жаночага кляштара францысканак Менскіх. Жыла яшчэ ў 1781 годзе, але абавязкі «маці» (старэйшай усяго жаночага кляштара) ужо не выконвала.

Як гэта было звычайным у тыя часы Лявон Павел Валадковіч займаўся ліхвярствам — даваў грошы пад заставу маетнасцяў і потым жорстка дабіваўся вяртання асноўнай сумы пазыкі, нягледзячы на тое, што з заставаўных маетнасцяў былі выбраны значныя сумы грошай. На 30 сакавіка 1746 года атрымлівае ў заставу за значную суму грошай ад Антонія і Юзэфа Ратамскіх, падчашыцаў Рэчыцкіх, неблагую маетнасць Казекава і дабіваецца, нягледзячы на шматлікія судовыя працэсы, яе пераходу ў сваё ўладанне на вечнасць (17). У 1755 годзе Лявон Павел і Францыска з Дэ Раесаў Валадковічы, войскі і палкоўнік вая-

водства Менскага, купілі ў Фёдара Дварэцкага Багдановіча, крайчага Аршанскага, і яго пляменніка Яна маетнасць Колдычаў з урочышчамі Бердычоўшчына і Язершчына (17).

Даволі частай з'явай для Лявона Паўла Валадковіча быў звычайны звод падданых. Так, у красавіку 1746 года ў Менскім гродскім судзе разглядалася скарга на Лявона Паўла Валадковіча, войскага Менскага, ад Юзэфа Міхала Іваноўскага, старасты судовага гарадавога і гараднічага Менскага (18), а ўжо 19 студзеня 1747 года з такой жа прычыны праводзілася слуханне скаргі самога Гіероніма Радзівіла (19). Не заўсёды гэта яму сыходзіла з рук. У 1729 годзе Лявон Павел Валадковіч, тады яшчэ абозны ваяводства Менскага, вымушаны быў дабівацца атрымання глейта ад караля Аўгуста II на часовае прыпыненне судовай справы, узбуджанай у Аршанскім судзе панам Крыштофам Чэшынскім па невяртанні пазыкі (20). Атрымаўшы рашэнне суда, пан Чэшынскі пачаў захопліваць маетнасці Лявона Паўла Валадковіча і нават дабіўся дэкрэта аб яб'яўленні яго банітам і вываланцам, гэта значыць асуджаным на выгнанне за межы краіны. Час, прадугледжаны каралеўскім глейтам па забеспячэнні асабістай бяспекі Лявона Паўла Валадковіча і недатыкальнасці яго маёмасці, быў выкарыстаны абозным Менскім спаўна. Не ведаем якім чынам, але ўсе супярэчнасці былі ліквідаваны і паўторна ў суд пан Чэшынскі не звяртаўся.

Паводзіны не толькі Лявона Паўла Валадковіча, але і іншых яго крэўных часта выклікалі супраціў у мясцовых жыхароў горада Менска. Так, у 1739 годзе інстыгатар ВКЛ, староста Цывільскі і войт Менскі Станіслаў з Бужына Бужынскі, па запатрабаванні менскіх месцічаў выступіў з маніфестам, дзе абвінаваціў: Андрэя Валадковіча, каноніка Віленскага, плябана Менскага, Тэклю Валадковічаўну, старэйшую ўсіх менскіх базыліянак, Лявона Валадковіча, стольніка Менскага, Міхала, старасту Гаенскага, і Каспра, старасту Краснасельскага, братоў Валадковічаў, Мікалая Валадковіча, стольніка Вендзенскага, Марціна Валадковіча, войскага Старадубаўскага, і Яна Валадковіча, падсудковіча земскага Менскага, у тым, што яны не плацілі гарадскіх падаткаў на тую маёмасць, якую яны мелі ў межах Менска (21). Неабходна адзначыць, што значная частка нерухомай маёмасці Валадковічаў Менску была, мякка кажучы, атрымана не зусім прававымі спосабамі.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с.162, л. 400.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 155, л. 863.

3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 54, л. 277.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 59, л. 166.
5. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 54, л. 277.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 11, л. 737.
7. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 179, л. 682.
8. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 73, лл. 238, 303.
9. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 162, л. 446.
10. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 10, л. 157.
11. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 176, л. 233.
12. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 9, л. 1710.
13. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 10, лл. 143—144.
14. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 11, л. 1031.
15. Там жа, ф 319, воп. 2, с. 524, л. 77.
16. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 10, лл. 459—461.
17. Там жа, ф 1816, воп. 1, с. 3, л. 412.
18. Там жа, ф 1727, воп. 1, с.42, л. 1211.
19. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 42, л. 940.
20. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 9, лл. 750—751.
21. «Б А.», т. 3, л. 288—290.

## 11.24. Быкоўскі Стэфан з Яксаў (28.11.1748 — да 29.05.1762)

Стэфан Быкоўскі, падстолі і суддзя гродскі Менскі, атрымаў прывілей на стольнікаўства Менскае 28 лістапада 1748 года пасля пераходу Лявона Паўла Валадковіча на ўрад войскага Менскага (1). Крыху раней адмовіўся ад урада суддзі гродскага Менскага, які займаў прыкладна з 13 мая 1724 года пасля смерці былога суддзі гродскага Міхала Філіповіча (2).

Першая палова XVIII стагоддзя адзначана новым уздымам на вяршыню ўлады ў Менскім ваяводстве прадстаўнікоў сям'і Быкоўскіх, нашчадкаў Івана Фёдаравіча Быкоўскага, які займаў у другой палове XVI стагоддзя па чарзе ўрады: падстарасты судовага гродскага, войта і войскага Менскага ваяводства. І ў XVI стагоддзі ў межах Менскага ваяводства мелі «сталую аселасць» прадстаўнікі роду Быкоўскіх з Яксаў, як яны пачалі сябе менаваць ужо ў XVIII стагоддзі. Гэта Тамаш, Аляксандр, Самуэл і Ян Быкоўскія, вядомыя нам па судовых матэрыялах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, але яны асаблівай вагі ў жыцці ваяводства не мелі. Дзякуючы шматлікасці і аб'яднанасці прад-

стаўнікі клану Быкоўскіх у XVIII стагоддзі змаглі сканцэнтраваць у сваіх руках значную частку ваяводскіх урадаў. Так, Аляксандр Быкоўскі займаў урад войскага Менскага, а сын Стэфана Быкоўскага Фларыян Станіслаў, а потым і ўнук Стэфан на працягу значнага часу трымалі такі важны ўрад, як урад харужага Менскага.

Стэфан з Яксаў Быкоўскі, стольнік ваяводства Менскага, быў сынам Марціна Крыштофа Быкоўскага, падчашага Мсціслаўскага (3). Меў братоў: Марціна, на 1729 год войскага Чарнігаўскага, Ежы, старасту Бабінаўскага, Антоні, Аляксандра, войскага Менскага, Яна, падстолія Браслаўскага павета, і сясцёр: Гелену, за Теафілам Тышкевічам, Кацярыну — за Станіславам Дэ Раесам і Канстанцыю. З усімі сваімі братамі і сёстрамі доўга судзіўся па падзеле спадчыннай маетнасці Пяцеўшчына (4).

Ажаніўся Стэфан Быкоўскі, стольнік ваяводства Менскага, з Канстанцыяй з Станкевічаў, чэснікаўнай Менскай, дачкой, незадоўга да гэтага памёршага Стэфана Станкевіча, чэсніка Менскага, і Гелены Пятроўскай. Згодна з запісам, унесеным 6 мая 1713 года ў актавыя кнігі Менскага гродскага суда, пасаг, атрыманы маладымі, складаў 2000 польскіх злотых, немалая па тых часах сума, укладзеная ў фальварк Заазер’е, аддзелены яшчэ ў красавіку 1702 года самім Тэадорам Друцкім Горскім, падкаморыем Менскім, ад Каралішчавіч і перададзеныя ў заставу Стэфану Станкевічу, чэсніку Менскаму, ды так і нявыкуплены (5). З пані Кацярынай Станкевічаўнай меў сыноў: Рамана, Антоні, Яна Тадэуша, Станіслава (6) Лявона (7) , Аляксандра, Казіміра (8) і Фларыяна Станіслава. Акрамя іх Стэфан і Кацярына Быкоўскія мелі і дзвюх дачок: Феліцыяну, уступіўшую ў шлюб з Мікалаем Багушэвічам Мінькоўскім, стражнікам Полацкім, і Бібіяну, быўшую ў шлюбе з Антоніем Жыжэмскім, на 1755 год ротмістрам ваяводства Менскага, а ў 1764 годзе атрымаўшым урад гараднічага Менскага і памёршага праз некалькі месяцаў пасля атрымання прывілея на гэты ўрад (9). Дарэчы, у сям’і Багушэвіча, стражніка Полацкага, нарадзіўся Станіслаў Багушэвіч Мінькоўскі, будучы суддзя гродскі Менскі, нязломны патрыёт сваёй Айчыны.

Нягледзячы на прайшоўшы даволі значны час, сям’я Быкоўскіх змагла захаваць у сваім валоданні некаторыя маетнасці, набытыя амаль паўтара стагоддзя таму назад іх продкам Іванам Фёдаравічам Быкоўскім. Сярод гэтых маетнасцяў найбольш вядомая Пяцеўшчына пад Менскам. Акрамя спадчынных, так званых «дзедзічных» земляў, да канца жыцця Стэфан з Яксаў Быкоўскі, стольнік Менскі, змог сканцэн-

травалць у сваіх руках і вялікія абшары купленыя, або атрыманых у заставу, а потым і нявыкупленых ранейшымі ўладальнікамі земляў з падданымі. Так, у яго руках аказалася маетнасць Белічаны, атрыманая ад Канстанцыі з Палубінскіх Ежынай Быкоўскай, Лагі — ад Казіміра Баратынскага і Какошыцы — ад Адама Барташэвіча, ротмістра Аршанскага павета. У пачатку 1750 года Стэфан Быкоўскі, стольнік Менскі унёс у акты Менскай магдэбургіі акт аб куплі маетнасці Ужанкі ад Чэслаўскіх (11). Улічваючы яго статус стольніка ваяводства Менскага, а раней суддзі гродскага, можна здагадвацца, што суседства з ім не было зусім лёгкім. Так, у Менскім гродскім судзе на 21 лістапада 1739 года разглядалася справа аб зводзе падданых з маетнасці Заазер'е, што належала пані Канстанцыі Цярпіцкай і яе сыну Мікалаю. Пры гэтым не толькі звялі падданых, але і звезлі сабе дамоў і чужое жыта (12). Справа, верагодна, тут ішла не толькі аб зводзе падданых і захопе збожжа, верагодна, у Стэфана Быкоўскага меліся намеры захапіць гэтую маетнасць. Справу ўдалося рэалізаваць, бо ўжо ў 1785 годзе ўнук Стэфана Быкоўскага, стольніка ваяводства Менскага, таксама Стэфан, харужы ваяводства Менскага, прадаў Тадэушу Ваньковічу частку гэтай маетнасці (13). Дата смерці Стэфана Быкоўскага, стольніка ваяводства Менскага, намі не ўстаноўлена. Паведамленне аб яго смерці ўнесена ў актавыя кнігі Менскага гродскага суда 30 чэрвеня 1775 года (14). Верагодна, што памёр ён у пачатку 1775 года, бо якраз у пачатку гэтага года ў акты гродскія было ўнесена шмат дакументаў аб пазыках, зробленых рознымі асобамі ў Стэфана з Яксаў Быкоўскага, стольніка Менскага. Прыкладам такога запісу аблігацыйнага (аб пазыцы) можа служыць запіс аблігацыйны ад Себастыяна Лігезы да Стэфана Быкоўскага, стольніка Менскага (15).

Ад свайго ўрада стольніка Менскага Стэфан Быкоўскі адмовіўся дабраахвотна (16) да 29 мая 1762 года, або, як запісана ў прывілеі, рэзыгнаваў «post liberum», якраз па прывілеі, унесеным у кнігі Метрыкі пад гэтай датай, урад стольнікаўства атрымаў яго сын Фларыян Станіслаў Быкоўскі, былы да гэтага часу пісар гродскі Менскі.

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 7176, л. 234.
2. Там жа, ф 1727. воп. 1, с. 8, л. 1023.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 54, л. 1078.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 41, л. 375.
5. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 10, лл. 1082, 1124.

6. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 4, л. 85.
7. Там жа, кмф 18, воп. 1,с. 179, л. 575.
8. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 10, л. 144.
9. Там жа, ф 1816, воп. 1, с. 10, л. 59.
10. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 7, л. 1254.
11. Там жа, ф 1816, воп. 1, с. 8, л. 379.
12. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 42, л. 106.
13. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 26, л. 260.
14. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 17, л. 385.
15. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 17, л. 178.
16. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 183, л. 654.

## 11.25. Быкоўскі Фларыян Станіслаў з Яксаў (29.05.1762 — да 27.03.1765)

Урад стольнікаўства Менскага Фларыян Быкоўскі займаў вельмі кароткі час, каля двух гадоў, перайшоўшы ў канцы сакавіка 1765 года (1) на іншы, больш высокі, урад — харужага ваяводства Менскага. Ад харуства Менскага адмовіўся на грамнічным сойміку 5 лютага 1777 года, дабіўшыся перадачы ўрада свайму старэйшаму сыну Стэфану Быкоўскаму. Улічваючы гэта, асноўныя даты жыцця і дзейнасці Фларыяна Быкоўскага будуць пададзены ў раздзеле »Харужыя ваяводства Менскага».

Першы свой урад будаўнічага ваяводства Менскага атрымаў у 1737 годзе, пасля адыходу з гэтага ўрада пана Антонія Трускоўскага (2), з 23 кастрычніка 1752 года быў канюшым Менскім (3), потым прыкладна паўтара года быў стражнікам Менскім і, пасля адыходу бацькі Стэфана Быкоўскага з урада стольніка Менскага, сам атрымаў каралеўскі прывілей на гэты ўрад (4).

Пасля адыходу Міхала Жыжэмскага з урада пісара гродскага на ўрад сурагатарства земскага Менскага, меўшага месца 9 ліпеня 1745 года (5), ад старасты судовага Менскага атрымаў прывілей на пісарства гродскае Менскае. Гэты ўрад займаў да пачатку 1765 года, праўда, у сувязі з міжкаралеўем, пачынаючы з сярэдзіны 1764 года і да сакавіка 1765 года абавязкі пісара гродскага Менскага не выконваў, бо, згодна са Статутам ВКЛ, на перыяд да абрання новага караля ўсе абавязкі суда ў ваяводстве прымаў на сябе каптуровы суд.

Фларыян Станіслаў Быкоўскі, пісар гродскі Менскі, а потым стольнік гэтага ж ваяводства, быў двойчы жанаты. У першы шлюб ус-

тупіў з Тэадорай з Яцэвічаў, памёршай да 6 жніўня 1749 года (6). У пачатку 1751 года паўторна ўступіў у шлюб з пані Петранэлай з Вільчкоўскіх (7). Патрэбна адзначыць, што і для яе гэта быў таксама другі шлюб: за Фларыяна Быкоўскага яна пайшла пасля смерці свайго першага мужа пана Бандынэлі, падкаморыя Дэрпцкага (8). Меў двух сыноў: Стэфана, будучага харужага Менскага, і Антонія, генерал-лейтэнанта войскаў ВКЛ. Жыў яшчэ ў 1785 годзе.

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 14, л. 376.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 171, л. 128.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 179, л. 27. Ф 1727, воп. 1, с. 13, л. 1217.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 183, л. 654.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 173, л. 697.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 11, л. 836.
7. Там жа, ф 1816, воп. 1, с. 8, л. 633.
8. Там жа, ф 1816, воп. 1, с. 11, л. 378.

## 11.26. Валадковіч Юзэф (27.03.1765 — да 9.05.1772)

Юзэф Валадковіч, гараднічы Менскі, атрымаў урад стольніка Менскага па каралеўскім прывілеі ад 27 сакавіка 1765 года (1), пасля адыходу Фларыяна з Яксаў Быкоўскага, былога стольніка Менскага, на ўрад харужага Менскага.

Верагодней за ўсё, Юзэф Валадковіч, сын Стэфана, падсудка земскага Менскага, і Розы са Слізняў, рэферэндароўны ВКЛ, нарадзіўся ў пачатку XVIII стагоддзя і амаль да 1733 года не прымаў ніякага актыўнага ўдзелу ў палітычным жыцці ваяводства. Прынамсі ў актавых кнігах гродскага і земскага суда Менскага ваяводства, у матэрыялах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага ніякіх слядоў аб гэтым нам заўважыць не ўдалося. Упершыню яго імя сустракаецца ў рашэнні (лаўдуме, як тады называлі) грамнічнага (лютаўскага) сойміка 1733 года, унесенага ў гродскія акты Менскага суда 12 лютага (2) з пералікам паслоў на элекцыйны сойм РП па абранні каралём Аўгуста II. Сярод многіх прадстаўнікоў бліскучай моладзі, што належала да лепшых сем'яў ваяводства, нам сустрэлася і імя Юзэфа Валадковіча, падсудковіча Менскага. Потым Юзэфу Валадковічу прыйшлося чакаць яшчэ 16 год пакуль у 1749 годзе яго бацька змог дабіцца каралеўскага прывілея, пад-

пісанага 30 красавіка, на даволі высокі і прэстыжны ўрад гараднічага Менскага. Гэты ўрад стаў вакантным пасля пераходу Юзэфа Міхала Іваноўскага, былога гараднічага і ротмістра Менскага, на ўрад гарадавога судовага старасты Менскага (3).

Пасля смерці Свадкоўскага яшчэ адзін Юзэф Валадковіч, палкоўнік Менскі, сын стрыечнага брата Юзэфа Валадковіча, падсудковіча Менскага, Лявона Паўла Валадковіча, войскага і палкоўніка Менскага ваяводства (4), атрымаў каралеўскі прывілей на дзяржаву Красовічы, што была размешчана ў межах Мсціслаўскага ваяводства. Улічваючы, што на гэты час найбольш распаўсюджаным імем сярод Валадковічаў было імя Юзэф, гэтак жа як у мінулым стагоддзі было распаўсюджана сярод Валадковічаў імя Марцін, гэтая абставіна можа служыць асновай для ўзнікнення памылак пры апісанні генеалогіі Валадковічаў. А па прычыне таго, што ў гэты перыяд у межах Менскага ваяводства жыло каля сямі Юзэфаў Валадковічаў, то зразумела, што вырозненне менавіта гэтага Юзэфа Валадковіча, гараднічага Менскага, будучага стольніка Менскага, сярод іншых Юзэфаў Валадковічаў, у тым ліку і ад Юзэфа Валадковіча, старасты Красавіцкага, палкоўніка Менскага ваяводства, патрабуе асаблівай увагі і пільнасці.

Тэадор Жыхлінскі памылкова называе Юзэфа Валадковіча, сына Стэфана і Розы са Слізняў Валадковічаў, гараднічым Віцебскім (5). Аднак Юзэф Валадковіч у сваім запісу на атрыманне пазыкі ад Барбары з Завішаў Радзівілавай, ваяводзіны Наваградскай, піша: «Я, Юзэф Валадковіч, падсудковіч, а «ad prasens» гараднічы Менскі, бяру пазыку ў 37 000 польскіх злотых пад заклад фальварка Багудзішкі ў Навагародскім павеце» (6). Выконваў абавязкі гараднічага Менскага да пачатку 1765 года, калі перайшоў на ўрад стольніка Менскага.

Юзэф Валадковіч, гараднічы Менскі, быў жанаты некалькі разоў. Імя першай яго жонкі намі не ўстаноўлена, а другой яго жонкай, верагодна, была пані Іаанна Бухавецкая, у першым шлюбе Міржэеўская. Пані Іаанна Бухавецкая Юзэфовая Валадковічавая 2 студзеня 1745 года склала пажыццёвы запіс свайму мужу Юзэфу Валадковічу, падсудковічу (у дакуменце памылкова запісана падсудку) Менскаму і дзецям на маетнасці Сенна, Купіск і Барысаўшчызну (у Навагародскім ваяводстве). Разам з ёю Юзэф Валадковіч, гараднічы Менскі, выдаў 27 сакавіка 1754 года квітацыйны запіс Ігнацы Бухавецкаму, крайчаму Навагародскаму, аб вяртанні апошнім пазычаных ім яшчэ ў 1752 годзе грошай (7). Як вынікае з паведамлення ў 48 нумары газеты «Kuryer Litewski» ад 1762 года, прыведзенага Тэадорам

Жыхлінскім у яго штогодніку № 5, памёрла Іаанна з Бухавецкіх Валадковічавая, гараднічыня Менская, 14 лістапада гэтага ж года і пахавана ў касцёле Віленскіх Іезуітаў (8). У карэспандэнцыі адзначалася, што ў апошні шлях яе праводзіў пасерб (пасынак) Францыск Валадковіч, гараднічыц Менскі.

Андрэй Валадковіч у сваім даследаванні гісторыі роду Валадковічаў гербу Радван прыводзіць імёны толькі дзвюх жонак Юзэфа Валадковіча, сына Стэфана Валадковіча, падсудка земскага Менскага: Іаанны Літавор Храбтовічаўны, дачкі Уладзіслава і Тэрэзы з Абуховічаў Літавор Храбтовічаў і Рэгіны Бранец (9). Пра існаванне Іаанны Бухавецкай Андрэю Валадковічу нічога не вядома. Андрэй Валадковіч сцвярджае, што ад Іаанны з Храбтовічаў у Юзэфа Валадковіча нарадзіліся сыны Тадэуш і Францыск, а ад Рэгіны Бранец — сын Ян Генрык Вітольд і дачка Ганна. На жаль, нам не ўдалося знайсці ніякіх матэрыялаў, падцвярджаючых існаванне Іаанны з Літавор Храбтовічаў і Рэгіны Бранец, што, аднак, яшчэ не можа служыць падставай для прызнання памылковасці гэтых звестак Андрэя Валадковіча. Дакладна ўстаноўлена, што ў Юзэфа Валадковіча сапраўды засталіся два сыны: Тадэуш, вельмі рана пакінуўшы гэты свет, і Францыск Ксавэры, трымаўшы апошнім у Менскім ваяводстве пасля 1780 і да 1793 года ўрад мечнага Менскага і памёршага да 1801 года. На 1751 год адзначана існаванне дзвюх дачок: Анжэлы, на 1790 год быўшай законніцай у адным з Менскіх жаночых кляштараў, і Тэрэзы, лёс якой нам не вядомы (10).

Неабходна звярнуць увагу на яшчэ адну недакладнасць у матэрыялах Тэадора Жыхлінскага. У сваіх заўвагах да жыццеапісання яшчэ аднаго з Валадковічаў — Марціна, спачатку войскага Старадубаўскага, а ў канцы жыцця стольніка Менскага, малодшага сына Даменіка Алойзы Валадковіча, стольніка Менскага, Тэадор Жыхлінскі памылкова даводзіць, што Іаанна з Бухавецкіх, памёршая ў 1762 годзе, была жонкай гэтага прадстаўніка дому Валадковічаў (11). Нам дакладна вядома, што Марцін Валадковіч, стольнік Менскі, займаўшы таксама некаторы час урад гараднічага Менскага, быў жанаты толькі адзін раз з Ганнай з Дэ Раесаў, скарбнікаўнай Менскай. Пры гэтым сам Марцін Валадковіч падчас смерці Іаанны Бухавецкай не быў яшчэ гараднічым Менскім, а ўрад гараднічага Менскага атрымаў толькі ў 1765 годзе пасля пераходу самога Юзэфа Валадковіча на ўрад стольніка Менскага. Дарэчы, у самога Марціна Валадковіча, малодшага сына Даменіка Валадковіча, быў сын, таксама Францыск Ксавэры Валадковіч, але не мечны Менскі, а падкаморы надворны ВКЛ.

Юзэф Валадковіч, стольнік Менскі, быў далёка не бедным чалавекам. Бацькаўскую спадчыну, за гады свайго жыцця, ён значна павялічыў. Часта даваў у пазыку значныя сумы грошай. Так, на 24 сакавіка 1766 года пазычыў Іахіму Храбтовічу, сакратару ВКЛ, пад заставу яго маетнасці 16 200 польскіх злотых (12).

Як вядома, Валадковічы прынялі уніяцтва яшчэ ў пачатку XVII стагоддзя. У XVIII стагоддзі Валадковічы пасылалі сваіх дзяцей служыць богу як у кляштары базыліян, так і ў кляштары дамініканцаў, бернардынаў, бенедыктынцаў і францысканаў. Гэта было ў тыя часы не толькі пачэсна, але і выгадна. Напэўна, шмат высілкаў патрэбна было ўкласці, каб узвесці Феліцыяна Філіпа, сына Дамініка Валадковіча, стольніка Менскага, і стрыечнага брата Юзэфа Валадковіча, стольніка Менскага, на самую высокую пасаду ў сістэме уніяцкай царквы. Патрэбна прызнаць, што гэтыя намаганні сябе апраўдалі: уплыў самога архібіскупа уніяцкай царквы Феліцыяна Філіпа Валадковіча на рост заможнасці клана Валадковічаў, на павелічэнне іх уплыву ў Менскім ваяводстве нельга недаацэньваць. Напэўна, цікавым будзе праліць некаторае святло на іх сапраўдныя адносіны да царквы ўвогуле. Яшчэ ў 1725 годзе, паміраючы, Стэфан Валадковіч, бацька Юзэфа Валадковіча, пакінуў па тэстаменце для рамонту касцёла Менскіх бенедыктынцаў 3000 польскіх злотых. Дзеці, у асноўным сам Юзэф Валадковіч, зацягвалі гэтую справу як маглі, і толькі праз чвэрць стагоддзя, у 1759 годзе, па рашэнні суда грошы былі перададзеныя ў распараджэнне айцоў — бенедыктынаў Менскіх (13).

Памёр Юзэф Валадковіч у першай палове 1772 года, яго ўрад стольніка на кароткі час перайшоў па каралеўскім прывілеі ад 9 мая гэтага года да Яна Юзэфа Клакоцкага (14).

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 188, л. 32.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 10, лл. 143—144.
3. Там жа, ф 1816, воп. 1, с. 8, л. 97.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 181, л. 205.
5. Жыхлінскі Тэадор, штогоднік 5, л. 425.
6. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с.11, л. 805.
7. Там жа, ф 1816, воп. 1, с. 14, л. 546.
8. Жыхлінскі Тэадор, штогоднік 5, л. 430.
9. А.В., л. 8.
10. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 64, л. 1231.

11. Жыхлінскі Тэадор, штогоднік 5, л. 430.
12. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 14, л. 783.
13. Там жа, ф 1816, воп. 1, с.11, л. 373–374.
14. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 184, л. 773.

## 11.27. Клакоцкі Ян Юзэф (09.05.1772 — 11.07.1772)

Ян Юзэф Клакоцкі, стольнік Менскі, староста Калачэўскі — сын Казіміра Антоні Клакоцкага, памёршага пасля 24 кастрычніка 1734 года, яго тэстамент быў унесены ў акты Менскага гродскага суда ўжо 29 гэтага ж месяца (1). Дзед Яна Клакоцкага — Станіслаў Клакоцкі, падстолі Плоцкі, двойчы ўступаў у шлюб: ад першай жонкі нарадзіўся бацька Яна Юзэфа Клакоцкага — Казімір Клакоцкі. Ад другой жонкі, пані Ганны з Пуцятаў, таксама былі дзеці, але нешта не склалася ў гэтай сям'і, і Ганна з Пуцятаў Станіслававая Клакоцкая, падстоліна Плоцкая, не дачакаўшыся смерці мужа, «забыўшыся страх боскі, пабрала грошы і з'ехала начным спосабам». Паміраючы, Станіслаў Клакоцкі, падстолі Плоцкі (тэстамент складзены 27 красавіка 1722 года), не пакрыўдзіў дзяцей ад другога шлюбу і пакінуў ім значныя сумы, прадугледзеўшы меры, каб яны не трапілі ў рукі Ганны з Пуцятаў (2).

Перыяд знаходжання Яна Клакоцкага на ўрадзе стольніка Менскага быў бадай ці не самым кароткім у параўнанні з часам знаходжання на гэтым урадзе любога са стольнікаў Менскага ваяводства. Толькі 9 мая 1772 года быў атрыманы Янам Юзэфам Клакоцкім, падстоліем ваяводства Менскага, прывілей на стольнікаўства Менскае (3), стаўшае вакантным пасля смерці Юзэфа Валадковіча, а ўжо 11 ліпеня гэтага ж года, усяго праз два месяцы, на руках у Яна Клакоцкага новы прывілей, на гэты раз на больш высокі ўрад войскага Менскага (4), вакантны пасля смерці  Аляксандра з Яксаў Быкоўскага.

Жанаты з Іааннай з Незабытоўскіх, ад якой меў сына Станіслава Костка Клакоцкага. Ужо ў верасні 1774 года дабіўся каралеўскага кансенсу (дазволу) на перадачу свайму сыну ў пажыццёвае трыманне Калачэўскага староства. Адначасова Станіслаў Костка атрымаў ад бацькоў і дзедзічную (спадчынную) маетнасць Хаценчыцы (5). З сям'ёй Незабытоўскіх у Клакоцкіх склаліся цесныя і прыязныя адносіны яшчэ з 2-й паловы XVII стагоддзя, калі іх продкі, на працягу значнага часу, працавалі ў адміністрацыі Радзівілаў.

Пасля працяглага, амаль паўстагоддзя, трымання Мацкевічамі, у рукі Яна Юзэфа Клакоцкага, пасля смерці Рыгора Мацкевіча, перайшло дзяржаўнае менне, староства Калачэўскае. Прывілей на староства Яну Юзэфу Клакоцкаму, на той час служыўшаму ў войску, у званні таварыша адной з элітных вайсковых адзінак войска ВКЛ — пятыгорскай харугвы, быў падпісаны 26 ліпеня 1750 года (6). З наданнем гэтага староства атрымаўся нейкі кур'ёз, які, на шчасце для Клакоцкага, не меў ніякіх прыкрых наступстваў. Ужо на наступны дзень, 27 ліпеня, быў падпісаны новы прывілей на гэтую дзяржаву, але на гэты раз Казіміру Фядзюнічу, таксама таварышу той жа пятыгорскай харугвы войскаў ВКЛ (7). «Пажыццёвыя» (да смерці) правы на гэтае староства, па прывілеі ад 7 верасня 1754 года (8), былі распаўсюджаны і на жонку Яна Клакоцкага.

На канцы 1775 года трымаў маетнасць Уса, або Навасады (9). Жыў яшчэ ў канцы 1789 года.

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 10, л. 340.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 8, л. 541.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 184, л. 773.
4. Там жа, л. 788.
5. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 14, л. 218.
6. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 176, л. 544.
7. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 178, л. 167.
8. Там жа, кмф 18, воп. 1, с.179, л. 317.
9. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 17, л. 411.

## 11.28. Валадковіч Марцін (11.07.1772 — 22.03.1779 — да 20.04.1780)

Па матэрыялах Андрэя Валадковіча, на працягу ўсяго свайго жыцця збіраўшага звесткі па генеалогіі Валадковічаў, на жаль, не надрукаваных і таму мала вядомых даследчыкам, Марцін Валадковіч, малодшы сын Дамініка Алойзы Валадковіча, стольніка ваяводства Менскага, нарадзіўся ў ваколіцах Радашковіч, у Буцавіцкім менні, у 1716 годзе (1).

Па рашэнні бацькоў яму, як і яго старэйшым братам Феліцыяну Філіпу, Пятру Станіславу, Антонію Лявону і сястры Теафіліі, свецк.

Французсцы, быў вызначаны шлях служэння богу ў адным са шматлікіх кляштараў, раскіданых па землях Вялікага княства Літоўскага. На пачатак 1731 года Марцін Валадковіч у адным з кляштараў Навагародка праходзіў навіцыят і рыхтаваўся да ўступлення ў ордэн святога Дамініка. Толькі два сыны Дамініка Валадковіча — Ян Станіслаў, крайчы, і Лявон Павел, абозны ваяводства Менскага, — маглі атрымаць у спадчыну вялікія зямельныя і грашовыя набыткі бацькі і дастойна прадстаўляць род. Але нечаканая смерць у канцы лета 1731 года Дамініка Валадковіча, а ў верасні гэтага ж года і яго найбольш любага сына Яна Станіслава, крайчага ваяводства Менскага, пераблытала ўсе ранейшыя меркаванні бацькоў. Марцін Валадковіч зракаецца намеру прысвяціць сваё жыццё служэнню богу і вяртаецца да свецкага жыцця. Верагодна, у падзеле спадчыны па бацьку прымалі дзейны ўдзел толькі тры браты: Феліцыян Філіп, на той час адзін з вышэйшых дастойнікаў уніяцкай царквы ў Рэчы Паспалітай, Лявон Павел і сам Марцін. Вынікі такога рашэння былі, вядома, не на карысць братоў — Пятра Станіслава, прэора Наўгародскага на 1736 год, і Антонія Лявона, тэолага і лектара, якія былі ў канвенце Дамініканаў. Лявон Павел і Марцін Валадковічы, зразумела, выдзелілі адпаведныя грашовыя сродкі, у трэцяй частцы кошту земляў і рухомасці, што засталася пасля Дамініка Валадковіча, старэйшаму брату Феліцыяну Філіпу, а рэшту падзялілі паміж сабой, зусім пакінуўшы па-за ўвагай неабходнасць хоць чым-небудзь падзяліцца з братамі, знаходзячыміся ў кляштарах святога Дамініка. Як напісаў у позве ў суд ксёндз Станіслаў: «пасля памёршых Дамініка Валадковіча, стольніка, бацькі, і Яна Станіслава, брата, крайчага ваяводства Менскага, усе добры сабе забралі і Турын, Новы Двор, Буцавічы ў заставу аддалі, Кашын і нават 30 пляцаў у Менску, грошы — 60 000 польскіх злотых, а яго дапушчаць да атрымання долі спадчыннай не хочуць» (2). Гэта выклікала бясконцыя судовыя працэсы: пачаўшыся ў 1732 годзе, яны, верагодна, скончыліся толькі са смерцю, у пачатку 50-х гадоў XVIII стагоддзя, Лявона Паўла Валадковіча.

Пасля смерці бацькі, дзякуючы атрыманым у спадчыну багаццям і падтрымцы братоў (Феліцыяна Філіпа, мітрапаліта уніяцкай царквы, і Лявона Паўла, спачатку стольніка і палкоўніка, а потым і войскага ваяводства Менскага), Марцін Валадковіч змог зрабіць, паводле меркаванняў таго часу , вельмі неблагую кар’еру і, галоўнае, значна павялічыць свае багацці. Толькі вельмі нябедны чалавек мог даць пазыку ў 206 000 польскіх злотых самому Альбрыхту Радзівілу і яго жонцы Ганне з Халецкіх (3). Але гэта было потым, у 1762 годзе, калі Марцін

Валадковіч, пасля смерці Казіміра Дэ Раеса, былога скарбніка Менскага ваяводства, сам стаў скарбнікам ваяводства Менскага.

Пасля смерці бацькі некаторы час, падпісваючы дакументы і, верагодна, у абыходзе, карыстаўся азначэннем — стольнікавіч (г. зн. сын стольніка) ваяводства Менскага. Пачынаючы з 1737 года і аж да канца жніўня 1742 года (4), дата апошняга вядомага нам упамінання, Марцін Валадковіч займаў урад войскага Старадубаўскага. З 1746 і па 1759 год сустракаюцца дакументы аб удзеле Марціна Валадковіча ў працы гродскага Менскага суда ў якасці суддзі гродскага (5). З 12 верасня 1758 года Марцін Валадковіч ва ўсіх дакументах падпісваецца ўжо ў якасці скарбніка Менскага (6). Апошняе ўпамінанне аб заняцці ім гэтага ўрада датычыцца 22 чэрвеня 1764 года (7). Якраз у гэтым годзе, у сувязі з перыядам міжкаралеў'я ў Рэчы Паспалітай, быў абраны шляхтай Менскага ваяводства ў склад каптуровага суда ваяводства (8). У сувязі са смерцю Антоні Жыжэмскага, вельмі нядоўга займаўшага гараднiцтва Менскае, 3 студзеня 1766 года Марцін Валадковіч атрымаў прывілей на ўрад гараднічага Менскага (9). Кароткі час, усяго два месяцы, з 9 мая і па 11 ліпеня 1772 года, трымаў урад падстолія Менскага, вакантны пасля пераходу Яна Юзэфа Клакоцкага на стольнікаўства Менскае (10). Пасля смерці Аляксандра Быкоўскага, былога войскага Менскага, Ян Клакоцкі атрымаў каралеўскі прывілей на гэты, больш высокі ўрад, а 11 ліпеня 1772 года (11) быў выданы прывілей Марціну Валадковічу на ўрад стольніка Менскага.

Па нашых звестках, жанаты быў толькі адзін раз — з Ганнай з Дэ Раесаў, скарбнікавай Менскай, дачкой Казіміра Дэ Раеса і Феліцыяны з Эйсмантаў, скарбнікаў на 1736-1741гг. ваяводства Менскага (12), уступіўшы з ёю ў шлюб каля 1733 года. Памёрла Ганна з Дэ Раесаў Марцінавая Валадковічавая, верагодней за ўсё, да 1775 года, бо ў акце аб завяршэнні пасаговых разлікаў з дачкой Францыскай і зяцем Фларыянам Бруно Стравінскім, старастам судовым Слонімскага павета, складзеным і ўнесеным у акты ў гэтым годзе, выступае толькі сам Марцін Валадковіч (13). Акрамя Францыскі меліся яшчэ тры дачкі: Феліцыяна, Схаластыка і Канстанцыя. Феліцыяну, па звычаі таго часу, бацькі прысвяцілі служыць богу ў кляштары Менскіх бенедыктынак. Як гэта тады рабілася, пры ўваходзе ў кляштар новай служкі бога бацькі ўнеслі значны фундуш на патрэбы кляштара, пра што сведчыць адпаведны дакумент, актыкаваны 22 сакавіка 1755 года (14). Ад памераў ахвяраванай сумы залежала далейшае жыццё Феліцыяны ў кляштары. Яшчэ адна дачка, Канстанцыя, уступіла ў шлюб з Міхалам Гюнтэрам

фон Гельдэнштайнам, на 1788 год стольнікам Навагародскага ваяводства, кавалерам ордэна св. Станіслава, сынам Самуэла Гюнтэра, на 1734 год войскага Старадубаўскага, і Саламеі Рдултоўскай (15). Схаластыка Валадковічаўна ўступіла ў шлюб з панам Ігнацым Валодзькам, на 3 чэрвеня 1780 года пісарам земскага Ашмянскага павета (16). Шлюб пані Схаластыкі з панам Ігнацы Валодзькам, пісарам земскім Ашмянскім, быў нядоўгі — 5 чэрвеня 1782 года Ігнацы Валодзька памёр (17). Па звычаі таго часу, дзяцей у сям'і Марціна Валадковіча нарадзілася многа, але з-за кепскай медыцыны вельмі многія з яго нашчадкаў паміралі яшчэ ў маленстве. Так, у зусім маладым узросце памёр яго сын Вінцэнт (18).

У Марціна Валадковіча, стольніка Менскага, і Ганны з Дэ Раесаў меўся яшчэ адзін сын — Францыск Ксавэры Валадковіч, якому лёс наканаваў кароткае жыццё. Пасля смерці бацькі ў яго рукі перайшлі вялікія багацці. Францыск Ксавэры Валадковіч выгадна ажаніўся з Тэрэзай з Пшэздзецкіх, прынёсшай вялікі пасаг, нядоўга займаў урад суддзі гродскага Менскага, дабіўся высокага ўрада надворнага падкаморыя ВКЛ, або, інакш, каралеўскага шамбеляна. Памёр, пакінуўшы двух нялетніх сыноў: Мельхіёра і Каспра, якіх выхаваў яго блізкі крэўны, сын Міхала Валадковіча, старасты Гаенскага, Вінцэнт Валадковіч. Тэрэза з Пшэздзецкіх, быўшая Францыскавая Валадковічавая, падкаморына надворная ВКЛ, нядоўга пражыла пасля ўступлення ў шлюб з Вінцэнтам Валадковічам, старасцічам Гаенскім, і памёрла, як яна сама пісала ў тэстаменце, «у маладым веку».

Пасля заўчаснай смерці старэйшага брата Лявона Паўла Валадковіча, войскага Менскага ваяводства, а неўзабаве і яго жонкі, Марцін Валадковіч разам з братам Феліцыянам Філіпам, мітрапалітам усяе Русі, становіцца апекуном нялетніх дзяцей памёршага брата. Пад яго кіраванне трапляюць вялікія зямельныя багацці пляменнікаў: Вінцэнта, Алойзы і Ганны Валадковічаў, вайсковічаў і вайскавічаўны ваяводства Менскага. Патрэбна прызнаць, што са сваёй справай Марцін Валадковіч справіўся выдатна. Пры дасягненні сталасці Вінцэнта Валадковіча, вайсковіча Менскага, перадаў у яго рукі кіраванне ўсімі маетнасцямі, што засталіся пасля бацькі. І хаця Вінцэнт Валадковіч і спрабаваў судзіцца з дзядзькам, але той давёў у судзе справядлівасць усіх сваіх рашэнняў па кіраванні маёмасцю. Патрэбна прызнаць, што на гэта спатрэбілася шмат часу і нямала высілкаў, пакуль у 1776 годзе паміж Марцінам Валадковічам, стольнікам ваяводства Менскага, і яго пляменнікамі, сынамі Лявона Паўла Валадковіча, войскага і палкоўніка

ваяводства Менскага, Вінцэнтам і Алойзы, не быў заключаны кампраміс па выдатках, якія былі зроблены стольнікам Менскім (19). Да ўсяго гэтага МарцінВаладковіч, стольнік Менскі, паклапаціўся аб выгодным шлюбе і для сваёй пляменніцы Ганны, выдаўшы яе замуж за Яна Гурко, гараднічага, пісара земскага Віцебскага і ротмістра войскаў Вялікага княства Літоўскага (20). Пасаговая сума памерам у 40 000 польскіх злотых была прадбачліва пакладзена на захаванне і рост у Менскі жаночы кляштар бенедыктынак і перададзеная па тэстыманіяльнаму акту прэвялебнай Ганарацe, старэйшай гэтага кляштара (21). На рашэнне Марціна Валадковіча ўнесці грошы на захаванне і рост у кляштар бенедыктынак Менскіх паўплываў і дэкрэт Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ ад 1764 года (22).

Карыстаючыся вялікімі грашовымі сродкамі, актыўна выкупляў у збяднелых уладальнікаў прывабныя маетнасці: на 22 сакавіка 1779 года уносіць у акты дакумент аб куплі ў Масальскага менняў Доўбарава і Хельміцы (23). Пры гэтым і сам не цураўся магчымасці пры вострай неабходнасці ў вялікіх сумах грошай перадаць на часовае трыманне, у заставу, як тады гаварылі, свае маетнасці. Найбольш часта гэта датычылася Турына. Так, у 1738 годзе ён перадае яго ў заставу сваёй жонцы ўсяго за 23 000 польскіх злотых (24). Верагодна, па гэтай жа прычыне Турын перадаецца ў заставу ў 1746 годзе за значна большую суму Ежы і Барбары з Прэрадоўскіх Прысецкім, чэснікам Смаленскім (25). Аднак судовых спраў па пратэрміноўцы вяртання пазык ніколі не дапускаў, свае пазыкі вяртаў у тэрмін. Як нам падаецца, асноўнай крыніцай павелічэння багацця Марціна Валадковіча было ліхвярства. Прычым са сваіх даўжнікоў спаганяў грошы хутка і без літасці. Яшчэ у 1736 годзе даў пазыку Антонію Рудніцкаму (Руданскаму), уладальніку маетнасці Блуза, і калі той своечасова з ім не разлічыўся, то па рашэнні суда заняў яго маетнасць і, верагодна, вытрас з яе не толькі свае грошы, але і шмат больш (26).

Смерць жа яго старэйшага брата Феліцыяна Філіпа, наогул, зрабіла Марціна Валадковіча, на той час ужо стольніка ваяводства Менскага, адным з найбольш багатых людзей ваяводства.

Памёр Марцін Валадковіч у пачатку 1780 года, на руках сваёй любай дачкі Канстанцыі Міхалавай Гюнтэравай, на той час яшчэ падстолінай Навагародскай. Цела Марціна Валадковіча, стольніка Менскага, па яго жаданні было пахавана на могілках Менскага кляштара святога Дамініка, «пры родзічах» яго (20). Тэстамент нябожчыка быў унесены 20 красавіка 1780 года ў актавыя кнігі Навагародскага земскага

суда, а шостага чэрвеня гэтага ж года, дадаткова, актыкаваны ў кнігі Менскага земскага суда. Усе свае добры ў грошах, каштоўнасцях, рухомай маёмасці, грунтах Марцін Валадковіч пакінуў свайму адзінаму сыну Францыску Ксавэры Валадковічу.

Крыніцы:
1. А.В., л.7
2. НГАБ. Ф 319, воп. 2, с. 524, л. 77.
3. Там жа, ф 1816, воп. 1, с. 9, л. 88.
4. Там жа, ф 319, воп. 1, с. 524, л. 79.
5. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 11, л. 151; с. 13, л. 321.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 13, л. 422.
7. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 71, л. 249.
8. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 71, л. 243.
9. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 188, лл. 54—55.
10. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 184, л. 774.
11. Там жа, кмф 18, воп. 1, с.184, л. 789.
12. А.В., л. 13.
13. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с.17, л. 414.
14. Там жа, ф 1816, воп. 1, с.10, л. 80.
15. А.В., л. 12.
16. НГАБ. Ф 1769, воп. 1, с. 10, л. 520
17. «Ураднікі Віленскага ваяводства…», № 1624, л. 256.
18. А.В., л. 12.
19. НГАБ. Ф 1769, воп. 1, с.8, л. 80.
20. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 15, л. 734.
21. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 4, л. 573.
22. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 72, 488.
23. Там жа, ф 1769, воп. 1, 9, л. 120.
24. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 59, л. 691.
25. Там жа, ф 1816, воп. 1, с. 8, л. 108.
26. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 41, л. 1612; с. 59, л. 271.
27. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 10, л. 527.

## 11.29. Хмара Іахім (12.07.1780 — 09.02.1785 — да 09.05.1789)

Іахім Хмара паходзіў са старадаўняга шляхецкага роду, які, як тады пісалі ў актах і граматах, «здаўна аселасць у Менскім павеце мае». Сын

Антонія Хмары, скарбніка ваяводства Менскага на 1750 год, і Кацярыны з Вяжэвічаў (1). Па нашых меркаваннях, маці Іахіма Хмары была дачкой Аляксандра Вяжэвіча, займаўшага ўрад харужага Менскага ў 70-х гадах XVII стагоддзя.

Далёкі продак Іахіма Хмары, Вацлаў Хмара (2), на 1597 год знаходзіўся на службе ў Радзівілаў. У часы вайны з казакамі Багдана Хмяльніцкага і Масквой другі яго продак, Андрэй Хмара, страціў усе свае маетнасці, якія былі канфіскаваны Янам Казімірам, каралём Польскім і вялікім князем Літоўскім, за пераход на бок маскоўскіх войскаў, захапіўшых на той час амаль усю Беларусь. Нямала нязгод трапіла на жыццёвым шляху і дзеду Іахіма Хмары — палкоўніку сапежынскіх войск у канцы XVII — пачатку XVIII стагоддзяў Мікалаю Хмары. Мікалай Хмара, палкоўнік войскаў ВКЛ, пад камандай Сапегі ўдзельнічаў у грамадзянскай вайне, што пачалася на Літве ў часы Паўночнай вайны. Разам з Сапегамі ваяваў на баку шведаў з рускімі войскамі і з войскамі Аўгуста II. У выніку паразы быў вымушаны пакінуць межы краіны і чакаць магчымасці вярнуцца на радзіму ў Круляўцы. Гэтая магчымасць надышла толькі 24 сакавіка 1713 года, калі кароль падпісаў памілаванне Мікалаю Хмары і іншым яго сапежынскім паплечнікам «на фронце праціўным караля шведскім ваяваўшым...» (3).

Іахім Хмара, стольнік Менскі, меў брата, вядомага палітыка і дзеяча ВКЛ канца яе існавання, пана Адама Міхала Хмару, займаўшага па чарзе пасады сакратара пячаткі ВКЛ, віцэ-інстыгатара і інстыгатара ВКЛ, а ў канцы свайго жыцця засядаўшага ў сенаце Рэчы Паспалітай, з пасады ваяводы Менскага. ¨сць звесткі і аб існаванні сястры Феліцыяны, быўшай на 1737 год у шлюбе за Варанцом.

Іахім Хмара ўзяў шлюб з Марыянай з Прэрадоўскіх, якая прынесла ў пасагу такія маетнасці, як Прэрадова і Пухавічы. Улічваючы асаблівасці літоўскага заканадаўства, якое давала жанчынам вялікія правы на валоданне маёмасцю, нават пасля ўступлення ў шлюб, нічога не было дзіўным, што Іахім Хмара быў вымушаны часта пазычаць у сваёй жонкі грошы пад заклад сваіх маёнткаў. Мела месца і адваротная справа, калі Марыяна з Прэрадоўскіх, маючы вострую патрэбу ў наяўных грошах, пад заставу сваіх маетнасцяў пазычала іх у свайго мужа.

За сорак пяць гадоў, з 1755 года і да 1800 года, прайшоў, не праімінаючы амаль ніводнага, усе ўрады Менскага ваяводства. На 7 снежня 1755 года займаў урад скарбніка Менскага, відавочна, атрымаўшы яго пасля смерці бацькі (4). З пачатку 60-х гадоў XVIII стагоддзя, пасля адыходу на ўрад стольніка Менскага Фларыяна Быкоўскага, стаў

пісарам гродскім Менскім. Першы знойдзены намі запіс Іахіма Хмары у якасці пісара гродскага Менскага адносіцца да 25 жніўня 1762 года (5). Паралельна з урадам пісара гродскага Менскага займаў і іншыя ўрады, ганаровага характару. Да сакавіка 1765 года займаў урад стражніка Менскага, ад якога адмовіўся, атрымаўшы 27 сакавіка, пасля пераходу Антонія Свентаржэцкага на ўрад пісара земскага Менскага, каралеўскі прывілей на ўрад падчашага Менскага (6). У часы чарговага міжкаралеўя, пасля смерці караля Рэчы Паспалітай Аўгуста III, увахodзіў у склад каптуровага суда Менскага ваяводства. Па Статуце Вялікага княства Літоўскага, на перыяд пасля смерці караля і да абрання новага караля ва ўсіх ваяводствах і паветах прыпынялася дзейнасць судоў, і іх месца займала часовае, выбарнае судовае ўтварэнне, так званы каптуровы суд. Карыстаўся ўрадам падчашага Менскага да 9 мая 1772 года, калі, у выніку смерці Юзэфа Валадковіча, стольніка Менскага, адбылося чарговае, верагодна, даўно чаканае мясцовай шляхтай, перасоўванне ўверх па лесвіцы ўрадаў: Іахім Хмара атрымаў прывілей на вакантны урад, пасля пераходу былога гараднічага Марціна Валадковіча на ўрад стольніка Менскага, гараднацтва Менскага (7). У ліпені 1772 года адбылося чарговае перамяшчэнне ўраднікаў уверх па лесвіцы, у выніку чаго Іахім Хмара атрымаў прывілей на больш высокі ўрад падстолія Менскага (8). Па зыходзе з гэтага свету пана Марціна Валадковіча, стольніка Менскага, Іахім Хмара атрымаў каралеўскі прывілей на стольнікаўства Менскае. Прывілей на ўрад Іахіму Хмары ўносіўся ў кнігі Метрыкі двойчы; першы раз 10 ліпеня 1780 года, а другі раз — ужо праз два дні — 12 ліпеня (9). З тэкста прывілея на ўрад падстолія Менскага Міхалу Свентаржэцкаму, падстарасце судоваму Менскаму, падпісанага каралём 9 ліпеня 1780 года, даведваемся, што сам Іахім Хмара да гэтай даты дабраахвота адмовіўся ад падстольства Менскага ў сувязі з атрыманнем іншага, больш высокага, тытула (10). Пасля 1782 года ўступіў сваё месца пісара гродскага Менскага Яну Валадковічу, сыну Францыска Валадковіча, крайчага Менскага (11). Займаў урад стольніка на 9 лютага 1785 года (12), калі разам з Ігнацы Дашкевічам, падчашым Гарадзенскага павета, падпісаўся пад крэдэнсам грамнічнага сойміка на абранне паслом у ГТЛ свайго брата Адама Міхала Хмару. У апошні раз сустракаецца імя Іахіма Хмары, названага стольнікам Менскім, 17 красавіка 1788 года. На 1800 год займаў урад войскага Менскага і, у дадатак, быў узнагароджаны ордэнамі святога Станіслава і Белага Арла. Меў вайсковае званне падпаручніка войскаў ВКЛ (13). У маі 1789 года, пасля дабраахвотнага адыходу Яна

Юзэфа Клакоцкага з урада войскага Менскага, атрымаў каралеўскі прывілей на гэты даволі высокі ўрад (14).

Іахім Хмара, войскі Менскі, жыў яшчэ ў 1795 годзе. На 19 ліпеня гэтага года ён падпісвае тэстамент Базыля Замойскага, паручніка Навагародскага ваяводства (15).

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 64, л. 1072.
2. Там жа, ф 1926, воп. 5, с. 4, л. 18.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 159, лл. 161, 165.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 13, л. 181.
5. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 13, л. 718.
6. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 188, л. 33.
7. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 184, л. 775.
8. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 184, л. 790
9. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 543, л. 820; с. 546, л. 239.
10. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 20, л. 36.
11. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 16, л. 487.
12. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 24, л. 77.
13. Там жа, ф 1324, воп. 1, с. 11, л. 6.
14. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 546, л. 625.
15. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 32, л. 332.

## 11.30. Ліхадзіеўскі з Глінскіх Крыштоф (09.05.1789—06.04.1791. — ?)

Былы гараднічы Менскі Крыштоф Ліхадзіеўскі атрымаў урад стольніка Менскага перад самым апошнім падзелам Вялікага княства Літоўскага. Прывілей на стольнікаўства Менскае быў унесены ім у гродскія, Менскага ваяводства, акты ў 1790 годзе, праз некаторы час па яго атрыманні (1). Яшчэ ў 1801 годзе ён карыстаўся гэтым тытулам, падпісваючы дакументы, у часе вядзення судовай справы з Апалоніяй з Ратынскіх Францыскавай Валадковічавай, мечнай Менскай, і яе сынамі Іахімам і Адамам (2). Цікавым, між іншым, з’яўляецца дакумент ад 1761 года, унесены ў Менскія гродскія актавыя кнігі ў наступным 1762 годзе 20 студзеня (3). У гэтым дакуменце гаворыцца аб продажы Атаназіем Хадзіцкім Крыштофу Ліхадзіеўскаму часткі маетнасці Крыштофава. Хаця ў дакуменце ўсюды ідзе гаворка аб знаходжанні фальварка Крыштофава ў Менскім ваяводстве, зразумела, што гавор-

ка магла ісці толькі аб Менскім павеце. Усё было б проста і зразумела, калі б у дакуменце Крыштоф Ліхадзіеўскі не менаваўся стольнікам Менскім. У дадзеным выпадку ніякай пісарскай памылкі не магло быць: такія дакументы, пасля падпісання, старанна прачытваюцца асобамі, унёсшымі іх у акты. За актыкацыю плацілі дастаткова значныя сумы грошай, ды і ўплыў гэтых дакументаў на будучыню скаладальнікаў і іх нашчадкаў людзям адукаваным не трэба было тлумачыць. У нас няма адказу на пытанне, чаму Крыштоф Ліхадзіеўскі за шмат гадоў да атрымання прывілея на стольнікаўста ўжо менаваўся стольнікам Менскага ваяводства.

Наогул, да другой паловы XVIII стагоддзя ў дакументах Менскіх ваяводскіх судоў Ліхадзіеўскія сустракаліся даволі рэдка. Так, тэстамент Станіслава Пуцяты, падчашага Мозырскага, ад 6 лістапада 1723 года падпісаў Габрыел з Глінскіх князь Ліхадзіеўскі, мечны Навагародскі. Вядома, што ён на 10 верасня 1698 года служыў у Гіероніма Клакоцкага, старасты Рэчыцкага. За нейкія ўчынкі, разам з гаспадаром, быў аб’яўлены вечным банітам і вываланцам (4). Тэстамент Габрыеля князя з Глінскіх Ліхадзіеўскага, мечнага Навагародскага, дзеда Крыштофа Ліхадзіеўскага, быў складзены 27 лютага 1744 года, а ўнесены ў актавыя кнігі Менскага гродскага суда толькі 30 мая 1765 года (5). Акрамя Антонія , бацькі Крыштофа, у пана Габрыела меўся яшчэ адзін сын — Станіслаў. З матэрыялаў асэсарскага суда вядома імя і брата пана Габрыеля Ліхадзіеўскага — Стэфан Ліхадзіеўскі, падчашы Ліўскі. Пасля смерці Габрыел Ліхадзіеўскі пакінуў нашчадкам у спадчыну маетнасці Баркі, Зарэчча і частку Ушы.

Найбольш часта даводзілася сустракаць прозвішчы Ліхадзіеўскіх у дакументах, датычных Навагародскага ваяводства. Так, у матэрыялах Метрыкі пад датай 8 кастрычніка 1642 года змешчаны звесткі пра Івана Ліхадзіеўскага, вознага Навагародскага ваяводства, які ўнёс свой рэляцыйны квіт па маетнасці Макраны (6).

Пачынаючы з кастрычніка 1773 года, у земскіх і гродскіх актавых кнігах Менскага ваяводства пачынаюць сустракацца дакументы з імем Крыштофа Ліхадзіеўскага або яго крэўных. Якраз у гэтым годзе, па адыходзе з урада стражніка Менскага свайго дзядзькі, пана Казіміра Шаблавінскага, Ліхадзіеўскі атрымаў прывілей на гэты ўрад (7). Знаходзіўся на гэтым урадзе да 1777 года, калі ў дакументах пачынае сустракацца імя Мікалая Свентаржэцкага, які падпісваў актавыя дакументы ў якасці стражніка ваяводства Менскага (8).

З 1774 года пачынае падпісвацца ўжо і ў якасці ротмістра ваяводства

Навагародскага. У красавіку 1774 года Ігнацы Еўстахі Нарніцкі, краўчыц Ашмянскі, выклікае ў суд Крыштофа Ліхадзіеўскага, ротмістра Навагародскага, Лявона, старасціча Рудніцкага, Францыска, чэснікавіча Вількамірскага, Міцкевічаў а таксама Тэадора і Андрэя Ліхадзіеўскіх, верагодна братоў, з-за розных крыўд, нанесеных яму (9). У гэтым жа 1774 годзе яшчэ адзін Ліхадзіеўскі, Тадэуш, ротмістр ваяводства Менскага, родны брат Крыштофа, купляе маетнасць Навасёлкі ў Менскім ваяводстве і ўносіць у Менскія земскія акты адпаведны дакумент (10). На 23 красавіка 1789 года ў дакументах Менскага земскага суда ротмістрам ваяводства Менскага пазначаны Павел Ліхадзіеўскі (11).

Пачынаючы з 1777 года і аж да 1789 года, Крыштоф Ліхадзіеўскі займае ўрад гараднічага Менскага (12). Якраз у гэты перыяд адзначаецца пастаянны ўдзел Крыштофа Ліхадзіеўскага, верагодна, маючага добрую юрыдычную адукацыю, у розных судовых справах у якасці судовага даверанага па вырашэнні маёмасных спрэчак.

У канцы 1780 года адбыўся выступ Крыштофа Ліхадзіеўскага на паседжанні Галаўнога Трыбунала з прашэннем аб пацвярджэнні правоў места Ліпск у Гарадзенскім павеце на магдэбургскае права, г. зн. на права лічыцца горадам, з усімі, немалымі, прывілеемі для яго жыхароў, устаноўленымі з даўніх часоў (13).

Бацька Крыштофа Ліхадзіеўскага — Антоні Ліхадзіеўскі, мечны Навагародскі, акрамя брата Станіслава, меў сястру Даміцэлю, уступіўшую ў шлюб з Ежы Навадворскім (14). Маці — Вікторыя з Шаблавінскіх — была сястрой Казіміра Шаблавінскага, стражніка Менскага. Дарэчы, у сваім тэстаменце, складзеным 20 студзеня 1767 года і ўнесеным у актавыя кнігі Менскага гродскага суда 7 ліпеня 1769 года, Антоні Ліхадзіеўскі мянуе сябе «Антоні з Глінскіх князь Ліхадзіеўскі» (15). Сам Крыштоф Ліхадзіеўскі ні ў адным дакуменце, вядомым нам, не менаваў сябе князем з Глінскіх.

У сваім даследаванні генеалогі нашчадкаў князёў Глінскіх, адыграўшых значную ролю ў гісторыі не толькі Вялікага княства Літоўскага, але і Расійскай дзяржавы, Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта прыводзіць звесткі аб вытоках роду Ліхадзіеўскіх. Па яго думцы, Глінскія атрымалі вёску Ліхадзеі ў Навагародскім ваяводстве і з моманту яе атрымання сталі менавацца князямі Ліхадзіеўскімі з Глінскіх (16).

Значныя, але небеспаспяховыя высілкі ўкладваў Крыштоф Ліхадзіеўскі ў павелічэнне памераў сваіх багаццяў, выкупляючы ў збяднелых суседзяў іх маетнасці. Дабіўся ад караля на правядзенне дахаджэння законнасці трымання ленных добраў Юхнавічы, Дамашэвічы і Бух-

навічы, размешчаных ў ваяводстве Менскім і прылеглых да Гаенскага староства. Што датычыцца Бухнавіч і Юхнавіч, то тут было ўсё зразумела: яны сапраўды былі здаўна леннымі, і ў іх прыналежнасці, на дадзены момант, не ўсё было законным. Але ж Дамашэвічы, або Дамашы, здаўна знаходзіліся ў асабістым валоданні Песлякоў, Ванькавічаў, Залівакаў і падлягалі выключна земскаму праву. У выпадку з Дамашэвічамі, Крыштофу Ліхадзіеўскаму не пашанцавала атрымаць іх у свае рукі, але Бухнавічы нейкі час трымаў у сваіх руках (17). У гэтым жа годзе выкупіў маетнасць у Тадэуша Кернажыцкага (18). У канцы 80-х гадоў XVIII стагоддзя доўга судзіўся з ксяндзом Жэброўскім з-за правоў на Рубяжэвічы (19). Валодаў таксама і маетнасцю Гранічы, але ў 1787 годзе прадаў яе Глушынскаму, суддзі земскаму Старадубаўскаму (20).

У канцы XIX стагоддзя ў межах Менскай губерніі сустракаліся Ліхадзіеўскія, якія, магчыма, і не мелі ніякіх роднасных повязей з Крыштофам Ліхадзіеўскім, стольнікам ваяводства Менскага. У 1898 годзе скончыў вучобу ў Менскай духоўнай семінарыі Павел Ліхадзіеўскі, прызначаны псаломшчыкам у Гарадоцкую царкву, размешчаную ў межах Менскай губерніі (21). У 70-х гадах XX стагоддзя вядомы былі імёны спартоўцаў, братоў Ліхадзіеўскіх, якія аказаліся не ў ладах з законам і забітых пры затрыманні. Даведаўшыся аб гэтым, памёр і іх бацька, жыхар Чэрвеня.

Крыніцы:

1. НГАБ. Ф 1769, воп. 1, с. 21, л. 34.
2. Там жа, ф 686, воп. 1, с. 4, л. 109.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 13, л. 619.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 184, л. 952.
5. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 14, л. 365.
6. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 14, л. 403.
7. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 500, л. 3.
8. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 6, л. 1092.
9. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 20, л. 301.
10. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 8, л. 791; с. 36, л. 1307.
11. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 325, л. 518.
12. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 9, л. 1332.
13. АВАК, т. 13, л. 38.
14. НГАБ. Ф 1769, воп. 1, с.4, л. 569—570.
15. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 15, л. 705.

16. Владислав Веревкин Шелюта. Белорусские князья: 35 поколений за 1000 лет. // «Беларуская газета». 1996. № 13 (27), л. 29.
17. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 185, л. 738.
18. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 7, л. 434.
19. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 19, л. 43.
20. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 18, л. 421.
21. Там жа, ф 136, воп. 1, т. 1, л. 412.

## І М Я Н Н Ы  П А К А З Н І К

Валадковіч Антоні, іезуіт, 11.23.
Валадковіч Марцін, спачатку войскі Старадубаўскі, а ў канцы жыцця — стольнік Менскі, 11.22; 11.23; 11.26; 11.28; 11.29.
Валадковічавая Марцінавая пані Ганна з Дэ Раесаў, спачатку войская Старадубаўская, а ў канцы жыцця — стольнікавая Менская, 11.22; 11.23; 11.26; 11.28.
Валадковіч Вінцэнт, стольнікавіч Менскі, 11.28.
Валадковічаўна Схаластыка Ігнацыевая Валодзькавая, пісаравая земская Ашмянская, 11.28
Валадковіч Францыск Ксавэры, стольнікавіч Менскі, падкаморы надворны ВКЛ, каралеўскі шамбелян, 11.26; 11.28.
Валадковічавая Францыскавая Ксавэравая пані Тэрэза з Пшэздзецкіх, падкаморына надворная ВКЛ, у другім шлюбе Вінцэнтавая Валадковічавая, старасцічавая Гаенская, 11.28.
Валадковіч Юзэф, стольнік Менскі, 11.26; 11.27; 11.29.
Валадковічавая Юзэфовая пані Іаанна з Бухавецкіх, гараднічына Менская, 11.26.
Валадковічавая Юзэфовая пані Іаанна з Храбтовічаў, гараднічыня Менская, у першым шлюбе Міржэеўская, 11.26.
Валадковічавая Юзэфовая пані Рэгіна (у некаторых дакументах — Марыя) Бранец, стольнікавая Менская, 11.26.
Валадковічаўна Тэрэза, гараднічоўна Менская, 11.26.
Валадковічаўна Анжэла, гараднічоўна Менская, на 1789 год у адным з Менскіх жаночых кляштараў, 11.26.
Валадковіч Тадэуш, гараднічовец Менскі, 11.26.
Валадковіч Ян Генрык Вітольд, 11.26.
Валадковічоўна Ганна, 11.26.
Валадковіч Ян Станіслаў, крайчы Менскі, 11.22; 11.23; 11.28.
Валадковіч Станіслаў, падчашы Пінскі, 11.20.
Валадковіч Андрэй, укладальнік генеалогіі роду Валадковічаў, прадмова; 11.22; 11.26; 11.28.
Валадковічаўна Тэафілія (свецк. Францыска), старэйшая Менскага жаночага кляштару закону св. Францыска, 11.22; 11.23; 11.28.
Валадковіч Юзэф, палкоўнік Менскі, сын Лявона Паўла Валадковіча, войскага і палкоўніка Менскага, староста Красавіцкі, 11.23; 11.26.
Валадковічаўна Марцыяна (Эмерцыяна), у першым шлюбе за Ратамскім, а потым за Сулкоўскім, падстоліем зямлі Драгіцкай, 11.22; 11.23.
Валадковічаўна Ганна Антоніевая з Ратна Крукоўская, падчашына Аршанская, 11.22; 11.23.
Валадковіч Феліцыян Філіп, мітрапаліт уніяцкай царквы ў ВКЛ, 11.22; 11.23; 11.26; 11.28.
Валадковіч Антоні Лявон, тэолаг у Наваградскім кляштары закону св. Дамініка, 11.22; 11.23; 11.28.
Валадковіч Пётр Станіслаў, прэор Менскі і вікарый Беларускі, 11.22; 11.23; 11.28.

# Раздзел 12. Падстоліі Менскага ваяводства

Падстоліі. Архіўныя звесткі ўпершыню ўпамінаюць аб існаванні ўрада падстолія пры вялікакняскім двары яшчэ з сярэдзіны XV стагоддзя. Асноўнай функцыяй падстолія, уведзенага ў якасці памочніка стольніка, было садзейнічаць стольніку ў арганізацыі падачы страў пры правядзенні вялікім князем афіцыйных застолляў. З часам функцыі падстолія сталі чыста намінальнымі. З атрыманнем урадам чыста тытулярнага характару быў уведзены ў паветах і ваяводствах ВКЛ. У Менскім ваяводстве упершыню быў уведзены, згодна з абяцаннем, дадзеным Жыгімонтам III на каранацыйным сойме, у 1590 годзе. Амаль адначасова ўрад падстолія, надаваемы пажыццёва, быў уведзены ў большасці ваяводстваў і паветаў ВКЛ. У Вількамірскім павеце першы падстолі Адам Янавіч Каплеўскі атрымаў каралеўскі прывілей ад 25 сакавіка 1590 года, Васіль Воўк Завольскі атрымаў прывілей на ўрад падстолія Ашмянскага павета 16 красавіка гэтага ж года. Толькі 4 мая 1594 года атрымаў прывілей на падстольства Браслаўскае Фёдар Дзмітрыевіч Пуцята, маршалковіч Браслаўскі (1). Урад быў уведзены не толькі для вырознення найбольш заслужаных прадстаўнікоў павятовай і ваяводскай эліты, але і для атрымання дадатковай крыніцы грашовых паступленняў у вялікакняскую скарбніцу.

Згодна з традыцыяй, меўшай месца ў ВКЛ, сыны падстолія, да часу атрымання бацькам іншага, больш высокага адзначэння, мелі права менавацца падстолічамі, а яго жонка менавалася пані падстолічавай. Жонка падстолія менавалася падстолінай, дачка — падсталянкай.

Крыніцы:

1. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 3519, л. 465; № 1752, л. 270; № 4421, л. 566.

## 12.1. Явойш Трусавіцкі Пётр (20.05.1596 — да 20.03.1599)

Пётр Явойш Трусавіцкі, як сказана ў прывілеі ад 20 мая 1596 года, «добра ў ваяводстве Менскім аселы», першым у Менскім ваяводстве, па пратэкцыі самога Льва Сапегі, канцлера Вялікага княства Літоўскага, атрымаў ад караля Жыгімонта III прывілей на ўрад падстольства

Менскага (1). Прайшло каля шасці год з моманту ўвядзення ўрада падстолія Менскага, і, нарэшце, знайшоўся чалавек годны заняць гэты ўрад. Магчыма, прычына была яшчэ і ў тым, што сярод шляхецтва тады яшчэ неназіраўся той імпэт да заняцця любога ўрада і атрымання хоць якога-небудзь адрознення, як гэта было характэрна для апошняга стагоддзя існавання ВКЛ.

Як бачна з прыдомка Трусавіцкі, Пётр Явойш жыў і трымаў нейкія добры ў ваколіцах вялікага тады паселішча Трусавічы, размешчанага на паўночны захад ад Менска, у ваколіцах Радашковіч. Прозвішча Явойш больш характэрна для Жмудзі, адкуль, верагодна, і перасяліўся яго бацька Войцэх Явойш з братам Станіславам пад Менск. Верагодна, гэтае перасяленне было звязана з дзейнасцю Глябовічаў, некалі валодаўшых значнымі зямельнымі добрамі ў ваколіцах Маладзечна і Радашковіч і перасяляўшых сюды сваю служылую шляхту са Жмудзі.

Першыя звесткі аб Пятру Явойшу Трусавіцкім датычацца 23 чэрвеня 1592 года, калі ён быў прызначаны падстарастам судовым Менскім Янам Пётрашкевічам на месца пісара гродскага, вакуючае пасля адстаўкі былога пісара Стэфана Дастаеўскага (2). Верагодна, гэтае перамяшчэнне адбылося не зусім дабраахвотна для Стэфана Дастаеўскага, бо Пётр Явойш унес у суд гродскі Менскі скаргу на пагрозы ў свой адрас ад былога пісара гродскага. Да вызвалення Стэфана Дастаеўскага з урада пісара гродскага Менскага спрычынілася і заняцце ўрада старасты судовага Менскага панам Андрэем Мікалаевічам Станкевічам, вёўшым менавіта са Стэфанам Дастаеўскім працяглы судовы працэс па Есманаўскай спадчыне сваёй другой жонкі Паланеі Валадковічаўны. Урад пісара гродскага Пётр Явойш Трусавіцкі займаў нядоўга і, пачынаючы з 5 ліпеня 1593 года, пасля пераходу былога суддзі гродскага Сымона Мацеевіча на ўрад падстарасты судовага Менскага (3), заняў урад суддзі гродскага Менскага. Аднак і гэты ўрад займаў нядоўга. Памёр да 20 сакавіка 1599 года, бо якраз гэтай датай пазначаны каралеўскі прывілей на ўрад падстольства Менскага, «вакуючы пасля смерці Пятра Явойша Трусавіцкага», як гэта запісана ў прывілеі, Станіславу Захарэўскаму (4).

Верагодна, прадчуваючы блізкі канец свайго жыцця, унёс у гродскія акты Менскага ваяводства запіс сваёй жонцы Уршулі на права валодання маетнасцю Трусавічы (5). Меў брата Марціна, ад якога, верагодна пасля падзелу бацькаўскай спадчыны, атрымаў дакумент на права ўладання часткі іх «атчызнага мення» (6). Праз месяц і Пётр Явойш выдаў брату адпаведны дакумент на права валодання сенажаццю (7).

Прозвішча Явойш, у матэрыялах Метрыкі ВКЛ, часта сустракаецца ў дакументах, датычных Троцкага ваяводства. Так, у судах княства 6 лістапада 1603 года разглядалася справа Амбражэя Явойша з Марцінам Язэфовічам, зямянінам Троцкага ваяводства, па справе прыналежнасці Юрэвіцкай маетнасці (8).

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 83, л. 93; с. 86, л. 58.
2. Там жа, ф 1926, воп. 5, с. 1, л. 188.
3. АВАК, т. 31, л. 151.
4. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 86, л. 21.
5. Там жа, ф 1926, воп. 5, с. 4, л. 64.
6. Там жа, ф 1926, воп. 5, с. 1, л. 4.
7. Там жа, ф 1926, воп. 5, с. 1, л. 4.
8. АВАК, т. 30, л. 251.

## 12.2. Захарэўскі Станіслаў Мацеевіч (20.03.1599 — 05.05.1600. — ?)

Станіслаў Мацеевіч Захарэўскі атрымаў прывілей на падстольства Менскае пасля смерці Пятра Явойша Трусавіцкага, былога падстолія і суддзі гродскага Менскага, па прывілеі ад 20 сакавіка 1599 года (1). Аднак па нейкіх прычынах займаў гэты ўрад параўнальна нядоўга і недзе пасля 5 мая 1600 года адышоў з урада. Яго наступнік Ян Вяжэвіч адышоў з урада да 21 жніўня 1607 года, саступіўшы правы на ўрад Мікалаю Вяжэвічу.

Бацька Станіслава Захарэўскага Мацей на 1572 год быў каралеўскім ротмістрам. У гэтым жа годзе разам з Лукашом Гарабурдам і Раманам Міхайлавічам Бурым засведчыў акт куплі сяла Зорчына ў Любавіцкай воласці Аршанскага павета панам Багданам Стэцкевічам, ротмістрам Кіеўскім (2). Патрэбна адзначыць, што пан Багдан Стэцкевіч роўна праз дзевяць дзен пасля падпісання каралём акта куплі сяла Зорчына атрымаў прывілей на заняцце высокага ўрада маршалкоўства Вялікага княства Літоўскага (3). Мацей Захарэўскі, каралеўскі ротмістр, на гэты час быў у шлюбе з пані Ядвігаю Кгавароўнай. Учыніўшы з «яе згоды і намовы гвалтоўнае наеханне на дварэц у Войценеве», што належаў Мікалаю Войцэхавічу Ясенскаму, дзяржаўцу Любашанскаму, Мацей Захарэўскі на 25 лістапада 1570 года быў пазваны ў каралеўскі задворны суд (4).

Вядома, што Станіслаў Захарэўскі меў сястру Юстыну, уступіўшую ў шлюб з Юр'ем Рыгоравічам Кулем, дарэчы, суседам Станіслава Захарэўскага, і, магчыма, па гэтай прычыне паміж імі часта адбываліся памежныя спрэчкі. Так, 3 мая 1596 года Станіслаў Захарэўскі і яго жонка Аляксандра Дамінікоўская Станіслававая Захарэўская падалі скаргу на свайго швагра за «бесчестие» (5). Акрамя сястры Юстыны Кулевай у Станіслава Захарэўскага на 1597 год жылі яшчэ два браты — Ян і Жыгімонт. У гэтым годзе братам Захарэўскім давялося вытрымаць цяжкі судовы працэс з Янам Глябовічам, стольнікам Віленскім, дзяржаўцам Ушпольскім і Радашковіцкім. Ян Глябовіч, стольнік Віленскі, патрабаваў вяртання вялізнай сумы ў 1600 коп, якую іх бацька Мацей Захарэўскі нібыта быў вінен за 2 войтаўствы. Ян Глябовіч прызнаваў, што каля 700 коп было заплочана нябожчыкам Мацеем Захарэўскім, яшчэ пры перадачы гэтых войтаўств (6). Захарэўскія, нягледзячы на прыкладзеныя вялікія высілкі, прайгралі гэты працэс.

У пачатку мая 1600 года падстолі Менскі ўнес у гродскі суд Менскага ваяводства ліст дабраахвотны, дзе перадаў сваёй жонцы ўсе правы на сваю маёмасць, рухомую і нерухомую, грунты, золата і шаты. У сваім лісце Станіслаў Захарэўскі запісаў: «маючы яе за сабой у стане мальжэнскім, мальжонку (жонку) сваю мілую», ад якой «міласць мальжэнскую і працавітыя ўслугі вызнаў, кром сабе дазнаваў і цяпер дазнаваю» (7). Дакумент, акрамя самога Станіслава Захарэўскага, падпісаў і яго брат Ян Захарэўскі.

Вельмі мала засталося звестак пра маетнасці, належачыя Станіславу Захарэўскаму, хаця зразумела, што быў ён чалавекам не бедным. Пасля смерці Войцэха Дарагастайскага, сына Пятра Дарагастайскага, ваяводы Смаленскага, змог выкупіць у крэдытораў памёршага вялікую маетнасць Халопеніцкую. Яшчэ на сярэдзіну 1592 года трымаў ад Адама Салагуба маетнасць Кіявец (8), якая межавалася з землямі Яна Пашкоўскага. Як вядома, памежныя спрэчкі, з-за недастатковай акрэсленнасці межаў маетнасцяў, былі бадай што ці не самай важкай прычынай усіх судовых спраў у Рэчы Паспалітай. Так было і ў Станіслава Захарэўскага з Янам Пашкоўскім: 15 чэрвеня 1592 года Захарэўскі падае ў суд скаргу на суседа, абвінавачваючы яго ў грабяжы і зводзе коней з маетнасці Кіявец (9). Недзе праз тры месяцы, 2 верасня гэтага ж года, Станіслаў Захарэўскі скардзіцца ў суд, абвінавачваючы суседзяў у збіенні яго самога і слугі (10). Не трэба, аднак, лічыць, што Станіслаў Захарэўскі быў якімсьці слабым і бездапаможным чалавекам. Калі

патрабавалі таго яго інтарэсы, ён мог быць жорсткім і бязлітасным, як і ўсе шляхцічы таго часу. Так, у ліпені 1600 года ўжо Станіслава Захарэўскага не без прычын абвінавачваюць у правядзенні нападу на маетнасць суседа Стэфана Стахоўскага, грабеж маёмасці і, што самае галоўнае, цяжкае параненне Стахоўскага (11).

Памёр Станіслаў Захарэўскі да 1619 года. Пані Аляксандра Ваўрынцовая Дамінікоўская пасля смерці мужа ў пачатку 1620 года ўступіла ў новы шлюб з Крыштофам Валадковічам, пасля 1633 года пісарам земскім Менскім, а ў канцы жыцця і ваяводам Навагародскім.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 86, л. 21.
2. «Lietuvos Metrika (1566 — 1574)». Knyga № 51. Vilnius. 2000, лл. 327–328.
3. Там жа, л. 329.
4. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 268, л. 339.
5. Там жа, ф 1926, воп. 5, с. 4, л. 42.
6. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 285, л. 486.
7. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 1, лл. 426, 435.
8. Там жа, ф 1926, воп. 5, с. 1, л. 6.
9. Там жа, с.1, л. 196.
10. Там жа, с.1, л. 225.
11. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 1, л. 885.

## 12.3. Вяжэвіч Ян Рыгоравіч (? — да 21.08.1607)

Звестак пра Яна Вяжэвіча, сына Рыгора Шчаснага Вяжэвіча, падсудка Менскага, знойдзена вельмі мала. Улічваючы, што Станіслаў Захарэўскі займаў урад падстолія Менскага ваяводства яшчэ на 5 мая 1600 года і не адразу адмовіўся ад яго, то зразумела, што Ян Вяжэвіч займаў гэты ўрад вельмі непрацяглы час. Па яго смерці каралеўскім прывілеем ад 21 жніўня 1607 года (1) урад падстольства Менскага быў нададзены яго брату Мікалаю Вяжэвічу, падсудковічу Менскаму, будучаму пісару земскаму Менскаму.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 89, л. 55.

## 12.4. Вяжэвіч Мікалай Рыгоравіч (21.08.1607 — 08.09.1618)

Мікалай Вяжэвіч, сын Рыгора Шчасновіча Вяжэвіча, былога падсудка земскага суда Менскага ваяводства, і Кацярыны Фёдараўны Грабоўскай, харужанкі Віцебскай, атрымаў урад падстолія Менскага па каралеўскім прывілеі ад 21 жніўня 1607 года (1). Займаў гэты ўрад Мікалай Вяжэвіч аж да адыходу з урада пісара земскага Менскага Стэфана Гладкага. На рыцарскім коле, як тады менавала павятовая шляхта свае соймікі, быў абраны, адным з 4-х электаў (кандыдатаў), на ўрад пісара земскага Менскага павета. Хаця ўрад земскага пісара і менаваўся ваяводскім, але па прычыне таго, што ў Мозырскім і ў Рэчыцкім паветах меліся свае павятовыя земскія суды, яго юрысдыкцыя распаўсюджвалася толькі на тэрыторыю Менскага павета.

На 1619 год быў жанаты з Марынай Яцынічаўнай, якая пасля смерці свайго мужа шмат маёмасці і грошай уклала ў фундаванне кляштара Менскіх базыліянак. Памёр Мікалай Вяжэвіч да 4 чэрвеня 1633 года (2). З нашчадкаў яго найбольшай вядомасцю карыстаецца сын Пётр Казімір Вяжэвіч, спачатку стольнік, потым падкаморы Мсціслаўскі, а у канцы жыцця ваявода Навагародскі.

Больш падрабязна пра жыццё Мікалая Вяжэвіча будзе пададзена ў раздзеле «Пісары земскія Менскага ваяводства».

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 89, л. 55.

## 12.5. Уніхоўскі Януш Паўлавіч (08.09.1618 — да 1621)

Януш Уніхоўскі ў 1618 годзе быў адным з найбольш верагодных кандыдатаў на вакантны пасля адыходу па стане здароў'я Стэфана Гладкага, урад пісара земскага Менскага ваяводства. Аднак у справу ўмяшаўся Жыгімонт І, які, атрымаўшы ад рыцарскага кола, як тады называлі ваяводскі соймік, што сабраў пад кіраўніцтвам ваяводы Менскага, спіс з чатырох электаў (кандыдатаў) на ўрад, свой выбар спыніў на Мікалаю Вяжэвічу, падстолію Менскім, што і зацвердзіў сваім прывілеем ад 8 верасня 1618 года. Каб не пакрыўдзіць уплывовага сярод менскай шляхты Януша Уніхоўскага, у гэты ж дзень быў падпісаны яшчэ адзін прывілей, на гэты раз на наданне Янушу Уніхоўскаму ўрада падстолія Менскага (1).

Урад падстольства Менскага Януш Уніхоўскі трымаў нядоўга: праз тры гады, пасля адыходу з урада харужага Менскага Яна Фёдаравіча Гладкага дабіўся атрымання прывілея на гэты ўрад. Быў двойчы жанаты: першая яго жонка — пані Рэіна Бяняшаўна Чаркоўская, а другая — пані Фларэнцыя Мілеўская. Вядома, што яго дзецьмі, але невядома ад якой жонкі, былі: Рэміян, Казімір Караль і дачка Сузана, быўшая ў шлюбе за Аляксандрам Рафалам Шалухам. Больш падрабязна пра Януша Уніхоўскага і яго радавод будзе выкладзена ў раздзеле «Харужыя ваяводства Менскага».

Продак Уніхоўскіх — Радагашчанін, паходзіў з усходніх раёнаў Вялікага княства Літоўскага. Пасля іх захопу Маскоўскім вялікім княствам атрымаў маетнасць Уніхова ў Навагародскім ваяводстве, дзе род Уніхоўскіх добра ўкараніўся. У пачатку XVII стагоддзя Уніхоўскія выкупілі вялікую маетнасць Вяпраты каля Калачоўскага староства.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 95, л. 118.

## 12.6. Зяновіч Юр’я
## (? — 30.10.1622 — да 26.09.1651)

Юр’я (Ежы) Зяновіч атрымаў прывілей на ўрад падстолія Менскага пасля пераходу былога падстолія Менскага Януша Уніхоўскага на «больш пажыточнейшы» ўрад харужага Менскага ў 1721 годзе і займаў гэты ўрад падстолія аж да самай сваёй смерці ў 1651 годзе (1). На нашу думку імя Ежы гэтым прадстаўніком роду Зяновічаў пры жыцці не ўжывалася, а было ўнесена ў загалоўкі дакументаў праз шмат гадоў пасля іх складання, пры правядзенні, пазнейшымі архівістамі, прац па іх сістэматызацыі і апрацоўцы. У саміх дакументах Зяновіч, падстолі Менскі, мянуецца толькі як Юр’я.

За ўвесь перыяд пошукаў нам давялося сустрэць толькі чатыры паведамленні пра Юр’я Зяновіча. Першы дакумент быў па нейкіх прычынах актыкаваны, гэта значыць унесены ў актавыя кнігі Менскага земскага суда ў сярэдзіне XVIII стагоддзя, хаця і быў складзены 30 кастрычніка 1622 года (2). У гэтым дакуменце гаворыцца пра правядзенне Юр’я Зяновічам, падстоліем Менскім, інтрамісіі ў маетнасці Станевічы, размешчанай у Менскім ваяводстве каля Прусевіч і набытай ім у Яна Кісяля Дарагініцкага і яго жонкі Тамілы Гуркоўны (2). Улічваючы, што імя Юр’я было вельмі распаўсюджана сярод Зяновічаў, ча-

ста вельмі цяжка ўстанавіць, менавіта да якога Юр'я Зяновіча датычыцца справа. У першай палове XVII стагоддзя, як даводзіць Каяловіч, жылі тры прадстаўнікі дому Зяновічаў, з імем Юр'я. Аднак звесткі Каяловіча настолькі скупыя, што не даюць магчымасці ўстанавіць, хто з іх трымаў урад падстолія Менскага. У наступным дакументе прыведзены дэкрэт асэсарскага каралеўскага суда па справе, разгледжанай у гэтым судзе 19 студзеня 1643 года і ўзбуджанай Герардам Дэнгофам, кашталянам Гданскім, старастам Мальборскім, Фелінскім і Люцынскім да Ежы Зяновіча, старасты Апескага, з-за нібыта бяспраўнага трымання леннага сяла Снегі ў Браслаўскім павеце (3). Згодна з Каяловічам, гэты прадстаўнік сям'і Зяновічаў быў атруты ў 1648 годзе. Як падае Каяловіч, яшчэ адзін Ежы Зяновіч займаў урад суддзі земскага Віленскага і пакінуў трох сыноў. Як даводзіць А. Рахуба, гэты прадстаўнік дому Зяновічаў з урада стольніка Ковенскага павета перайшоў на падсудкоўства Віленскае па каралеўскай намінацыі ад 27 верасня 1623 года. Прывілей на ўрад суддзі земскага атрымаў праз два гады — 3 красавіка 1625 года. Быў жанаты з пані Альжбетай Карвацкай, памёршай пасля 1636 года (4). Адзін з яго сыноў — Ежы Ян Дэспат Зяновіч займаў урад войскага Віленскага з 29 жніўня 1654 і да часу сваёй смерці 20 лістапада 1658 года (5). Быў забіты і, як паведамляе Каяловіч (6), не пакінуў нашчадкаў, хаця А. Рахуба і паведамляе, што Ежы Ян Дэспат Зяновіч быў жанаты з Ганнай Калецкай. Дату яго смерці Каяловіч, на жаль, не прыводзіць. Зразумела, што і бацька, і сын Зяновічы (суддзя земскі і войскі Віленскага ваяводства) не мелі ніякага дачынення да падстольства Менскага.

Значны след у матэрыялах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага пакінула яшчэ адна прадстаўніца роду Зяновічаў — пані Юр'евая Зяновічавая Канстанцыя Сыцінская. На жаль, у матэрыялах асэсарскага задворнага суда не прыведзена пры яе прозвішчы ніякага ўрада. Пры наяўнасці ў мужа ўрада і яго жонка, нават па яго смерці, у афіцыйнай і пабытовай перапісцы мянуецца гэтак жа, як і яе муж: войская, лоўчыня або стольнікавая якога-небудзь ваяводства ці павета. З 1673 і па 1676 год пані Канстанцыя Сыцінская Юр'евая Зяновічавая правяла некалькі судовых працэсаў у асэсарскім судзе ВКЛ. У пачатку 1673 года Канстанцыя Сыцінская і яе дочкі са сваімі мужамі Казімірам Беганскім, пісарам земскім Браслаўскага павета, і Ежы Кельпшам змагаліся са спробамі Мальхера Глушынскага, войскага Смаленскага, дабіцца спагнання вялікай сумы грошай з маетнасці Зяновічаў — Палоннае ў Ашмянскім павеце (7). У лютым 1676 года, па дэкрэце каралеўскага суда

на Канстанцыю Сыцінскую і яе зяцёў была вынесена баніцыя ад Стэфана Сабяшынскага і Гелены з Цэдроўскіх (8). Аднак і ў гэтай сям’і, відаць, не ўсё і не заўсёды ладзілася. Казімір Беганскі, пісар земскі Браслаўскі, і яго жонка Паланея Зяновічаўна разам з Ежы Кельпшам і Зосяй Зяновічаўнай Ежынай Кельпшавай дабіліся 2 сакавіка гэтага ж 1676 года баніцыі і вывалання (выгнання за межы краіны) для сваёй цешчы і маці. Справа была вельмі простая: пры заключэнні шлюбных кантрактаў прадугледжвалася ў вызначаны тэрмін перадача маладым раней абумоўленных пасаговых сум. У шлюбных кантрактах звычайна ўсе прадугледжвалася да дробязі: і памёры грашовых сум, найменне маетнасцяў і колькасць рухомасці, перадаваемых у пасаг. Па нейкіх прычынах у маці знікла жаданне перадаваць сваім дочкам вызначаны пасаг. Канстанцыя Сыцінская не падпарадкавалася нават рашэнню Галаўнога Трыбунала і не дапусціла каралеўскага двараніна ў свае маетнасці для выканання спагнання (9). Патрэбна адзначыць, што А. Рахуба ў сваёй працы, прыводзячы звесткі пра Ежы Талата Кельпша, падчашага Вількамірскага на 1686 год, даводзіць, што жонка Ежы Кельпша — пані Зося Дэспатаўна Зяновічаўна была дачкой Міхала Дэспата Зяновіча (10).

Юр’я Зяновіч, падстолі Менскі, жыў яшчэ на 8 лютага 1651 года, калі быў пазваны ад Крыштофа Казіміра Трызны ў Менскі гродскі суд за звод з яго сяла Замасточча падданых, братоў Мінічаў: Паўлюка, Міхала і Харытона (11). Яшчэ раз сустракаецца прозвішча Юр’я Зяновіча ў каралеўскім прывілеі на ўрад падстолія Менскага пану Пятру Капашчэўскаму, падстарасцу судоваму Менскаму ад 26 верасня 1651 года, дзе і гаворыцца аб зыходзе з гэтага свету Юр’я Зяновіча, падстолія Менскага. Юр’я Зяновіч быў жанаты з прадстаўніцай вядомага дому Кавячынскіх пані Гальшкай. З нашчадкаў Юр’я Зяновіча і пані Гальшкі з Кавячынскіх Юр’евай Зяновічавай, падстоліяў Менскіх, нам вядома толькі імя дачкі — пані Крыстыны. Крыстына Зяновічаўна, падсталянка Менская, на 4 мая 1677 года была ў шлюбе з Мікалаем Тышкевічам (12).

Як паведамляе Каяловіч, продак Зяновічаў Дэспат Зянон Братошын каля 1380 года прыбыў з Сербіі ў ВКЛ. Род вельмі шырока прадстаўлены знакамітымі людзьмі, займаўшымі высокія ўрады ў ВКЛ. Так, Юр’я Зяновіч займаў урад ваяводы Смаленскага, Станіслаў быў гетманам полным ВКЛ, а Міхал Зяновіч — ваяводам Мсціслаўскім. У 1560 годзе яшчэ адзін з прадстаўнікоў гэтага роду Юр’я Юр’евіч Зяновіч, палкоўнік каралеўскіх войскаў, кашталян Смаленскі, каманда-

ваў некаторы час усімі войскамі ВКЛ у Інфляntах у часе вайны з Маскоўскай дзяржавай Івана IV (13).

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 125, л. 252.
2. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 17, л. 525.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 325, л. 493.
4. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 743, л. 152.
5. Там жа, № 1138, л. 199.
6. Каяловіч, «Кампендыум», л. 41.
7. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 360, л. 288.
8. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 366, л. 16.
9. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 367, л. 236.
10. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 3354, л. 447.
11. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 34, л. 1080.
12. Там жа, ф.1727, воп. 1, с. 49, л. 248.
13. Каяловіч, «Кампендыум», л. 40.

## 12.7. Шалуха (? — ?)

Паведамленне аб трыманні ўрада падстолія Менскага адным з прадстаўнікоў вядомага на Меншчыне дому Шалухаў (Шолухаў) падаецца ў кнізе «Ураднікі Вялікага княства Літоўскага. Віленскае ваяводства», (том 1) Анджэя Рахубы (1). Згодна з гэтым паведамленнем, Рафал Станіслаў Тупальскі, чэснік Ашмянскі, быў жанаты другім шлюбам з пані Крысцінай Шалушанкай, падсталянцы Менскай. Рафал Шалуха, на 11 лютага 1663 года, трымаў урад падчашага Ашмянскага, ад якога адмовіўся дабраахвотна 20 лютага 1683 года. Першапачаткова мы меркавалі, што Крыстына Шалушанка магла быць дачкой нашчадка Фёдара Шалухі, харужага Менскага ў канцы XVI — пачатку XVII стагоддзяў, пана Рафала Аляксандра Шалухі. Як вядома, Рафал Шалуха ўступіў у шлюб з Сузанай Уніхоўскай, дачкой Януша Уніхоўскага, харужага Менскага. Як сведчаць матэрыялы Менскага гродскага суда, на 12 жніўня 1649 года Аляксандр Рафал Шалуха і Сузана Уніхоўская, у сувязі з вялікай патрэбай у наяўных грошах, перадалі ў заставу Менскаму месцічу Якубовічу Міханавіцкую маетнасць (2). Але ў матэрыялах актыкацыі (натарыяльнага сведчання заключанага пагаднення аб заставе) нічога не гаворыцца аб трыманні Аляксандрам Рафалам Шалухам урада падстолія Менскага. Да таго ж у Рафала Шалухі і пані Сузаны Уніхоўскай былі дзве

дачкі: Гальшка і Кацярына. Гальшка Шалушанка пашлюбіла Аляксандра Вярыгу Дарэўскага, Кацярына — Андрэя Пакаршынскага (3). Такім чынам, пошукі Шалухі, падстолія Менскага, можна працягваць далей. Па ўсім відаць, што Шалуха трымаў урад падстолія ў адзін і той жа час з Юр'ям Зяновічам і Пятром Капашчэўскім. Аднак нягледзячы на тое, што падстольства Менскае было, у адпаведнасці з дзеючым правам, на гэты час надана спачатку Зяновічу, а потым і Капашчэўскаму, няма нічога дзіўнага, што гэты ўрад атрымалі і афіцыйна ўжывалі адначасова яшчэ некалькі чалавек.

Крыніцы:
1. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», том 1, л. 257, № 1632.
2. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 3, л. 1343.
3. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 8, л. 246.

## 12.8. Капашчэўскі Пётр Юр'евіч (26.09.1651 — да 12.09.1672)

Пётр Капашчэўскі, сын Юр'я Багданавіча Капашчэўскага, першага стольніка ваяводства Менскага і намесніка Слуцкага ў князеў Радзівілаў і Рэгіны Янаўны Салагубаўны атрымаў падстольства Менскае пасля смерці Юр'я Зяновіча па прывілеі ад 26 верасня 1651 года (1).

Дата нараджэння Пятра Капашчэўскага не ўстаноўлена. Праўда, намі знойдзены прывілей Жыгімонта III ад кастрычніка 1620 года на атрыманне Пятром Капашчэўскім пажыццёвых праў на добры ў Невельскім тракце, дзе запісана, што быў ротмістрам яшчэ ў самога палкоўніка Аляксандра Юзэфа Лісоўскага, падчас побыту палкоўніка са сваімі «лісоўчыкамі» ў Маскве і, відаць, добра «пагуляў» у межах Маскоўскага княства (2). Калі, гаворка ў прывілеі ідзе пра аднаго і таго ж Пятра Капашчэўскага, сына Юр'я Капашчэўскага, то выходзіць, што пражыў ён немалы, нават па нашых сённяшніх мерках, час. Зразумела, каб стаць ротмістрам у Лісоўскага, хаця б і ў самы апошні яго паход у 1615 год у Северскую зямлю, патрэбна было мець каля дваццаці год ад нараджэння, а для атрымання ротмістроўства не заўсёды патрабавалася доўгая выслуга. Сваю харугву пад зверхніцтва Лісоўскага Пётр Капашчэўскі мог прывесці, набраўшы вояроў за свой кошт. Памёр жа Пётр Капашчэўскі да 12 верасня 1672 года (3), пражыўшы, магчыма, на гэтым свеце каля васьмідзесяці год. З кара-

леўскага прывілея на наданне яму ўрада падстолія Менскага вынікае, што быў удзельнікам многіх войнаў.

Яшчэ ў канцы снежня 1643 года — пачатку студзеня 1644 года, пасля смерці былога падстарасты судовага Менскага Пятра Казіміра Драбышэўскага, быў мянованы на ўрад падстарасты судовага (4). Займаў гэты ж урад і падчас захопу Менску маскоўскімі войскамі, перайшоўшы на бок захопнікаў. У студзені 1657 года унес у гродскія акты грамату цара Аляксея Міхайлавіча да ўсіх жыхароў Полацкага ваяводства аб захаванні ім усіх ранейшых праў і прывілеяў (5). Пасля адыходу маскоўскіх войскаў быў памілаваны і нават захаваў свае ўрады падстолія і падстарасты судовага Менскага. Калі ўрад падстолія захоўваў да самай сваёй смерці, то ад урада падстарасты судовага Менскага быў вымушаны, пад моцным націскам уладных структур Вялікага княства Літоўскага, зрачыся на карысць Марціна Казіміра Валадковіча. Яшчэ ў канцы 1662 — пачатку 1663 гадоў выконваў абавязкі падстарасты, а на 10 ліпеня 1663 года пазначаны, у актах Менскага гродскага суда як былы падстараста судовы Менскі (6).

Двойчы ўступаў у шлюб, але прозвішчы яго жонак не ўстаноўлены. Меў дзяцей: сына Ежы, перайшоўшага на бок маскоўскіх войскаў і загінуўшага ў адным з баёў, і дачку Леанору, спадчынніцу ўсіх немалых набыткаў Пятра Капашчэўскага, у тым ліку маетнасці Чэрнева і Тонва, уступіўшую ў шлюб з Міхалам Рдультоўскім, падстоліем Чарнігаўскім.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с.125, л. 252.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 97, л. 219.
3. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 35, лл. 99—101.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 3, лл. 744, 788—789, 796—797.
5. «Собрание древних грамот и актов городов Минскоў губ.», л. 319.
6. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 34, л. 1639.

## 12.9. Дзевялтоўскі Мікалай Казімір Войцэхавіч Гінтаўт (27.01.1670 — ?)

Мікалай Казімір Дзевялтоўскі, згодна з матэрыяламі, змешчанымі ў кнізе «Ураднікі Вялікага княства Літоўскага. Віленскае ваяводства»

Анджэя Рахубы, на 1659 год быў падчашым Ашмянскім (1). Атрымаў прывілей на падстольства Менскае 27 студзеня 1670 года, але яшчэ і ў пачатку лютага гэтага ж года менаваўся падчашым Ашмянскім. Жанаты з Даротай Пухальскай. Як паведамляе Каяловіч (Compendium, л. 147) з Дзевялтоўскай быў жанаты Гіеронім Комар, падсудак Аршанскі. Большасць Дзевялтоўскіх Гінтаўтовічаў паходзілі са шляхты Вількамірскага павета. Амаль адначасова з Мікалаем Казімірам Война Дзевялтоўскім, былым падчашым Ашмянскім, памёршым пасля 1676 года, жыў Ян Дзевялтоўскі, стольнік Вількамірскага павета на 26 студзеня 1676 г. — 28 ліпеня 1690 гг., жанаты з пані Ефрузынай Тэрэзай Завадскай, Міхал Габрыел Дзевялтоўскі, войскі Вількамірскі на 1689—1704 гг, быўшы ў шлюбе з Ганнай Грахоўскай. Міхал Дзевялтоўскі склаў тэстамент 14 сакавіка 1701 года. Зусім верагодна, што іх агульным продкам мог быць Станіслаў Барталамеявіч Гінтаўт Дзевялтоўскі, пісар земскі Вількамірскага павета ў перыяд 1566 — 1568 гадоў (2).

Крыніцы:

1. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», т. 1, л. 257, № 1631
2. Там жа, № 3342, л. 446; № 3806, л. 498; № 3911, л. 510

## 12.10. Пухальскі Казімір (? — 30.07.1661 — 06.1664 — ?)

Намі знойдзена некалькі згадак пра Казіміра Пухальскага, падцвярджаючых трыманне ім урада падстолія Менскага. Гэтыя дакументы змешчаны сярод судовых спраў, разгледжаных каралеўскім асэсарскім судом Вялікага княства Літоўскага ў 1660—1679 гг. і ўключаных у адпаведныя кнігі Метрыкі Вялікага княства Лтоўскага, пачынаючы з 348-й і да 364-й уключна. Так, у Варшаве, 30 ліпеня 1661 года ў асэсарскім судзе разглядалася справа (1), узбуджаная Казімірам Пухальскім, падстоліем Менскім супраць Канстанты Шылянскага. Казімір Пухальскі даводзіў у сваёй скарзе, што нібыта яшчэ 30 чэрвеня 1660 года Канстанты Шылянскі бясправўна захапіў сяло Рафалы ў Гарадзенскім павеце, якое было нададзена Казіміру Пухальскаму. Аднак у часе судовага працэсу было выяўлена, што Канстанты Шылянскі ўжо даўно, пасля смерці Маклока, раней арандаваўшага гэтую веску ў пані Радзівілавай, ваяводзіны Віленскай, гетманавай ВКЛ, атрымаў гэтую вёску. У падцвярджэнне гэтага Канстанты Шылянскі

прадставіў і інвентар вескі, складзены Янам Бурбам, дваранінам скарбовым яшчэ 15 студзеня 1652 года. Патрэбна адзначыць, што настойлівасці ў Казіміра Пухальскага хапала: праз некаторы час, добра падрыхтаваўшыся, ён ізноў пачынае судовую справу супраць Шылянскага і, урэшце, дабіваецца спрыяльнага для сябе дэкрэта асэсарскага суда.

На нашу думку, Казіміру Пухальскаму быў, сапраўды, нададзены каралеўскі прывілей на падстольства Менскае, «вакуячае» (вакантнае), як тады пісалі ў прывілеях, пасля здрады Пятра Капашчэўскага, былога падстолія і падстарасты судовага Менскага. Справа была ў тым, што Пятра Капашчэўскага, як тысячы іншых прадстаўнікоў праваслаўнай беларускай шляхты, за пераход на бок «Масквы» і чынны ўдзел у вайне з каралеўскімі войскамі, аб'явілі здраднікам, пазбавілі ўсіх ранейшых урадаў і канфіскавалі ўсю маёмасць. Казімір Пухальскі, сакратар караля Рэчы Паспалітай, карыстаўся ўрадам падстолія Менскага і пасля таго, як расчараваная ў «вызваліцелях» праваслаўная шляхта зноў прысягнула ў вернасці свайму каралю. Пётр Капашчэўскі атрымаў свае менні, урады падстолія і падстарасты судовага гродскага Менскага. Верагодна, для паскарэння вяртання яму падобных было прынята рашэнне аб захаванні за былымі «здрайцамі» ранейшых урадаў і ўсёй маёмасці. Як вядома, Пётр Капашчэўскі аж да сярэдзіны 1663 года выконваў абавязкі падстарасты судовага Менскага (2), застаючыся падстоліем Менскім да самай сваёй смерці.

Што ж датычыцца самога Казіміра Пухальскага, то патрэбна прызнаць, што прывілей на ўрад падстолія Менскага ён атрымаў зусім не выпадкова, прычым, верагодна, і не прымаў у вайне з захопнікамі ніякага ўдзелу. У каралеўскім прывілеі ад 15 сакавіка 1658 года на ленныя добры Залескаўшчызна, размешчаныя ў Троцкім ваяводстве і нададзеныя Казіміру Пухальскаму пасля смерці Кершніцкага, запісана, што Казімір Пухальскі, «з маладых гадоў бавіў пры каралеўскім двары» (3), гэта значыць уваходзіў у каралеўскае акружэнне, займаючы вельмі адказную і ўплывовую пасаду — сакратара самога караля. У гэтым прывілеі Казімір Пухальскі яшчэ не мянуецца ні пісарам дэкрэтовым ВКЛ, ні падстоліям Менскім. Зразумела, што гэтыя ўрады Казімір Пухальскі атрымаў крыху пазней. У чэрвені 1664 года ў судзе асэсарскім разглядалася справа, узбуджаная Казімірам Пухальскім, сакратаром яго каралеўскай міласці Яна Казіміра са Станіславам Ліпніцкім, старастам Сейвенскім, з-за маетнасцяў Поцель і Таўрусы ў Гарадзенскім павеце, аддзеленых ад Сейвенскага староства (4), дзе ён мянуецца ўжо падстоліем Менскім. Такім чынам,

у Менскім ваяводстве на працягу значнага часу трымалі адзін і той жа ўрад два шляхціча. Патрэбна адзначыць, што для Вялікага княства гэта было звычайнай з'явай. Аднак, на гэты раз адначасовае трыманне ўрада Пятром Капашчэўскім і Казімірам Пухальскім не выклікала ніякіх судовых спрэчак паміж іх трымальнікамі. Вядома, што амаль адначасовае наданне каралеўскімі прывілеямі Давіду Міцкевічу і Станіславу Свірскаму падсудкоўства земскага Менскага прывяло да двухгадовага судовага працэсу паміж двума ўладальнікамі надзвычай даходнага ўрада.

Да 28 сакавіка 1665 года Казімір Пухальскі атрымаў урад пісара дэкрэтовага ВКЛ, і ўжо ў гэтай якасці ў 1670 годзе вядзе судовую справу з Янам Зверам, падчашым Берасцейскім, аб праве ўладання леннай маетнасцю каля Кобрына (5). Пачынаючы з лютага 1673 года зрэдку падпісвае дэкрэты каралеўскага суда ў якасці войскага Гарадзенскага павета. Цікава, што раней, у 1669—1670 гг., ніколі не ўжываў, пры подпісах пад дэкрэтамі, свайго былога ўрада — падстолія ваяводства Менскага. У поўным аб'ёме менаваўся і пісарам дэкрэтовым ВКЛ і падстоліем Менскім, толькі ў судовых дакументах, датычных яго маёмасных праў. Наогул, да урадаў, відаць, не адчуваў вялікай павагі, бо і войскім Гарадзенскім менаваў сябе разы ў гады. Трымаў, на 1678 год, войтаўства Шаўдоўскае, з якога меў някепскі прыбытак. Яго гаспадаранне ў войтаўстве часта выклікала скаргі жыхароў войтаўства на празмерныя павіннасці, накладзеныя на іх, нягледзячы, на старадаўнія прывілеі, якія абмяжоўвалі памёры павіннасцей.

Пачынаючы з 1676 года перастае падпісваць кожны дэкрэт асэсарскага суда. Замест яго дакументы, усё часцей і часцей, падпісваюць падканцлер ВКЛ або сакратар караля. Апошняя судовая справа, датычная Казіміра Пухальскага, пісара дэкрэтовага ВКЛ і войскага Гарадзенскага, разглядалася ў асэсарскім каралеўскім судзе 3 сакавіка 1679 года. У розныя інстанцыі ВКЛ трапіла некалькі скаргаў падданых ленных уладанняў Каменка і Струсы ў Гарадзенскім павеце, знаходзіліся ў трыманні Казіміра Пухальскага (6). Не сцярпеўшы цяжар новых павіннасцей і пабораў, уведзеных пісарам дэкрэтовым ВКЛ, падданыя, спасылаючыся на ранейшыя каралеўскія прывілеі, патрабавалі вярнуць адбыванне павіннасцей да ранейшых памераў. У выніку рашэння суда на падданых гэтых вёсак былў накладзены значны грашовы штраф, за невыкананне ўстаноўленных Пухальскім новых павіннасцей.

Верагодна, быў двойчы жанаты. Так, на 7 сакавіка 1659 года Казімір Пухальскі разам са сваёй жонкай Крыстынай Колычаўнай вядзе судо-

вую справу з Марцінам Якубавічам з Чэрні Чэрніцкім і Барбарай Славагораўнай, падстоліямі Падляскімі, за невяртанне ў тэрмін,раней атрыманай пазыкі (7). Пасля 1670 года Казімір Пухальскі ўсе судовыя справы вядзе ўжо разам з другой жонкай Тэадорай Юроўскай, якая жыла яшчэ ў 1698 годзе, калі яна змагла дабіцца баніцыі і вывалання на Антонія з Дзедзіч Гроўскага (8). У сваіх скаргах красамоўна апісвае злосныя ўчынкі Гроўскага, накіраваныя на згубу яго жыцця і здароў'я. Але калі паглядзець на гэтую справу з боку Гроўскага, усё выглядае, мякка кажучы, інакш. Як піша ў сваёй скарзе сам Антоні з Дзедзіч Гроўскі, Казімір Пухальскі, падстолі Менскі, учыніў жорсткі напад на яго сядзібу, літаральна знішчыўшы ўсе набыткі Гроўскага. У дадатак да ўсяго збіў жонку Антонія пані Барбару Сабанеўскую, «не шануючы яе шляхецкай і жаночай годнасці…» (9).

У дакументах Метрыкі, на 12 верасня 1668 года, упамінаюцца Пухальскія: Ганна, ў шлюбе за Уладзіславам Корсакам, стольнікам Вендэнскім, Ефрузына за Багданам Друцкім Сакалінскім і Леанора за Феліцыянам Ельскім. У асэсарскім судзе яны вялі і выйгралі судовы працэс з Казімірам і Стэфанам Валканоўскімі, спадчыннікамі ўсіх добраў, памёршага Аляксандра Караля Кунцэвіча (10).

У матэрыялах Метрыкі, за перыяд з 1683 і па 1689 год, сустракаюцца яшчэ рэдкія подпісы пад дэкрэтамі суда асэсарскага пісара дэкрэтовага ВКЛ Казіміра Пухальскага. аднак у подпісе амаль поўнасцю адсутнічае ўпамінанне аб трыманні Казімірам Пухальскім урада войскага Гарадзенскага. Апошняе ўпамінанне аб Казіміру Пухальскім дае дэкрэт каралеўскага асэсарскага суда ад 20 кастрычніка 1689 года. У гэтым дакуменце паведамляецца аб атрыманні Казімірам Пухальскім, войскім Гарадзенскім, пісарам дэкрэтовым ВКЛ, адпаведнага ліста з баніцыяй на Стэфана Граткоўскага, слугі якога напалі на маетнасці Пухальскага, збілі падданых, а некатарых і звезлі ў невядомым кірунку (11).

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 348, л. 418.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 34, л. 1639.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 131, л. 252.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 350, л. 302.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 360, л. 590.
6. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 364, л. 597.
7. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 347, л. 125.
8. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 149, л. 520.

9. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 533, л. 29
10. Там жа жа, кмф 18, воп. 1, с. 355, л. 623
11. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 391, л. 468.

## 11.12. Свірскі Станіслаў (? — 05.01.1665 -?)

Станіслаў Свірскі, былы пісар гродскі Менскі, потым падсудак земскі і, нарэшце, суддзя земскі Менскі, упамінаецца як падстолі Менскі ў дэкрэце каралеўскага асэсарскага суда 5 студзеня 1665 года (1). У гэтым дакуменце паведамляецца «ўсім, каму аб гэтым належыць ведаць...», аб наданні Тышкевічу сублевацыі (адтэрміноўкі) на баніцыю ад Станіслава Свірскага, падстолія Менскага, і яго жонкі Ганны Войшнараўны. На нашу думку, у гэтым дакуменце дапушчана пісарамі Трыбунала яўна памылка: толькі-толькі скончыўся працяглы судовы працэс паміж Станіславам Свірскім і Давыдам Міцкевічам з-за падсудкоўства земскага Менскага. Станіслаў Свірскі выйграў гэты працэс і наўрад ці мог менавацца падстоліем Менскім. Аднак, улічваючы абставіны надання ўрадаў у ВКЛ, мы не ставім кропку ў даследаванні гэтага пытання.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 133, л. 512.

## 12.12. Забускі Самуэл (? — 1664 — ?)

У нашым распараджэнні маецца толькі адна згадка пра трыманне Самуэлем Забускім урада падстолія Менскага. Знойдзена гэтае паведамленне ў Яна Пачобута Адляніцкага (1), вядомага ўдзельніка вайны 1648—1666 гадоў. У матэрыялах Менскага гродскага суда знаходзіцца дакумент, унесены ў акты праз паўстагоддзе пасля яго складання. Уладальнік 2-х дымоў у Новым Двары Менскага ваяводства Самуэл Забускі, скарбнік Троцкі, атрымаў квіт аб аплаце падымнога з гэтых дымоў (2). Сёння цяжка ўстанавіць, якая частка ранейшай маетнасці Пятра Дарагастайскага, ваяводы Смаленскага, аказалася ў руках Вацлава Горскага і яго жонкі. Аднак з пасаговых дакументаў вынікае, што Забускаму была запісана палова маетнасці Новы Двор — уласнасці Горскіх, харужыцаў Віленскіх. Так, 25 чэрвеня 1663 года па маетнасці Новы Двор праводзіцца інтамісія ад Самуэла Забускага па атрыманні паловы маетнасці па запісе ад Вацлава Горскага, харужыца Віленска-

га (3). Праз 13 год Крыстына Тышкевічаўна Вацлававая Горская, харужыцавая Віленская, пацвяржае правы Забускага на гэтую ж палову Новага Двара (4).

Для Менскага ваяводства Самуэл Забускі,  чалавек не чужы: да 1668 года ён уступіў у шлюб з пані Юстынай Горскай, дачкой Вацлава Горскага, харужыца Віленскага, і пані Крыстыны Тышкевічаўны, ваевадзянкі Менскай (5). Разам з Якубам Афрэмбушам, жанатым з пані Геленай Горскай, старэйшай дачкой Вацлава Горскага, дапамагаў удаве абараняцца ад хцівых суседзяў, убачыўшых пасля смерці харужыца Віленскага магчымасць атрымаць легкую здабычу. На маетнасць Горскіх Новы Двор, некалі належаўшую Пятру Дарагастайскаму, ваяводу Смаленскаму, а ад яго потым перайшоўшую ў рукі Марціна Валадковіча, суддзі земскага Менскага, рабілі набегі і Станіслаў Свірскі, падсудак Менскі, і прадстаўнікі сям'і Бародзічаў, урэшце, і Марцін Казімір Валадковіч, на той час гараднічы і падстараста судовы Менскі.

У рэестры дакументаў, датычных правоў уладання маетнасцю Новы Двор, унесеных у акты Менскага гродскага суда Тэрэзай з Булгарынаў Янавай Валадковічавай, падсудковічавай Менскай, у 1752 годзе, прозвішчы людзей, удзельнікаў падзей, не заўсёды прыводзяцца з пазначэннем урадаў, якія знаходзіліся ў іх трыманні. Толькі адзін раз, у загалоўку дакумента аб выніках судовага працэса ў Галаўным Трыбунале, узбуджанага Самуэлем Забускім супраць Станіслава Свірскага, падсудка земскага Менскага, за яго напад на Новы Двор 8 лютага 1668 года, пазначаны ўрад Забускага, на той час ён яшчэ трымаў урад скарбніка Троцкага (6). Дарэчы, патрабаванні Станіслава Свірскага былі прызнаны судом зусім справядлівымі, і Самуэлу Забускаму, скарбніку Троцкаму, прыйшлося выплаціць падсудку земскаму Менскага ваяводства даволі значную суму.

Крыніцы:

1. Paczobut Odlanicki Ian. «Pamktnik Iana Wiadysiawa (1640—1684)». Warszawa, 1877, s. 90.
2. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 11, л. 1275.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 12, лл. 88—89.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 12, л. 90.
5. Там жа, ф 319, воп. 2, с. 524, ч.1, лл.103—106.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 12, л. 89.

## 12.13. Кенсоўскі Ян (? — 05.06.1676 — 1686 — да 15.06.1693)

Прывілей на атрыманне ўрада падстолія ваяводства Менскага Янам Кенсоўскім ў матэрыялах Метрыкі, на жаль, не захаваўся. Матэрыялы, знойдзеныя ў розных фондах Нацыянальнага гістарычнага архіва Рэспублікі Беларусь, дазваляюць зрабіць дапушчэнне, што Ян Кенсоўскі атрымаў прывілей на гэты ўрад да 1676 года (1), адразу ж пасля смерці Пятра Капашчэўскага і трымаў яго аж да самай смерці, якая наступіла да 1694 года. Верагодна, што ўрад падстолія Менскага Ян Кенсоўскі мог атрымаць і пасля адыходу Казіміра Пухальскага з урада падстолія Менскага на ўрад войскага Гарадзенскага павета, што магло мець месца нават да 1673 года.

Ян Кенсоўскі, падстолі Менскі, сын Крыштофа і Барбары Каляндзянкі Кенсоўскіх, меў братоў: Багуслава, войскага Лідскага на 7 ліпеня 1662 года (2), жанатага з Барбарай Лімантавай, і Юр'я, стольніка Упіцкага. ¨сць падставы меркаваць, што ўсе браты прымалі самы актыўны ўдзел у войнах з казакамі і маскоўскімі войскамі. Так, Багуслаў Кенсоўскі, на 1662 год, таварыш харугвы гусарскай караля Польшчы, як адзначана ў прывілеі, шмат ваяваў з ворагамі Айчыны: быў з харугвамі Вялікага княства Літоўскага ў часе вайны з татарамі ў Валахіі, ваяваў з маскоўцамі ў Інфлянтах. Ян Кенсоўскі, будучы падстолі Менскі, доўгі час правеў у маскоўскіх турмах і вярнуўся дамоў толькі ў 1658 годзе. Па каралеўскім прывілеі, Яну Кенсоўскаму і яго жонцы пані Ефрузыне Завішанцы была нададзена на вечнасць маетнасць Іадканы ў Вількамірскім павеце Троцкага ваяводства, размешчаная каля Шапялевіч (3). Бацька Багуслава, Юр'я і Яна Кенсоўскіх, пан Крыштоф, памёр пасля 1653 года, а маці, пані Барбара Каляндзянка Крыштофавая Кенсоўская, жыла яшчэ ў 1666 годзе, калі, 2 ліпеня гэтага ж года, у Галаўным Трыбунале ВКЛ, разглядалася справа, узбуджаная пані Барбарай, аб атрыманні баніцыі на Яна Курча, харужага Лідскага з-за невяртання пазыкі (4).

Найбольш вядомы іх продак, Андрэй Кенсоўскі, уладальнік Гаян, што знаходзяцца ў Менскім ваяводстве, ажаніўся з удавой заснавальніка роду Тамковічаў Сялецкіх пані Гальшкай Ляўковічаўнай быўшай Касправай Тамковічавай Сялецкай. У пачатку 20-х гадоў XVII стагоддзя прыняў каталіцкае веравызнанне.

Ян Кенсоўскі, падстолі Менскі, апошні раз адзначаецца ў дакументах пад 1689 годам, калі быў пазваны ў Менскі гродскі суд ад Крыш-

тофа Шпілеўскага, скарбніка Рэчыцкага, за звод падданых з яго маетнасці ў Саламярэччы (5).

Ян, падстолі Менскі, і Багуслаў, войскі Лідскі, Кенсоўскія памёрлі, не пакінуўшы нашчадкаў. Іх землі перайшлі ў спадчыну пляменнікам, дзецям Юр'я Кенсоўскага, стольніка Упіцкага: Андрэю Ежы і Ежы Хілярыю, стольнікавічам Упіцкім. Андрэй Ежы ўзяў шлюб з Геленай Шылянскай, якая пасля смерці мужа, да 1 лютага 1745 года, паўторна ўступіла ў шлюб з Мікалаем Міласніцкім. Верагодна, у першым шлюбе Шылянскай з Андрэем Кенсоўскім не было нашчадкаў, бо маетнасць Бараўляны, атрыманая ад Андрэя Кенсоўскага, па яе тэстаменце ад 26 студзеня ( 6) 1752 года, была перададзеная сыну Станіславу Міласніцкаму, ротмістру Навагародскага ваяводства .

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 35, л. 868.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 132, л. 66.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 134, л. 11.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 457, л. 206.
5. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 36, л. 300.
6. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 33, л. 306.

## 12.14. Завіша Тамаш (1683 — да 1698)

Згодна з заўвагай А. Рахубы да рэестраў падымнога Навагародскага ваяводства ад 1690 года, Тамаш Завіша атрымаў прывілей на ўрад падстольства Менскага ў 1683 годзе і памёр толькі ў 1698 годзе (1), праз год пасля надання гэтага ўрада Даменіку Валадковічу. У тэксце прывілея Даменіку Валадковічу на ўрад падстолія Менскага даецца ўдакладненне, што ўрад падстолія Менскага нададзены яму «пасля смерці Яна Кенсоўскага». Такое ўдакладненне было абавязковым для такіх дакументаў, па якой прычыне, па наступстве смерці або дабраахвотным адыходзе з ураду (2) стаў вакантным гэты ваяводскі або павятовы ўрад.

На жаль, ніякіх звестак пра самога Тамаша Завішу ў Менскіх гродскіх і земскіх актавых кнігах намі не знойдзена. Аднак гэтыя звесткі адшукаліся ў матэрыялах судоў Ваўкавыскага павета, дзе Тамаш Завіша меў пастаянную аселасць. Некаторыя дакументы сведчаць аб дзейнасці самога падстолія Менскага. З матэрыялаў суда Ваўкавыскага павета ад 25 красавіка 1685 года стала вядома, што возныя павета Казімір Акольскі і Казімір Акунеўскі правялі інтрамісію па мает-

насці Крапіўніца, якая належала Рыгору з Казельска Агінскаму, чэсніку ВКЛ, для перадачы яе ў заставу на адзін год Тамашу Завішу, падстолію Менскаму, паручніку войскаў ВКЛ (3).

Некалькі дакументаў, што пралівалі святло на самога Тамаша Завішу і некаторыя моманты яго жыцця, нам пашчасціла знайсці ў кнігах Пінскага гродскага суда за 1664 год. Як аказалася, на 1664 год Тамаш Завіша быў паручнікам казацкай харугвы нядаўна памёршага Сапегі, крайчага ВКЛ. Сам Сапега, крайчы ВКЛ і ротмістр гэтай харугвы, мог і не быць у харугве, а паручнік увесь час знаходзіўся пры харугве, фактычна кіруючы гэтай вайсковай адзінкай ва ўсіх момантах яе баявога жыцця. У асноўным вайсковыя аперацыі адбываліся летам, таму зімой 1664 года казацкая харугва пад паручэнствам Тамаша Завішы знаходзілася на стацыі (зімоўцы) ў Моталі. Цэнтралізаванага забеспячэння харчаваннем і фуражом не існавала, і кожная харугва забяспечвала неабходным сама сябе, займаючыся рэквізіцыяй у суседніх сёлах. Як пісалі 18 красавіка 1666 года абрабаваныя аддзелам Завішы зямяне Пінскага павета, «Тамаш Завіша, паручнік харугвы казацкай, не бачачы на боязнь боскую і лёгка сябе разумеючы, правы і артыкулы вайсковыя парушаючы свавольна, сваю чэлядзь паслаў да Ломжына рабаваць набытак шляхецкі…» (4). Гэтак жа сама забяспечваліся неабходным і іншыя харугвы войска ВКЛ. Дарэчы, зямяне Пінскага павета скардзіліся і на Ярмаловіча, узначальваючага харугву самога гетмана ВКЛ Радзівіла.

Значная частка дакументаў з фонда суда Ваўкавыскага павета не магла датычыцца самога падстолія Менскага,бо, як можна зразумець, ён памёр даўно да 1748 года. Гэтыя дакументы былі звязаны з падзеямі, якія разгарнуліся вакол жонкі Тамаша Завішы, пані падстолінай Менскай Юдыты з Млоцкіх, і іх сына Паўла. Маетнасць Палонка, частка якой належала і Юдыце з Млоцкіх, была падзелена паміж шматлікімі прадстаўнікамі роду Млоцкіх. Непаразуменні з межамі выклікалі вострую варожасць паміж асобнымі прадстаўнікамі гэтай фаміліі. На 10 ліпеня 1748 года ў судах павета праходзіў чарговы працэс паміж Млоцкімі і пані Юдытай і Паўлам Завішамі, падстолінай і падстолічам Менскімі (5). Верагодна, што ў гэтай сям'і была яшчэ і дачка Даміцэля, уступіўшая ў шлюб з панам Янам Млоцкім, чэснікам Ваўкавыскім. 17 студзеня 1748 года на паседжанні Ваўкавыскага гродскага суда дачка і зяць патрабавалі ад пані падстолінай і падстоліча Менскіх аддання раней абумоўленных пасаговых сум і завяршэння межавання грунтоў, атрыманых згодна са шлюбным кантрактам (6). Невядома, з чым гэта было звязана: з асаблівасцямі характару самой

падстоліны Менскай або з прэтэнзіямі суседзяў на яе землі, але суды з удзелам пані Юдыты з Млоцкіх Завішынай, падстолінай Менскай, цягнуліся чарадой, адзін за другім. Праз тры дні, менавіта 20 студзеня гэтага ж 1748 года, у Ваўкавыску пачаўся новы суд. Юдыта з Млоцкіх Завішына пазвала ў суд двух маладых шляхцічаў: Паўла Івашкевіча, падстоліча Троцкага, і Даніела Алендскага, стражнікавіча Ваўкавыскага. Аказалася, што гэтыя маладыя людзі, будучы ў добрым падпітку з нагоды вяселля, перапынілі яе падчас вяртання з Палонкі ў яе ўласную вёску Крапіўніца. Здавалася б прыстойныя людзі перапынілі яе на дарозе каля вёскі Хрусты і завярнулі яе падводы, нібы для ўдзелу ў вяселлі, у вёску. Аднак, калі толькі пані падстоліна выйшла з свайго вазка, усё момантам змянілася. Шляхцічы пачалі здзекавацца са старой жанчыны, знялі яе кажух, адабралі грошы, пагражалі забойствам і, нарэшце, без верхняй цёплай вопраткі выгналі на мароз (7).

Крыніцы:
1. «Рэестр падымнога Навагародскага ваяводства...», л. 187.
2. НГАБ. КМФ 18. воп. 1, с. 149, л. 127.
3. Там жа, ф 1710, воп. 1, с. 3, л. 112.
4. Там жа, ф 1733, воп. 1, с. 3, л. 281.
5. Там жа, ф 1710, воп. 1, с. 41, л. 524.
6. Там жа, ф 1710, воп. 1, с. 41, лл. 2—3.
7. Там жа, ф 1710, воп. 1, с. 41, л. 3.

## 12.15. Толкач Міхал з Гаян (да 15.06.1693 — ?)

Падстольства Менскае Міхал з Гаян Толкач атрымаў па каралеўскім прывілеі, падпісаным у чэрвені 1693 года (1) пасля смерці Яна Кенсоўскага. Вядома, што і ў Дамініка Валадковіча, атрымаўшага прывілей на падстольства Менскае ў 1697 годзе, прычынай надання ўрада была таксама пазначана смерць Яна Кенсоўскага. Гэта дае нам магчымасць лічыць, што Міхал з Гаян Толкач, па нейкіх прычынах урад падстолія Менскага не прыняў. Адзінай прычынай, па нашых меркаваннях, адмовы ад такога ўрада як падстольства Менскае, магло быць атрыманне іншага ўрада, больш высокага, чым урад падстолія. Такім урадам магло быць стольнікоўства Мозырскае, якое, на красавік 1680 года, трымаў Казімір Толкач, дзядзька Міхала Толкача з Гаян. Сам Казімір Толкач, стольнік Мозырскі, памёр да 1693 года. Верагодна, на гэты час, з

урада стольнікоўства Мозырскага адышоў Вацлаў Паломскі, паручнік харугвы панцэрнай, атрымаўшы гэты ўрад па прывілеі ад 20 студзеня 1692 года пасля пераходу Пятра Катоўскага на падкаморства Мозырскае (2). У матэрыялах судовых спраў, змешчаных у актавых кнігах Менскага гродскага суда, па справе застаўнага трымання маетнасцяў Ловішча і Лотвяны Мікалаем Азямблоўскім, падстоліем Гарадзенскім, падцвярджаецца трыманне Міхалам Толкачам урада стольніка Мозырскага (3). Сам Міхал Толкач з Гаян, які, дарэчы, на 1680 год трымаў урад чэсніка Хельмскага (4), нядоўга пражыў пасля атрымання ўрада стольніка: як паказваюць матэрыялы Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, ужо на 20 красавіка 1696 года стольнікаўства Мозырскае атрымаў Станіслаў Ліпніцкі пасля адыходу з гэтага ўрада Самуэла Ельскага (5). Зразумела, што наша спроба рэканструкцыі абставін жыцця Міхала з Гаян Толькача можа аказацца мыльнай. Магло быць і так, што прывілеі на ўрад стольнікаўства Мозырскага надаваліся некалькім асобам адначасова.

Вялікае сяброўства меў з Мікалаем Азямблоўскім, падстоліем Гарадзенскім. Супольна купілі сенажаць у Казіміра Толкача, стольніка Мозырскага, дзядзькі Міхала і, відаць, доўгі час карысталіся ёю. Аднак дзеці іх не мелі паміж сабой такіх прыязных адносінаў, як у бацькоў і таму яшчэ ў 1720 годзе нашчадкі сяброў працягвалі судовую спрэчку па падзеле гэтай сенажаці, пачатую пасля смерці Міхала Толкача і Мікалая Азямблоўскага.

Міхал Толкач з Гаян, стольнік Мозырскі, сын Пятра Толкача і пані Крыстыны Лучыновічаўны Пятровай Толкачавай, быў жанаты з Кацярынай з Скаржэвай Скаржэўскай, з якой меў сыноў: Барталамея, Казіміра, Антонія, Тэадора, Аляксандра і Францыска. Аляксандр і Францыск яшчэ былі жывыя ў 1719 годзе, калі былі пазваны ў Менскі гродскі суд Антоніем Азямблоўскім, станаўнічым войск ВКЛ, сынам Мікалая Азямблоўскага, падстолія Гарадзенскага, па падзеле, згаданай вышэй сенажаці (6).

З паноў Толкачаў вядомы браты Міхала Толкача, стольніка Мозырскага, Фларыян і Ян.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 146, л. 698.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 145, л. 9.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 7, л. 1643.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 8, л. 1415.

5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 145, л. 399.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 7, л. 1643; с. 39, л. 387.

## 12.16. Ваньковіч Ян Стэфанавіч (? — ?)

Звестак пра Яна Ваньковіча ў земскіх і гродскіх актавых кнігах Менскага ваяводства, як і ў матэрыялах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, намі знойдзена вельмі мала. Зусім адсутнічаюць паведамленні аб трыманні ім урада падстолія Менскага. Аднак многія даследчыкі ўпэўнена пішуць пра трыманне ім урада падстольства Менскага. Можна меркаваць, што калі Ян Ваньковіч і атрымаў прывілей на ўрад падстолія Менскага, то гэта магло быць толькі пасля адмовы ад гэтага ўрада Міхала Толкача з Гаян, ды і сам Ян Ваньковіч хутка адмовіўся ад урада. Цікава, што А. Рахуба, старанна даследаваўшы гэтае пытанне, лічыць, што Ян Ваньковіч яшчэ на 4 лістапада 1692 года сапраўды займаў урад падстолія, але не Менскага, а Вендэнскага ваяводства. Менаваўся падстоліем Вендэнскім да 22 лютага 1702 года, калі атрымаў прывілей на харуства Вендэнскае (1).

Тэадор Жыхлінскі паведамляе, што жонкай Яна Ваньковіча, які жыў у апошняй чвэрці XVII стагоддзя, была Зося Храпавіцкая — дачка Тамаша Храпавіцкага (2). А. Рахуба, не прыводзячы даты, мянуе жонкай Яна Стэфанавіча Ваньковіча, падчашага Вількамірскага на 29 верасня 1677 года, пані Тэклю Толкачаўну (3). А. П. Грыцкевіч, аўтар апісання генеалогіі Ваньковічаў у «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (т. 2, л. 219), мянуючы Яна Ваньковіча падстоліем Менскім, прыводзіць яго прозвішча перад Уладзіславам Ваньковічам, суддзёй земскім, а потым войскім Менскім, памёршым да 1695 года.

Згодна са знойдзенымі намі матэрыяламі, Ян Ваньковіч быў сынам Стэфана Ваньковіча, вайсковіча Менскага, і ўнукам Адама Ваньковіча, войскага Менскага. Па жаночай лініі быў у радстве з Валадковічамі: яго прабабка, Настасся Валадковічаўна Станіслававая Дуброўская была дачкой самога Марціна Валадковіча, які з 1570 і да 1593 года трымаў урад суддзі земскага Менскага.

Звяртаючыся да асобы бацькі Яна Ваньковіча — Стэфана Адамавіча, вайсковіча Менскага, не можам пагадзіцца са сцвярджэннем А. Рахубы аб тым, што Стэфан Ваньковіч, на 10 ліпеня 1659 года суддзя гродскі Вількамірскі, а на 20 жніўня 1660 і падстараста судовы гэтага ж павета, жыў яшчэ ў 1670 годзе. Згодна з А. Рахубам, Стэфан Ваньковіч на 14 студзеня 1670 года быў ужо войскім Менскім і памёр

у 1676 годзе (4). Згодна ж з нашымі звесткамі, Стэфан Ваньковіч памёр да 1664 года, а яго жонка да гэтага 1664 года ўступіла ў паўторны шлюб са Станіславам Пузакевічам і, якраз у гэтым годзе разам з новым мужам і сваімі дочкамі ўдзельнічала ў судовым працэсе. Улічваючы гэтыя абставіны, наўрад ці трымаў Стэфан Адамавіч Ваньковіч і ўрад падстарасты Вількамірскага павета, не гаворачы ўжо аб трыманні ўрада войскага Менскага. Пачынаючы з канца 1664 года Станіслаў Пузакевіч са сваёй жонкай і Ян Ваньковіч ад імя сваіх сясцёр, Элеаноры Міхалавай з Багдана Тавянскай, чэснікавай Вількамірскай, і Ефрузыны Якубавай Канстантавай Памарнацкай, канюшынай Вількамірскай, праз суды дабіваліся вяртання даволі вялікай пазыкі, зробленнай Вацлавам Горскім, харужыцам Віленскім, у Стэфана Ваньковіча яшчэ ў 1654 годзе. Усе магчымыя тэрміны вяртання пазыкі даўно прайшлі, нарэшце памёрлі і Стэфан Ваньковіч і Вацлаў Горскі. Сама пазыка была забяспечана коштам маетнасці Новы Двор, які знаходзіўся ў трыманні спадчыннікаў памёршага Вацлава Горскага: яго жонкі Крыстыны Тышкевічаўны, ваевадзянкі Менскай Вацлававай Горскай, харужыцавай Віленскай, і яе дачок і зяцёў. Старэйшая яё дачка Гелена ўступіла ў шлюб з Якубам Афрэмбушам, Юстына пашлюбіла Самуэла Забускага, скарбніка Троцкага, самая малодшая, Леанора, яшчэ не была замужам. Гады судовых працэсаў прынеслі толькі выдаткі, але не далі поспеху. Адчуваючы, што прыйдзецца расквітацца з маетнасцю Новы Двор, пані Крыстына Тышкевічаўна Вацлававая Горская, харужыцавая Віленская, у 1668 годзе прадае яе Марціну Казіміру Валадковічу, гараднічаму і падстарасцу судоваму Менскаму. Цвяроза ацэнваючы сітуацыю і ўлічваючы немагчымасць далейшага змагання за вяртанне бацькавых грошай, Ян Ванковіч перадае 29 снежня 1672 года ўсе правы па вяртанні грошай мужу сваёй сястры Элеаноры, пану Міхалу з Багдана Тавянскаму, яшчэ на гэты час — чэсніку Вількамірскаму (5). Як паведамляе А. Рахуба, Ян Жыгмунт Стэфанавіч Ваньковіч, якраз у гэты перыяд падчашы Вількамірскі, на 16 ліпеня 1678 года ляжаў цяжка паранены. Магчыма, што гэтае раненне было вынікам, як цяпер кажуць, крымінальных разборак з-за правоў уладання Новым Дваром (6).

Вядома, што Элеанора Ваньковічоўна Міхалавая Тавянская, чэснікавая Вількамірская, памёрла да 1688 года, бо якраз у гэтым годзе Міхал з Багдана Тавянскі, ужо войскі Вількамірскі, у судовых працэсах выступае з новай жонкай пані Ганнай Зосяй Рыхтэраўнай (у першым шлюбе Марцінавая Каштэлавая, у другім — Ежыная Бенетавая,

у трэцім — Войцэхавая Качынская, стольнікавая Драгіцкая) (7).

Крыніцы:
1. «Ураднікі Інфлянцкія..», № 922.
2. Жыхлінскі Тэадор, штогоднік 5, л. 28.
3. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 3374, л. 450.
4. Там жа, № 3504, л. 464.
5. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 12, лл. 87–90.
6. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 3374, л. 450.
7. Там жа, № 3910, л. 510.

## 12.17. Ваўрэцкі Уладзіслаў Казімір з Скрэтушава (? — 13.07.1673 — 04.06.1694 — ?)

Уладзіслаў Казімір Ваўрэцкі, на ліпень 1673 года пісар гродскі Браслаўскі, а потым, на 9 жніўня 1694 год, суддзя гродскі Браслаўскі (1), пачынаючы з 1673 года мянуецца і падстоліем Менскім. Першае ўпамінанне Уладзіслава Ваўрэцкага, пісара гродскага Браслаўскага, у якасці падстолія Менскага датычыцца яго судовай справы з Феліксам Пацам, падкаморыем ВКЛ, і яго жонкай Ганнай Іаннай Жыберкаўнай Феліксавай Пацавай, падкаморынай ВКЛ. Фелікс Пац, падкаморы ВКЛ, атрымаўшы ў пажыццёвае трыманне староства Даўгялішскае, пачаў вяртаць да староства землі, якія раней уваходзілі ў склад староства, але, па розных прычынах, аказаліся ў розных гаспадароў. Карыстаючыся інвентарамі староства часоў Стэфана Баторыя, Фелікс Пац, падкаморы ВКЛ, пазваў у суд усіх памежных зямян. Справа нарэшце дайшла да Уладзіслава і Яраша Ваўрэцкіх. Першапачаткова ваенныя дзеянні паміж бакамі, уцягнутымі ў судовую справу, ішлі вяла: Ваўрэцкім возныя дастаўлялі позвы ў суды, а яны, як правіла, у суд не з'яўляліся. Але, як толькі Фелікс Пац, атрымаўшы ў асэсарскім задворным судзе адпаведныя лісты, перайшоў да правядзення новых межаў, сітуацыя змянілася. Варэцкія пачалі рыхтавацца да вядзення сапраўднай лакальнай вайны. Былі ўзброены косамі і віламі падданыя сяляне, прыведзена ў стан вайсковай гатоўнасці наяўная чэлядзь, нарэшце, да справы была прыцягнута і вайсковая харугва пад началам Залескага. Як толькі каралеўскія камісары, разам з Ежы Здановічам, каморнікам Браслаўскага павета, 14 ліпеня 1673 года выйшлі ў поле для правядзення новых межаў, значна памяншаючых уладанні Ваўрэцкіх, загадзя падрыхтаваныя сяляне, чэлядзь і вайс-

ковая харугва Залескага прыступілі да іх разгону. Самога каморніка збілі на горкі яблык, паламалі ўсё начынне. Яраш Ваўрэцкі збіў асабіста канчукамі зямяніна Даўгялішскага Якуба Гарошыча і слугу самога Фелікса Паца Крыштофа Тварыяновіча. Пазваныя ў суд Ваўрэцкія змаглі, з дапамогай захаваўшыхся дакументаў, растлумачыць беспадстаўнасць дамаганняў Фелікса Паца. У выніку каралеўскі суд даў дазвол на правядзенне палюбоўнага суда, дзе ўдзельнікі судовай справы былі прадстаўлены роўным лікам давераных асобаў (2).

Звесткі аб намінацыі на ўрад падстолія Менскага ў матэрыялах Метрыкі Вялікага княства адсутнічаюць.

Уладзіслаў Ваўрэцкі, падстолі Менскі, нарадзіўся ў сям і Аўгустына Ваўрэцкага, падчашага Менскага, і Гелены Нарушэвічаўны, жывых яшчэ на 28 жніўня 1666 года (3). Акрамя Уладзіслава ў Аўгустына і Гелены Ваўрэцкіх, падчашых Менскіх, быў яшчэ адзін сын Яраш Аляксандр Ваўрэцкі, які займаў урад, спачатку пісара земскага Браслаўскага, а на 1691 год і суддзі земскага гэтага ж павета (4).

Уладзіслаў Ваўрэцкі, падстолі Менскі, пісар гродскі Браслаўскі, уступіў у шлюб з Марыянай з Кастравіцкіх, мечнікаўнай Лідскай, дачкой Даніела Кастравіцкага, мечнага Лідскага на 1666—1675 гады, і Аўдоцці Сафроновічоўны (5). Адносіны Уладзіслава Ваўрэцкага і яго жонкі да радні былі не самымі прыязнымі. Як вынікае з дэкрэта задворнага асэсарскага суда ад 15 сакавіка 1688 года, Уладзіслаў Ваўрэцкі, падстолі Менскі, суддзя гродскі Браслаўскі, і Марыяна Кастравіцкая Уладзіслававая Ваўрэцкая, судзіна гродская Браслаўская, дабіваліся вынясення баніцыі на пані Марыяну Канстанцыю Бжэзінскую, удаву па Габрыелю Кастравіцкім, мечным Лідскім, з-за маетнасці Вавёрка ў Лідскім павеце (6).

Вядомы імёны сына і дачкі Уладзіслава Казіміра Ваўрэцкага, падстолія Менскага. Ян Юзэф Ваўрэцкі, судзіч гродскі Браслаўскі, атрымаў 13 чэрвеня 1708 года прывілей на крайчага Браслаўскага. А.Рахуба даводзіць, што хутчэй за ўсё Ян Юзэф Ваўрэцкі, крайчы Браслаўскі, займаў гэты ж урад яшчэ ў 1742 годзе (7). Дачка Уладзіслава Ваўрэцкага, суддзі гродскага Браслаўскага, — пані Марцыбела Ваўрэцкая, падсталянка Менская, уступіла ў шлюб з панам Паўлам Антоніем з Самсонаў Падбярэзскім, падстоліем Браслаўскім на 15 красавіка 1710 года (8).

Вядома, што Уладзіслаў Казімір Ваўрэцкі, падстолі Менскі, суддзя гродскі Браслаўскі, жыў яшчэ ў 1694 годзе. У гэтым годзе ён быў абраны шляхтай павета ў склад Галаўнога Трыбунала, дзе і засядаў пры дырэктару Трыбунальскага кола пану Яну Уладзіславу Укольскім, пад-

каморым Троцкім (9). Памёр Уладзіслаў Ваўрэцкі, падстолі Менскі, суддзя гродскі Браслаўскі, у 1701 годзе.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 521, л. 318.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 369, л. 6.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 355, л. 171.
4. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 4, л. 442.
5. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 4252, л. 547.
6. НГАБ. КМФ 18, воп.1, с. 382, л. 630.
7. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 4106, л. 531.
8. Там жа, № 4454, л. 574.
9. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 521, л. 318.

## 12.18. Кастравіцкі Антоні (09.07.1695 — ?)

Прывілей на падстольства Менскае Антонію Кастравіцкаму, будучаму войту Менскаму, быў нададзены першы раз 9 ліпеня 1695 года (1). У прывілеі было адзначана, што надаецца ўрад Кастравіцкаму «post fata» (пасля смерці) Яна Кенсоўскага, «калі ўрад да дыспазыцыі нашай трапіў». Аднак Антоні Кастравіцкі, па нейкіх прычынах, адмовіўся ад урада і не прыняў яго. Прайшло амаль чвэрць века, пакуль Антоні Кастравіцкі зноў вырашыў патурбаваць вялікакняскую канцылярыю для атрымання падстольства Менскага, стаўшага вакантным па адыходзе на стольнікоўства Менскае Даменіка Валадковіча. Аб атрыманні ўрада падстолія Антоніем Кастравіцкім у 1718 годзе глядзіце адпаведны артыкул у гэтым жа раздзеле.
Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 145, л. 373.

## 12.19. Станкевіч Казімір Караль (? — 20.08.1695 — ?)

Як паведамляюць дакументы асэсарскага задворнага суда ў Вільні, 20 жніўня 1695 года Галаўны Трыбунал княства вынес дэкрэт аб дачаснай баніцыі на пана Казіміра Караля Станкевіча, падстолія Менскага, і яго жонку Ефрузыну Вазгірдаўну. Справа была ўзбуджана Юзэфам Міхалам Гарадзецкім, падстарастам Геранонскім, і для канчатковага вырашэння была перададзеная на разгляд у асэсарскі суд дзе, 6 ка-

стрычніка гэтага ж года і быў вынесены дэкрэт суда аб зацвярджэнні Казіміра Караля Станкевіча і яго жонкі банітамі (1). Нам падаецца, што Казімір Караль Станкевіч мог быць адным з многіх нашчадкаў былога мастаўнічага і старасты судовага Менскага Андрэя Мікалаевіча Станкевіча, пражываючых у межах Менскага ваяводства. Як вынікае з дакумента, унесенага ў Аршанскія земскія акты 2 красавіка 1744 годзе, Уладзіслаў Станкевіч, старасціч судовы Менскі, пакінуў трох сыноў: Аляксандра, беспатомнага, Андрэя і Яна. Унукам Андрэя быў Казімір Станкевіч, сын Гіероніма (2). Магчыма, што гэты Казімір Станкевіч і быў падстоліем Менскім.

Прыкладна, у гэты час у межах Вялікага княства, асабліва ў Ковенскім, Упіцкім і Вількамірскім паветах, пражывала некалькі Казіміраў Станкевічаў. Несумненна, што нашу ўвагу прыцягнуў, па-першае, Стэфан Казімір Станкевіч, падстолі Вількамірскі, які атрымаў свой урад не раней пачатку 1666 года і трымаўшага яго да сярэдзіны 70-х гадоў XVI стагоддзя. Праўда, А. Рахуба даводзіць, што Стэфан Казімір Станкевіч, атрымаўшы 2 лютага 1676 года прывілей на цівунства Гондынскае, памёр каля 1685 года (3) і таму наўрад ці можа лічыцца кандыдатам на падстольства Менскае. Несумненна, што і ў гэтым выпадку мы павінны лічыцца з магчымасцю звычайнай пісарскай памылкі. Наступнік Стэфана Казіміра Станкевіча на ўрадзе, пан Крыштоф Гінейт Тавянскі падпісваў свае дакументы, у якасці падстолія Вількамірскага ўжо на 1 ліпеня 1675 года (4).

Яшчэ адзін Стэфан Казімір Станкевіч, цівун Біржанскі, абараняючы інтарэсы пані Канстанцыі Бжастоўскай, якая была ў яго апецы, прыцягнуў да адказнасці ў Менскім гродскім судзе пані Марыяну Доўбараўну Станіслававую Дабкевічавую і Станіслава Гедройца, мечнага Пінскага. Справа слухалася 10 ліпеня 1692 года (5), і зразумела, што гэта быў ужо іншы чалавек.

У межах Ашмянскага павета пражываў пан Тэадор Казімір Станкевіч, чэснік Ашмянскі на 1680 і 1699 гады. Як падае А. Рахуба, 22 жніўня 1699 года займеў намінацыю на падсудкоўства Менскае, але не ўтрымаўся на гэтым урадзе. Па нашых звестках, гэты ўрад, ужо не менш чым два гады трымаў СтэфанВаладковіч, былы гараднічы Менскі. Тэадор Казімір Станкевіч, чэснік Ашмянскі, памёр 19 верасня 1701 года (6).

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 392, л. 156.

2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 30, л. 464—466.

3. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 3530, 467.

4. Там жа, № 3531, л. 467.
5. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 17, л. 234.
6. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», №1280, л. 218.

## 12.20. Шадурскі Якаб (? — ?)

Пра трыманне Якабам Шадурскім урада падстолія Менскага згадка змешчана ў дакуменце, унесеным 14 мая 1774 года ў акты Менскага земскага суда (1). Даніел Шадурскі, ротмістр войскаў ВКЛ, згодна з яго тлумачэннем, сын нядаўна памёршага Якуба Шадурскага, падстолія Менскага, вызваў вознага Менскага ваяводства Адама Казарына для правядзення інтрамісіі (увядзення ў правы валодання) па спадчыннай маетнасці Задарожжа, размешчанай у Менскім ваяводстве. Сама інтрамісія была праведзена возным Менскім 12 мая гэтага ж года, а складзены акт аб ёй унесены ў актавыя кнігі земскага суда Менскага ваяводства. Даніел Шадурскі, ротмістр войскаў ВКЛ, тлумачыў, што маетнасць засталася Якабу Шадурскаму яшчэ ў 1729 годзе і яе атрыманне падстоліем Менскім тады ж было прызнана ў Галаўным Трыбунале ВКЛ. Яшчэ пры першым знаёмстве даследчыкаў з гэтым дакументам ён быў прызнаны сумнеўным, аб чым і было пазначана ў верхняй частцы аркуша. Мы паспрабавалі праверыць, а ці быў калі-небудзь такі чалавек Якаб Шадурскі і з такім урадам. Пасля праверкі аказалася, што дакумент быў сапраўдным, але ў яго тэксце, па віне самога Даніела Шадурскага, былі дапушчаны памалкі.

Згодна з паведамленнем А. Рахубы, сапраўды існаваў Якаб Станіслаў Шадурскі, які атрымаў каралеўскі аванс на стольнікаўства Інфлянцкае 2 жніўня 1695 года (2). Прычым стольнікаўства Інфлянцкае атрымаў пасля працяглага трымання ўрада скарбніка Інфлянцкага. Адсюль вынікае, што Якаб Шадурскі ніколі не трымаў урада падстолія — ні Інфлянцкага, ні якога-небудзь іншага павета або ваяводства. Памёр Якаб Шадурскі, стольнік 1нфлянцкі, 19 лістапада 1718 года (3) і, такім чынам, не мог перадаць Даніелу Шадурскаму гэтую маетнасць. Нясецкі прыводзіць імёны дзяцей Якаба Шадурскага — сыны: Антоні, гараднічы Інфлянцкі, Ян Францыск, падстолі Інфлянцкі, Бенедыкт і дачка — Петранэла (4). Зразумела, што Даніел у лік сыноў Якаба Станіслава Шадурскага не ўваходзіць. А вось Ян Францыск Шадурскі, старэйшы сын Якаба Станіслава, сапраўды атрымаў каралеўскі прывілей на падстольства Інфлянцае 17 чэрвеня 1713 года, добраахвотна пакінуўшы свой урад лоўчага Інфлянцкага (5). Вось гэты чалавек мог быць ула-

дальнікам Задарожжа, бо адмовіўся ад падстольства Інфлянцкага каля 12 лістапада 1748 года. Такім чынам прыходзіцца прызнаць, што не толькі Якаб Станіслаў Шадурскі, але і ніхто іншы з гэтага роду не трымаў урад падстолія Менскага.

Часта ў кнігах па гісторыі нашай краіны можна сустрэць заўвагу аб тым, што ў мінулым кожны шляхціч павінен быў добра ведаць імёны сваіх продкаў і іх слаўныя справы. Як гэта было ў сапраўднасці, мы можам давесці наступным паведамленнем, узятым намі з тэстамента самога пана Даніела Шадурскага, складзенага ім 2 лютага 1785 года. Даніел Шадурскі, ротмістр войскаў ВКЛ, паміраючы, перадаў дзедзічны фальварак Задарожжа сынам Міхалу, Лявону і Тамашу. Перад смерцю Даніел Шадурскі просіць сваіх сыноў берагчы спадчыну, атрыманую ім ад бацькі — Якуба Шадурскага, мянуючы яго на гэты раз падстоліем Навагародскага ваяводства (6).

Між іншым, Шадурскія мелі маетнасці ў межах Менскага ваяводства. Так, 8 красавіка 1715 года быў складзены дакумент аб продажы Каралем Шадурскім пану Андрэю Красоўскаму маетнасці Балоча, размешчана у межах Менскага павета і набытай Шадурскім яшчэ ў 1696 годзе (7). Аднак у попісу патрыётаў Менскага ваяводства, складзеным 8 кастрычніка 1765 года, імёны і прозвішча нашчадкаў Якаба Шадурскага не ўпамінаюцца. У матэрыялах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага пад 1766 годам упамінаецца Ігнацы Шадурскі, стольнік Інфлянцкі (8). Нагул, Шадурскія на працягу XVII—XVIII стагоддзяў былі цесна звязаны з Інфлянтамі, і толькі некаторыя з іх трымалі ўрады іншых ваяводстваў і паветаў княства Так, Адам Мікалай Шадурскі, на 30 красавіка 1712 года, быў мечным Віленскім (9), а Марцін Шадурскі. у перыяд з 2 верасня 1717 года і па жнівень 1735 года, быў крайчым Віленскім (10).

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1769, воп. 1, с. 6, л. 1094.
2. «Ураднікі Інфлянцкія...», т.IX, № 1626, л.156.
3. Там жа, № 1698, л. 160.
4. Нясецкі, т. 8, л. 593.
5. «Ураднікі Інфлянцкія...», № 1567, л. 150.
6. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с.28, л. 105.
7. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 9, л. 1091.
8. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 189, л. 42.
9. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 482, л. 122.
10. Там жа, № 527, л. 127.

## 12. 21. Залескі Аляксандр (? — 1700 — ?)

Згадка пра трыманне Аляксандрам Залескім урада падстолія Менскага ў 1700 годзе ўзята намі з апрацаваных і выданых А. Рахубам рэестраў падымнога Віленскага ваяводства за 1690 год (1). Згодна з матэрыяламі рэестраў, у 1695 годзе трымаў у Любянцы і Сіняўцы, што ў Ашмянскай парафіі, 2 службы. У 1700 годзе ў часе бітвы пад Алькенікамі з войскамі Яна Казіміра Сапегі, гетмана ВКЛ, ваяводы Віленскага, і яго прыхільнікаў, менаваў сябе падстоліем Менскім. У той жа час нам вядома, што з 1697 года гэтым урадам па каралеўскім прывілеі карыстаўся Дамінік Валадковіч. У нас няма поўнай упэўненнасці, што Аляксандр Залескі сапраўды меў нейкія дачыненні да трымання ўрада падстолія Менскага.

Крыніцы:

1. «Рэестр падымнога ваяводства Віленскага...», л. 170.

## 12.22. Валадковіч Дамінік Алойзы (03.10.1697 — да 07.01.1716)

Дамінік Алойзы Валадковіч, сын Марціна Казіміра Валадковіча, пісара земскага Менскага, і Гелены Кастравіцкай, атрымаў урад падстолія Менскага 3 кастрычніка 1697 года, «пасля смерці Яна Кенсоўскага», як сказана ў каралеўскім прывілеі (1).

Жанаты з Тэрэзай з Янішэўскіх, пісараўнай гродскай Менскай, дачкой Адама Янішэўскага, пісара гродскага Менскага, з якой меў шасцёра сыноў: Феліцыяна Філіпа, мітрапаліта ўсяе Русі, уладыку уніяцкай царквы ВКЛ, Яна Станіслава, крайчага Менскага, Лявона Паўла, войскага і палкоўніка Менскага, Пятра Станіслава і Антоні Лявона, уступіўшых у кляштары закону святога Дамініка ў Менску і Навагародку і, нарэшце, малодшага — Марціна, па чарзе: войскага Старадубаўскага, суддзю гродскага, скарбніка, гараднічага і стольніка Менскага. Акрамя сыноў меліся яшчэ і тры дачкі: Марыяна, (у некаторых дакументах — Эмерцыяна) спярша за Станіслававам Ратамскім, а потым за Сулкоўскім, падстоліем зямлі Драгіцкай, Ганна за Антоніем з Ратна Крукоўскім, падчашым Аршанскім, і Францыска ў свеце, а ў законе святога Францыска Тэафілія (былая некаторы час нават старэйшай Менскага кляштару гэтага ордэна).

Вялікія сацыяльна-эканамічныя ўзрушэнні, якія ахапілі тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага ў канцы XVII — пачатку XVIII ста-

годдзя і былі вынікам грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі чужых войскаў у межы княства, прынеслі жыхарам княства смерць і разбурэнне, аднак для самога Дамініка Валадковіча гэты час аказаўся перыядам росту асабістага багацця. Карыстаючыся сваімі сувязямі з рознымі кіраўнічымі кланамі ВКЛ і прыязнымі стасункамі з кіраўніцтвам войскаў Пятра І ў Беларусі, Дамінік Валадковіч атрымліваў буйныя кантракты на пастаўку правіянта і фуражу расейскім войскам, маючы ад гэтага вялікі прыбытак. На 1710—1711 гады займаў урад адміністратара Менскага ваяводства і з гэтай пасады адказваў за збор падаткаў (пабораў на войска, устаноўленых соймам РП) у межах Менскага павета. Справа даходзіла да таго, што многія ўладальнікі маетнасцяў у сваіх скаргах адкрыта абвінавачвалі Дамініка Валадковіча ў празмерных паборах з іх маетнасцяў (2). У той жа час маетнасці Дамініка Валадковіча мелі ахоўныя граматы ад гетмана ВКЛ, і войскі княства не рабілі, у адрозненне ад маетнасцяў іншых уладальнікаў, у яго ўладаннях прымусовых рэквізіцый на свае патрэбы. Памёр Дамінік Валадковіч у жніўні 1731 года. Літаральна праз месяц памёр яго сын Ян Станіслаў Валадковіч, крайчы Менскі, яшчэ праз два месяцы і жонка Яна Станіслава — пані Барбара з Ліндэманаў Янавая Станіслававая Валадковічавая, крайчыня Менская. Праз некалькі гадоў памёр і ўнук Дамініка Валадковіча — Міхал, крайчыч Менскі, не дасягнуўшы яшчэ сталасці.

Больш дакладны аповяд пра жыццё Дамініка Валадковіча глядзіце ў раздзеле «Стольнікі ваяводства Менскага».

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 149, л. 121.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 6, л. 769.

## 12.23. Каstравіцкі Міхал (07.01.1717 — ?)

Пасля пераходу Дамініка Валадковіча, па прывілеі ад 21 лістапада 1716 года (1), на стольнікаўства Менскае, вакантны ўрад падстолія Менскага быў нададзены Міхалу Кастравіцкаму, нашчадаку багатага купецкага дома Кастравіцкіх, прадстаўнікі якога, пры пачатку паўстання Хмяльніцкага і інтэрвенцыі ў межы краіны маскоўскіх войскаў, разам з Філіповічамі, далі вялізныя сумы грошай, пад заклад радзівілаўскіх менняў на набор іншаземнага войска. У другой

палове XVII стагоддзя многія прадстаўнікі гэтага дома атрымалі каралеўскія прывілеі на розныя ўрады Менскага і Мсціслаўскага ваяводстваў, Лідскага павета.

Прывілей на падстольства Менскае Міхалу Кастравіцкаму быў падпісаны 7 снежня 1717 года і ўнесены ў 157 кнігу Метрыкі Вялікага княства Літоўскага (1). Па нейкіх прычынах урад не быў прыняты Міхалам Кастравіцкім.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 157, л. 92.

## 12.24. Рдултоўскі Ян (03.03.1717 — ?)

Падстольства Менскае, па пераходзе Дамініка Валадковіча, былога падстолія Менскага, на стольнікаўства Менскае, прапаноўвалася, напэўна, многім прадстаўнікам эліты ваяводства. Услед за адмовай ад гэтага ўрада Міхала Кастравіцкага, урад быў прапанаваны і асаблівым прывілеем ад 3 сакавіка 1717 года нададзены (1) Яну Рдултоўскаму, скарбніку Менскаму, Аднак, як і Кастравіцкім, урад падстолія Менскага ваяводства не быў прыняты Янам Рдултоўскім. Пасля 1720 года Ян Рдултоўскі заняў урад суддзі земскага Навагародскага ваяводства, а на 1737 год ужо быў кашталянам Віцебскага ваяводства (2). Праўда, у некаторых дакументах Ян Рдултоўскі мянуецца кашталянам Навагародскага ваяводства. Так, у канцы 1-й паловы XVII стагоддзя, Навагародская магдэбургія, пазываючы яго ў суд задворны асэсарскі за незаконнае трыманне гродскіх дамоў, крам і грунтоў таксама, мянуе Яна Рдултоўскага кашталянам Навагародскага ваяводства. Вядома, што Ян Рдултоўскі быў жанаты з Геленай, дачкой Антонія Тэадора Ваньковіча, стольніка і падстарасты судовага Менскага.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 157, л. 102.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 10, л. 1202.

## 12.25. Карызна Юзэф Антоні (?-02.1719 — 10.04.1734 — ? )

Паведамленне аб трыманні Юзэфам Антоні Карызнам урада пад-

столія Менскага прыведзена А. Рахубам. Згодна з яго звесткамі, атрыманымі з матэрыялаў Літоўскага гістарычнага архіва, Антоні Карызна двойчы ў лаўдумах сойміка Жмудзьскага быў мянованы падстоліем Менскім. Першы раз гэта было ў 1719 годзе: на сойміку праводзілася абранне дэпутатаў у Галаўны Трыбунал княства. Адным з дэпутатаў у гэты высокі суд быў абраны Юзэф Антоні Карызна, ротмістр Велюнскага павета. У некаторых дакументах ён названы падстоліям Жмудзьскім, аднак у лаўдуме сойміка ён мянуецца падстоліем Менскім. Яшчэ раз успамінаюць гістарычныя крыніцы Юзэфа Антоні Карызну, падстолія Менскага, у 1734 годзе. У лаўдуме 10 красавіка гэтага ж года сойміка Жмудзі Юзэф Антоні Карызна, абраны, дарэчы, дырэктарам гэтага сойміка, мянуецца ізноў падстоліем Менскім (1).

З матэрыялаў каралеўскага асэсарскага суда вядома пра Карызнаў, якія жылі ў заходніх паветах ВКЛ у канцы XVII стагоддзя. Яшчэ 19 кастрычніка 1684 года Мікалай і Міхал Карызны, як сказана ў дакуменце «вечнікі» (спадчынныя ўладальнікі маетнасцяў Кандрон і Іадканы, ў межах Упіцкага павета), Бетлер, застаўнік (трымаючы гэтую маетнасць да вяртання пазыкі) і арандатар гэтых маетнасцяў Ян Андэрсан пазвалі на каралеўскі задворны суд арандатара чопавага Панявежыскага Ізаака Якубовіча, пры зборы падатку звыш усялякае меры спаганяўшага паборы чопавыя (2). Праз некалькі год Міхал Казімір Карызна, ужо лоўчы Старадубаўскі, пазваў свайго крэўнага пана Яна Карызну ў гродскі Лідскі суд, абвінавачваючы яго ў няпраўных прэтэнзіях на сваю маетнасць. Аднак Ян Карызна не стаў не толькі перад судом гродскім Лідскага павета, але не з'явіўся і 10 студзеня 1691 года па позве ў каралеўскі задворны асэсарскі суд (3).

Крыніцы:

1. «Дэпутаты Галаўнога Трыбунала ВКЛ (1697 — 1794 гг.)...», лл. 108, 162.
2. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 390, л. 681.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 389, л. 1161.

## 12.26. Кастравіцкі Антоні з Кастравіц (да 08.04.1718 — да 07.09.1744)

Антоні з Кастравіц Кастравіцкі, сын падсудка Менскага, а раней і пісара гродскага Менскага, Яна Рафала Кастравіцкага і Іаанны Лукомскай, судзянкі земскай Віцебскай, атрымаў у 1700 годзе прывілей на немалазначны ў іерархіі ваяводскіх урадаў таго часу ўрад войта

Менскага і трымаў яго аж да 1720 года, пакуль, па нейкіх прычынах, не перадаў яго судоваму старасту Менскаму Крыштофу Завішы, згодна з каралеўскім дазволам ад 2 сакавіка 1720 года (1). Сам Антоні Кастравіцкі не застаўся ў праліку пасля гэтай аперацыі; Крыштоф на Бакштах Завішу, стараста судовы Менскі, выплаціў Антонію Кастравіцкаму «пэўную суму ў бітых талерах».

Меў братоў: Марціна, які жыў яшчэ ў 1731 годзе і Ваўрынца, чэсніка Рэчыцкага павета. Вядома, што меў яшчэ і сястру Элеанору, быўшую ў шлюбе з Мікалаем Давойнам, стольнікам Троцкім. На 22 чэрвеня 1718 года Антоні Кастравіцкі ўступіў Давойнам, стольнікам ваяводства Троцкага, Мікалаю і Элеаноры з Кастравіцкіх, сваю маетнасць Белічаны, атрыманую Янам Рафалам Кастравіцкім у 1693 годзе за нявернутыя пазыкі ад Даменіка Палубінскага (2).

Да 12 чэрвеня 1700 года ўступіў у шлюб з Марыянай Рамейкаўнай Гуркоўнай, дачкой ужо памёршага на гэты час Рыгора Гурко Рамейкі і пані Кацярыны Скопаўны Рыгоравай Гурковай. Ад сваёй жонкі, па запісе, складзеным 11 мая 1700 года, Антоні Кастравіцкі атрымаў пажыццёвы запіс на маетнасці Хаценкі, Дабрынева і Высокае, размешчаныя ў межах Віцебскага ваяводства (3). Ад сябе Антоні Кастравіцкі запісаў маладой жонцы свае дзедзічныя маетнасці Драчкова, Белічаны і Лошыцу (4). Шлюб па нейкіх прычынах быў вельмі кароткі, да 1710 года уступіў у шлюб з Марыянай з Франскевічаў Радзімінскіх, ад якой меў дзяцей: Стэфана, Багдана, Аляксандра, Казіміра і, нарэшце, Валерыяна, які на схіле жыцця дабіўся з немалымі высілкамі ўрада падстолія Менскага, каб пратрымаць яго каля месяца і затым памерці.

Урад падстолія Менскага Антоні Кастравіцкі атрымаў пасля адмовы ад гэтага ўрада Яна Рдултоўскага, прычым на 18 мая 1717 года мянованы ў дакументах яшчэ толькі войтам Менскім (5), а, толькі на 8 красавіка 1718 года імя было ўнесена ў актавыя кнігі Менскага гродскага суда з пазначэннем не толькі як войта Менскага, але і падстолія Менскага ваяводства (6). Патрэбна заўважыць, што прывілей на ўрад падстолія Антоні Кастравіцкі атрымліваў яшчэ ў 1695 годзе (7). Як запісана ў каралеўскім прывілеі ад 9 ліпеня 1695 года на падстольства Менскае, Антонію Кастравіцкаму быў нададзены «post fata» Яна Кенсоўскага, «калі ўрад да дыспазыцыі нашай трапіў». Па нейкіх прычынах урад не быў прыняты Антоніем Кастравіцкім, і ўрад падстолія Менскага быў вакантны яшчэ два гады. Пасля адыходу з ўрада войта Менскага працягваў карыстацца аўтарытэтам сярод Менскай

шляхты. У жніўні 1735 года быў выбраны дырэктарам антэкаміцыяльнага сойміка (8). На 5 чэрвеня 1733 года засядаў у складзе каптуровага суда Менскага ваяводства (9).

Памёр да 7 верасня 1744 года, бо якраз гэтай датай пазначаны прывілей на падстольства Менскае, атрыманы Стэфанам з Яксаў Быкоўскім, суддзёю гродскім Менскім (10). Тэстамент Антоні Каставіцкі склаў яшчэ 14 мая 1740 года (11).

Крыніцы:
1. Б.А., т. 3, л. 266.
2. АВАК, т. 11, лл. 405, 464—466.
3. НГАБ. Ф 1926, воп. 5, с. 4, л. 135.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, лл. 904—905.
5. Там жа, ф 1816, воп. 1, с. 2, л. 100.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 53, л. 65.
7. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 145, л. 373.
8. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 10, л. 480.
9. Там жа, ф 1872, воп. 1, с. 2, л. 1.
10. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 173, л. 163.
11. Там жа,ф 1727, воп. 1, с. 10, л. 1040.

## 12.27. Давыд Міцкевіч (16.02.1730 — ?)

Прывілей на падстольства Менскае Давыду Міцкевічу, пісару дэкрэтоваму Вялікага княства Літоўскага, сыну былога пісара гродскага Менскага Траяна Міцкевіча, быў унесены ў кнігі Метрыкі 16 лютага 1730 года (1). Верагодна, што Антоні з Кастравіц Кастравіцкі, займаўшы на гэты час урад падстолія, мог спрабаваць перайсці на іншы, больш высокі ўрад, але па нейкіх прычынах гэтая справа не мела поспеху, і Антоні Кастравіцкі, былы войт Менскі, працягваў і далей, да часу сваёй смерці, трымаць урад падстолія Менскага. Зусім верагодна, што наданне ўрада падстолія Менскага Давыду Міцкевічу, як гэта звычайна і было, ніякім чынам не было звязана з трыманнем урада Антоніем Кастравіцкім. Што ж датычыцца самога пісара дэкрэтовага ВКЛ пана Давыда Міцкевіча то, неўзабаве ён пакінуў гэты свет. І 22 лютага 1738 года яго дзеці: Павел, ротмістр ваяводства Менскага, які меў маетнасці і аселасць у Краснасельскай парафіі, Пётр, Канстанцыя і Францыска былі пазваны ў Менскі гродскі суд

Стэфанам Быкоўскім, на той час скарбнікам Мсціслаўскім і суддзёю гродскім Менскім, па справе прыналежнасці маетнасці Камена (2). На 8 кастрычніка 1765 года ў межах Менскага павета, у Краснасельскай парафіі, з дзяцей Давыда Міцкевіча, пісара дэкрэтовага ВКЛ, заставаўся толькі Пётр Міцкевіч, стараста Рудніцкі (3).

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 162, л. 341.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 59, л. 710.
3. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 4, л. 86.

## 12.28. Жэрніцкі Пётр з Рогала (? — 07.02.1741 — ?)

Аб трыманні падстольства Менскага Пятром з Рагала Жэрніцкім паведамляе А. Рахуба. У 1741 годзе шляхта Менскага ваяводства на сваім грамнічным сойміку абірае Пятра з Рагала Жэрніцкага, падстолія Менскага, дэпутатам у Галаўны Трыбунал Вялікага княства (1). Тое, што гэта памылка, можна ўбачыць з каралеўскага прывілея таму ж пану Пятру з Рагала Жэрніцкаму на заняцце ўрада канюшаства Менскага па пераходзе былога канюшага Менскага Фларыяна з Яксаў Быкоўскага, пісара гродскага Менскага, на больш высокі ўрад — будаўнічага Менскага. Прывілей унесены ў кнігі Метрыкі 23 кастрычніка 1752 года (2), прыкладна праз 11 гадоў пасля абрання Жэрніцкага ў склад ГТЛ ВКЛ. У дадатак да ўсяго гэтага з матэрыялаў земскага Менскага суда за 4 сакавіка 1744 года стала вядома, што Пётр Жэрніцкі, на гэты раз мянуючы сябе падстоліем Плоцкага ваяводства, правёў продаж сваёй часткі маетнасці Упірэвічы пану Адаму Баку, скарбніку Мсціслаўскаму (3). Калі ў абодвух дакументах — пра абранне дэпутатам ГТЛ і пра продаж Упірэвіч размова ідзе пра аднаго і таго ж чалавека, то магчыма, што Пётр з Рагала Жэрніцкі не быў ні падстоліем Менскім, ні падстоліем Плоцкага ваяводства.

Крыніцы:

1. «Дэпутаты Галаўнога Трыбунала ВКЛ (1697—1794 гг.)...», л. 191.
2. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 179, л. 27.
3. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 10, л. 252.

## 12.29. Грабяніцкі Антоні (? — 1744 — ?)

Матэрыялы аб наданні Антонію Грабяніцкаму ўрада падстолія Менскага намі не знойдзены. Магчыма, урад і быў нададзены. але Антоні Грабяніцкі хутка адмовіўся ад яго, бо ўжо 7 верасня 1744 года ўрад падстолія Менскага, «пасля смерці былога падстолія Антонія Кастравіцкага», як сказана ў прывілеі, быў нададзены Стэфану з Яксаў Быкоўскаму, скарбніку Мсціслаўскаму і суддзі гродскаму Менскаму.

Адзіная згадка пра існаванне Антонія Грабяніцкага, падстолія Менскага, знойдзена ў 8-м томе збораў АВАК. У 1744 годзе Антоні Грабяніцкі, меўшы, верагодна, сталае пражыванне ў межах Мсціслаўскага ваяводства, напаў з натоўпам сваіх памочнікаў і падданых на святара Шклоўскай царквы Андрэя Крушылоўскага і да смерці збіў яго канчукамі. У завяршэнне «вайсковай аперацыі» нападаючыя забралі грошы гаспадара і вывезлі ўсю яго маёмасць (1). У 8-ы том АВАК гэтыя матэрыялы трапілі з актаў Менскага гродскага суда, куды былі ўнесены ў сярэдзіне 70-х гадоў XVIII стагоддзя. Якраз у гэтыя часы ў Слуцку сабралася шляхта праваслаўнага і кальвінісцкага веравызнанняў, якая стварыла канфедэрацыю. У рашэнні аб стварэнні канфедэрацыі прыводзіліся прыклады жорсткіх адносін, у тым ліку і збіццё святара Шклоўскай царквы, з боку войска і каталіцкай шляхты да ўсіх прадстаўнікоў іншых канфесіяў, толькі за тое, што яны па-іншаму вераць у бога.

Мае слушнасць меркаванне, што Антоні Грабяніцкі меў урад падстолія, але не Менскага, а Мсціслаўскага ці Смаленскага ваяводстваў. Дарэчы, у актавыя кнігі Менскага гродскага суда за 16 лютага 1758 года ўнесены акт каралеўскага глейта Феліцыяну Грабяніцкаму, падстолію Смаленскаму, які атрымаў баніцыю і вываланне за нейкія грахі ад сваіх родных братоў Тадэуша і Міхала і сясцёр Рэіны і Багумілы (2).

Крыніцы:

1. АВАК, т. 8, л. 611.
2. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 13, л. 31.

## 12.30. Быкоўскі Стэфан з Яксаў (07.09.1744 –да 28.11.1748)

Прывілей на падстольства Менскае Стэфан з Яксаў Быкоўскі, былы скарбнік Мсціслаўскі і суддзя гродскі Менскі, атрымаў па прывілеі ад 7 верасня 1744 года пасля смерці былога падстолія Менскага Антонія Кастравіцкага (1). Улічваючы, што больш падрабязны аповяд пра Стэ-

фана Быкоўскага будзе зроблены ў раздзеле «Стольнікі Менскага ваяводства», каб пазбегнуць паўтарэння, у гэтым раздзеле прыведзены толькі самыя неабходныя звесткі пра гэтага палітыка ваяводскага ўзроўню.

У 1748 годзе, у сувязі з пераходам былога стольніка Менскага Лявона Паўла Валадковіча на ўрад войскага Менскага, Стэфан Быкоўскі адмовіўся ад урада падстолія і дабіўся каралеўскага прывілея, ад 28 лістапада гэтага года, на атрыманне ўрада стольніка Менскага (2). Пры гэтым крыху раней пакінуў і ўрад суддзі гродскага Менскага ваяводства. Па прычыне таго, што кожны павет меў свой суд земскі і гродскі, то суды, названыя ў актах судамі Менскага ваяводства, былі толькі судамі Менскага павета, і іх юрысдыкцыя не распаўсюджвалася, скажам, на тэрыторыі Рэчыцкага або Мазырскага паветаў, якія ўваходзілі ў склад Менскага ваяводства.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 173, л. 163.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 176, л. 234.

## 12.31. Жыжэмскі Міхал Казімір князь на Жыжмах (28.11.1748 — 22.01.1752)

Міхал Жыжэмскі атрымаў урад падстольства Менскага пасля пераходу Стэфана з Яксаў Быкоўскага на стольнікаўства Менскае (1) па прывілеі ад 28 лістапада 1748 года. Быў энергічным палітыкам, які зрабіў бліскучую кар'еру за параўнальна кароткі час. Пачаўшы ў 1725—1733 гады з урада чэсніка Старадубаўскага (2), на працягу значнага часу займаў урад пісара гродскага Менскага. Пасля смерці Андрэя Бенедыкта Карніцкага, сумяшчаўшага выкананне ўрадаў падстарасты судовага з выкананнем і абавязкаў сурагатара земскага Менскага, атрымаў прывілей на выкананне сурагатарства земскага Менскага, гэта значыць быў фактычна пісарам земскім Менскім. Некаторы час быў войскім Менскім і ў 1769 годзе ўжо займаў урад падкаморыя Менскага (3). Верагодна, каб не памёр у сярэдзіне 1769 года, то мог бы прэтэндаваць на заняцце ўплывовых урадаў ВКЛ.

Быў жанаты, уступіў у шлюб да 1747 года з Брыгідай з Завішаў, былай Станіслававай Свянціцкай, старасцінай Данілавіцкай. Памёр, не пакінуўшы нашчадкаў.

Ад урада падстолія Менскага адмовіўся ў сувязі з пераходам на вайскоўства Менскае, якое стала вакантным пасля заўчаснай смерці

былога войскага і палкоўніка Менскага Лявона Паўла Валадковіча (4). Больш падрабязны аповяд пра жыццё Міхала Жыжэмскага будзе зроблены ў раздзеле «Падкаморыі ваяводства Менскага».

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с.176, л. 235.
2. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 25, л. 905; Ф 1727, воп. 1, с. 56, л. 302.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 188, л. 110.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 179, л. 683.

## 12.32. Карніцкі Ігнацы (22.12.1752 — 30.03.1765)

Ігнацы Карніцкі, падчашы Менскі, сын Андрэя Бенедыкта Карніцкага, лоўчага і падстарасты судовага Менскага, ад яго шлюбу з пані Марыянай з Бялінскіх, быўшай да гэтага ўжо ў шлюбе з Пятром Пратасовічам, войскім Менскім. Прывілей на падстольства Менскае атрымаў 22 снежня 1752 года (1) пасля пераходу Міхала Жыжэмскага на ўрад войскага Менскага. Верагодна, гэта быў амбітны палітык, які зрабіў ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі неблагую карьеру. Да часу атрымання ўрада падстолія Менскага паспеў некаторы час пабыць на такім высокім урадзе, якім з’яўляецца ўрад лоўчага Менскага, і адразу ж, 28 лістапада 1748 года, атрымаў прывілей на ўрад падчашага Менскага (2). Урад падстолія Менскага займаў аж да 1765 года, калі атрымаў прывілей на суддзю земскага Менскага ад караля Станіслава Аўгуста (3), уступіўшы ўрад падстолія Менскага Яну Юзэфу Клакоцкаму, старасту Калачэўскаму.

Ігнацы Карніцкі, падстолі Менскі, быў жанаты двойчы, другая яго жонка, пані Канстанцыя з Галінскіх, з якой меў некалькі сыноў і дачок, якія па смерці бацькі былі яшчэ нялетнімі (не дасягнулі сталасці). Вядомы яго сын Антоні, зрабіўшы бліскучую кар’еру ў войску ВКЛ. Улічваючы, што Ігнацы Карніцкі, пасля адыходу з суддзі земскага Менскага ваяводства атрымаў урад падкаморыя Менскага, які займаў да сваёй смерці, асноўны аповяд пра жыццё і дзейнасць Ігнацы Карніцкага будзе зроблены ў раздзеле «Падкаморыі Менскага ваяводства».

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 179, л. 683.

2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 176, л. 236.
3. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 4, л. 13.

## 12.33. Клакоцкі Ян Юзэф (30.03.1765 — да 09.05.1772)

Прывілей на падстольства Менскае Ян Клакоцкі, стараста Калачэўскі, атрымаў 30 сакавіка 1765 года (1), пасля пераходу былога падстолія Менскага Ігнацы Карніцкага на ўрад суддзі земскага Менскага. Улічваючы, што больш падрабязны аповяд пра жыццё Яна Клакоцкага будзе зроблены ў раздзеле «Войскія Менскага ваяводства», у гэтым раздзеле даведніка будуць змешчаны матэрыялы, датычныя толькі перыяду знаходжання Клакоцкага на ўрадзе падстолія Менскага. Патрэбна, аднак, прызнаць, што ў матэрыялах земскага і гродскага судоў Менскага ваяводства звестак пра яго справы захавалася вельмі мала. У асноўным яго прозвішча сустракаецца сярод падпісаўных пад рашэннямі ваяводскіх соймікаў. Насупраць тагачаснай традыцыі, нават не зводзіў сам чужых падданых і не даваў іх зводзіць суседзям. Відаць, што карыстаўся сярод мясцовай шляхты немалым аўтарытэтам, бо менавіта Яну Юзэфу Клакоцкаму, падстолію Менскаму, і Ігнацы Карніцкаму, суддзі земскаму Менскаму, на грамнічным ваяводскім сойміку быў аказаны давер — данесці да караля РП волю ваяводства Менскага па пытаннях, датычных існавання дзяржавы (2). У сувязі са смерцю Юзэфа Валадковіча, стольніка Менскага, па прывілеі ад 9 мая 1772 года (3), атрымаў вакантны ўрад стольніка Менскага. Затрымаўся на гэтым урадзе на два месяцы і ў ліпені гэтага ж года перайшоў на ўрад войскага Менскага, які пакінуў дабраахвотна ў канцы 1789 года.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 184, л. 313.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 16, л. 323.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 184, л. 774.

## 12.34. Валадковіч Марцін (09.05.1772 — 11.07.1772)

Марцін Валадковіч, на гэты час гараднічы Менскі, малодшы сын Даменіка Валадковіча, стольніка Менскага, атрымаў урад падстолія Менскага па прывілеі ад 9 мая 1772 года (1), замяніўшы на гэтым ура-

дзе Яна Юзэфа Клакоцкага, які пайшоў на павышэнне, на ўрад стольніка Менскага. Наступны ўрад можна было атрымаць толькі ў двух выпадках: пасля смерці папярэдніка, таму што урады надаваліся пажыццёва, або пасля добраахвотнай адмовы, што, у некаторых выпадках, было звязана з банальным выкупам урада ў папярэдніка. МарцінВаладковіч займаў урад падстолія каля двух месяцаў, да часу смерці былога войскага Менскага Аляксандра з Яксаў Быкоўскага, калі па ўсёй лесвіцы ваяводскіх урадаў адбылося чарговае перамяшчэнне ўраднікаў, з больш нізкага ўрада на больш высокі. Па прывілеі ад 11 ліпеня гэтага ж 1772 года (2) атрымаў урад стольніка Менскага, саступіўшы ўрад падстолія Менскага падчашаму і пісару гродскаму Менскаму Іахіму Хмару.Урад стольніка Менскага ваяводства Марцін Валадковіч займаў да самай смерці, наступіўшай у першай палове 1780 года. Больш падрабязнае апісанне жыцця Марціна Валадковіча будзе зроблена ў раздзеле «Стольнікі ваяводства Менскага».

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 184, л. 774.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 184, л. 789.

## 12.35. Хмара Іахім (11.07.1772 — да 10.07.1780)

Прывілей на падстольства Менскае Іахім Хмара, падчашы і пісар гродскі Менскі, малодшы брат вядомага палітыка ВКЛ ваяводы Менскага Адама Міхала Хмары, атрымаў па прывілеі ад 11 ліпеня 1772 года (1), пасля дабраахвотнай адмовы ад урада падстолія ў сувязі з пераходам на ўрад стольніка Менскага Марціна Валадковіча.

У невялічкай заўвазе, змешчанай у даведніку па архіўных зборах, што ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР (Путеводитель ЦГИА БССР, Минск. 1974), і датычнай Іахіма Хмары, паведамляецца, што быў стражнікам і пісарам гродскім Менскім з 1762 года па 1765 год, а потым аж да 1780 года быў падчашым Менскім (2). Аднак пошукі ў архівах высветлілі, што: стражнікам Іахім Хмара быў сапраўды з 1762 і па 27 сакавіка 1765 года, але падчаства займаў з 27 сакавіка 1765 года і па 9 мая 1772 года, пісарам гродскім стаў пасля пераходу Фларыяна Быкоўскага на ўрад стольніка Менскага, што мела месца па каралеўскім прывілеі ад 29 мая 1762 года (3), і займаў гэты ўрад аж да 1784 года, калі адышоў з урада пісара гродскага Менскага. Яшчэ ў

1780 годзе, у сувязі з атрыманнем тытула стольніка Менскага, адмовіўся ў ад урада падстолія Менскага

Жанаты з Марыянай з Прэрадоўскай, ад якой меў сына Хіларыя, маршалка павятовага Менскага ў 1818—1821 гадах. Больш падрабязныя звесткі пра Іахіма Хмару будуць прыведзены ў раздзелах «Стольнікі ваяводства Менскага» і «Войскія ваяводства Менскага».

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 184, л. 790.
2. «Путеводитель ЦГИА БССР», Минск: Полымя, 1974.

## 12.36. Свентаржэцкі Міхал (10.07.1780 — 05.07.1782 — да 31.05.1786)

Прывілей на падстольства падпісаны каралём 10 ліпеня 1780 г. (1). Сведчанне аб атрыманні Міхалам Свентаржэцкім прывілея на ўрад падстольства Менскага знойдзена намі і ў актах грамнічнага (лютаўскага) сойміка Менскага ваяводства, што праходзіў 5 лютага 1781 года. Прывілей на падстольства Менскае, вакантнае пасля пераходу Іахіма Хмары на ўрад стольніка Менскага, быў прад'яўлены на сойміку, а паведамленне аб гэтым унесена ў акты гродскага суда Менскага ваяводства 7 лютага гэтага ж года (2).

Міхал Свентаржэцкі, у выніку адыходу Ігнацы Пятровіна Янішэўскага пасля 1775 года заняў урад падстарасты судовага Менскага, быў палкоўнікам Менскім і, у дадатак, быў абраны шляхтай сваёй Ракаўскай парафіі, дзе меў некаторыя маетнасці, ротмістрам парафіяльнай харугвы ваяводскага шляхецкага апалчэння. Прычым звычайна менаваўся першым ротмістрам ваяводства.

На грамнічным сойміку 1777 года спрабаваў дабіцца прэстыжнага ўрада харужага Менскага, але атрымаў толькі 377 вотаў (галасоў павятовай шляхты) і прайграў Стэфану з Яксаў Быкоўскаму, сыну Фларыяна Станіслава з Яксаў Быкоўскага, харужага Менскага. З 1764 года, удзельнічаў у працы Менскага гродскага суда ў якасці суддзі гродскага (3).

Урады падстолія, падстарасты і палкоўніка Менскага ваяводства займаў яшчэ і ў першай палове 1786 года. Памёр да 31 мая 1786 года, а 2 лістапада гэтага года быў нададзены крэдэнс ад Стэфана з Яксаў Быкоўскага, харужага Менскага Тадэушу Мінькоўскаму Багушэвічу прывілея на ротмістроўства ў Ракаўскай парафіі, вакантнае ў сувязі са смерцю Міхала Свентаржэцкага (4).

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 543, л. 820.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 20, л. 36.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 14, л. 1428.
4. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 17, л. 608.

## 12.37. Кастравіцкі Валерыян (каля 11.02.1786 — да 01.12.1786)

Памяць аб слаўным мінулым продкаў, аб урадах, якія некалі трымалі яны, свята захоўвалася кожным шляхцічам. Урадаў было, ведама, значна менш, чым было ахвочых да іх атрымання. Таму, ужо з канца XVII стагоддзя ў практыку паўсядзённага побыту ўвайшло менаванне шляхты па ўраду бацькоў: падстолічамі, канюшыцамі або канюшанкамі і гэтак далей. Не прамінула гэтае агульнае захворванне і Валерыяна Кастравіцкага, малодшага сына былога падстолія і войта Менскага пана Антонія з Кастравіц Кастравіцкага. На працягу амаль усяго свайго жыцця, у розных дакументах менаваўся падстолічам ваяводства Менскага, пакуль не атрымаў даўно чаканы ўрад. Верагодна, нямала высілкаў і грошай уклаў Валерыян Кастравіцкі ў здзяйсненне сваёй мары, каб ужо на схіле гадоў, незадоўга да сваёй смерці стаць падстоліем Менскага ваяводства. Улічваючы, што яго папярэднік на ўрадзе падстолія Менскага, Міхал Свентаржэцкі, таксама і ротмістр Менскі, памёр да 2 лістапада 1786 года, бо якраз гэтай датай пазначаны прывілей на ротмістоўства Менскага ваяводства пасля смерці Міхала Свентаржэцкага, атрыманы Тадэушам Багушэвічам Мінькоўскім (1), то і прывілей на гэты ўрад падстолія Менскага атрымаў Валерыян Кастравіцкі прыкладна адначасова з Тадэушам Багушэвічам Мінькоўскім.

Пасля смерці Валерыяна Кастравіцкага, падстолія Менскага ваяводства, яго тэстамент, ад 1 снежня 1786 года (2), быў унесены сынам Мікалаем Кастравіцкім у актавыя кнігі Менскага земскага суда. Акрамя гэтага, у матэрыялах Менскага земскага суда захаваўся прывілей на падстольства Менскае, унесены ў земскія Менскія акты, па абранні на ваяводскім сойміку 8 лютага 1787 году, на гэты ўрад Феліцыяна Рудніцкага (3). Вось і выходзіць, што трымаў свой даўно чаканы ўрад пан Валерыян Кастравіцкі недзе крыху болей аднаго месяца.

Праз пяць гадоў пасля смерці падстолія Менскага яго жонка пані Людвіка, падстоліна Менская, 18 лютага 1791 года ўнесла ў акты Мен-

скага гродскага суда дакумент аб перадачы маетнасцяў, што засталіся ад памершых мужа і брата, Ежы Булгака, біскупа, свайму сыну Ануфры Кастравіцкаму, камісару цывільна-вайсковай і парадкавай камісіі Пінскага павета і каралеўскаму шамбеляну (4). Перадача зямельнай уласнасці адбылася ў сувязі з уступленнем Ануфры Кастравіцкага, падстоліча Менскага, у шлюб з Гарбацкай. Акрамя вышэй пералічаных сыноў была яшчэ і дачка Барбара (5).

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1769, воп. 1, с. 17, л. 608.
2. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 17, л. 38.
3. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 18, л. 87.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 30, л. 156.
5. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 17, л. 638.

## 12.38. Рудніцкі Феліцыян Францыск (31.05.1786 — да 21.10.1786)

Феліцыян Францыск Рудніцкі, падчашы Менскі, суддзя гродскі Рэчыцкага павета, атрымаў прывілей на ўрад падстолія, падпісаны каралём 31 мая 1786 года (1) і быў зацверджаны на ўрадзе падстолія Менскага на лютаўскім ваяводскім сойміку 8 лютага 1787 года (2). Займаў гэты ўрад вельмі нядоўга, каля 5 месяцаў. Знаходзіўся на вайсковай службе і на 7 лютага 1777 года меў званне капітана каронных войскаў. Яго жонка, пані Францыска з Багушэвічаў, стражнікоўна Полацкая, пасля доўгай і цяжкай хваробы памерла, склаўшы свой тэстамент 13 сакавіка 1780 года (3). Па яго смерці, меўшай месца да 21 кастрычніка гэтага ж года, прывілей на ўрад быў нададзены Пятру Паўлікоўскаму, былому скарбніку Менскаму (4).

На 1765 год жылі яшчэ яго бацька Бенедыкт Рудніцкі, мечны Ашмянскі, на 1744 год ландвойт Менскі, і старэйшы брат Тадэуш, меўшыя сталае пражыванне ў межах Менскай парафіі Менскага павета (5).

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 551, л. 1272.
2. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 18, л. 87.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 19, л. 171.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 551, л. 1309.
5. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 4, л. 85.

# 12.39. Пётр Паўлікоўскі (21.10 1786 — ?)

Пётр Паўлікоўскі, былы скарбнік Менскі, атрымаў прывілей на ўрад пасля смерці былога падстолія Менскага Феліцыяна Рудніцкага, падпісаны 21 кастрычніка 1786 года (1). Верагодна, што трымаў гэты ўрад вельмі нядоўгі час, бо ўжо па пераходзе Крыштофа Ліхадзіеўскага на ўрад стольнікоўства Менскага стаў гараднічым Менскім. Аднак нам невядомы ніводзін дакумент, дзе б Пётр Паўлікоўскі менаваў сябе падстоліем Менскім. Больш падрабязныя звесткі пра Пятра Паўлікоўскага будуць прыведзены ў раздзеле «Гараднічыя ваяводства Менскага».

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 551, л. 1309.

ІМЯННЫ ПАКАЗНІК

# Раздзел 21. Лоўчыя Менскага ваяводства

Лоўчыя. Для вырознення найбольш дастойных прадстаўнікоў шляхты, папаўнення каралеўскага скарбу і стварэння адзінай у межах Рэчы Паспалітай тытулярнай сістэмы ў сярэдзіне XVII стагоддзя ў ваяводствах і паветах ВКЛ Уладзіславам IV быў уведзены новы ўрад — лоўчы ваяводскі, або павятовы. З архіўных крыніц вядома аб існаванні пры вялікакняскім двары асобага ўрада лоўчага, які загадваў арганізацыяй княскага палявання. Пры ўвядзенні ў ваяводствах і паветах пераўтварыўся ў чыста намінальны і выкарыстоўваўся толькі для пажыццёвага тытулявання. Паведамленне аб існаванні ўрада лоўчага ў Ашмянскім павеце ўпершыню сустракаецца ў гістарычных крыніцах пад 18 лютым 1635 года, у Браслаўскім і Вількамірскім паветах — у 1649 годзе, а ў Лідскім павеце толькі ў 1663 годзе (1). Звесткі аб існаванні ўрада лоўчага ў Менскім ваяводстве пачынаюць паяўляцца ў крыніцах толькі з канца 60-х гадоў XVII ст.

Як і ў іншых урадах тытулярнага характару, дазвалялася і жонцы, і дзецям лоўчага менавацца афіцыйна і ў паўсядзённым побыце лоўчыняй, лоўчыцам і лаўчынянкай. Жонка сына менавалася лоўчыцавай.

Крыніцы:
1. «Урадніцы Віленскага ваяводства...», № 1413, л. 232; № 2299, л. 333; № 3167, л. 427; № 4121, л. 532.

## 21.1. Берасневіч Ежы (? –1677 — ?)

Упамінанне пра лоўчага Менскага Ежы Берасневіча знойдзена намі

ў працы Адама Банецкага «Herbarz Polski», частка 1, т. 1, л. 166 (выданне 1906г.). Па яго звестках, у 2-й палове XVII стагоддзя Ежы Берасневічу быў нададзены ўрад лоўчага Менскага. З матэрыялаў архіва Менскіх губернскіх устаноў, якія займаліся праверкай радавітасці шляхты, вядома, што трымаў гэты ўрад на 1677 год. Вядома, што Юр'я Міхал Берасневіч быў у шлюбе з пані Крыстынай Прэцлоўскай, падсталянкай Слонімскай, дачой Жыгімонта Прэцлоўскага, падстолія Слонімскага павета. Як стала вядома з актаў Слонімскага земскага суда, 6 лютага 1686 года пані Крыстына Прэцлоўская Ежыная Берасневічавая, лоўчыня Менская, скардзілася ў суд аб бунце сваіх падданых, атрыманых яе, ужо памёршым на гэты час, мужам — Ежы Берасневічам ад пані Зосі з Валадковічаў Палубінскай, маршалкавай ВКЛ. Падданыя яе з вёскі Стэцкаўшчызна Слонімскага павета, «няведама з якой прычыны і хто падбухторыў на бунт нанеслі ёй нязносную шкоду» (1). Пасля смерці Ежы Берасневіча ўдава ўступіла ў другі шлюб з Юрэвічам, падстоліем Віцебскага ваяводства, і памёрла ў 1689 годзе. А. Банецкі не паведамляе імя Юрэвіча, але, як нам падаецца, гэта менавіта Ян Антоні Юрэвіч, падстолі Віцебскі, які жыў яшчэ ў 1694 годзе. Якраз 22 мая гэтага года ў каралеўскім асэсарскім судзе разглядалася справа па яго скарзе на Стэфана Валадковіча, гараднічага Менскага (2). А. Банецкі схіляецца да верагоднасці таго, што Ян Станіслаў Берасневіч, сведка ў 1714 годзе па запісе Юрэвічаў, магчыма, з'яўляецца сынам Ежы Берасневіча.

А. Рахуба прыводзіць звесткі пра Яна Берасневіча, які уступіў у шлюб, пасля 20 мая 1675 года, з пані Канстанцыяй Станкевічаўнай, былўшай Уладзіслававай Калышка, чэснікавай Браслаўскай (3). Аднак, цвердай упэўненнасці, што ў абодвух выпадках размова ідзе пра адных і тых аж асобах, у нас няма.

У матэрыялах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, 21 сакавіка 1654 года ўнесены дакумент аб баніцыі ад Лукаша Берасневіча і Кларысы Выдаўны на Тэадора і Юр'я Клакатоўскіх, якія напалі ў чыстым полі на Берасневіча і жонку, збілі іх. У выніку ў цяжарнай жанчыны нарадзілася мёртвае дзіця (4). Яшчэ адзін Берасневіч, Андрэй, у 1707 годзе займаў урад падстолія Мозырскага павета.

Праверка гістарычных крыніц паказала, што Берасневічы не пражывалі і не мелі ніякіх менняў на тэрыторыі Менскага ваяводства. Найбольш часта гэта прозвішча сустракаецца ў дакументах, што датыччацца Ковенскага павета, дзе Берасневічы пражывалі на працягу значнага часу. У студзені 1759 года кароль Польскі Аўгуст III надаў кансенс

пані Раіне Берасневічавай на адмову ад 2-х валок лясных у Вяржболаўскім лясніцтве ў карысць яе сына Міхала Берасневіча (5).

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1737, воп. 1, с. 25, л. 80.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 392, л. 328.
3. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 3974, л. 517.
4. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 346, л. 279.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 181, л. 532.

## 21.2. Пажарыскі Ян Павел (? — 30.12.1667 — 05.06.1676 — ?)

Дата атрымання ўрада Янам Паўлам Пажарыскім, як і многімі іншымі ўраднікамі ваяводства за другую палову XVII стагоддзя, намі не ўстаноўлена. На жаль, мы неведаем, калі адышоў Ян Павел Пажарыскі са свайго ўрада.

З архіўных крыніц і матэрыялаў Віленскай археаграфічнай камісіі вядома, што Пажарыскія здаўна насялялі абшары ваяводства Менскага. У межах Менскага павета ім належала маетнасць Пажарышча. Верагодна, таму яе ўладальнікі і сталі менавацца Пажарыскімі. Многія прадстаўнікі гэтага роду займалі даволі небяспечны ўрад вознага, або генерала, ваяводства Менскага. Хаця за возным і стаяў аутарытэт дзяржавы і ўся яе моц, аднак дастаўка позваў на суд была заўсёды цесна звязана з рызыкай для жыцця вознага. Нездарма пры дастаўцы позваў возны ніколі не рабіў гэта адзін — яго павінны былі суправаджаць некалькі «добрых» шляхцічаў».Так, Дзмітры Андрэевіч Пажарыскі займаў урад вознага на 4 снежня 1582 года, калі ён, у суправаджэнні шляхцічаў, даставіў позву на суд пані Маруце Юр'еўне Аўлачымскай Мікалаевай Тупальскай, уладальніцы Бесядаўскай маетнасці (1). З пачатку 1595 і па студзень 1598 года занатавана ў дакументах выкананне абавязкаў вознага Менскага Халімонам Коневічам Пажарыскім (2). У 1597 годзе на ўрадзе вознага Менскага пазначаны Васіль Міхайлавіч Пажарыскі (3).

Пажарыскія мелі цвёрды характар і не саступалі нават асобам, якія мелі больш высокі сацыяльны статус, чым самі Пажарыскія. Так, 8 сакавіка 1616 года ў Менскім гродскім судзе разглядалася справа па скарзе Крыштофа Мікалаевіча Станкевіча, сына былога старасты судовага Менскага, на Пятра Дзянісавага Пажарыскага, які ўчыніў бойку ў Менску (4).

У сярэдзіне XVII стагоддзя адзначана некаторае павышэнне сацыяльнага статусу прадстаўнікоў гэтага роду. Пад 7 красавіком 1648 года ў матэрыялы Метрыкі Вялікага княства Літоўскага ўнесена справа паміж Даротай Манвід Дарагастайскай Марцінавай Валадковічавай, судзінай земскай Менскай, са спадчыннікамі памёршага Віцебскага ваяводы Крыштофа Кішкі. Нашчадкі ваяводы Віцебскага не дапусцілі каралеўскага дваранін Станіслава Пажарыскага для выканання яго абавязкаў у спрэчнае менне Холхла ў Менскім ваяводстве (5).

Узгадваецца Ян Павел Пажарыскі ў актавых дакументах Менскага гродскага суда з 7 кастрычніка 1665 года. У гэты дзень быў унесены ў акты гродскага суда дакумент аб падзеле маетнасці Пярэжыры паміж яе саўладальнікамі Пажарыскімі. Маетнасць дзялілі браты Станіслаў і Базыль. Іх бацькі, Мікалай і Зося Касцюшкоўна Пажарыскія, нядаўна памёрлі, таму і настаў час палюбоўнага падзелу спадчыны. Гэты дзельчы дакумент, складзены 15 чэрвеня гэтага года, падпісаў і Ян Павел Пажарыскі, але яшчэ не лоўчы Менскі (6).

Крэўныя Яна Пажарыскага нядоўга трымалі Пярэжыры. Памёршы беспатомным, Базыль Пажарыскі пакінуў сваю частку маетнасці Пярэжыр, мянуемую Баршчэўнікам, і сяло Сідаровічы сваёй пляменніцы — пані Еўфрузыне Пажарыскай, уступіўшай у шлюб з Мікалаем Прашэнскім. У 1689 годзе Мікалай Прашэнскі і Еўфрузына Пажарыская прадалі грунты Баршчэўнік, Сідаровічы і Лопаўшчызну Казіміру з Гаян Толкачу і Гелене Багуфалавай за 1000 коп грошай лічбы літоўскай (7).

Першае ўпамінанне пра Яна Паўла Пажарыскага, ужо ў якасці лоўчага ваяводства Менскага, датычыцца 1667 года: 30 студзеня ў Менскім гродскім судзе, слухалася справа Паўла Пажарыскага, лоўчага Менскага, з панамі Друцкімі Горскімі: Пятром, суддзёй гродскім Старадубаўскім, і Тэадорам, ваяводзічам Мсціслаўскім. Нашчадкі славутага роду разам з чэляддзю напалі на маетнасць лоўчага Менскага Івянец Монгаўшчызну і разрабавалі ўсю маёмасць Яна Паўла Пажарыскага (8).

Згодна з рэестрам падымнога ваяводства Менскага, на 1667 год Яну Паўлу Пажарыскаму, лоўчаму Менскаму, належала ў мястэчку Івянец і суседняй з ім Маскалеўшчызне аж 17 дымоў падданых, у Баброўніках — 10, Пажарышчы — 2 і адзін пляц з падданым у Менску. Ужо ў той час сяло Пажарышча было падзелена паміж шматлікімі прадстаўнікамі роду Пажарыскіх. У гэтым сяле пані Раіна Пажарыская Янавая Волкавая мела адзін дым падданых, Крыштоф Пажарыскі — адзін дым, Бенедыкту Пажарыскаму належаў толькі адзін агароднік. Нека-

торыя Пажарыскія валодалі падданымі і ў Пярэжырах. Але і там іх уладанні не былі вялікімі: уладанні Бенедыкта і Базыля Пажарыскіх у гэтым сяле ўключалі ў свой склад не болей чым па тры дымы.

На 12 красавіка 1668 года Ян Павел Пажарыскі, лоўчы Менскі, паставіў свой подпіс пад пісьмом пані Гелены Шэметаўны Самуэлевай Абрамовічавай, старасціны Старадубаўскай, аб прыналежнасці Кухцічаў, спадчыннай маетнасці Кавячынскіх. З-за гэтай маетнасці, пасля смерці Крыштофа Кавячынскага, падкаморыя Менскага, доўга цягнуліся судовыя спрэчкі паміж крэдыторамі падкаморыя Менскага (9).

Упамінаецца Ян Павел Пажарыскі, лоўчы Менскі і, ў судовай справе, якая была ўнесена 5 чэрвеня 1671 года ў акты Менскага гродскага суда. У гэты дзень, з удзелам Андрэя Казіміра на Бакштах Завішы, старасты Менскага і Чачэрскага, праходзіў разгляд скаргі лоўчага Менскага і яго жонкі Тэклі Свірскай на менскіх, койданаўскіх, івянецкіх і берасцейскіх яўрэяў, якія, пабраўшы грошы, зусім не падумалі выконваць свае абавязкі па складзенай раней дамове (10).

У канцы мая 1672 года была выдана баніцыя «яко праву нашого зверхности непослушны», на Паўла Пажарыскага, лоўчага Менскага, ад ксяндза мясцовага Волменскага касцёла Мацея Багушэвіча, каноніка Вендэнскага, пробашча Волменскага. Прычынай такой суровай кары было нежаданне Пажарыскага штогод даваць касцёлу на яго ўтрыманне да дзесяці працэнтаў ад гадавых прыбыткаў сваёй маетнасці, што прадстаўляла непамёрны цяжар для гаспадаркі шляхты. Улічваючы падаткі і некаторыя іншыя абавязковыя выплаты гэта сур'ёзна падрывала эканамічную моц сярэдняй і дробнай шляхты і вяло яе да збяднення. Усё было б значна прасцей, калі б толькі адзін Павел Пажарыскі не разлічыўся з касцёлам, але такія ж позвы былі накіраваны і да Гедройца і Нарніцкага, гаспадароў суседніх маетнасцяў. Аналагічныя выпадкі нам вядомы і па іншых паветах ВКЛ. У Ашмянскім павеце ішлі доўгія судовыя спрэчкі з неплацельшчыкамі ў 70-ыя гады XVII стагоддзя. сярод якіх выдзяляецца такая асоба, як Андрэй Косакоўскі, былы стольнік Менскі, падсудак Віленскі.

Крыху пазней, а менавіта 5 чэрвеня 1673 года, у матэрыялах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага мы сустракаем паведамленне пра стрыечнага брата Яна Паўла Пажарыскага, лоўчага Менскага, — Яна Пажарыскага, чэсніка Мсціслаўскага. Гэтым днём пазначана атрыманне пані Леанорай Францкевічаўнай Радзімінскай Гіеронімавай Зяновічавай, падкаморынай Мсціслаўскай, у канцылярыі княства баніцыі на

Яна Пажарыскага, чэсніка Мсціслаўскага, і яго жонку Канстанцыю Зяновічаўну, верагодна, дачку пані падкаморыны Мсціслаўскай. Баніцыя была выдана за напад на маетнасць пані Леаноры Францкевічавай Радзімінскай Гіеронімавай Зяновічавай, падкаморыны Мсціслаўскай, і вываз усёй маёмасці, уключаючы збожжа, быдла, вопратку і грошы (11). Ян Пажарыскі жыў яшчэ ў 1680 годзе, але займаў ужо ўрад харужага Мсціслаўскага ваяводства (12).

Апошні раз мы знаходзім звесткі пра Яна Паўла Пажарыскага, лоўчага Менскага, у судовых справах гродскага суда пад 1676 годам (13).

Верагодна, яго сынамі былі Даніел Пажарыскі, уладальнік маетнасці Кіявецкай, пазваны ў лютым 1677 года ў Менскі гродскі суд Юр'ем Яноўскім (14), за ўчыненыя пахвалкі (пагрозы на жыццё і здароў'е ); Стэфан, лоўчы Менскі да студзеня 1684 года і, нарэшце, Адам. Акрамя сыноў у пана лоўчага Менскага мелася і дачка Крыстына. Па нейкіх прычынах Кацярына ў шлюб не ўступіла і ўсё сваё жыццё заставалася ў апецы братоў. Паміраючы, бацька запісаў ёй частку маетнасці Пажарышча і перадаў дачку ў апеку спачатку свайму стрыечнаму брату Яну Пажарыскаму, харужаму Мсціслаўскаму. Значны час апеку над сястрой меў старэйшы яе брат — Стэфан Пажарыскі, лоўчы Менскі. Дарэчы, яе частку Пажарышча дзеці Яна Пажарыскага, харужага Мсціслаўскага, так і не вярнулі (15). Несумненна, што прамое дачыненне да Яна Паўла Пажарыскага мела Ганна Пажарыская, лаўчынянка Менская Казіміравая Хвалібогавая Васілеўская, стольнікавая Менская, якая пазваўла ў Галаўны Трыбунал ВКЛ пана Крыштофа Камароўскага, кухмістра ВКЛ. Разгляд справы праходзіў на паседжанні Трыбунала ў Вільні 10 ліпеня 1693 года. У выніку Крыштоф Камароўскі, кухмістр ВКЛ, атрымаў за свае неправавыя ўчынкі баніцыю і вываланне ад пані стольнікавай Менскай (16). Сам пан Казімір Хвалібог Васілеўскі на гэты час ужо не жыў. Што ж датычыцца ўрада стольніка Менскага, то тут, несумненна, пісарам Трыбунала была дапушчана памылка: нам падаецца, што Казімір Васілеўскі меў урад стольніка Віцебскага, а не Менскага ваяводства, бо ўсе прадстаўнікі гэтага роду мелі пастаянную аселасць у межах Віцебскага ваяводства і, найчасцей, трымалі ўрады гэтага ж ваяводства.

Напэўна, нялішнім будзе паведамленне яшчэ пра адну прадстаўніцу гэтага роду, пра Гальшку з Пажарыскіх, былую Сухадольскую, а потым Янавую Казіміравую Матушэвічавую, чэснікавую Менскую. Ян Казімір Матушэвіч, чэснік Менскі, уступіў у шлюб з Гальшкай Пажарыскай, пісаравай земскай Мсціслаўскай, ужо будучы ў вялікіх гадах, і яго ўнук,

Марцін Матушэвіч, нямала кепскіх слоў напісаў пра жыццё свайго дзеда з гэтай «удавою маетнай, але ўжо дарослых сыноў маючай» (17).

Крыніцы:

1. АВАК, т. 36, л. 341.
2. АВАК, т. 31, лл. 249, 271.
3. АВАК, т. 31, л. 267.
4. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 2, л. 159.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 335, л. 760.
6. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 8, л. 36.
7. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 8, л. 40.
8. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 35, л. 250.
9. Там жа, ф 694, воп. 4, с. 760, л. 9.
10. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 35, л. 590.
11. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 359, л. 637.
12. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 367, л. 140.
13. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 35, л. 706.
14. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 35, л. 1002.
15. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 50, л. 245.
16. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 394, л. 69.
17. Марцін Матушэвіч. Дыярыюш жыцця маяго.., // Спадчына, 1997, № 2, лл. 214—215.

## 21.3. Сухціцкі Мікалай (? — ?)

Каяловіч паведамляе звесткі пра Мікалая Сухціцкага, мянуючы яго лоўчым і гараднічым Менскім (1), але пры гэтым не прыводзіць ніводнай даты яго жыцця. Улічваючы, што Каяловіч выдаў сваю кнігу ў 1648 годзе і мог апісваць толькі тое, што адбывалася да гэтай даты, можна спадзявацца, што Сухціцкі мог быць адным з першых лоўчых Менскага ваяводства. Каяловіч піша, што Сухціцкі з маладых гадоў знаходзіўся на вайсковай службе. Жанаты з Масальскай, з якой меў двух сыноў — Яна і Казіміра. На жаль, нам не давялося сустрэць хоць адно ўпамінанне пра Мікалая Сухціцкага. Як паведамляе Каяловіч «род Сухціцкіх Мазавецкі. Іх продак Навой быў спадчыннікам Сухціц і Клічкова».

Крыніцы:

1. Каяловіч. «Кампендыум», л. 208.

## 21.4. Вялічка Ян Караль (? —25.01.1666 — 29.11.1676 — пасля 23.03.1703)

На нашу думку, Ян Кароль Вялічка памылкова, па віне пісара канцылярыі ВКЛ, мянованы лоўчым Менскім. У справах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага ёсць адна згадка пра Яна Караля Вялічку, названага ў дэкрэце асэсарскага суда лоўчым Менскім. Па дэкрэце асэсарскага суда ад 5 ліпеня 1676 года Ян Вялічка, лоўчы Менскі, атрымаў адпаведны ліст на баніцыю і вываланне на Яна Пажарыскага, чэсніка Мсціслаўскага, за недапушчэнне каралеўскага дваравіна да спагнання пазыкі. Да сумы пазыкі, як гэта звычайна рабілася, далучылі судовыя наклады і прад'явілі да спагнання вялізную суму ў 5445 коп грошай літоўскіх з яго маетнасцяў (1). ¨сць яшчэ адна звестка пра судовую справу з-за грунтоў у Мсціслаўскім ваяводстве. У каралеўскі асэсарскі суд Ян Вялічка, на гэты раз мянованы лоўчым Ашмянскім, і яго жонка Кацярына Васілевічаўна пазвалі 7 сакавіка 1689 года Лявона Агінскага, старасту Мсціслаўскага. Падданыя Лявона Агінскага з ключа і дзяржавы Радунскай, з сяла Клешчанка, са зброяй пастаянна нападалі на ўладанні Яна Вялічкі (2). А. Рахуба прыводзіць звесткі пра Яна Караля Вялічку, што з 1666 і па 1703 год, трымаў урад лоўчага Ашмянскага павета (3). Згодна даследаванняў, Ян Караль Вялічка, падстоліч Старадубаўскі, трымаў урад лоўчага Ашмянскага пасля смерці Паўла Карэйвы на 25 студзеня 1666 года. Жанаты быў з Кацярынай Васілевічоўнай (памерла ў 1731 годзе). Сам Ян Караль Вялічка, лоўчы Ашмянскі, склаў тэстамент 23 сакавіка 1703 года. Праверка гістарычных крыніц паказала, што ў асноўным прадстаўнікі гэтага роду стала пражывалі ў Мсціслаўскім ваяводстве і Ашмянскім павеце.

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 366, л. 117.
2. Там жа, кмф, воп. 1, с. 384, л. 306.
3. «Ураднікі Віленскага ваяводства...», № 1415, л. 233.

## 21.5. Заліўскі Аляксандр (? — 23.04.1681 — ?)

Кепская захаванасць матэрыялаў гродскіх і земскіх судовых спраў, матэрыялаў Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, што датычыліся другой паловы XVII стагоддзя, прывялі да таго, што мы не змаглі адшукаць каралеўскія прывілеі на многіх ўраднікаў Менскага ваяводства. Гэта датычыцца і асобы Аляксандра Заліўскага, які займаў урад лоў-

чага Менскага на 23 красавіка 1681 года (1). Адзінае ўпамінанне пра трыманне ім гэтага ўрада знойдзена намі ў інвентары Гаенскага старості, складзенага Дамінікам Уладзіславам Цэханавецкім, стольнікам Мсціслаўскім, старастам Гаенскім, пры передачы староства ў заставу Тамковічам за вялікую суму грошай. Разам з Аляксандрам Заліўскім подпіс пад дакументам паставіў яшчэ адзін Заліўскі, пан Багуслаў Антоні Заліўскі, падчашы Ліўскі, сын Станіслава Заліўскага,які атрымаў, пасля наступіўшай неузабаве смерці лоўчага Менскага багатую спадчыну ў выглядзе сяла Вялікія, або Кухмісцерскія, Бесяды з прылеглымі пасёлкамі і фальваркамі ад межаў Гаянскіх і да самай Карпілаўкі. Праз семь год, 23 верасня 1688 года, Багуслаў Антоні Заліўскі, падчашы Ліўскі, і яго жонка Элеанора Скопаўна, за 30 000 польскіх злотых прададуць Вялікія Бесяды разам з Баярамі Андрэю Рыгору з Абор Аборскаму, старасту Горбаўскаму, аднаму з найбольш выдатных адміністратараў Радзівілаўскага дому (2).

Першае ўпамінанне пра Заліўскіх адносіцца да 24 красавіка 1554 года, калі Мікалай Станіслававіч Заліўскі разам са сваёй жонкай Кацярынай Лаўрынаўнай Сушчынскай удзельнічалі ў атрыманні спадчыны па памёршым бацьку жонкі — Лаўрэну Сушчынскім. У сваім тэстаменце нябожчык пакінуў сваёй жонцы Альжбеце трэцюю частку сваіх менняў, а зяцю і дачцэ адпісаў менне Урыкоўскае і трэцюю частку мення Марцюшоўшчынскага (3).

Аднак сапраўдную аснову багацця роду заклаў Станіслаў Заліўскі, спачатку струкцасы дворны Літоўскі, а ў канцы XVI стагоддзя і лоўчы дворны ВКЛ, ляснічы Мярэцкі і Лаздзейскі (4), жанаты на пані Зосяй Друцкай Сакалінскай. З прывілея на сяло ў лясніцтве Лаздзейскім, падпісанага 7 красавіка 1594 года, мы даведаліся, што ў Станіслава Заліўскага, як і ў большасці зямян таго часу, маецца багаты паслужны спісак: разам са Стэфанам Баторыем удзельнічаў у многіх ваенных паходах і прайшоў з ім усю Лівонскую вайну з Вялікім княствам Маскоўскім.

У 1631 годзе ў Галаўным Трыбунале ВКЛ разглядалася справа Самуэля Палонскага з Янам Заліўскім за супраціўленне выкананню судовага рашэння. На Яна Заліўскага была вынесена баніцыя і аб’яўлена вываланне (5). У 1640 годзе кароль Уладзіслаў IV падпісаў прэзентацыю на Аліцкую плябанію яшчэ аднаму прадстаўніку гэтага дому ксяндзу Каспру Заліўскаму, архідыякану Віленскаму (6). Аднак больш вядомы, сваімі ўчынкамі быў сын Станіслава Заліўскага, лоўчага ВКЛ, таксама Станіслаў Заліўскі. Да верасня 1643 года быў жанаты з Юдыкай Ванькові-

чаўнай (7), памёршай, верагодна, пасля 13 чэрвеня 1645 года, бо ўжо на кастрычнік 1645 года Станіслаў Заліўскі быў ужо ў шлюбе з Гальшкай Волкаўнай (8). Якраз у гэтым годзе, 17 студзеня, у Бесядах адбылася трагедыя: пан Мікалай Свінарскі са сваімі слугамі, Мікалаем Чыжом з вядомай сям'і Чыжоў Мінтаўтаў, і Гратоўскім спыніўся пераначаваць у доме Станіслава Заліўскага. Сюды ж трапіў і Андрэй Казіцкі. Як праходзіла сустрэча паноў гісторыя не пакінула вядомасці, аднак вынік гэтага балявання быў вельмі жудасны: Станіслаў Заліўскі разам са сваімі сынамі Андрэем і Юр'ем забілі Мікалая Чыжа і Гратоўскага і паранілі Свінарскага і Казіцкага. Прымірэнне было дасягнута, але вялікай цаной для Заліўскіх (9).

У XVIII стагоддзі Заліўскія працягвалі захоўваць за сабой некалькі фальваркаў, размешчаных вакол Бесядаў. Дарэчы, на 7 чэрвеня 1717 года пасаду старэйшай жаночага кляштара ўсіх бернардынак у Менску займала Францыска Заліўская (10 ). Адзін з прадстаўнікоў гэтага дому, Ян Заліўскі, у 1771 годзе пацвердзіў дароўны запіс пані Апалоніі з Ратынскіх свайму мужу ФранцыскуВаладковічу, стольнікавічу Менскаму (11).

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 10, лл. 1066—1069.
2. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 9, лл. 625—626.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 34, л. 187.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 77, л. 440.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 103, л. 212.
6. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 113, л. 514.
7. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 3, лл. 1038—1039.
8. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 34, л. 701.
9. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 3, лл. 1038—1039.
10. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 38, л. 1340.
11. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 5, л. 484.

## 21.6. Пажарыскі Стэфан (пасля 19.12.1677 — канец 1684)

Звестак пра жыццё Стэфана Пажарыскага захавалася вельмі мала: асноўнай крыніцай іх для нас аказаўся фонд пад нумарам 1926, дзе былі занатаваны працаўнікамі Віленскай археаграфічнай камісіі назовы судовых спраў з кніг Менскага гродскага суда, што падлягалі знішчэн-

ню з-за сваёй дрэннай захаванасці. Кепскую паслугу для будучых даследчыкаў зрабілі людзі, якія вельмі дрэнна ведалі старабеларускую мову, але нягледзячы на гэта рабілі пераклад з яе на рускую мову. У выніку многія імёны аказаліся запісанымі са скажэннямі. Так, пад 29 жніўнем 1685 года ў акты Менскага гродскага суда была ўнесена справа лоўчага Менскага Пенкальскага з Менскімі і Берасцейскімі яўрэямі (1). Аднак мы ўжо ведаем, што яшчэ ў 1671 годзе ў Менскім гродскім судзе разглядалася справа былога лоўчага Менскага Яна Паўла Пажарыскага і яго жонкі Тэклі Свірскай з тымі ж берасцейскімі, койданаўскімі і мінскімі яўрэямі, абвінавачанымі ў невыкананні сваіх абавязацельстваў. Улічваючы, што справы ў ВКЛ маглі цягнуцца не толькі дзесяцігоддзямі, а былі выпадкі, што і на працягу больш значнага часу, то тут мы бачым працяг той жа самай справы, але ўжо з удзелам яго нашчадкаў, а менавіта, Стэфана Пажарыскага. Хаця сам Стэфан Пажарыскі на гэты час ужо не жыў, і судовую справу, верагодна, працягвала яго жонка. Кароткі запіс зместу справы не дае нам магчымасці атрымаць поўны малюнак падзей. Аднак мы маем падставу лічыць, што менавіта Стэфан Пажарыскі, лоўчы Менскі, будучы сынам і спадчыннікам усіх багаццяў Яна Паўла Пажарыскага і Тэклі Свірскай, а не Пенкальскі, працягваў і не скончыў судовую справу, якая распачалася яшчэ пры жыцці бацькі. Дарэчы, Пенкальскі Тадэуш зусім не міфічная асоба, ён жыў, прыкладна ў гэты ж час і быў таксама лоўчым, але толькі Віленскага ваяводства.

Прывілей на атрыманне Стэфанам Пажарыскім лавецтва Менскага намі не знойдзены. Вядома, што на 19 снежня 1677 года яшчэ не быў лоўчым. У справе па баніцыі ад Уладзіслава Ваньковіча, на той час яшчэ чэсніка Вількамірскага, на Стэфана Пажарыскага і Міхала Калантая. Пажарыскі ў дэкрэце асэсарскага суда пазначаны без якога-небудзь урада. Уладзіслаў Ваньковіч, будучы войскі Менскі, абвінавачваў Пажарыскага і Калантая ў пераняцці на «дабравольнай» дарозе і збіцці на горкі яблык свайго слугі Тэадора Паплаўскага (2)

Жанаты быў Стэфан Пажарыскі з Ганнай Галімскай. Дарэчы, у многіх дакументах XVII стагоддзя ўжывалася яшчэ і такая форма гэтага прозвішча, як Галінскі. Часта абедзве формы прозвішча сустракаліся нават у адным і тым жа дакуменце. Ганна Галімская пасля смерці мужа паўторна, да 5 сакавіка 1688 года, выйшла замуж за Канстанты Свалынскага, будучага суддзю гродскага Менскага. У дакуменце пад 1704 годам Ганна Галімская, былая Стэфанавая Пажарыская, лоўчыня Менская а цяпер судзіна гродская Менская, скардзілася на «брата

малодшага, на Рафала Багуфала і на Гардзялкоўскага, абвіначваючы іх у тым, што яны ў 1684 годзе давялі фартуну мужа яе і ўвесь яго набытак да зруйнавання» (3). Вядома, што ад памёршага мужа да Ганны Галімскай і яе сыноў перайшлі маетнасці Баброўнікі і Маскалеўшчызна, размешчаныя ў Менскім павеце.

Справу аб збіцці свайго слугі Тэадора Паплаўскага Уладзіслаў Тадэуш Ванькові́ч, войскі Менскі, працягваў і пасля смерці Стэфана Пажарыскага, лоўчага Менскага. Верагодна, судовыя рашэнні цяжка прымаліся, але выконваліся з яшчэ большымі перашкодамі. Так, 5 сакавіка 1688 года ў Гародні, асэсарскі суд разглядаў у каторы раз гэтую ж справу і выдаў дазвол Уладзіславу Ваньковічу, войскаму Менскаму, на далейшы пераслед Адама Пажарыскага і Канстанты Свалынскага і яго жонкі Ганны Галімскай, былой Стэфанавай Пажарыскай, лоўчыні Менскай (4). Спагнанне шкодаў, панесеных Ваньковічам, і судовых накладаў было ўскладзена на тыя ж маетнасці Баброўнікі і Маскалеўшчыну.

Наогул, Уладзіслаў Тадэуш Ваньковіч, войскі Менскі, адчуваў асаблівыя пачуцці да прадстаўнікоў гэтага роду. На 7 лютага 1688 года каралеўскі асэсарскі суд выдаў войскаму Менскаму яшчэ адзін дазвол на працяг судовага пераследу Даніела Пажарыскага і яго жонкі Марыяны Высоцкай (5).

Стэфан Пажарыскі памёр у канцы 1683 г. — пачатку 1684 года (рэестр рэчаў памёршага лоўчага Менскага быў унесены яго братам Адамам ў Менскія гродскія акты 25 студзеня 1684 года (6). У судовых справах асэсарскага задворнага суда ВКЛ сустракаецца яшчэ і імя Даніела Пажарыскага.

У пачатку XVIII стагоддзя ў акты Менскага гродскага і земскага судоў уносяцца дакументы яшчэ ад аднаго прадстаўніка гэтага роду — Яна Пажарыскага, які менаваў сябе лоўчыцам Менскім. Яго тэстамент быў складзены 24 сакавіка 1747 года, а, 31 сакавіка 1758 года жонка Яна Пажарыскага, Ганна з Мінчыкаў, былая Залеская, а цяпер Янавая Пажарыская, лоўчыцавая Менская, правяла інтрамісію па сваёй маетнасці: фальварку Буславічы з вёскамі Загор’е і Заельнікі недалёка ад Лагойска, якія некалі ўваходзілі ў склад вялікай Сялецкай латыфундыі Тамковічаў Сялецкіх. Маетнасці былі перададзеныя ёй у валоданне сыну Станіславу Пажарыскаму (7).

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1926, воп. 5, с. 4, л. 110.

2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 368, л. 498.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 4, л. 761.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 380, л. 85.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 380, л. 313.
6. Там жа, ф 1926, воп. 5, с. 4, л. 97.
7.Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 13, л. 65.

## 21.7. Пажарыскі Адам (? — 26.12.1692 — ?)

Адам Пажарыскі, брат Стэфана, былога лоўчага Менскага, таксама менаваўся лоўчым Менскім, як і яго бацька Ян Павел і брат. Са справы, разгледжанай у каралеўскім задворным асэсарскім судзе 26 снежня 1692 года, вынікае, што Адам Пажарыскі дабіўся баніцыі і вываланні на Тамаша Яна Даўгірда, падчашага Ашмянскага. Вынікі разгляду справы былі прадказальнымі і для Тамаша Яна Даўгірда, бо той нават і на суд не станавіўся (1). На нашу думку Адам Пажарыскі быў толькі лоўчыцам Менскім, с ынам сапраўднага лоўчага.

Яшчэ раз нам сутракаецца імя Адама Пажарыскага ў актах Менскага гродскага суда ў студзені 1699 года. У сваёй скарзе ў суд Адам Пажарыскі ўжо не ўпамінае аб трыманні ім урада лоўчага Менскага. Яго скарга датычыцца ўчынкаў яго крэўных — сыноў Яна Пажарыскага, харужага Мсціслаўскага. Стрыечныя браты Адама — Бенедыкт і Міхал, харужыцы Мсціслаўскія, захапілі частку Пажарышча, пакінутую памёршым Янам Паўлам Пажарыскім, лоўчым Менскім, сваёй дачцэ Крыстыне (2). Асабліва нязносныя крыўды чыніў лоўчыцу Менскаму пан Геліяш Пажарыскі.

Незадоўга да смерці Адам Пажарыскі атрымаў урад падчашага Рэчыцкага. Адам Пажарыскі, лоўчыц Менскі, падчашы Рэчыцкі, памёр да 1718 года. Яго жонка, пані Ганна з Войнаў Ясенецкіх, падчашына Рэчыцкая, уступіла ў другі шлюб з Францыскам Прысецкім, будаўнічыцам Полацкім, падстоліем Плоцкім (3).

Пад 1693 годам у актах Метрыкі ўпамінаецца пані Ганна Пажарыская Казіміравая Хвалібогавая Васілеўская, лаўчынянка Менская. Аднак імёны яе бацькоў намі пакуль што, не ўстаноўлены.

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 394, л. 892.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 50, л. 245.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 40, лл. 600, 881.

## 21.8. Война Юр'я Ян (27.06.1684 —?)

Юр'я (Ежы) Война атрымаў прывілей на ўрад лавецтва Менскага 27 чэрвеня 1684 года (1). Звычайна ва ўсіх прывілеях прыводзіцца імя і прозвішча папярэдніка з паведамленнем па якой прычыне пасля смерці або дабраахвотна ён адышоў з гэтага ўрада. Аднак на гэты раз традыцыя была парушана, і нам застаецца толькі рабіць дапушчэнне, што гэты прывілей Война атрымаў пасля смерці Стэфана Пажарыскага.

Вядома, што меў дзвюх сясцёр: адна з іх была ў шлюбе з Антоніем Зайгеркоўскім, а другая з адным з Галімскіх. Пляменнік, Крыштоф Галімскі, пасля смерці дзядзькі, меўшай месца ў канцы гэтага ж 1684 года, атрымаў каралеўскі прывілей на вакуячы ўрад лоўчага Менскага (2).

Пасля сваёй смерці Юр'я Война пакінуў двух сыноў, адзін з якіх, Ян Война, атрымаў у спадчыну маетнасці Ваўчкі, Скібачэўшчыну (у некаторых крыніцах — Сабалакаўшчына) і Пятроўшчыну (3). Звесткі аб гэтым атрыманы намі з тэстаменту Яна Войны, складзенага 13 сакавіка 1708 года і ўнесенага ў гродскія Менскія актавыя кнігі 2 мая гэтага ж года (4). Пасля смерці Яна Войны некаторыя яго маетнасці трапілі ў рукі ягоных цётачных (сыноў цёткі, сястры бацькі) братоў Зайгеркоўскіх (5).

Род Войнаў быў даволі шырока вядомы ў ВКЛ і меў адгалінаванні амаль ва ўсіх ваяводствах і паветах княства. У 1638 годзе адзін з Войнаў, Абрагам Война, сын Сямёна Войны , займаў пасаду біскупа Віленскага і разам з Аляксандрам Войнам, старастам Паюрскім, веў судовую справу з Пятром Драбышэўскім, чэснікам і падстарастам судовым Менскім, з-за нявернутай своечасова пазыкі (6). Крыху пазней, 9 снежня 1653 года, яшчэ адзін прадстаўнік гэтага роду, Крыштоф Война, засядаў часова ў Менскім гродскім судзе на месцы падстарасты судовага Пятра Капашчэўскага (7). У ліпені 1661 года яшчэ адзін прадстаўнік гэтага роду, пан Казімір Война, пісар земскі Пінскі і паборца падымнога пабору, прызначанага на ўтрыманне войска, быў падвергнуты баніцыі па дэкрэце Галаўнога Трыбунала па скарзе пані Зосі Альшэўскай Янавай Адахоўскай, абвінавацілай паборцу Пінскага павета ў зборы падатку з яе вёскі Даўкговічы ў значна большых памерах, чым гэта было прадугледжана соймам Рэчы Паспалітай (8).

У Пінскім павеце пражываў і меў пастаянную аселасць (г. зн. уладаў зямельнымі добрамі) Казімір Война, суддзя земскі Пінскі, які за нейкія грахі быў падвергнуты баніцыі і вываланню за межы краіны па скарзе

Севярына Радзевіча, падстолія Пінскага. Нягледзячы ні на што, Казімір Война, суддзя земскі Пінскі, на суд у Вільні так і не станавіўся (9).

Крыніцы:

1. НГАБ. Ф 1926, воп. 5, с. 4, л. 101.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 671.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 6, л. 308.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 671.
5. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 37, л. 1045.
6. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 314, л. 406.
7. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 34, л. 1459.
8. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 348, л. 298.
9. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 388, л. 155.

## 21.9. Галімскі Крыштоф (1684 — ?)

Крыштоф Галімскі, пляменнік Юр'я Война, лоўчага Менскага, згодна з А. Рахубам, атрымаў прывілей на ўрад, таксама як і дзядзька, у 1684 годзе (1). Гэта магло быць у двух выпадках: або Юр'я Война з нейкіх прычын сам адмовіўся ад урада, або, што больш верагодна ў даным выпадку, памёр. Брак дакладных звестак вымушае нас пагадзіцца з А. Рахубам аб даце атрымання ўрада Крыштофам Галімскім. Памёр у 1710 годзе і, верагодна, яшчэ да 1690 года адмовіўся ад урада, бо ўжо на 1691 год гэты ўрад знаходзіўся ў трыманні Даніеля Аўлачымскага. Жанаты з Кацярынай Мікалаеўскай, якая сышла з гэтага свету праз год пасля смерці свайго мужа (2).

Крыштоф Галімскі трымаў у Навагародскім ваяводстве менні, што складаліся агулам з 15 службаў. Асноўная ж яго маетнасць Вікшмяны, нададзеная яму ленным правам яшчэ каралём Янам III, знаходзілася ў Аршанскім павеце. Па тэстаменце, складзеным 17 сакавіка 1710 года і ўнесеным у актавыя кнігі Менскага гродскага суда 7 жніўня 1710 года, Вікшмяны перайшлі ў спадчыну яго сынам: Аляксандру і Дамініку (3).

На 14 сакавіка 1703 года ўрад войскага Аршанскага павета займаў яшчэ адзін прадстаўнік гэтага роду — Мікалай Галімскі, які на гэты час вёў судовую справу ў гродскім судзе з Сангушкам, старастам Падусвяцкім (4).

Крыніцы:

1. «Рэестр падымнога Навагародскага ваяводства...», л. 86.

2. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 7, л. 272.
3. «Рэестр падымнога Навагародскага ваяводства...», л. 157.
4. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 37, л. 755.

## 21.10. Булгак Бенедыкт (? — 26.03.1688 — 22.02.1699)

З архіўных матэрыялаў вядома, што Бенедыкт Булгак займаў урад лоўчага Менскага ваяводства на 26 сакавіка 1688 года, калі падпісаўся пад лістом аб уступцы сваёй маетнасці Беліца ў Лідскім павеце княгіні Людвіцы Караліне Радзівілавай, маркграфіні Брандэнбургскай (1). З даты падпісання гэтага дакумента вынікае, што мог трымаць урад лавецтва Менскага адначасова з Крыштофам Галімскім.

Вядома, што на снежань 1671 года быў жанаты з пані Мартынаўнай Абрынскай, ад якой меў сына Ежы, уступіўшага ў шлюб з Ганнай з Макгільніцкіх і жыўшага яшчэ ў канцы 1717 годзе, калі ён вёў судовы працэс з Антоні і Юзэфам Прэлоўскімі, падсудковічамі Слонімскімі (2).

Першае ўпамінанне пра Бенедыкта Булгака сустрэлася нам у матэрыялах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага пад датай 15 лютага 1672 года. У гэты дзень каралеўскі асэсарскі суд княства прыняў дэкрэт па справе Булгака да пана Габрыела Рудаміна Дусяцкага, кашталяна Навагародскага. Яшчэ 29 снежня 1671 года на паседжанні ГТЛ у Менску Бенедыкт Булгак дабіўся баніцыі на Габрыеля Рудаміну Дусяцкага, кашталяна Навагародскага, за тое, што той, пасля вынясенні баніцыі на пані Луцыю Пасацкую Міхалавую Рудамінавую Дусяцкую, сваю братавую, узяў на перахаванне ўсе яе каштоўныя рэчы і грошы, ратаваўшы такім чынам сваю братавую ад канфіскацыі маёмасці на карысць Бенедыкта Булгака з-за невяртання некалі ўзятай пазыкі (3). Яшчэ раз нам трапляецца імя Бенедыкта Булгака ў дэкрэце Галаўнога Трыбунала 4 снежня 1693 года, вынесенага па скарзе Траяна Міцкевіча, суддзі гродскага Менскага (4). Некалі Бенедыкт і Ян Булгакі далі яму запіс аб пазыцы некаторай сумы грошай, а разлічыцца, як гэта часта бывае, забыліся: усе ж ведаюць, што пазычаеш чужыя, а аддаеш свае кроўныя. Цікава, што ў гэтым выпадку Бенедыкт Булгак пазначаны без урада.

Як вынікае з матэрыялаў Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, памёр Бенедыкт Булгак у канцы 1698 — пачатку 1699 года, бо якраз ужо 22 лютага 1699 года быў падпісаны прывілей на лавецтва Менскае Францыску Яблонскаму з Самсонаў (5). Праўда, з гэтай датай не ўсё зразумела, бо якраз на гэты час, пачынаючы з 1690 года, урад лавецт-

ва Менскага трымаў Даніел Карнелі Аўлачымскі. Верагодна, што і ў гэтым выпадку ўрад быў атрыманы па звычайнай для ВКЛ схеме: у канцылярыю грошы адтуль каралеўскі прывілей на любы ўрад.

Род Булгакаў быў даволі шырока прадстаўлены ў межах Менскага ваяводства. Можна назваць некалькі іх прадстаўнікоў, адыгрываўшых значную ролю ў жыцці ваяводства. Так, у 40-х гадах XVII стагоддзя ў Менскім гродскім судзе засядаў Мікалай Дамінік Булгак, суддзя гродскі Менскі, потым да 1658 года — падсудак земскі Менскі. Ці не той гэта быў Мікалай Булгак, які ў 1645 годзе, разам са сваімі крэўнымі Казімірам Нарбутам і Тэадорам Булгаком, цяжка параніў у бойцы Пятра Валадковіча, сына Марціна Валадковіча, суддзі земскага Менскага, і яго сваяка Мікалая Богуша, харужага Мозырскага (6). Учынкі прадстаўнікоў роду Валадковічаў так даліся ў знакі панам Булгакам і іх прыхільнікам, што яны ўсур'ёз абяцалі заліць крывёю Валадковічаў Менск у час правядзення там грамнічнага (лютаўскага) сойміка.

У першай палове XVIII стагоддзя ў межах Менскага ваяводства жылі прадстаўнікі роду Булгакоў, якія насілі таксама імя Бенедыкт. Так, на 20 студзеня 1729 года ў гродскія Менскія актавыя кнігі ўнесены прадажны запіс ад Бенедыкта Булгака, падчашага Рэчыцкага свайму брату Лукашу Булгаку, падстолію Мозырскаму, на фальварк Рулоўшчызна з сялом Мікуліна. Гэтыя маетнасці засталіся Бенедыкту Булгаку пасля смерці яго бацькі Вінцэнта Казіміра Булгака, мечнага Мозырскага (7). У 1766 годзе, паміраючы, Лукаш Лявон Булгак, падстолі Мозырскі, у сваім тэстаменце згадвае свайго сыноўца Бенедыкта Булгака, падсудковіча Навагародскага ваяводства (8).

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 142, л. 522.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с.51, л. 298.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 149, л. 466.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 393, л. 23.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 359, л. 192.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 34, лл. 595—603.
7. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 9, л. 485.
8. Там жа, ф 1769, воп. 1, с.4, л. 490.

## 21.11. Яблонскі Францыск (22.02.1699 — ?)

Прывілей на лавецтва Менскае Францыск з Самсонаў Яблонскі атрымаў 22 лютага 1699 года пасля смерці Бенедыкта Булгака, як гэта

было запісана ў прывілеі (1). Згодна з Банецкім (2), Яблонскія, гербу Самсон з Яблоні — Самсонаў у зямлі Бельскай, аселі ў Навагародскім ваяводстве, хутчэй за ўсе ў сярэдзіне XVII стагоддзя. Вінцэнт Яблонскі з Самсонаў, каралеўскі шамбелян, меў 4-х сыноў: Антонія, Францыска, будучага лоўчага Менскага, Аляксандра і Гіпаліта, у якога нарадзіўся сын Канстанты Францыск. У матэрыялах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага (т. 345) упамінаюцца пад 1652 годам Ян і Паўла Яблонскія. Іх маці, Ева Кгалецкая атрымала сублевацыю на баніцыю ад Крыштофа на Бакштах Завішы і пані Барбары Пукшцянкі за супраціўленне выкананню дэкрэта Галаўнога Трыбунала аб спагнанні з яе маетнасці Дзярэўна вялікай сумы грошай (3).

Згодна з нашымі звесткамі, Францыск з Самсонаў Яблонскі, лоўчы Менскага ваяводства, жыў яшчэ ў 1703 годзе (3). Якраз у гэтым годзе праходзілі паседжанні Менскага гродскага суда, прысвечаныя разгляду яго скаргі на былога сябра Юр'я Перакопскага і ягонага зяця Яна Кроера (4). Яшчэ дзесяць год таму, у 1692 годзе, Францыск Яблонскі пазычыў Юр'ю Перакопскаму значную колькасць рэчаў, сярод якіх бадай ці не самай каштоўнай была турэцкая шабля, багата аздобленная срэбрам. Усяго такіх рэчаў, сярод якіх не апошняе месца займалі каштоўныя кафтаны і шапкі, налічвалася каля дзесяці. Кошт пазычаных рэчаў перавышаў суму ў 20 бітых талераў. Калі ж Францыск Яблонскі, не дачакаўшыся вяртання сваіх рэчаў, паехаў да сябра у яго маетнасць Атцэда, то сустрэўся, зусім нечакана для сябе, з вялікай варожасцю да сваёй асобы. Францыска Яблонскага скінулі з каня, павалілі на зямлю, доўга білі і, нарэшце, напоўжывога ўкінулі ў рэчку, паабяцаўшы забіць насмерць, калі ён яшчэ раз успомніць пра свае рэчы. На 1701 год. Францыск Яблонскі з Самсонаў, лоўчы Менскі, быў у шлюбе з жанчынай з роду Ламбертаў.

У Менскім ваяводстве Францыску Яблонскаму з Самсонаў, лоўчаму Менскаму, належала маетнасць Дварэц. Яго сыну Юзэфу з Самсонаў Яблонскаму, скарбніку Пінскаму, і жонцы Разаліі Граўскай, у першым шлюбе Міхалавай Бірбашовай, перайшлі ўсе маетнасці бацькі пасля смерці Францыска Яблонскага, меўшай месца да 25 студзеня 1713 года. Ужо 20 лютага гэтага ж года спадчыннікі правялі інтрамісію (увайшлі ў правы гаспадароў маетнасцяў) (5). Унук Францыска Яблонскага. Аляксандр і Францыска з Самуэлаў Яблонскія, менаваўшыя сябе лоўчыцамі Менскага ваяводства, на 30 сакавіка 1734 года, вялі працяглы судовы працэс з суседзямі па прыналежнасці памежных земляў (6). Верагодна, што менавіта сам Аляксандр з Сам-

сонаў Яблонскі неўзабаве атрымае і будзе трымаць аж да 1758 года ўрад мечнага Менскага.

Нашчадкі Яблонскіх аселі ў межах Навагародскага ваяводства і займалі там уплывовыя ўрады. Так, Ян з Самсонаў Яблонскі яшчэ на пачатак 1759 года трымаў Навагародскае гараднiцтва, уступіўшы яго па прывілеі ад 20 сакавіка 1759 года свайму сыну Казіміру з Самсонаў Яблонскаму (7). На 1768—1769гг. шляхта Навагародскага ваяводства абрала Францыска з Самсонаў, чэсніка Навагародскага, дэпутатам Галаўнога Трыбунала (8). Не парывалі сувязі Яблонскія і з Менскім ваяводствам. Так, у 1771 годзе той жа самы Францыск Яблонскі падпісаўся пад застаўным лістом ад Міхала Валадковіча, старасты Гаенскага (9).

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 149, л. 466.
2. Банецкі Адам. «Гербоўнік Польскі...», т. 8, л. 122—123.
3. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 345, л. 1.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 37, лл. 747, 774.
5. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 7, л. 1131.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 10, л. 235.
7. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 181, л. 869.
8. «Дэпутаты Галаўнога Трыбунала ВКЛ (1697—1794гг.)...», л. 296.
9. НГАБ. Ф 1769, воп. 1, с. 5, лл. 571—572.

## 21.12. Няміра Рыгор (? — 07.10.1694 — 06.03.1714 — ?)

Дата атрымання прывілея Рыгорам Нямірам намі не ўстаноўлена. Невядома, і гэта галоўнае, хто выдаў гэты прывілей. Час жыцця і атрымання прывілея на лавецтва Менскае Рыгорам Немірам быў, бадай што, ці не самым складаным у гісторыі існавання Вялікага княства Літоўскага. Краіну ахапіла грамадзянская вайна паміж прыхільнікамі розных палітычных плыняў. Становішча ўскладнілася адкрытай інтэрвенцыяй іншаземных войскаў, якія вялі сябе ў краіне, не маючай дастаткова сіл, каб даць належны адпор захопнікам, так, нібыта перад імі была пастаўлена задача пераўтварыць некалі квітнеючую краіну ў суцэльную пустэчу. У краіне меліся ўплывовыя сілы, якія выкарыстоўвалі гэтую сітуацыю для вырашэння асабістых эгаістычных патрэбаў, зусім не дбаючы аб інтарэсах сваёй Радзімы.

Першая згадка пра Няміраў адносіцца да канца XIV стагоддзя: пачынальнік гэтага роду Ян Няміра (? — пасля 1420 года) упамінаецца ў 1398 годзе як канюшы Вітаўта. Захоўваецца легенда аб паходжанні гэтага прозвішча. Удзельнічаючы ў перамовах з Маскоўскімі пасламі і не давяраючы ім, прапаноўваў вялікамі князю Літоўскаму не даваць Маскве міру, а распачаць вядзенне ваенных дзеянняў (1).

Упершыню ўпамінаецца Рыгор Няміра ў дакуменце, датаваным 1670 годам. Паміж Людвікам, Рыгорам і Давыдам Нямірамі ў Менскім гродскім судзе вялася судовая справа. Як нам падаецца, толькі што памёр іх бацька, Ян Няміра, гараднічы Навагародскі, і дзеці не маглі прыйсці да згоды аб падзеле спадчыны. Справа ўскладнялася яшчэ і па той прычыне, што спадчыну дзялілі дзеці Яна Няміры ад двух шлюбаў. Ян Няміра займаў урад гараднічага Навагародскага яшчэ на 1654 год, калі ён дабіўся, пасля працяглай судовай справы, баніцыі на Юр'я Пятроўскага з-за невяртання пазычаных грошай (2). Верагодна, што на гэты час ён быў у шлюбе з другой сваёй жонкай пані Ганнай Барэйшанкай. Як ад першай жонкі, так і ад Ганны Барэйшанкі нарадзіліся ў асноўным сыны. Верагодна, ад першай жонкі, імя яе нам невядома, нарадзіліся сыны: Людвік, Аляксандр, мечны Навагародскі, Давыд, будучы падчашы Менскі, Юзэф, стольнік Дэрпцкі, Леапольд, канонік Луцкі і Казімір. Ад Ганны Барэйшанкі, нарадзіліся: Рыгор, лоўчы Менскі, Крыштоф, стольнік Навагарод Северскі і, магчыма, Гіеронім (3). У значна пазнейшым дакуменце, складзеным нашчадкамі Гіероніма Няміры, харужага Дэрпцкага, пазначаецца, што Давыд і Рыгор Няміры былі ад адной маці, першай жонкі Яна Няміры, гараднічага Навагародскага, мянованага тут Храбтовічам (4). У дадзеным выпадку патрэбна лічыцца з тым, што дакумент складзены амаль праз сто гадоў пасля смерці Яна Няміры, у чэрвені 1777 года і шмат што знікла з памяці яго нашчадкаў. Тым болей, што і сам Давыд Няміра ў адной скарзе ў суд даводзіў, што Рыгор яго брат, але народжаны другой маці.

Паміраючы, Ян Няміра, гараднічы Навагародскі, добра разумеючы складанасць становішча ў сям'і, прадугледзеў апякунства над сваімі малодшымі дзецьмі з боку старэйшых і, відаць, больш памяркоўных сыноў: Людвіка і Аляксандра, мечнага Навагародскага. Аднак іх уплыў не быў бязмежны. Супярэчнасці з-за спадчыны не заўсёды ўдавалася вырашаць мірным шляхам. Вынікам гэтага быў напад падданых Рыгора і Давыда Няміраў, зроблены ў сярэдзіне 1670 года, на месца жыхарства Людвіка. Як падае пацярпеўшы, «браты

напалі і нанеслі шкоду на поўдзесятка тысяч коп грошай літоўскіх, пабілі жонку, а самога Людвіка Няміру, у дадатак, пакалечылі» (5). У гэтым дакументце Рыгор Няміра яшчэ не мянуецца лоўчым Менскага ваяводства. Улічваючы што трыманне хоць якога ўрада было для шляхетнага чалавека марай усяго яго жыцця, выхад дакумента без пазначэння ўрада чалавека быў немагчымым. З гэтага можна зрабіць вывад, што прывілей на ўрад лавецтва Менскага Рыгор Няміра атрымаў значна пазней. Не быў Рыгор Няміра лоўчым Менскім і ў 1690 годзе. У матэрыялах судовай справы, што разглядалася 11 чэрвеня гэтага года ў Менскім гродскім судзе, ён упамінаецца без урада (6). Толькі 7 кастрычніка 1694 года ў судовай справе Рыгор Няміра мянованы лоўчым Менскім, а яго брат Давыд — падчашым Менскім.

Да характарыстыкі адносінаў паміж братамі патрэбна дадаць яшчэ некалькі слоў: іх землі межаваліся і таму даволі часта ў судовых паперах можна сустрэць аповяды братоў Рыгора і Давыда аб узаемным знішчэнні пасеваў, звозе з палеткаў збажыны і нават аб дратаванні быдлам толькі што засеяных палеткаў. Асабліва брыдкі эпізод адбыўся па віне Рыгора Няміры ў час пахавання Яна Жыжэмскага, падкаморжыча Менскага ваяводства. Разам са сваімі сынамі і натоўпам памочнікаў і падданых ён наляцеў на жалобную працэсію і спрабаваў разагнаць яе, каб пабіць свайго брата Давыда з яго жонкай Канстанцыяй Бароўскай. Толькі ўмяшанне ўплывовых асобаў, сярод якіх аказаўся і Пётр Пратасовіч, войскі Менскі, не дазволіла адбыцца трагедыі (7). Першая вядомая нам судовая справа паміж Рыгорам і Давыдам Нямірамі слухалася ў Менскім гродскім судзе 7 кастрычніка 1694 года (8). Апошні вядомы нам судовы працэс паміж братамі меў месца зноў жа ў Менскім гродскім судзе, але ўжо праз 23 гады (9). Магчыма, што былі яшчэ судовыя працэсы, але сведчанняў пра гэта мы не знайшлі.

Не лепшыя адносіны склаліся ў Рыгора Няміры, лоўчага Менскага, і з іншымі братамі. Так, на 8 жніўня 1700 года Рыгор Няміра дае позву ў суд пані Кацярыне Баўфалавай Гіеронімавай Нямірынай, харужыне Дэрпцкай. З прычыны смерці мужа яна ў гэтай справе выступае адказчыцай перад Рыгорам Нямірам, лоўчым Менскім, абвінавачваючым яе ў невяртанні дакументаў па падзеле спадчынных маетнасцяў (10).

Характэрнай з'явай не толькі для Менскага ваяводства было правядзенне ў пачатку XVIII стагоддзя соймікаў, арганізаваных канкуруючымі паміж сабой шляхецкімі групоўкамі. Так і ў Менску 6 сака-

віка 1714 года адбыўся соймік з нязначным удзелам ваяводскай шляхты, але адметна, што сярод удзельнікаў быў і Андрэй Бенедыкт Карніцкі, лоўчы Менскі (11). Значна большы гурт шляхты пад дырэктарствам Уніхоўскага, пісара земскага Менскага, адбыўся 14 сакавіка гэтага ж года. Сярод удзельнікаў гэтага сойміка, якія падпісаліся пад лаўдумам, быў і другі лоўчы Менскі — Рыгор Няміра (12). Патрэбна адзначыць, што пасля гэтай даты нешта адбылося з Рыгорам Нямірам: ён перастаў менавацьсябе лоўчым Менскім.

Ажаніўся Рыгор Няміра з Ганнай Андрэеўскай, ад якой у яго нарадзіліся два сыны, Ян і Казімір, і дзве дачкі, Канстанцыя і Ганна (13). Ганна Андрэеўская Рыгоравая Нямірына жыла яшчэ ў 1720 годзе.

Заканчваючы аповяд пра Няміраў, можна давесці яшчэ пра аднаго нашчадка гэтага славутага ў Вялікім княстве роду, які жыў у XIX стагоддзі. Адзін з удзельнікаў каўказскай вайны, георгіеўскі кавалер, выхаванец Полацкага кадэцкага корпуса Антон Восіпавіч Няміра, стаў генерал-лейтэнантам Расейскіх войскаў (14).

Крыніцы:
1. Э.Г.Б., т. 5, л. 320.
2. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 346, л. 1.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с.5, л. 470; с 37, лл. 241, 615. Ф 1769, воп. 1, с. 13, л. 349.
4. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 30, лл. 268—287.
5. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 35, л. 416.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 36, л. 142.
7. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 37, л. 615.
8. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 36, л. 697.
9. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 38, л. 1374.
10. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 37, л. 241.
11. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 7, л. 1592.
12. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 7, л. 158.
13. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 37, л. 65.
14. Б.Г.Ч., 1999, № 4, л. 51.

## 21.13. Паморскі Ежы (? — ? )

Нягледзячы на тое, што ў кожным ваяводстве і павеце павінна было быць па аднаму прадстаўніку любога ўрада, у Менскім ваяводстве ў пачатку XVIII стагоддзя назіралася перавытворчасць лоўчых.

Здаецца, што толькі самы бедны шляхціч не мог дазволіць сабе набыць правы на гэты ўрад. Верагодна, што і Ежы Паморскі набыў гэты ўрад, калі ў кішэні завяліся лішнія грошы. На жаль, нам не давялося сустрэць дакумент, дзе было б пазначана, калі ён атрымаў прывілей на ўрад лавецтва Менскага. Не захаваліся дакументы, якія б былі складзены самім Ежы Паморскім, з пазначэннем яго ўрада. Верагодна, што гэта той самы Ежы Паморскі, які, разам з Якубам Таргонем Жыдовічам, быў жорстка збіты па загадзе Марціна Казіміра Валадковіча, пісара земскага Менскага, падчас урачыстай цырымоніі ўступлення Антонія Кастравіцкага на ўрад войта Менскага 2 мая 1700 года (1). Невядома і калі памёр Ежы Паморскі. Пошук дакументаў, датычных асобы Ежы Паморскага ўскладняўся і тым, што, пачынаючы з 1710 года і да пачатку 30-х гадоў гэтага стагоддзя актыўна праводзіў судовыя працэсы яшчэ адзін Паморскі — пан Ежы Станіслаў, мечны Менскі. Верагодна, што імя Ежы было бадай ці не самым ужывальным у Паморскіх. На 15 чэрвеня 1685 года ў асэсарскім судзе слухалася справа Гіероніма Бусяцкага Твароўскага, падстолія і падстарасты судовага Аршанскага, з яшчэ адным Ежы Паморскім, суддзей гродскім Рэчыцкім, па прыналежнасці маетнасцяў Мазыкоўшчына і Візгердаўшчына, размешчаных у межах Ашмянскага павета. Пан Ежы Паморскі, суддзя гродскамі Рэчыцкі, і яго жонка Канстанцыя Калясніцкая па дэкрэце суда павінны былі выплаціць Твароўскаму за панесеныя ім шкоды і кампенсаваць судовыя выдаткі 14 650 польскіх злотых. Зразумела, што па звычаі таго часу, адчуваючы характар судовага рашэння, Паморскі і яго жонка ў суд не станавіліся і судовага двараніна ў свае маетнасці не дапусцілі (2).

Наша паведамленне аб Ежы Паморскім, лоўчым Менскім, заснавана на двух дакументах: ад 1710 і ад 1715 гадоў. Як вядома, Пётр Пратасовіч, войскі Менскі, уступіў у шлюб з пані Зосяй Макавецкай, былой Аляксандравай Вяжэвічавай, харужынай Менскай. Ад першага шлюбу засталіся дзеці: сыны Ежы, Станіслаў і Караль і дачка Юстына ў шлюбе з Ежы Паморскім, лоўчым Менскім. Сам Ежы Паморскі, лоўчы Менскі, у судовых дакументах не ўпамінаецца, бо, відаць, памёр значна раней. На 17 лістапада 1707 года пані Зося Макавецкая, цяпер Пятровая Пратасовічавая, войская Менская, склала і ўнесла ў актавыя кнігі Менскага гродскага суда свой тэстамент (3), пакінуўшы мужу значныя добры: маетнасці, грошы і розную рухомасць. Пасля яе смерці, на доўгі час не адкладваючы, Пётр Пратасовіч, войскі Менскі, тэрмінова ўступае ў новы шлюб з пані Марыянай з Бялінскіх,

якая таксама ўжо была раней у шлюбе з Міхалам Баўфалам. Некаторыя з маетнасцяў і нейкая частка рухомасці была запісана Пятром Пратасовічам новай жонцы, што зразумела выклікала негатыўную рэакцыю нашчадкаў Зосі Макавецкай.

Першы судовы працэс адбыўся ўжо ў 1710 годзе. Справа датычылася маетнасці Старынкі, якую Пётр Пратасовіч трымаў у дэпазіце да дасягнення сталасці дзяцей Аляксандра і Зосі з Макавецкіх, Вяжэвічаў, харужых Менскіх. Калі ж дзеці Вяжэвічаў атрымалі сваю спадчыну, то зразумелі, што некаторая частка маёмасці была забрана Пятром Пратасовічам сабе і сваёй новай жонцы. Скаргу, у 1710 годзе, у суд падала пані Юстына з Вяжэвічаў Ежына Паморская, лоўчыня Менская (4). Браты Юстыны, як і яе муж, у матэрыялах справы не ўпамінаюцца, і мы не ведаем прычыну іх няўдзелу ў судовай справе. Браты Ежы, Станіслаў і Караль Вяжэвічы, узнаўляюць судовую справу толькі ў 1715 годзе, але праводзяць яе на гэты раз ужо сумесна с сястрой Юстынай. Пётр Пратасовіч, войскі Менскі, на гэты час ужо памёр, таму адказчыцай у гэтай справе выступае пані Марыяна з Бялінскіх, былая Пятровая Пратасовічавая, войская Менская, а цяпер Андрэевая Бенедыктавая Карніцкая, лоўчыня Менская (5).

Прозвішча Юстыны Вяжэвічавай Ежынай Паморскай, лоўчыні Менскай, сустракаецца ў апошні раз у застаўным запісу на маетнасць Паўлу і Марыяне з Сасноўскіх Судаковічам, унесеным у актавыя кнігі Менскага гродскага суда 22 лістапада 1727 года (6).

Паморскія здаўна насялялі абшары Менскага павета. На 1677 год, згодна з рэестрам падымнога Менскага ваяводства, Андрэй Францыск Паморскі трымаў у маетнасці Душкевічы 2 дымы сваіх падданых. Яшчэ адзін Паморскі, Канстанты, валодаў некалькімі дамамі ў Волме і Набароўшчызне (Рэестр падымнога Менскага ваяводства ад 1667 года, лл. 2, 13).

Крыніцы:

1. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 50, лл. 884—886.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 377, л. 87.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 605.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 6, л. 500.
5. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 2, л. 83.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 9, л. 223.

## 21.14. Касцюшкевіч Станіслаў (? — 24.06.1688 — 02.05.1706 — ?)

Звестак пра яшчэ аднаго лоўчага ваяводства Менскага Станіслава Касцюшкевіча (або Касцюковіча) знойдзена намі вельмі мала.

Прозвішча Касцюшкевіча ў матэрыялах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага нам сустракалася яшчэ пад 1607 годам. Ян Касцюшкевіч, урадоўнік паноў Тышкевічаў на Лагойску, на чале атрада стральцоў, перашкодзіў возным Менскага павета выканаць рашэнне Менскага гродскага суда аб увязанні ў трыманне Лагойскам пана Кготарда Аляксеевіча Хадаркоўскага (1).

Першае ўпамінанне пра Станіслава Касцюшкевіча датычыцца справы па заставе па маетнасці Буцавічы. Прэтэнзіі на гэтую маетнасць да Станіслава Касцюшкевіча, лоўчага Менскага, на працягу значнага часу прад'яўляў Стэфан Хамянтоўскі, лоўчы Сандамірскі. У рашэнні Менскага гродскага суда ад 12 кастрычніка 1700 года запісана, са слоў Стэфана Хамянтоўскага, што справа гэта была пачата яшчэ ў 1689 годзе. Вёска Буцавічы была запісана Багуслававам Радзівілам, канюшым ВКЛ, сваёй дачцэ, а потым павінна была за пазыку перайсці ў застаўнае трыманне да самога Стэфана Хамянтоўскага. Аднак нейкім чынам вёска Буцэвічы аказалася ў трыманні пана Паўла Караля Чыжа, стольніка Мсціслаўскага. Сам Станіслаў Касцюшкевіч, лоўчы Менскі, ужо на кастрычнік 1700 года трымаў маетнасць Буцавічы ў заставе ад Паўла Чыжа, стольніка Мсціслаўскага. Дарэчы, Павел Чыж быў жанаты з пані Геленай Ганнай Дэмбоўскай (2). Крыху пазней, 30 жніўня 1706 года, у акты Менскага гродскага суда была ўнесена судовая справа, супраць Станіслава Касцюшкевіча і яго жонкі Альжбеты Дэмбоўскай зноў па заставе, але на гэты раз маетнасці Дабрынева, узбуджаная Раінай Тэафіліяй Мірскай Клакоцкай, харужынай Менскай, але па прычыне таго, што яна на гэты час ужо памёрла, працягваў дабівацца справядлівасці яе сын Гіеронім Клакоцкі, стараста Рэчыцкі (3).

Як вынікае з матэрыяла, змешчанага ў фондзе 1727 «Менскі гродскі суд» (4), пачынаючы з 1688 года доўга судзіўся з пані харужынай Менскай і яе нашчадкамі па прыналежнасці маетнасці Цыкутовічы. Справа пачалася яшчэ ў 24 чэрвеня 1688 года, калі Раіна Тэафілія Мірская Казіміравая Клакоцкая, харужына Менская, перадала ў заставу на чатыры гады Станіславу Касцюшкевічу, ужо менаваўшаму сябе ў дакументах лоўчым Менскім, і яго жонцы Альжбеце Дэмбоўскай маетнасць Цыкутовічы, аддзеленую ад Станькава, якая

належала раней Багуславу Радзівілу, канюшаму ВКЛ, і знаходзілася потым ва ўласнасці пані Брандэнбургскай. Перад Станіславам Касцюшкевічам, лоўчым Менскім, была пастаўлена ўмова, што ён, па першым жа патрабаванні гаспадыні маетнасці, пані Брандэнбургскай, верне маетнасць пасля атрымання пазычаных грошай (5). Пасля смерці пані харужыны Менскага ваяводства, дабіўшыся, верагодна, спрыяльнага для сябе рашэння суда па прыналежнасці маетнасці, стаў актыўна, як гэта сказана ў дакуменце, «прыўлашчваць яе». Як далей падаецца ў дакуменце, канчаткова вырашыць усю справу з захопам маетнасці не паспеў, бо памёр да 24 лістапада 1709 года. Патрэбна, аднак, адзначыць, што на гэты час, па каралеўскім прывілеі ад 1 грудня 1705 года ўрад лоўчага Менскага трымаў Андрэй Бенедыкт Карніцкі (6). Яшчэ горшай, на наш погляд, справа з наданнем урада лоўчага была ў 1700 годзе. Тады, па нашых матэрыялах, у Менскім ваяводстве менаваліся лоўчымі: Францыск з Самсонаў Яблонскі, Даніель Карнелі Аўлачымскі і, нарэшце, Станіслаў Касцюшкевіч.

У матэрыялах Менскага гродскага суда на 1706 год праходзіць месціч Менскі Тэадор Касцюкевіч, бурмістр Менскі. Якраз у гэтым годзе ён выдаў сваю дачку Кацярыну з добрым пасагам за Крыштофа Валіцкага, старасту Бухнавецкага, будучага лентвойта Менскага (7).

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 293, л. 56.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 37, лл. 389, 541.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 4, л. 842.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л.1072.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 239.
5. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 7, лл. 151, 153, 157.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 321.
7. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 321.

## 21.15. Міцкевіч Давыд
## (? — 20.08.1704 — 20.10.1704)

Тэкст прывілея Давыду Міцкевічу, двараніну каралеўскаму, сыну Траяна Міцкевіча, суддзі гродскага Менскага, на лавецтва Менскае нам не ўдалося адшукаць. Адзіная згадка пра ўрад знойдзена намі ў каралеўскім прывілеі ад 20 жніўня 1704 года на атрыманне дзяржавы Руднікі ў Ашмянскім павеце пасля смерці Мікалая Халецкага (1), дзе

Давыд Міцкевіч названы лоучым Менскім. Інфармацыя пра трыманне ўрада лавецтва Менскага Давыдам Міцкевічам знаходзіць пацвярджэнне і ў матэрыялах А. Рахубы. Згодна з А. Рахубам, Давыд Міцкевіч, дваранін каралеўскі, лоўчы Менскі, быў мянованы пісарам скарбовым Вялікага княства Літоўскага 20 кастрычніка 1704 года пасля Антонія Крыйкоўскага і дабраахвотна адмовіўся ад урада лоўчага Менскага. Па прывілеі ад 12 кастрычніка 1722 года быў мянованы і пісарам дэкрэтовым ВКЛ (2).

Пасля смерці бацькі, Траяна Міцкевіча, суддзі гродскага Менскага ваяводства, яго дзеці Давыд, Міхал, Ганна і Тэрэза трапілі ў апеку Аляксандра Залескага, падчашага Драгіцкага, жанатага з старэйшай дачкой Траяна Міцкевіча, пані Даротай Міцкевічаўнай, судзянкай гродскай Менскай. На 10 ліпеня 1698 года Давыд і Міхал, выйшаўшы з апекі, ад сябе і сваіх нялетніх сясцёр пазвалі ў суд свайго швагра. Пасля смерці Дароты Міцкевічаўны Аляксандравай Залескай, падчашыны Драгіцкай, яе муж Аляксандр Залескі напаў на іх маетнасць і вывез адтуль усё дашчэнту: рухомую маёмасць, быдла, коней, не пакінуўшы сваякам ні капейкі (3).

Уступіў у шлюб з пані Барбарай Данілевічоўнай, з якой меў двух сыноў — Пятра і Паўла.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 154, л. 122.
2. «Ураднікі цэнтральныя і дыгнітары ВКЛ...», т. 11, л. 113.
3. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 36, л. 1243.

## 21.16. Аўлачымскі Даніел Карнелі (? — да 29.07.1690 — да 21.06.1704)

З-за кепскай захаванасці кніг Метрыкі Вялікага княства Літоўскага за другую палову XVII і першае дзесяцігоддзе XVIII стагоддзяў дата надання прывілея на лавецтва Менскае пану Даніелю Карнелію Аўлачымскаму намі не выяўлена. Аднак вядома, што яшчэ ў 1687 годзе Даніел Аўлачымскі падпісаў лаўдум грамнічнага Менскага ваяводскага (Менскага павета) сойміка 3 лютага, мянуючы сябе лоўчым Менскім (1). І ў 1690 годзе ў судовай справе з Міладоўскім з-за добраў Сухарава пазначаны ў актавых кнігах Менскага гродскага суда таксама як лоўчы Менскі. Трымаў урад да самай сваёй смерці, каля 15 год. Адначасова з ім менаваліся лоўчымі ваяводства Менскага: Рыгор Няміра,

Бенедыкт Булгак, Францыск Яблонскі, Ежы Паморскі і Станіслаў Касцюшкевіч.

Даніел Аўлачымскі, нашчадак даўняга баярскага роду Гневашаў, парадніліся з Чартарыйскімі. Дачка Сямёна Чартарыйскага ўступіла ў шлюб з Фёдарам Гневашэвічам і прынесла ў пасаг палавіну Лагойска, праўда, потым, пасля смерці Гневашэвіча, уступленную Васілю Тышкевічу, каралеўскаму двараніну. Нашчадкі Фёдара Гневашэвіча ў 1600 годзе, названыя ўжо князямі Аўлачымскімі па маетнасці Аўлачым у Навагародскім ваяводстве, паспрабавалі вярнуць частку страчанай некалі маетнасці, але беспаспяхова. Род Аўлачымскіх найбольш вядомы ў межах Навагародскага і Менскага ваяводстваў. У Менскім ваяводстве ўжо ў пачатку XVII стагоддзя ім належала маетнасць Вялікія, або Кухмісцерскія Бесяды з прылягаючымі фальваркамі.

У першай палове XVII стагоддзя актыўны ўдзел у палітычным жыцці княства прымалі тры браты Аўлачымскія: Павел, архімандрыт Уладзімірскі і Кобрынскі, Юзэф, спачатку суддзя гродскі Менскі, а потым паслядоўна падсудак і суддзя земскі Менскі, і Максіміліян. Як адзначана ў каралеўскіх прывілеях, браты ў маладыя гады «не літуючы сваёй крыві і горла», прымалі ўдзел ва ўсіх ваенных экспедыцыях, як тады называлі войны. Бацька Даніеля Аўлачымскага, Максіміліян, па нашых звестках, не займаў ніякіх урадаў. Максіміліян Аўлачымскі, акрамя Даніеля, меў яшчэ аднаго сына, Ваўрынца, які вельмі рана памёр і быў пахаваны ў Хатаевіцкім касцёле.

Даніел Карнелі Аўлачымскі быў двойчы жанаты. Першая яго жонка Зося Валашкоўна жыла яшчэ ў 1667 годзе. На 12 ліпеня гэтага года ў Менскім гродскім судзе слухалася справа, узбуджаная Станіславам Свірскім, на той час яшчэ падсудкам Менскім, супраць Пятра Капашчэўскага, падстолія Менскага (2). Аказваецца, у час захопу Менскага ваяводства маскоўскімі войскамі яго сын стварыў даволі буйны, каля дваццаці добра ўзброеных вершнікаў, атрад, з якім рабаваў пакінутыя сядзібы сваіх суседзяў. Уся захопленая рухомасць звозілася ў Медухава каля Лагойска на захаванне пані Зосі Валашковай Даніелевай Аўлачымскай. З дзяцей, народжаных ў гэтым шлюбе, нам дакладна вядомы толькі адзін сын — Андрэй Аўлачымскі, чэснік Уладзімірскі, які памёр неўзабаве пасля шлюбу з Ядвігай Скарабагацянкай. Ядвіга Скарабагацянка жыла яшчэ ў 1704 годзе, калі яна праводзіла судовы працэс з Валерыянам Гнатоўскім, канюшым Менскім (3). У сваім тэстаменце Даніель Аўлачымскі згадвае аб чатырох сынах: Казіміру, Андрэю, Антоні і Барталамею, але не паказвае, ад якой маці яны былі на-

роджаны. З больш пазнейшых дакументаў, 1719 і 1722 гадоў, становіцца зразумелым, што Барталамей, Казімір і Антоні былі народжаны Данілем Аўлачымскім у шлюбе з Кацярынай Алендзьскай. Так, 15 лютага 1719 года пані Ганна Міхалавая Дзяконская пазвала Тамаша, Тэафіла, будучага пісара гродскага Менскага, і Яна, намесніка Менскага замка, Жыжэмскіх і іх зводных братоў, ад адной маці народжаных, Антоні, Барталамея і Казіміра Аўлачымскіх у суд, патрабуючы ад іх вяртання пазыкі, атрыманай іх маці, пані Кацярынай з Алендзьскіх, Данілевай Аўлачымскай, лоўчыняй Менскай, яшчэ 13 снежня 1706 года і дагэтуль не вернутай (4).

У другі шлюб Даніел Аўлачымскі ўступіў, верагодней за ўсё, да 1690 года, пасля смерці Адама Жыжэмскага, падкаморыя Мозырскага павета, з яго ўдавой пані Кацярынай Алендзьскай, дачкой Тэафіла Алендзьскага, падкаморыя Ваўкавыскага, у 1686 годзе абранага маршалкам Галаўнога Трыбунала ВКЛ (5). Ад першага мужа ў Кацярыны Алендзьскай засталіся сыны: Тамаш, Тэафіл, будучы пісар гродскі Менскі, і Ян, спачатку намеснік Менскага замка, а потым нейкі час скарбнік Менскага ваяводства, Жыжэмскія. Як падае ў сваім тэстаменце сам Даніель Аўлачымскі, у шлюбе з Кацярынай Алендзьскай нарадзіліся яшчэ дзве дачкі: Зося і Людвіка, якім быў наканаваны шлях у кляштар. Не ўсе дзеці Даніеля Аўлачымскага правялі бацьку ў яго апошні шлях. ¨н піша ў сваім тэстаменце, «каб яго пахавалі ў Хатаевіцкім касцёле, дзе пахаваны мой брат Ваўрынец і дзе дзеткі мае ляжаць».

Патрэбна прызнаць, што Даніел Аўлачымскі, лоўчы Менскі, паміраў далёка не бедным чалавекам. Нешта перайшло ў яго рукі пасля смерці дзядзькі Паўла Аўлачымскага, архімандрыта Уладзімірскага і Кобрынскага. Кацярына з Алендзьскіх прынесла ў дом добры Сухарава і Белае і нейкую частку вялікай маетнасці Вербкавічы, што была размешчана ў Мозырскім павеце. Праўда, пасля смерці яе першага мужа Адама Жыжэмскага, падкаморыя Мозырскага, засталося шмат нявернутых пазык, і Даніелю Аўлачымскаму прыйшлося шмат часу праводзіць у судах Вялікага княства Літоўскага, адстойваючы свае правы на гэтыя маетнасці. Ад Служкі, ваяводы Полацкага, атрымаў у заставу маетнасць Сялец, якая так і засталася ў Даніеля Аўлачымскага (6). Ад Яна Іваноўскага атрымаў Бесяды, Лукавец, Задарожжа. Таксама Даніелю Аўлачымскаму належалі грунты і ў Нястанавічах (7). Як і большасць шляхты таго часу, будучы вельмі набожным, не прамінаў магчымасці пажывіцца за кошт багаццяў, што належалі кляштарам. Так, у канцы 1692 году справа дайшла да таго, што Менскі

жаночы кляштар бенедыктынак вымушаны быў прасіць аб наданні ім заручнага ліста ад караля Рэчы Паспалітай, які б засцерагаў іх зямельныя ўладанні ад рабунку з боку Данііеля Аўлачымскага, лоўчага Менскага. Як сказана ў заручным лісце, Даніел Аўлачымскі, «забыўшыся боязнь божую», неаднаразова нападаў на селы Пятроўшчына І Грынічы, звозячы адтуль не толькі падданых, але і збожжа, сена (8). Памёр Даніель Карнелі Аўлачымскі хутчэй за ўсё да 21 чэрвеня 1704 года, бо якраз гэтай датай пазначана складанне рэестра рэчаў памёршага лоўчага Менскага (9). Чамусьці тэстамент, як і рэестр рэчаў нябожчыка, былі ўнесены ў гродскія актавыя кнігі толькі 20 красавіка 1705 года (10).

Пасля смерці Даніеля Карнелія Аўлачымскага яго ўдаве, пані Кацярыне Алендзьскай, прыйшлося вытрымаць зацятую барацьбу з крэдыторамі мужа. Некаторыя маетнасці пані Алендзьская страціла. Як бачна з дакумента, унесенага ў Менскія гродскія актавыя кнігі 4 сакавіка 1706 года, Андрэю Бенедыкту Карніцкаму, лоўчаму Менскаму, была перададзеная ў заставу маетнасць Белае, атрыманая Кацярынай Алендзьскай яшчэ ад першага мужа Адама Жыжэмскага, падкаморыя Мозырскага (11).

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 29, л. 334.
2. Там жа, Ф 1727, воп. 1, с. 35, л. 173.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 550.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 39, л. 367.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 457.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 4, л. 69.
7. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 91.
8. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 147, л. 323.
9. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 103.
10. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 98.
11. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 390.

## 21.17. Карніцкі Андрэй Бенедыкт (01.12.1705 — 13.04.1726)

Як нам падаецца на аснове вывучэння архіўных матэрыялаў, А. Банецкі памыляецца, даводзячы, што прывілей на ўрад лавецтва Менскага Андрэй Бенедыкт Карніцкі атрымаў у 1707 годзе. Прыві-

лей на ўрад лоўчага Менскага Андрэю Бенедыкту Карніцкаму, толькі нядаўна, пасля пераходу брата Казіміра Міхала Карніцкага на ўрад войскага Чарнігаўскага, атрымаўшаму ўрад мечнага Менскага, быў падпісаны 1 снежня 1705 года (1), прыкладна праз 8 месяцаў пасля смерці Даніеля Аўлачымскага. Ужо 12 снежня гэтага ж года прывілей быў унесены ў акты Менскага гродскага суда (2). Як гэта было і раней, наданне ўрада зямяніну ВКЛ выкарыстоўвалася не толькі для папаўнення княскага скарбу, але і для выразнення сярод многіх тых людзей, якія ўнеслі значны ўклад у абарону сваёй радзімы. Так было і ў выпадку з Андрэем Бенедыктам Карніцкім: у прывілеі наданне яму ўрада лоўчага Менскага, тлумачылася яго ўдзелам у многіх ваенных экспедыцыях літоўскіх войскаў, накіраваных на абарону Радзімы.

Як піша Банецкі, Карніцкія паходзілі з сяла Карніц, размешчанага ў Сахачэўскай зямлі (3). Бацьку Андрэя Бенедыкта Карніцкага — Станіславу Карніцкаму за актыўны ўдзел у вайне з Маскоўскімі і казацкімі войскамі ў сярэдзіне XVII стагоддзя Янам Казімірам былі нададзены грунты ў Менскім ваяводстве, канфіскаваныя ў «здрайцаў», шляхцічаў праваслаўнага веравызнання, якія перайшлі на бок захопнікаў.

Вядомыя імёны двух братоў Андрэя Бенедыкта Карніцкага: Міхала Казіміра, былога мечнага Менскага, а потым войскага Чарнігаўскага, дарадчыка Крыштофа Станіслава Завішы, ваяводы Менскага і Стэфана, які таксама ўваходзіў у блізкае акружэнне ваяводы Менскага, і быў яго дваранінам з 16-гадовага ўзросту і да часу ўступлення ў шлюб. Сястра Кацярына была ў шлюбе за Самуэлем Умецкім (4). ¨сць звесткі пра яшчэ адну сястру Андрэя Бенедыкта Карніцкага, лоўчага Менскага, — Ганну Элеанору.

Андрэй Бенедыкт Карніцкі, лоўчы Менскі, быў двойчы жанаты. Першай яго жонкай была Ганна Разалія Друцкая Сакалінская, былая Ежыная Сапрыкавая, чэсніковая Слонімская, з якой меў сына Антонія Казіміра, якому ў 1726 годзе з каралеўскага дазволу і перадаў урад лоўчага Менскага. Ганна Друцкая Сакалінская памёрла да 1715 года, і Андрэй Карніцкі, лоўчы і ўжо і падстараста судовы Менскі, у 1717 годзе паўторна ўступіў у шлюб з удавой па Пятру Пратасовічу, войскім Менскім, пані Марыянай з Бялінскіх Для Марыяны з Бялінскіх гэта быў ужо трэці шлюб: у першы раз яна выйшла замуж за Міхала Багуфала, але пражыла з ім вельмі мала. У шлюбе з Марыянай з Бялінскіх у Андрэя Бенедыкта Карніцкага нарадзілася двое сыноў: Ігнацы, будучы суддзя земскі, а потым і падкаморы Менскі, Юзэф і

дачка Канстанцыя Марыяна.

Пасля атрымання ўрада лоўчага Менскага пачаў актыўна дабівацца ўрада падстарасты судовага Менскага, нягледзячы на тое, што на гэтым урадзе даўно і моцна сядзеў Антоні Тэадор Ваньковіч, стольнік ваяводства Менскага. У 1709 годзе мара Андрэя Карніцкага на нядоўгі час спраўдзілася: стараста судовы Менскі Крыштоф Завіша перадаў яму кіраванне судовымі справамі ў Менскім гродскім судзе (5). Аднак шчасце Андрэя Бенедыкта Карніцкага, лоўчага Менскага, было нядоўгім, літаральна праз месяц Антоні Тэадор Ваньковіч вярнуў сабе страчаны ўрад падстарасты судовага Менскага. Магчыма, тут праглядвае нейкая сувязь са спробамі Ваньковіча атрымаць урад кашталяна Менскага, і тады выходзіць, ніякай сваркі паміж двумя палітыкамі і не было, але прамых доказаў верагоднасці такой гіпотэзы, на жаль, у нас няма.

Андрэй Бенедыкт Карніцкі стаў падстарастам Менскім пасля смерці Антонія Тэадора Ваньковіча. Першае судовае паседжанне з яго ўдзелам у якасці падстарасты адбылося 8 жніўня 1716 года, праз год і восем месяцаў пасля пасяджэння Менскага гродскага суда, якое ў апошні раз праводзіў падстараста судовы Менскі Антоні Тэадор Ваньковіч (6), што памёр пасля доўгай і цяжкай хваробы 15 ліпеня 1716 года (7).

Ад бацькоў у спадчыну братам Карніцкім засталіся неблагія маетнасці: Смілавічы з фальваркам Слабада, Станевічы і застаўныя правы ад Эмануэля Тышкевіча, падстолія Берасцейскага, на Хацяноў (8). Сам Андрэй Бенедыкт Карніцкі трымаў у заставе ад пані Кацярыны з Алендзьскіх Даніелевай Аўлачымскай, лоўчыні Менскай, маетнасць Белае за пазыку ў 2000 польскіх злотых (9).

У 1726 годзе адмовіўся ад урада лоўчага Менскага ў карысць свайго старэйшага сына ад Ганны Друцкай Сакалінскай Антонія Казіміра Карніцкага.

Абагульняючы аповяд пра жыццё і дзейнасць Андрэя Бенедыкта Карніцкага будзе дадзены ў раздзеле «Падстарасты судовы гродскія Менскага ваяводства».

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 154, л. 145.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 239.
3. Банецкі Адам. «Гербоўнік Польскі...», т. IX, л. 260.
4. НГАБ. ф 1727, воп. 1, с. 5, лл. 644—645.

5. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 6, л. 361.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 38, лл. 801, 953, 1103.
7. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 38, л. 1077.
8. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 361.
9. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 5, л. 361.

## 21.18. Карніцкі Антоні Казімір (11.04.1726 — да 18.07.1736)

Сын Андрэя Бенедыкта Карніцкага, лоўчага і падстарасты ваяводства Менскага, і пані Ганны Друцкай Сакалінскай Антоні Казімір Карніцкі атрымаў прывілей на лавецтва Менскае, падпісаны 11 красавіка 1726 года (1), па пратэкцыі бацькі і пасля яго адмовы ад гэтага ўрада.

Жанаты з Кацярынай Тэрэзай з Юрэвічаў (2), дачкой Станіслава і Бенедыкты з Прэцлоўскіх Юрэвічаў, падстоліяў Чарнігаўскіх (3), з якой меў сына Уладзіслава.

Трымаў урад на працягу амаль дзесяці гадоў, і за ўвесь гэты час нічым не вызначыўся. Верагодна, быў ціхім і памяркоўным чалавекам і добрым суседам, бо ў матэрыялах актавых кніг Менскага гродскага і земскага судоў не знойдзена ніводнай справы з яго ўдзелам. На грамнічным сойміку Менскага ваяводства 12 лютага 1734 года быў абраны, разам са сваім сынам Уладзіславам, паслом ад ваяводства на элекцыйны сойм у Варшаве (4). Пасля смерці Антонія Казіміра Карніцкага ўрад перайшоў да яго сына Уладзіслава Карніцкага.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 165, л. 386.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 9, л. 1642.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 9, л. 1642
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 10, л. 143.

## 21.19. Карніцкі Уладзіслаў (18.07.1736 — 30.05.1738)

Уладзіслаў Карніцкі, сын Антонія Карніцкага і Тэрэзы з Юрэвічаў, атрымаў прывілей на лавецтва Менскае пасля адыходу з гэтага ўрада Антонія Казіміра Карніцкага па прывілеі ад 18 ліпеня 1736 года (1). З урада лавецтва адышоў да 30 мая 1738 года (2).

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 169, л. 499.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 171, л. 239.

## 21.20. Быкоўскі з Яксаў Марцін (30.05.1738 — да 25.10.1748)

Каралеўскім прывілеем ад 30 мая 1738 года (1) урад быў нададзены аднаму з прадстаўнікоў роду Быкоўскіх з Яксаў пану Марціну. Звестак пра гэтага прадстаўніка ўплывовага на Меншчыне роду Быкоўскіх сабрана намі вельмі мала.

Верагодна, што меў юрыдычную адукацыю, бо неаднаразова замяшчаў падстарасту судовага гродскага Менскага Андрэя Бенедыкта Карніцкага ў час яго адсутнасці (2).

Нам падаецца, што Марцін Быкоўскі трымаў урад лоўчага Менскага, паралельна з Ігнацы Карніцкім, атрымаўшым прывілей на гэты ўрад да 25 красавіка 1746 года (3). Можна зрабіць дапушчэнне, што прывілеі на ўрад лавецтва рыхтавалі і дабіваліся яго дзве паралельныя ўладныя структуры ВКЛ. Марцін Быкоўскі, лоўчы Менскі, уступіў урад лоўчага Менскага, па прывілеі ад 25 кастрычніка 1748 года (4), — Казіміру з Яксаў Быкоўскаму. У гэтым дакуменце Ігнацы Карніцкі не ўпамінаецца. Пасля ж адыходу Ігнацы Карніцкага на ўрад падчаства Менскага прывілей на лавецтва Менскае быў выданы 28 лістапада 1748 года Адаму Міхалу Хмару, будучаму ваяводу Менскаму (5), з прыпіскай па адыходзе Карніцкага.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 171, л. 1092.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 10, л. 1124.
3. Там жа, ф 1769, воп.1, с. 4, л. 86.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 177, л. 215.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 176, л. 236.

## 21.21. Хмара Адам Міхал (28.11.1748 — ?)

Адам Міхал Хмара, спачатку віцэ-інстыгатар, а потым і інстыгатар ВКЛ, у канцы свайго жыцця займаў урад ваяводы Менскага. У саракавыя гады XVIII стагоддзя ён яшчэ толькі пачынаў сваю імклівую палітычную карьеру: літаральна з нікога вырас да ўплывовага палітычнага

дзеяча апошняга перыяда існавання ВКЛ. Прывілеі на лавецтва Менскае атрымліваў двойчы: першы раз пасля адыходу з гэтага ўрада Ігнацы Карніцкага: 28 лістапада 1748 года (1), а другі — 7 чэрвеня 1752 года (2). Па нейкіх прычынах першы прывілей так і не быў рэалізаваны.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 176, л. 236.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 176, л. 987.

## 21.22. Карніцкі Ігнацы (? — да 09.02.1744 — 25.04.1746 — да 211.8.1748)

Прывілей на атрыманне ўрада лавецтва Менскага ваяводства Ігнацы Карніцкім у матэрыялах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, на жаль, намі не знойдзены. Маецца некалькі згадак пра трыманне Ігнацы Карніцкім гэтага ўрада. Найбольш значным з іх з'яўляецца каралеўскі прывілей ад 28 лістапада 1748 года на атрыманне Ігнацы Карніцкім падчаства Менскага (1), дзе сказана, што прывілей даецца Ігнацы Карніцкаму, лоўчаму Менскаму. Зусім верагодна, што Ігнацы Карніцкі атрымаў прывілей на лавецтва Менскае да лютага 1744 года, бо якраз у гэтым месяцы на грамнічным ваяводскім сойміку, які адбываўся заўсёды да 9 лютага, было праведзена абранне Ігнацы Карніцкага, лоўчага Менскага, дэпутатам Галаўнога Трыбунала ад Менскага ваяводства (2). Адзначана трыманне Ігнацы Карніцкім урада лоўчага Менскага і 25 красавіка 1746 года. Якраз гэтай датай пазначана правядзенне інтрамісіі на сёлы: Краснае, Навасады і Міласцы Менскага павета, і пераходзілі за 6000 польскіх злотых з трымання Самуэла з Нясетыч Карліка (Карлінга), стольніка Інфлянцкага, да Ігнацы Карніцкага, мянованага ў гэтым дакуменце лоўчым Менскім (3). Цікава, што ў прывілеі на лавецтва Менскае ад 25 кастрычніка гэтага ж года (4) Казіміру Быкоўскаму, як гэта бывае заўсёды ў такіх дакументах, названа і імя папярэдніка Казіміра, менавіта імя Марціна Быкоўскага, хаця, па ўсіх правілах, павінна было быць пазначана імя Карніцкага. Каралеўскі прывілей на падчаства Менскае Ігнацы Карніцкі ўнёс, як гэта патрабавалася па законах таго часу, у матэрыялы грамнічнага ваяводскага сойміка 4 лютага 1749 года аднachасова з прывілеем на лавецтва Менскае, атрыманым Казімірам Быкоўскім (5).

Ігнацы Карніцкі быў сынам пана Андрэя Бенедыкта Карніцкага, лоўчага і падстарасты судовага Менскага, і яго жонкі Марыяны Бялі-

нскай, спярша Пятровай Пратасовічавай, войскай Менскай, а потым Андрэявай Карніцкай, падстарасціны Менскай. У гэтым шлюбе, акрамя Ігнацы, нарадзіўся яшчэ сын Юзэф і дачка Марыяна Канстанцыя, якая ў першай палове 1737 года ўступіла ў шлюб з Андрэем Зараноўскім, старастам Зелянкоўскім (6).

Улічваючы, што Ігнацы Карніцкі зрабіў добрую кар'еру, паступова ўзнімаючыся па лесвіцы ўрадаў Менскага ваяводства, і скончыў сваё жыццё, займаючы ўрад падкаморыя Менскага, то абагульняючы аповед пра жыццё Ігнацы Карніцкага будзе ўнесены ў раздзел «Падкаморыі Менскага ваяводства».

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с.176, л. 235.
2. «Дэпутаты Галаўнога Трыбунала ВКЛ (1697–1794 гг.)...», л. 202.
3. НГАБ. Ф 1769, воп. 1, с. 4, л. 86.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 177, л. 215.
5. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 11, л. 722.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 11.

## 21.23. Быкоўскі з Яксаў Казімір (25.10.1748 — 11.03.1752)

Казімір Быкоўскі атрымаў прывілей, падпісаны 25 кастрычніка 1748 года, на ўрад лоўчага Менскага пасля дабраахвотнага адыходу з гэтага ўрада Марціна Быкоўскага (1). З дакумента, унесенага ў Вялікакняскую Метрыку 31 жніўня 1750 года, даведваемся, што кароль дае дазвол Марціну Быкоўскаму на дабраахвотную адмову ад трымання дзяржавы Сморкі, якая размешчана недалёка ад Барысава і ўваходзіла тады ў склад Аршанскага павета, у карысць Казіміра Быкоўскага (2), на гэты час ужо займаўшаму ўрад лоўчага Менскага. Прывілей на лавецтва атрымаў законную моц пасля прад'яўлення яго на грамнічным ваяводскім сойміку 4 лютага 1749 года (3).

На грамнічным ваяводскім сойміку 1748 года Казіміра Быкоўскага, тады яшчэ падстоліча Менскага, абіраюць дэпутатам Галаўнога Трыбунала ВКЛ ад Менскага ваяводства (4). Вынікае, што дэпутатства ў Галаўны Трыбунал ВКЛ, якое мела значны аўтарытэт і палітычную вагу ў княстве, Казімір Быкоўскі не змог бы атрымаць без моцнай падтрымкі бацькі — Стэфана з Яксаў Быкоўскага, падстолія Менскага, і звязаных з ім прадстаўнікоў палітычнай эліты ваяводства. У Галаўным

Трыбунале Казіміру Быкоўскаму дастаецца вельмі ўплывовая пасада: яго абіраюць маршалкам Духоўнага Кола. Гэтая судовая інстанцыя княства ствaралася з роўнага ліку свецкіх і духоўных асобаў для разгляду судовых спраў, узнікшых паміж свецкімі і духоўнымі асобамі або рэлігійнымі арганізацыямі. Свецкія асобы вылучаліся Галаўным Трыбуналам з ліку зноў абраных дэпутатаў, а духоўныя прызначаліся ў склад Духоўнага Трыбунала Віленскім біскупам.

Патрэбна прызнаць, што Казімір Быкоўскі, лоўчы Менскі, меў значныя сумы грошай, дастатковых для куплі неблагой маетнасці. Так, 17 мая 1749 года Казімір Быкоўскі ўносіць у акты Менскай магдэбургіі дакумент аб набыцці ў Сымона і Даміцэлі з Тэльшэўскіх, у першым шлюбе Бенедыктавай Антаневічавай, Калпакоўскіх часткі Прусінава. Верагодна, Прусінава ў якасці пасагу ўнесла ў дом пані Даміцэля, бо яшчэ адну частку зямельных добраў Прусінава Казімір Быкоўскі, лоўчы Менскі, набыў у сястры Даміцэлі пані Элеаноры Тэльшэўскай (5).

Уступіў у шлюб з пані Францыскай з Міцкевічаў, але пражыў з ёю нядоўга: 21 сакавіка 1752 года пані Францыска з Міцкевічаў Казіміравая Быкоўская, лоўчыня Менская, разам з нашчадкамі, выклікае генерала ваяводства Менскага Яна Бжэзінскага для перадачы маетнасці Прусінава і фальварка Запруддзе, пасля смерці мужа 11 сакавіка гэтага ж года, у сваю ўласнасць (6).

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 177, л. 215.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 176, лл. 676—677.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 11, л. 722.
4. «Дэпутаты Галаўнога Трыбунала ВКЛ (1697—1794 гг.)...», л. 218.
5. НГАБ. Ф 1816, воп. 1, с. 8, л. 106.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 12, л. 53.

## 21.24. Сулістроўскі Ігнацы (? — 16.07.1751 — ?)

Маецца толькі адно паведамленне аб існаванні яшчэ аднаго лоўчага Менскага — Ігнацы Сулістроўскага, ротмістра ваяводства Навагародскага, унесенае ў актавыя кнігі Менскага гродскага суда 16 ліпеня 1751 года (1). Подпіс Ігнацы Сулістроўскага, лоўчага Менскага, ротмістра ваяводства Навагародскага, быў пастаўлены пад тэстаментам Мацея Быкоўскага, сына Яна Канстанты Быкоўскага. На наш погляд, у гэтым

выпадку, як і ў некаторых іншых, памылкі дапускаліся пісарамі адпаведных судовых устаноў пры ўнясенні дакументаў у актавыя кнігі для іх актыкацыі (натарыяльнага сведчання) або, свядома, і самімі ўраднікамі. Так, Міхал Галіеўскі, чэснік Смаленскі, і Міхал Байкоўскі Рэйводскі, мечны Смаленскі, вельмі часта менавалі сябе, адпаведна, чэснікам і стражнікам Менскімі.

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 13, л. 614.

## 21.25. Булгак Ян (? — 02.1750 — ?)

Аб трыманні Янам Булгакам, ротмістрам Навагародскага ваяводства, урада лавецтва Менскага згадвае А. Рахуба. На грамнічным сойміку 1750 года шляхта Менскага ваяводства абрала Яна Булгака, лоўчага Менскага, ротмістра Навагародскага ваяводства, дэпутатам Галаўнога Трыбунала ВКЛ (1). Пра Яна Булгака, лоўчага Менскага, згадвае і Станіслаў Антоні Быкоўскі Лопат, генерал-ад'ютант войскаў ВКЛ і войт Навагародскі. Разам з усёй Навагародскай магдэбургіяй: бурмістрамі, райцамі і лаўнікамі Навагародка — Станіслаў Быкоўскі Лопат, войт Навагародскі, 5 сакавіка 1738 года ўносіць у каралеўскі задворны суд скаргу на многіх абываццеляў (шляхцічаў) Навагародка, абвінавачваючы іх у незаконным трыманні розных гарадскіх добраў, якія, згодна са Статутам ВКЛ, маглі трымаць толькі месцічы (2). Дык вось, не апошняе месца ў гэтым рэестры асобаў, якія незаконна, ды і без аплаты падаткаў, трымалі гарадскую маёмасць (ворныя землі, сенажаці, млыны, крамы), займае і лоўчы Менскі пан Ян Булгак.

Актавыя кнігі Менскага гродскага суда захавалі паведамленне яшчэ пра аднаго прадстаўніка гэтага роду, пана Мікалая Юзэфа Булгака, мянуючы яго таксама лоўчым Менскім. Як стала вядома, пані Кацярына з Вярыгаў Жэлігоўская і яе дзеці Казімір, Рафал і дачка Канстанцыя Жэлігоўскія ўнеслі ў актавыя кнігі Менскага суда баніцыйны ліст на Мікалая Юзэфа, лоўчага Менскага, Станіслава і Марціна Булгакоў і пана Забелу. Патрэбна адзначыць, што і Булгакі часу не трацілі дарма. Да моманту ўнясення баніцыйнага ліста яны мелі ад Аўгуста II каралеўскі глейт на адтэрміноўку выканання прысуду Галаўнога Трыбунала на шэсць месяцаў (3).

Праз пяць гадоў, 8 лістапада 1736 года, мы ізноў сустракаем Мікалая Юзэфа Булгака, але на гэты час ужо на ўрадзе падваяводы Навага-

родскага. Цяпер Мікалай Булгак, падваявода Навагародскі, аб'яднаўшыся з Міхалам Валадковічам, старастам Гаенскім, займаўся звозам падданых ад Яраша Мацкевіча, падчашага Менскага (4).

Крыніцы:
1. «Дэпутаты Галаўнога Трыбунала ВКЛ (1697—1794 гг.)...», л. 226.
2. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 404, лл. 33—44.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 9, л. 1410.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 41, лл. 1269—1272.

## 21.26. Хмара Адам Міхал (07.06.1752—23.01.1756)

Прывілей на лавецтва будучы ваявода Менскі Адам Міхал Хмара атрымліваў двойчы: першы раз, як мы гэта ўжо адзначалі раней, лавецтва Менскае Адам Міхал Хмара атрымаў па каралеўскім прывілеі ад 28 лістапада 1748 года (1) пасля адыходу з гэтага ўрада Ігнацы Карніцкага, а ў другі раз — праз чатыры гады, пасля смерці Казіміра Быкоўскага, па прывілеі ад 7 чэрвеня 1752 года (2). Як тады часта пісалі ў такіх выпадках, прывілей Адамам Хмара 1748 годзе быў атрыманы «няведама якім спосабам», праз месяц пасля надання, 25 кастрычніка, урада лавецтва Менскага Казіміру Быкоўскаму. Хаця і тады было зразумела, што справа не абышлася без атрымання нейкай высокай асобай каралеўскай канцылярыі вялікага хабару ад Адама Міхала Хмары.

Улічваючы, што абагульняючы аповяд пра дзейнасць Адама Хмары, заснаваны архіўных матэрыялах, будзе прыведзены ў раздзеле «Ваяводы Менскага ваяводства», у дадзеным выпадку мы абмяжуемся апісаннем чатырохгадовага перыяду яго жыцця, з чэрвеня 1752 года і па канец студзеня 1761 года.

Адам Хмара, сын Антонія Хмары, скарбніка ваяводства Менскага на 1750 год (гл. нашу заўвагу да раздзела «Скарбнікі Менскага ваяводства»), меў брата Іахіма Хмару, які на працягу значнага часу займаў урад пісара гродскага Менскага. Як даводзяць пісьмовыя крыніцы таго часу, Адам Хмара быў адным з найбольш адукаваных людзей свайго часу і толькі дзякуючы асабіста сабе сваім здольнасцям дабіўся высокага становішча ў Вялікім княстве Літоўскім. Змог літаральна з нічога атрымаць значныя зямельныя і грашовыя сродкі і сканцэнтраваць іх у сваіх руках. Частка земляў трапіла ў яго рукі дзякуючы наданню

яму каралеўскіх добраў у пажыццёвае трыманне, а частку выкупіў у сваіх суседзяў, якія мелі вострую патрэбу ў наяўных польскіх злотых. Часта даваў пазыкі і, галоўнае, заўсёды дабіваўся іх своечасовага вяртання. Будучы выдатным адміністратарам, аказаўся някепскім і, што галоўнае, ашчадным гаспадаром. Значную колькасць маетнасцяў трымаў часова, а потым, пры невяртанні ў тэрмін грошай, прыбіраў гэтыя маетнасці да сваіх рук.

Доўгі час знаходзіўся на службе ў Сапегаў, вядучы заўсёды з поспехам іх судовыя справы па вырашэнні розных маёмасных спрэчак. Так, у 1754 годзе атрымаў пленімпатэнцыю (даверанасць) ад Альбрыхта Сапегі, падскарбія надворнага Вялікага княства Літоўскага, і яго брата Міхала Сапегі, старасты Лунскага, на вядзенне судовых спраў у судах Слонімскага павета аб урэгуляванні розных прэтэнзій да маёмасці памёршага Бенедыкта Сапегі, падскарбія ВКЛ (3). Цікава, што 27 красавіка 1756 года згадзіўся заняцца абаронай інтарэсаў Ежы Адама Прысецкага, чэсніка Полацкага (так у тэксце, у сапраўднасці — чэснік Рэчыцкага павета), лентвойта Менскага, у яго спрэчцы з Аляксандрам Сапегам, ваяводам Полацкім (4).

Пасля смерці бацькі да Адама Хмары перайшлі маетнасці: Сёмкава Саламярэцкае, Стацкевічоўшчызна, па якіх ён правёў інтрамісію ў 1755 годзе (5). Амаль аднрачасова з наданнем урада лавецтва Менскага Адам Хмара атрымаў прывілей на пажыццёвае трыманне Курклёнскай дзяржавы, размешчанай у Вількамірскім павеце (6).

Адышоў са свайго ўрада лоўчага Менскага пасля пераходу былога падчашага Менскага Ігнацы Карніцкага на ўрад падстолія Менскага, атрымаўшы каралеўскі прывілей 23 снежня 1756 года (7). Дарэчы, свой прывілей на падстольства Менскае Ігнацы Карніцкі атрымаў яшчэ 22 снежня 1752 года (8), і прайшло яшчэ амаль чатыры гады, калі Адам Хмара змог заняць даўно вакантны ўрад падчашага Менскага. Адначасова з урадам лоўчага Менскага займаў і ўрад віцэінстыгатара ВКЛ.

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 176, л. 236.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 176, л. 987.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 182, л. 36.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 12, л. 1044.
5. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 12, л. 827.
6. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 176, л. 949.

7. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 181, л. 148.
8. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 179, л. 683.

## 21.27. Баржэцк<U+0456> Антон<U+0456> з Косаржэва (23.01.1756 — ?)

У пачатку 1756 года, 23 снежня, быў падп<U+0456>саны каралеўск<U+0456> прыв<U+0456>лей на лавецтва Менскае Антон<U+0456>ю Баржэцкаму, старасту Каз<U+0456>м<U+0456>раўскаму (1). Хутчэй за ўсё ўрад не быў прыняты Баржэцк<U+0456>м, бо ў прыв<U+0456>леі на атрыманне лавецтва Менскага Янам Паўл<U+0456>коўск<U+0456>м ад 14 л<U+0456>стапада 1761 года зап<U+0456>сана, што ўрад перадаецца Паўл<U+0456>коўскаму пасля добраахвотнага адыходу з гэтага ўрада Адама М<U+0456>хала Хмары, в<U+0456>цэ<U+0456>нстыгатара ВКЛ (2).

Як падаюць дакументы Метрык<U+0456> Вял<U+0456>кага княства Л<U+0456>тоўскага, 9 жн<U+0456>ўня 1750 года пану Антон<U+0456>ю з Косаржэва Баржэцкаму быў нададзены прыв<U+0456>лей на мечн<U+0456>коўства Менскае, вакантнае пасля смерц<U+0456> былога мечнага пана Яна Свентаржэцкага (3).

Што ж датычыцца самога Антон<U+0456>я з Косаржэва Баржэцкага, то за гады свайго жыцця ён зраб<U+0456>ў неблагую кар’еру. У 1775 годзе Антон<U+0456> Баржэцк<U+0456> быў ужо <U+0456>нстыгатарам ВКЛ (4). Верагодна, у 1777 годзе ўступ<U+0456>ў у паўторны шлюб з пан<U+0456> Жэголай. Як пацвярджаюць актавыя кн<U+0456>г<U+0456> Менскага гродскага суда, 20 л<U+0456>пеня гэтага года Антон<U+0456>ем Баржэцк<U+0456>м, <U+0456>нстыгатарам ВКЛ, быў складзены рэфармацыйны зап<U+0456>с сваёй жонцы, з перал<U+0456>кам сум грошай, перадаваемых ёй (5).

Крын<U+0456>цы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 181, л. 249.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 183, л. 555.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 176, л. 554.
4. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 7, л. 676.
5. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 20, л. 569.

## 21.28. Адахоўск<U+0456> Стан<U+0456>слаў (? — ?)

Кал<U+0456> Стан<U+0456>слаў Адахоўск<U+0456>, на кастрычн<U+0456>к 1765 года канюшы Менск<U+0456>, атрымаў урад лоўчага Менскага, нам не ўдалося ўстанав<U+0456>ць. ¨сць тольк<U+0456> дзве згадк<U+0456> пра трыманне <U+0456>м гэтага ўрада, знойдзеныя нам<U+0456> ў актавых кн<U+0456>гах Менскага земскага суда. Першая — пра яго сына Яна Адахоўскага, лоўчыца Менскага. Ян Адахоўск<U+0456> ўнёс 25 жн<U+0456>ўня 1767

года вячысты квітацыйны запіс Каралю і Еве з Мянчынскіх Дубялевічам, бацькам сваёй жонкі, аб атрыманні пасаговых сум (1). У другім паведамленні, ужо ад 22 жніўня 1780 года, упамінаецца другі сын Станіслава Адахоўскага — Ежы Адахоўскі, лоўчыц Менскі, які паставіў свой подпіс пад дакументам (2). Аднак дакумент, унесены братамі ў земскія актавыя кнігі Менскага ваяводства 27 мая 1780 года, аб падзеле спадчыны, што засталася пасля смерці бацькі, маетнасцяў Бялова і Лахаўшчызна, прымушаюць нас засумнявацца ў трыманні іх бацькам урада лоўчага Менскага. Свой дакумент яны пачынаюць сцвярджэннем, што яны лоўчыцы Менскага ваяводства, а вось у канцы дакумента, перад пералікам асобаў сцвердзіўшых падзел спадчыны, мянуюць сябе ўжо лоўчыцамі Лідскімі (3).

У больш ранейшых дакументах Менскага гродскага суда ад 23 красавіка 1742 года, унесеных у акты 9 сакавіка 1759 года, захоўваецца інфармацыя пра правядзенне інтрамісіі па маетнасцях Белеў і Пяровічы для Казіміра і Цэцыліі са Свентаржэцкіх Адахоўскіх, лоўчых Лідскіх. Гэтыя маетнасці былі ім ўступленыя за добрую цану Антоніем і Тэафіліяй з Вярбіцкіх Ульяшэвічамі (4).

У асноўным прадстаўнікі роду Адахоўскіх жылі ў межах Лідскага павета і, адпаведна, у большасці выпадкаў трымалі ўрады гэтага ж павета. Так, у 1684 годзе Ян Міхал Адахоўскі трымаў урад чэсніка гэтага павета, а Юзэф Адахоўскі на — 1724 год. На 1764 год пазначана ў А. Рахубы трыманне ўрада лоўчага Лідскага Казімірам Адахоўскім. Адзначана іх пражыванне і ў межах Віленскага ваяводства: на 1684 год Павел Адахоўскі быў гараднічым Ашмянскім, а Уладзіслаў Ян Стэфан Адахоўскі на гэты ж год трымаў урад падстолія Віленскага (5).

Гістарычныя крыніцы захоўваюць звесткі пра пражыванне і ў межах Менскага павета Адахоўскіх і за ранейшы час. Так, 9 красавіка 1655 года ў Галаўным Трыбунале ВКЛ была праведзена актыкацыя (натарыяльнае сведчанне) атрымання ў пазыку буйной сумы грошай панам Войцэхам Горскім, харужыцам Віленскім. Пазыку яму выдаў Яраш Адахоўскі ( 6).

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1769, воп. 1, с. 4, л. 841.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 19, л. 318.
3. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 10, л. 470.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 13, л. 202.

5. «Ураднікі Віленскага ваяводства…», л. 699.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 12, л. 88.

## 21.29. Кастравіцкі Казімір (? — 16.03.1769 — ?)

Намі знойдзены толькі дзве згадкі пра трыманне ўрада лавецтва Менскага Казімірам Кастравіцкім: першая з іх — у матэрыяле, змешчаным у актавай кнізе Менскага гродскага суда 3 красавіка 1761 года, і другая — 16 сакавіка 1769 года (1), дзе ўпамінаецца Казімір Кастравіцкі, лоўчы Менскі, сын былога войта Менскага Антонія Кастравіцкага. Як вынікае з дакумента, змешчанага ў актавых кніг Менскага гродскага суда 3 красавіка 1761 года, Казімір Кастравіцкі, лоўчы Менскі, атрымаў ад сваёй жонкі Петранэлы з Кубліцкіх, у першым шлюбе Гадэбскай, стольнікавай Мозырскай, пры ўступленні ў шлюб данацыйны ліст на значную суму. Петранэла з Кубліцкіх, лоўчыня Менская, запісала свайму мужу «золата, срэбра і гатовай манеты, розную маёмасць, а таксама шмат збожжа і быдла». Ад свайго бацькі Кубліцкага, войскага Полацкага, Петранэла з Кубліцкіх Казіміравая Кастравіцкая, лоўчыня Менская, атрымала рознай маёмасці і грошай на агульную суму да 1000 бітых талераў. Сам дакумент аб атрыманні пасаговых сум быў складзены яшчэ 19 сакавіка 1761 года, і пры яго ўнясенні ў актавыя кнігі Казімір Кастравіцкі паведамляе, што яго жонка Пётранэла з Кубліцкіх Казіміравая Кастравіцкая, лоўчыня Менская, памёрла (1).

У другі раз упамінаецца Казімір Кастравіцкі, лоўчы Менскі, у 1769 годзе. Якраз 16 сакавіка гэтага года правіянтавыя камісары Менскага ваяводства Марцін Ванькові і Марцін Азямблоўскі выдалі яму квіт на 1238 расейскіх рублёў за фураж і правіянт, атрыманы ад лоўчага Менскага камандзірам расійскага гарнізона, размешчанага ў межах ваяводства (2). Ужо ў гэты час на тэрыторыі Менскага ваяводства на пастаяннай аснове размяшчаліся расійскія вайсковыя адзінкі. Сярэдняя шляхта была зацікаўлена ў добрых адносінах з камандаваннем расійскіх войскаў, бо іх прысутнасць прыносіла несумненныя выгоды: можна было збываць дровы, лішкі фуражу і сельскагаспадарчыя прадукты. Існавала сур’езная канкурэнцыя паміж землеўласнікамі за права атрымання кантрактаў на пастаўку дроў, фуражу і прадуктаў харчавання. Камандзіры расійскіх войскаў плацілі добра, вядома, не забываючы і пра свой асабісты інтарэс. Адбывалася паступовае прывыканне да

пастаянай прысутнасці замежных войскаў у краіне. У межах ваяводства вядзенне спраў з расійскімі войскамі была пастаўлена на адпаведную прававую аснову. Ваяводскі соймік прызначаў двух правіянтавых камісараў, якія адказвалі за ўлік атрыманых расійскімі войскамі дроў, фуражу і прадуктаў харчавання. Расейскія войскі праводзілі рэквізіцыі ў мясцовай шляхты з пазначэннем памераў узятага. Правіянтавыя камісары, у сваю чаргу, прымалі квіткі і выдавалі свае квіты на аплату расейскімі грашыма. Каб пазбегнуць злоўжыванняў сярод правіянтавых камісараў, іх мянялі штогод. Праз тры гады, у 1772 годзе, і сам Казімір Кастравіцкі на ваяводскім сойміку зробіць справаздачу аб выніках сваёй працы ў якасці правіянтавага камісара (3).

Вядома, што ў другой палове XVIII стагоддзя Казімір Кастравіцкі і яго сын Багдан займалі па чарзе ўрад будаўнічага Менскага.

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 13, л. 531.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 15, л. 491.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 16, л. 324.

## 21.30. Паўлікоўскі Ян (14.11.1761 — 11.07.1772)

Прывілей на лавецтва Менскае Янам Паўлікоўскім атрыманы 14 лістапада 1761 года (1), пасля адыходу з гэтага ўрада Адама Хмары. Свой прывілей на падчаства Менскае Адам Міхал Хмара атрымаў яшчэ 23 снежня 1756 года, пасля адыходу з гэтага ўрада Ігнацы Карніцкага. Відаць, што ўрад быў вакантны амаль пяць гадоў. Цікава, што ў акты Менскай магдэбургіі былі ўнесены дакументы, складзеныя яшчэ ў студзені і сакавіку 1761 года, дзе Ян Паўлікоўскі ўжо мянуецца лоўчым Менскім. Так, 28 студзеня 1761 года ўнесены рэфармацыйны запіс ад Яна Паўлікоўскага, лоўчага Менскага, і Ганны з Азямблоўскіх, чэснікоўны Сахачэўскай, да бацькоў жонкі Мікалая і Апалоніі з Шышкаў Азямблоўскіх аб атрыманні маладымі пасагу ў памеры 16 000 польскіх злотых (2).

Ужо 21 сакавіка 1761 года Ян Паўлікоўскі, мянуючыся лоўчым Менскім, і яго жонка прымаюць удзел у судовай справе з панамі Кастравіцкімі і Азямблоўскімі па справе сумеснага валодання маетнасцю Шытамержыцы (3). Вядома, што Ганна з Азямблоўскіх Янавая Паўлікоўская, лоўчыня Менская, памёрла пасля 1774 года. На 5 лютага

1784 года ў актавыя кнігі Менскага земскага суда ўнесены карабарацыйны і пажыццёвы запіс на сваю маёмасць новай жонцы — пані Брыгідзе з Пішчалаў, дачцэ Дамініка Пішчалы, оберстлейтэнанта войскаў ВКЛ (4). Пан Пішчала жыў яшчэ на 1795 год, меў сыноў Антонія і Міхала.

Ян Паўлікоўскі, лоўчы Менскі, належаў да роду вядомага ў межах ваяводства з пачатку XVIII стагоддзя. Сапраўдны ўздым заможнасці роду адбыўся ў другой палове XVIII стагоддзя, калі браты Паўлікоўскія Ян і Пётр змаглі дабіцца значнага ўзмацнення асабістага ўплыву сярод Менскай шляхты і нават выбіцца ў першыя яе шэрагі. Разам з Прашынскімі, Быкоўскімі, Валадковічамі, Хмарам і Уніхоўскімі ўваходзілі ў склад групоўкі менскай шляхты, якая вызначала палітыку ваяводства. Акрамя Пятра, у будучым гараднічага Менскага, вядомы імены яшчэ трох братоў Яна Паўлікоўскага: ксяндза Тадэуша, коад'ютара Радашковіцкага пробства на1784 год, Ігнацы, шамбеляна каралеўскага двара на 1786 год, і Фелікса, памёршага ў 1775 годзе. Былі яшчэ і сёстры: пані Барбара, у шлюбе за Антоніем Слатвінскім, чэснікам Лідскім, Кацярына за Рыльскім, лоўчым Парнаўскім, Ганна за Валянцінам Тэрчынскім, падстоліем ваяводства Смаленскага, і, нарэшце, Анжэла (5).

Аснову іх багацця і ўплыву заклаў яшчэ ў першай палове XVIII стагоддзя іх бацька Антоні Паўлікоўскі, стараста Хельміцкі, жанаты з Іаанне з Свентаржэцкіх, стражнікаўнай Віленскай, у першым шлюбе Рыбінскай (6). Але значны ўклад у павелічэнне заможнасці роду ўклалі і браты Паўлікоўскія. Да найбольшага поспеху іх у гэтым напрамку можна залічыць выкуп у нашчадкаў некалі магутных Тамковічаў Сялецкіх большай часткі латыфундыі Сялецкай: Лагазу, Мядухава, Заельнік. У рукі Паўлікоўскіх перайшлі і Вялікія Бесяды, або, як іх раней менавалі, Кухмісцерскія Бесяды. Карыстаючыся цяжкім матэрыяльным становішчам гараднічага Менскага Антоні Ануфры Жыжэмскага, Ян Паўлікоўскі атрымаў у 1765 годзе ў сваю ўласнасць яго маетнасць Дворышча (7). Пасля ж наступіўшай неўзабаве смерці гараднічага Менскага маетнасць так і засталася ў валоданні Яна Паўлікоўскага, лоўчага Менскага, бо ў нашчадкаў памёршага было шмат пазык, што засталіся пасля бацькі і вельмі мала было надзеі на вяртанне бацькавай спадчыны. Яну Паўлікоўскаму належала багатае сяло Пашковічы. Пазычыўшы, на 19 сакавіка 1762 года, самому Альбрыхту Радзівілу, старасту Рэчыцкаму, 40 000 польскіх злотых, Ян Паўлікоўскі, лоўчы Менскі, атрымаў сяло Сенніца пад Менскам (8).

Даволі хутка, па мерках таго часу, узнімаўся па лесвіцы ўлады: на ваяводскім сойміку, які па традыцыі адбываўся на Грамніцы, 8 лютага 1764 года (9), абраны дэпутатам да аднаго з вядучых палітыкаў дзяржавы — Масальскага, кашталяна Віленскага, гетмана ВКЛ. На 30 чэрвеня 1764 года Ян Паўлікоўскі дзейнічае ўжо ў якасці суддзі каптуровага Менскага (10). На ваяводскім сойміку 29 жніўня 1766 года ён абіраецца разам з Антоніем Свентаржэцкм, пісарам земскім Менскім, паслом на экстраардынарыйны сойм Рэчы Паспалітай (11).

З урада лавецтва Менскага сышоў дабраахвотна, саступіўшы яго Феліцыяну Ратынскаму пасля атрымання ўрада чэснікоўства Менскага (12). У канцы 1784 года, адмовіўшыся ад урада падчашага Менскага, атрымаў судзейства земскае Менскае. Улічваючы, што Ян Паўлікоўскі даволі значны час займаў урад суддзі земскага Менскага, абагульняючы аповяд пра яго будзе прыведзены ў раздзеле «Суддзі земскія Менскага ваяводства».

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 183, л. 555.
2. Там жа, ф 1816, воп. 1, с. 12, л. 403.
3. Там жа, ф 1816, воп. 1, с. 12, л. 444.
4. Там жа, ф 1769, воп. 1, с.15, л. 66.
5. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 6, л. 963; с. 20, л. 203; с. 25, л. 186.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 59, л. 721.
7. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 14, л. 176.
8. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 30, л. 18.
9. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 13, л. 1219.
10. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 3, л. 51.
11. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 14, л. 992
12. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 184, л. 743.

## 21.31. Ратынскі Феліцыян (11.07.1772 — 20.11.1772)

Прывілей на лавецтва Менскае, па адыходзе з гэтага ўрада Яна Паўлікоўскага на ўрад чэсніка Менскага, Феліцыян Ратынскі, мечны Менскі, атрымаў па прывілеі ад 11 ліпеня 1772 года (1), зразумела, адразу ж адмовіўшыся ад свайго ранейшага ўрада, які займаў з 7 снежня 1757 года (2). Яшчэ ў пачатку 1736 года атрымаў прывілей (3) на мастаўніцтва Менскае, але па нейкіх прычынах адмовіўся ад яго.

Феліцыян Ратынскі быў жанаты з Феліцыянай з Бжастоўскіх. ¨сць звесткі, што ён яшчэ раз уступаў у шлюб. Як нам стала вядома з дакумента, унесенага ў акты Менскага земскага суда 30 студзеня 1785 года, Феліцыян Ратынскі, мечны Менскі, і яго жонка Зося з Баржэцкіх купілі ў Казіміра Маліцкага фальварак Ласкаўка (4). Гэты фальварак разам з землямі, пакінутымі памёршым беспатомным братам Тамашом, быў перададзены Феліцыянам Ратынскім у спадчыну сыну Ігнацы, на дату ўнясення дакумента ў акты абознаму Менскаму. Дачка Феліцыяна Ратынскага, Брыгіда, згодна з заўвагай, змешчанай у часопісе «Спадчына» за 1997 год (№ 5, л. 2) была ў шлюбе за Ігнацы Пятровіным Янішэўскім, суддзёй гродскім і потым падстарастам судовым Менскім.

Як нам падаецца, Феліцыян, Францыск і Тамаш Ратынскія былі дзецьмі Антонія Міхала Ратынскага. У маніфесце інстыгатара Вялікага княства Літоўскага і войта Менскага Станіслава з Бужына Бужынскага ад 8 сакавіка 1739 года ў ліку абвінавачаных у розных злоўжываннях жыхароў Менску прыведзена і прозвішча Антонія Міхала Ратынскага, чэсніка Мельніцкага (5). Аднак трыманне ім урада чэсніка Мельніцкага не падцвярджаецца матэрыяламі, надрукаванымі ў 13 томе збору Віленскай археаграфічнай камісіі, дзе гаворыцца пра абранне Антонія Ратынскага, чэсніка ваяводства Менскага, дэпутатам да караля Аўгуста III (6). І гэта зусім не дзіўна, калі сам гетман Вялікага княства ў сваім прыватным пісьме Антонію Ратынскаму мянуе яго чэснікам Менскім. Святло на сапраўдны свой тытул пралівае сам Антоні Міхал Ратынскі: звяртаючыся ў Менскі гродскі суд для ўнясення гэтага ж пісьма ў актавыя кнігі, мянуе сябе чэснікам Мельніцкім. Знойдзеныя намі матэрыялы падцвярджаюць трыманне Антоніем Ратынскім урада чэсніка Мельніцкага.

Вельмі кепскую характарыстыку даюць Антонію Ратынскаму яго суседзі ў сваёй скарзе ў суд ад 9 студзеня 1725 года. На гэты час Антоні Ратынскі яшчэ не меў прывілея на чэснікоўства, але каб ён і быў, то гэта, роўным лікам нічога б не змяніла. Прывёўшы шмат прыкладаў пагардлівых адносін Антонія Ратынскага да сябе, суседзі адзначалі, што ён «увесь час нам розныя шкоды і крыўды чыніць…» (7).

Феліцыян Ратынскі да канца жыцця сабраў у свае рукі даволі буйныя зямельныя набыткі: яму належала маетнасць Стэцкаўшчына, Пціч, Яцэвічы, Ратынцава, добры пляц з пабудовамі на Юр’еўскай вуліцы ў Менску.

Разам са сваім сынам Ігнацы Ратынскім, Феліцыян Ратынскі, на

гэты час мечны Менскі, быў уключаны ў попіс патрыётаў ваяводства Менскага, складзены 8 кастрычніка 1765 года (8). Яго сын, Ігнацы Ратынскі, пазначаны як мечніковец Менскі і ўключаны ў склад ротмістраўства Волменскай парафіі. Брат Феліцыяна — Францыск, староста Пернаўскі і суддзя Трыбунальскі, быў уключаны ў склад ротмістраўства Дзеравянскай парафіі.

Адышоў з урада Феліцыян Ратынскі да 20 лістапада 1772 года (9), пратрымаўшы ўрад лоўчага Менскага каля чатырох месяцаў. Яго наступніку, Феліцыяну Прашынскаму, прывілей на ўрад лоўчага Менскага быў падпісаны і ўнесены ў кнігі Метрыкі Вялікаг «post fata» (пасля смерці) Феліцыяна Ратынскага.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 184, л. 794.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 181, л. 373.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 1699, л. 292.
4. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 16, л. 361.
5. Б. А., т. 3, л. 289.
6. АВАК, т. 13, лл. 166—167.
7. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 40, л. 697.
8. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 4, лл. 85—90.
8. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 184, л. 819.

## 21.32. Прашынскі Феліцыян (20.11.1772 — 09.03.1773)

Феліцыян Прашынскі атрымаў прывілей на лавецтва Менскае па прывілеі ад 20 лістапада 1772 года, пасля смерці былога лоўчага Менскага Феліцыяна Ратынскага (1). У 70-х гадах XVIII стагоддзя людзі доўга не затрымліваліся на адным і тым жа ўрадзе, таму што звычайна прывілеі на ўрады атрымлівалі ўжо ў вельмі пачцівым узросце. Праўда, гэта не датычылася Феліцыяна Прашынскага, вельмі ўплывовую асобу ў сістэме іерархіі Вялікага княства Літоўскага ў тыя часы. Якраз ён, будучы яшчэ параўнальна маладым, дзякуючы вялікім фінансавым магчымасцям бацькоў (Юзэфа Прашынскага, былога падстарасты судовага Менскага, а на час атрымання сынам урада лоўчага Менскага пакінуўшага свецкае жыццё і атрымаўшага да 1774 года тытул біскупа Менітэнскага (2), і Брыгіды з Янішэўскіх), змог

даволі хутка ўзняцца па лесвіцы ўрадаў. Ужо праз тры месяцы, на 9 сакавіка 1773 года, будучы абраным на ваяводскім сойміку змог атрымаць каралеўскае зацвярджэнне на пасаду суддзі земскага Менскага (3).

Меў братоў: Антонія, на 1771 год, пасля адыходу бацькі з урада падкаморыя Менскага, заняўшага і доўга трымаўшага гэты ўрад, Тадэуша, падчашага Менскага, Станіслава і Казіміра, менаваўшыхся падкаморычамі Менскімі. Юзэф Прашынскі ў пачатку 70-х гадоў XVIII стагоддзя нядоўга займаў урад падкаморыя Менскага. Антоні Прашынскі, верагодна не пакідаў вайсковую службу і на 28 лістапада 1774 года некаторыя дакументы падпісваў, мянуючыся генерал-ад'ютантам войскаў ВКЛ. Акрамя сыноў, у Юзэфа Прашынскага было яшчэ некалькі дачок: Ганна пашлюбіла Францыска Аборскага, Францыска — Яна Быхаўца, судзіча земскага Ваўкавыскага павета, Феліцыяна — Яна Іпагорскага Лянкевіча і, нарэшце, Тэрэза (у свеце, а ў законе св. Бенедыкта — Юстына), прысвяціла сваё жыццё служэнню богу.

Феліцыян Прашынскі быў жанаты з Людвікай з Хельбінгаў, з якой, ужо займаючы ўрад суддзі земскага Менскага, моцна пачысціў кішэні бацьку. У верасні 1783 года Юзэф Прашынскі, біскуп Менітэнскі, унёс у акты ліст, дзе, «не маючы іншага спосабу», вынес смецце з хаты і паведаміў, што яго «незычлівы сын цяпер можа браць пазыкі, але плаціць за іх, як гэта было раней, бацька адмаўляецца» (4).

Больш падрабязныя звесткі пра жыццё Феліцыяна Прашынскага, які займаў некаторы час, адначасова з выкананнем абавязкаў суддзі земскага Менскага, пасаду сакратара пячаткі Вялікага княства Літоўскага, будуць прыведзены ў раздзеле «Суддзі земскія Менскага ваяводства».

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 184, л. 819.
2. Там жа, ф 1769, воп. 1. с. 6, л. 45; с. 7, л. 345.
3. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 184, л. 884.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 22, л. 403.

## 21.33. Ясінскі Казімір (? — 18.12.1774 — ?)

У акты Менскага гродскага суда 20 снежня 1774 года ўнесены дакумент, складзены двума днямі раней, аб продажы дзедзічнай маетнасці Францкевічаў Радзімінскіх Габрыелава, або Новая Ясень, ад Пятра

Францкевіча Радзімінскага, падстарасты судовага гродскага Пінскага павета, Казіміру Ясінскаму, лоўчаму Менскаму (1). Ніякіх іншых згадак пра Казіміра Ясінскага, лоўчага Менскага, намі не знойдзена. Хутчэй за ўсё, у дадзеным выпадку пісарам гродскага суда пры актыкацыі (унясенні ў актавыя кнігі гродскага суда) дакумента была дапушчана памылка. Калі Казімір Ясінскі і быў лоўчым, то толькі Пінскага павета.

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1727, воп. 1, с. 16, л. 1462.

## 21.34. Ванькові́ч Тадэуш Казімір (09.03.1773 — 05.02.1777 — да 21.05.1782)

Згодна з матэрыяламі гродскага і земскага судоў Менскага ваяводства, Тадэуш Ванькові́ч, староста Шатраўскі, атрымаў прывілей на лавецтва Менскае пасля пераходу Феліцыяна Прашынскага на ўрад суддзі земскага Менскага (1). Прывілеі на ўрады і Феліцыяну Прашынскаму, і Тадэушу Ваньковічу былі ўнесены ў акты канцылярыі ВКЛ 9 сакавіка 1773 года. Да моманту атрымання ўрада лоўчага кароткі час займаў урад мечнага Менскага, з якога дабраахвотна адмовіўся пры атрыманні прывілея на лавецтва Менскае. З 1750 года і па 11 ліпеня 1772 года займаў урад канюшага Менскага.

Каралеўскі прывілей на ўрад лавецтва Менскага, як гэта было прынята ў тыя часы, пасля прадстаўлення яго на ваяводскім сойміку адразу ж быў унесены ў акты гродскага суда Менскага ваяводства (2). Толькі пасля актыкацыі, або як гэта цяпер мянуецца — пасля натарыяльнага сведчання, у актавых кнігах ваяводства дакумент атрымліваў прававую моц.

Тадэуш Ваньковіч, староста Шатраўскі і лоўчы ваяводства Менскага, сын Тадэуша Уладзіслава Ваньковіча, які быў у 1737—1748 гг. войскім Менскім і Тэрэзы з Філіповічаў. Меў братоў: Адама, менаваўшага сябе вайсковічам Менскім і памёршага да 1771 года, і Антонія, старасту Рушаўскага (3).

Да 23 верасня 1776 года ўступіў у шлюб з пані Ганнай Свентаржэцкай, дачкой Антонія Свентаржэцкага, пісара земскага Менскага, і пані Кацярыны з Багдановічаў. ¨сць меркаванне, што гэта быў яго другі шлюб. Імя яго першай жонкі намі пакуль не ўстаноўлена. На 23 верасня Тадэуш Казімір Ваньковіч, лоўчы Менскі, унёс свой рэфармацыйны ліст бацькам жонкі аб памерах атрыманага пасагу (4).

Па каралеўскім прывілеі ад 21 мая 1782 года пасля пераходу былога чэсніка Менскага ваяводства Яна Паўлікоўскага на падчаства Менскае Тадэуш Ванькові атрымаў урад чэсніка Менскага (5). На 24 красавіка 1784 года ў актавыя кнігі Менскага гродскага суда ўнесены дакумент аб продажы маетнасці Відагошчы ад Яна Караля Завішы, палкоўніка войскаў ВКЛ і яго жонкі Тэрэзы з Свентаржэцкіх, пісараўны земскай Менскай, Тадэушу і Ганне са Свентаржэцкіх Ваньковічам (6). У гэтым дакуменце Тадэуш Казімір Ваньковіч мянуецца ўжо чэснікам Менскім.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 184, л. 885.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 16, л. 1072.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 12, л.1016.
4. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 8, л. 532.
5. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 551, л. 323.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 23, л. 175.

## 21.35. Булгак Станіслаў
## (? — 14.01.1774 — ?)

Дакументы аб наданні Станіславу Булгаку ўрада лоўчага Менскага нам у рукі не трапілі. На 11 студзеня 1774 года веў працэс па вяртанні пазыкі ў Галаўным Трыбунале ВКЛ (1) і менаваў сябе лоўчым Менскім.

У попісе патрыётаў Менскага ваяводства, складзеным 8 кастрычніка 1765 года, пазначаны як маючыя аселасць і маетнасці ў межах Менскага ваяводства дзве асобы з такім прозвішчам: Лукаш, падстолі Мозырскі, і Бенедыкт, падсудковіч Навагародскі, Булгакі (2).

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 501, л. 54.
2. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 4, л. 87.

## 21.36. Дваржэцкі Юзэф
## (? — 30.12.1775 — 27.12.1785 — ?)

Знойдзена толькі тры згадкі пра лоўчага Менскага Юзэфа Дваржэцкага. Першая з іх атрымана намі з акта на арэнду маетнасці Замосце

ад Лукаша Зароскага, унесенага ў актавыя кнігі Менскага земскага суда 30 снежня 1775 года (1). Другая згадка мае адносіны да гэтай жа арэнды, але ўзята намі з дакумента, унесенага ў земскія менскія акты ўжо праз дзесяць гадоў пасля папярэдняга дакумента — 27 снежня 1785 года (2). Апошняе ўпамінанне пра Юзэфа Дваржэцкага ўзята намі з прыватнага ліста, унесенага ў земскія менскія актавыя кнігі 10 кастрычніка 1792 года (3), да пані Багдановічавай, лоўчыні Менскай, і датычацца абставін вывазу тавару з Круляўца. Праўда, у апошнім дакуменце Юзэф Дваржэцкі ўжо не мянуе сябе лоўчым Менскім.

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1769, воп. 1, 7, л. 949.
2. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 16, л. 561.
3. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 25, л. 440.

## 21.37. Шыманоўскі Мальхер (? — 16.10.1782 — ?)

Толькі адзін раз нам сустрэлася ўпамінанне пра Мальхера Шыманоўскага, нібыта лоўчага Менскага, у матэрыялах Менскага земскага суда. Сам дакумент быў складзены ў Навагародскім ваяводстве шляхтай гэтага ж ваяводства і паўторна быў актыкаваны ў актавых кнігах Менскага земскага суда. Верагодней за ўсё Шыманоўскі не быў лоўчым Менскім, але свядома або, магчыма, па віне пісара, быў мянованы ўраднікам Менскім. На 16 кастрычніка 1782 года Сымон Вароўскі прадаў фальварак Забалацце, размешчаны ў тым жа Навагародскім ваяводстве, Ігнацы Туганоўскаму, рэгенту земскаму гэтага ж ваяводства (1). Сам Мальхер Шыманоўскі быў запрошаны Вароўскім і Туганоўскім для сведчання гэтага ж дакумента.

Крыніцы:
1. НГАБ.Ф 1769, воп. 1, с. 11, л. 116.

## 21.38. Мысліцкі Амброжы (? — 27.12.1785 —?)

Як і ў выпадку з Шыманоўскім Мальхерам, Амброжы Мысліцкі, мянуючы сябе таксама лоўчым Менскім, разам з Антоніем Веламоўскім пасведчыў дакумент аб продажны, верагодна, таго ж фальварка

Забалацце, які крыху раней прадаваў Сымон Вароўскі пану Ігнацы Туганоўскаму . Як і ў першым выпадку, Забалацце знаходзілася ўсё ў тым жа Навагародскім ваяводстве. Але ў дакуменце, унесеным у актавыя кнігі Менскага земскага суда, на гэты раз выступаюць браты Нядзвецкія: Францыск, Адам і Юзэф, стольнікавічы Мсціслаўскага ваяводства. За 8 000 польскіх злотых яны прадавалі Юзэфу Заусцінскаму свой дзедзічны фальварак, атрыманы ад памёршага бацькі Сымона Нядзвецкага, стольніка Мсціслаўскага (1). Недавер да гэтых дакументаў выклікаецца тым, што яны былі змешчаны ў адным і тым жа томе дакументаў земскага суда за 1785 год.

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1769, воп. 1, с. 11, л. 171.

## 21.39. Аборскі Францыск з Абор (21.05.1782 — 24.07.1783 — да 21.10.1786)

Францыск з Абор Аборскі, былы мечны ваяводства Менскага, атрымаў урад лоўчага Менскага ўжо на сконе свайго жыцця па каралеўскім прывілеі ад 21 мая 1782 года пасля пераходу былога лоўчага Тадэуша Ваньковіча на чэснікоўства Менскае (1). У дакуменце, унесеным у гродскія актавыя кнігі Менскага ваяводства ў 1783 годзе, гаворыцца аб пазыках, узятых лоўчым Менскім Францыскам Аборскім у свайго зяця Казіміра Паморскага, ротмістра ваяводства Менскага (2). Верагодна, атрыманне новага ўрада каштавала яму вялікіх грошай і таму прыйшлося рабіць займы пад заклад у заставу (часовае трыманне) маетнасці да выплаты пазыкі.

Францыск Аборскі паходзіў з роду патомных ваяроў, якія перасяліліся з Польшчы на Літву яшчэ ў пачатку XVI стагоддзя. Бацькамі Францыска Аборскага былі: Рафал з Абор Аборскі, стараста Горбаўскі, і Ганна з Мацкевічаў. Да 1755 года ўступіў у шлюб з Ганнай з Прашынскіх, дачкой Юзэфа Прашынскага, падстарасты судовага Менскага, і Брыгіды з Янішэўскіх (3). Да атрымання ўрада мечнага па чарзе займаў урады крайчага і абознага ваяводства Менскага. На 1772 год у дадатак займаў урад ротмістра адной з харугваў ваяводскага шляхецкага апалчэння. У дакументах таго часу звычайна не падавалася, у якой харугве і якой парафіі Менскага павета быў азначаны ротмістр, таму мы можам рабіць толькі прыблізныя меркаванні. Улічваючы, што да гэтага часу памёр брат Францыска — Юзэф Аборскі, на 1765 год

ротмістр харугвы парафій Кораньскай, Гаенскай і Лагойскай, ды і асноўныя маетнасці Аборскіх знаходзіліся ў гэтых жа парафіях, то і ротмістроўства Францыска Аборскага ўключала шляхту гэтых жа парафій і было атрымана пасля смерці брата Юзэфа.

Аснову багацця Аборскіх былі закладзены яшчэ дзедам Францыска Рыгорам Аборскім, які разам са Станіславам Незабытоўскім, аўтарам слынных «Памятнікаў...», належаў да ліку адміністратараў Радзівілаў у канцы XVII стагоддзя. Менавіта пры Рыгоры Аборскім былі набыты такія вялікія маетнасці, як Кухмісцерскія Бесяды ад Заліўскіх, Далькевічы ад нашчадкаў Тэадора Валадковіча, пісара земскага Менскага, Прусевічы, Семянкевічы і Сліжына ад нашчадкаў Вінклера, гараднічага Інфлянцкага.

Аднак, ужо пры Францыску Аборскім і, асабліва пры яго сыну Тамашы, справы сям'і пайшлі кепска, і з многімі набыткамі дзеда прыйшлося развітацца. Адчуваючы вострую патрэбу ў грошах, у 1769 годзе аддаў «за пэўную суму», як тады пісалі, Бесяды, Баяры і Авенішкі на тры гады свайму цесцю Юзэфу Прашынскаму (4). Не трэба, аднак, думаць, што адносіны паміж зяцем і цесцем заўсёды заставаліся добразычлівымі. Ужо 27 чэрвеня гэтага ж года, праз два месяцы пасля перадачы Бесядаў у заставу, у Менскім гродскім судзе разглядалася скарга Францыска Аборскага на пана Юзэфа Прашынскага (5) Наогул, у тыя часы судзіліся часта і падоўгу. На 27 чэрвеня 1769 года ў Менскім гродскім судзе разглядалася справа з Ратынскім (6). На 26 красавіка 1770 года Францыск Аборскі, крайчы ваяводства Менскага, вядзе судовы працэс з Тадэушам Вяжэвічам, канюшычам Менскім, з-за парушэння сваіх правоў на памежныя грунты (7).

У 1772 годзе Францыск Аборскі прадае пані Кацярыне з Радзевічаў пажыццёвыя правы на Прусевічы (8). У 1782 годзе, 28 сакавіка, у акты Менскага земскага суда ўносіцца дакумент аб продажы Антоні Дышлевічу, скарбніку Менскаму, часткі Гаян за 2140 польскіх злотых (9). Відаць, што Гаяны былі даўно разабраны на невялікія кавалкі, самы большы з якіх не ўключаў больш дзесяці служб падданых.

Будучы вельмі хворым і нямоглым, вымушаны быў 24 кастрычніка 1783 года ўнесці ў земскія актавыя кнігі Менскага ваяводства дакумент аб перадачы сыну Тамашу частак сваіх маетнасцяў Беларучы, Гаяны, Далькевічы, Ганцавічы, якія самому Францыску Аборскаму засталіся пасля смерці беспатомных братоў: Юзэфа Аборскага, ротмістра ваяводства Менскага, і Бернарда, харужага пятыгорскага войскаў ВКЛ (10). Ужо 20 сакавіка 1786 года Тамаш Аборскі, лоўчыц

Менскі, прадаў маетнасці Далькевічы, Семянкевічы і Прусевічы пану Няверскаму, скарбніку Віцебскаму (11).

Акрамя сына Тамаша, меў яшчэ дзвюх дачок: Барбару, якая да 1769 года ўступіла ў шлюб з Казімірам Паморскім, мечным ваяводства Менскага, і Брыгіду, да 1773 года ўступіўшую ў шлюб са Станіславам Карафа Есманам, падчашым Смаленскім. На 13 студзеня 1773 года Станіслаў Есман і Брыгіда з Аборскіх дамаўляліся з бацькамі маладой аб атрыманні ў 1774 годзе пасагу памерам у 10 000 злотых (12). Запіс ад Казіміра Паморскага і Барбары з Аборскіх аб атрыманні ад бацькоў пасаговых сум, прадугледжаных шлюбным кантрактам, быў унесены ў актавыя кнігі Менскага гродскага суда 28 верасня 1769 года (13). Пры нараджэнні сына пані Барбара з Аборскіх Казіміравая Паморская, мечная і ротмістравая Менская, памерла каля 1775 года.

У 1785 годзе Францыск Аборскі, лоўчы Менскі, увязаўся ў складаны судовы працэс з Ратынскімі з-за Пярэжыр (14). Гэтая маетнасць у нейкай частцы яшчэ з даўніх часоў належала дзядзьку Францыска пану Стэфану Аборскаму, падкамораму Дэрпцкаму, ды і сам Францыск Аборскі нейкі час трымаў гэтую маетнасць ад свайго дзядзькі. Некалі пры падзеле спадчыны, што засталася пасля смерці падкаморыі Дэрпцкага гэтая маетнасць перайшла ў валоданне Юзэфа Аборскага, ротмістра харугвы Кораньскай і Гаенскай. На 22 сакавіка 1775 года ён перадае Пярэжыры за 1268 залатых «галандэрскіх» (галандскіх) манет у заставу на тры гады Адаму і Гіпаліту Ратынскім, чэсніковічам Менскім (15). Зразумела, што праз некаторы час вярнуць грошы часовым трымальнікам маетнасці аказалася немагчымым. Будучы вельмі хворым,Францыск Аборскі прыбыць на суд не змог, і ў судовай справе ўдзельнічаў толькі сын Тамаш Аборскі. У дадатак аказалася, што ў Аборскіх на Пярэжыры не захавалася ніякіх дакументаў, справа была прайграна і прынесла лоўчаму Менскаму вялікія страты грошай.

Памёр Францыск з Абор Аборскі да 1 чэрвеня 1786 года. Гэтай датай пазначаны каралеўскі прывілей на ўрад лавецтва Менскага Тадэушу Багдановічу (16). Жонка лоўчага Менскага пані Ганна з Прашынскіх жыла яшчэ ў 1793 годзе (17).

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 551, л. 324.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 22, л. 354.
3. Там жа, ф 1816, воп. 1, с. 19, л. 10.
4. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 15, л. 604.

5. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 73, л. 97.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 73, л. 312.
7. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 66, л. 312.
8. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 6, л. 410.
9. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 13, л. 149.
10. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 14, л. 709.
11. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 17, л. 130.
12. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 6, л. 853.
13. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 17, л. 360.
14. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 16, л. 323.
15. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 7, л. 617
16. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 551, л. 1277.
17. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 31, л. 74.

## 21.40. Багдановіч Тадэуш (01.06.1786 — 24.03.1789)

Тадэуш Багдановіч атрымаў каралеўскі прывілей на ўрад лавецтва Менскага, падпісаны 1 чэрвеня 1786 года (1). Урад лоўчага займаў нядоўга, бо ўжо 21 кастрычніка 1786 года атрымаў прывілей на чарговы ўрад скарбніка Менскага (2). Аднак па нейкіх прычынах працягваў і далей менаваць сябе лоўчым Менскім. Зусім верагодна, што атрыманне ўрада лоўчага Менскага не зусім задаволіла амбіцый Тадэуша Багдановіча. На грамнічным (лютаўскім) ваяводскім сойміку 1787 года пасля смерці былога суддзі земскага Менскага Тадэуша Валадковіча спрабаваў, заручыўшыся падтрымкай многіх уплывовых палітыкаў, атрымаць рашэнне сойміка аб сваім прызначэнні на пасаду суддзі земскага Менскага, але беспаспяхова (3). Яшчэ да 1772 года Тадэуш Багдановіч уступіў у шлюб з Кацярынай Янкоўскай (4).

Тадэуш Багдановіч, стараста Самніцкі, прымаў актыўны ўдзел у палітычным жыцці ваяводства, верагодна, маючы юрыдычную адукацыю, займаўся афармленнем лаўдумаў соймікаў і ўносіў іх у актавыя кнігі ваяводскіх судоў. У 1776 годзе на грамнічным ваяводскім сойміку быў абраны шляхтай дэпутатам, або, як часта пісалі, суддзёю Трыбунальскім, у склад Галаўнога Трыбунала ВКЛ на рускую рэпартыцыю (5).

19 кастрычніка 1786 года Тадэуш Багдановіч падпісвае з братамі Марціноўскімі, Базылём, каморнікам Менскага ваяводства, Дамінікам, Янам і Аляксандрам, дакумент аб прыналежнасці земляў урочышча Міцеўшчына, дзе Тадэуш Багдановіч мянуе сябе лоўчым Менскім (6).

Ужо ў наступным годзе на грамнічным сойміку ваяводства Менскага зноў атрымаў пацвярджэнне шляхты на ўрад лоўчага Менскага (7). Займаў урад лоўчага Менскага і на 1789 год, калі падпісаўся пад ухвалай грамнічнага, ад 9 лютага, ваяводскага сойміка (8). Верагодна, неўзабаве памёр, бо ўжо ў 1791 годзе яго другая жонка пані Людвіка з Вышынскіх Тадэушовая Багдановічавая, лоўчыня Менская, самастойна вяла справы з пані Марыянай з Прэрадоўскіх, удавой па Іахіму Хмару, войскім Менскім, і атрымала ад яе карабарацыйны ліст (9). Пані лоўчыня Менская жыла яшчэ і ў кастрычніку 1792 года: гэта відаць з прыватнага ліста пана Дваржэцкага да пані Людвікі з Вышынскіх Багдановічавай, лоўчыні Менскай, аб вывазе тавараў з Круляўца (10).

Вядома, што ў гэтай сям'і была дачка Юдыта, якая ўступіла ў шлюб з Вінцэнты Валадковічам, вайсковічам Менскім. Як Юдыта, так і сам Вінцэнты Валадковіч памерлі параўнальна маладымі, пакінуўшы нялетніх дзяцей.

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 551, л. 1277.
2. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 551, л. 1311.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 25, л. 59.
4. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 6, л. 682.
5. «Дэпутаты Галаўнога Трыбунала ВКЛ (1697 — 1794 гг.)...», л. 330.
6. НГАБ. Ф 1769, воп. 1, с. 17, л. 572.
7. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 18, л. 87.
8. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 28, л. 74.
9. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 22, л. 75.
10. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 25, л. 440.

## 21.41. Варанец Тадэуш (24.03.1789 — 10.02.1790 — ?)

Тадэуш Варанец атрымаў каралеўскі прывілей на ўрад лавецтва Менскага, падпісаны 24.03.1789 года (1). На 10 мая 1791 года Тадэуш Варанец, лоўчы і каморнік Менскі, скончыў разлікі па пасагу са сваім шваграм Ануфры Дваржэцкім, ротмістрам і камісарам цывільна-вайсковай і парадкавай камісіі Менскага ваяводства, які ўступіў у шлюб з сястрой Тадэуша Варанца — пані Іаннай Варанцоўнай. Маладыя атрымалі пасаг, прадугледжаны тэстаментам памёршага нядаў-

на бацькі — Антонія Варанца, скарбніка Менскага, у суме 17 000 злотых (2).

Калі Тадэуш Варанец атрымаў прывілей і быў зацверджаны ваяводскім соймікам лоўчым Менскага ваяводства, нам не давялося ўстанавіць. Вядома, што займаў гэты ўрад якраз у пачатку 1790 года, таму што 10 лютага гэтага года падпісаў лаўдум, або рашэнне, ваяводскага сойміка, мянуючы сябе лоўчым Менскім (3). Тадэуш Варанец, сын Антонія Варанца і Анэлі з Паўлікоўскіх, мянуемых у некаторых дакументах скарбнікамі Менскага ваяводства, жыў яшчэ ў 1795 годзе, калі імя яго было ўнесена ў матэрыялы перапісу землеўладальнікаў, праведзенага ўладамі Расейскай імперыі (4). Згодна з імі, Тадэушу Варанцу ў межах Менскага ваяводства належала да 32 двароў падданых у сёлах: Бузукаве — 17, Ардоўшчызне — 4, Лёцкаўшчызне — 1 і ў Залессі — 10.

Імя Антоні Варанца, бацькі Тадэуша, было унесена ў попіс патрыётаў Менскага ваяводства, складзены 8 кастрычніка 1765 года (5) па Ракаўскай парафіі. Верагодна, што калі і быў скарбнікам Менскага ваяводства, то ўрад атрымаў ужо пасля складання попісу. У гэтым жа попісе пазначаны яшчэ і Крыштоф Варанец, крайчы Смаленскі. Неўзабаве пасля смерці Крыштофа Варанца яго жонка, перадаўшы ўсю спадчыну дзецям, пайшла ў адзін з Менскіх жаночых кляштараў.

У другой палове XVIII стагоддзя ў актах Менскага ваяводства часта сустракаецца прозвішча Юзэфа Данбова Варанца, сына Крыштофа, крайчага Смаленскага. Юзэф Варанец займаў па чарзе ўрады будаўнічага і мастаўнічага Менскага ваяводства. Як вынікае з архіўных матэрыялаў, Юзэф Данбова Варанец паходзіў са шляхты Ашмянскага павета і ўсе яго маетнасці размяшчаліся там жа. Тым не меней, і для Менскага павета Варанцы не былі чужымі, верагодна, значныя зямельныя ўладанні ў межах павета яшчэ з даўніх часоў належалі Варанцам. Так, яшчэ ў 1714 годзе Міхал Варанец пазваў у Менскі гродскі суд Красоўскага для вырашэння памежных спрэчак (6).

Крыніцы:
1. НГАБ, КМФ 18, воп. 1, с. 555, л. 440.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 30, л. 396.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 29, лл. 76—78.
4. Там жа, ф 333, воп. 9, с. 3, лл. 307, 317.
5. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 4, л. 86.
6. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 38, л. 800.

## 21.42. Каралько Баброўскі Францыск Мікалай (? — 15.02.1792 — ?)

Верагодней за ўсе паходзіў са шляхты, што мала маетнасці ў межах Навагародскага ваяводства. У нашы рукі трапіў дакумент ад 14 чэрвеня 1774 года, дзе паведамляецца аб скарзе, унесенай у актавыя кнігі Менскага земскага суда Юзэфам Прашынскім, біскупам Менітэнскім, былым падстарастам судовым Менскім. Справа датычылася добраў Прылукі, Каралішчавічы, Лошыца, Трасцянец і Новы Двор, а, таксама, некалькіх пляцаў і дамоў у самім Менску, якія раней былі ў трыманні Марціна Каралька, харужага Навагародскага (1). Пра самога Францыска Мікалая Каралькя Баброўскага ў нашым распараджэнні ёсць вельмі мала звестак. Вядома, што, маючы добрую юрыдычную адукацыю, паспяхова вёў судовыя справы ва ўсіх судах Вялікага княства Літоўскага. Так, 2 сакавіка 1789 года Мікалаю Каралько, тады яшчэ скарбніку Браслаўскага павета, была нададзена пленімпатэнцыя (даверанасць) ад Віктара Панятоўскага, прафесара матэматыкі публічных школ Варшавы (2).

Цікава, што з Панятоўскімі Міхал Баброўскі Каралько ў залах пасяджэнняў судоў ВКЛ сустракаўся не адзін раз. Яшчэ ў 1776 годзе Мікалай Каралько, яшчэ без ніякага ўрада, атрымаў падцвярджэнне ад Людвіка і Канстанцыі з князёў Панятоўскіх Тышкевічаў, пісараў ВКЛ, аб завяршэнні ўстаноўленых судамі княства грашовых выплат. Некалі Мікалай Каралько ўчыніў напад на маетнасць Тышкевічаў, разграбіў яе і збіў падданых (3).

У адзіным вядомым нам запісе, дзе Мікалай Баброўскі Каралько мянуецца лоўчым Менскім, складзеным 15 лютага 1792 года (4), ён вядзе судовую справу з Базылём Замойскім, паручнікам Навагародскім, і яго жонкай Ганнай з Пшэздзецкіх, былой Вайдзевічавай, судзінай гродскай Менскай. Звесткі аб даце надання ўрада лоўчага Францыску Каралько Баброўскаму ў нашым распараджэнні адсутнічаюць.

Крыніцы:
1. НГАБ. Ф 1769, воп. 1, с. 30, л. 268.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 28, л. 252.
3. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 9, л. 555.
2. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 24, л. 303.

## 21.43.Багушэвіч Мінькоўскі Станіслаў (21.10.1786 — ?)

Станіслаў Багушэвіч Мінькоўскі, капітан войскаў ВКЛ, стражнікавіч Полацкі, будучы суддзя гродскі Менскі, атрымаў прывілей на ўрад 21 кастрычніка 1786 года (1). Але па нейкіх прычынах ніколі не менаваў сябе лоўчым. Неаднаразова выбіраўся шляхтай Менскага павета паслом на соймы Рэчы Паспалітай, дзе праявіў сябе сапраўдным патрыётам Вялікага княства Літоўскага. Больш падрабязнае жыццеапісанне Станіслава Багушэвіча Мінькоўскага будзе прыведзена ў раздзеле «Суддзі гродскія Менскага ваяводства».

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 551, л. 1311.

І М Я Н Н Ы  П А К А З Н І К

# Раздзел 29. Струкцасы Менскага ваяводства

Струкцасы. Выкарыстоўваўся для вырознення шляхты і надаваўся пажыццёва. Вялікага распаўсюджання не атрымаў. Надалося сустрэць толькі два дакументы, дзе ўпамінаецца гэты ўрад. Верагодна, і Ігнацы Трускоўскі, і Андрэй Марыноўскі былі адзінымі ў Менскім ваяводстве, хто дабіваўся і атрымаў гэты ўрад. Цікава, што ў Смаленскім ваяводстве гэтыя ўрады існавалі і да 1698 года. На 27 снежня 1698 года падпісаны прывілей на атрыманне гэтага ўрада неіснуючага на той час ваяводства Тэадору Батвіня пасля смерці Бяляцкага (1).

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 149, л. 597.

## 29.1. Трускоўскі Ігнацы (? — 31.08 1750)

Калі было нададзена Ігнацы Трускоўскаму струкцаства Менскага ваяводства, намі не ўстаноўлена. Звесткі пра яго мы знайшлі ў каралеўскім прывілеі ад 31 жніўня 1750 года аб наданні струкцаства Андрэю Марыноўскаму (1). Звычайна такія дакументы, апрача прозвішча асобы, якой надаецца ўрад, прыводзяць звесткі пра асобу, якая раней займала гэты ўрад і па якой прычыне адышла з яго. У дадзеным выпадку прычынай пераходу ўрада да Марыноўскага з'яўлялася смерць (post fata) Ігнацы Трускоўскага.

Верагодна, што яго сынам быў Ян Трускоўскі, які ўнёс 24 верасня 1773 года ў актавыя кнігі Менскага гродскага суда тэстамент сваёй жонкі Антаніны з Аржахоўскіх Трускоўскай. З тэстамента відаць, што жылі Трускоўскія ў ваколіцах колішняга Койданава, бо Антані-

на Трускоўская прасіла сябе хаваць на могілках Койданаўскага касцёла (2).

У скарзе Іасафата Юзэфа і Антонія Калецкіх, маршалковічаў Мозырскіх, унесенай 4 снежня 1722 года ў дэкрэтовыя кнігі Менскага гродскага суда, сярод абвінавачаных у здзяйсненні нападу на маетнасць маршалковічаў Мозырскіх у Менскім павеце, арганізаванага Дамінікам Есманам, кашталянічам Менскім, упамінаецца і Ежы Трускоўскі (3).

Крыніцы:

1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 176, л. 652.
2. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 15, л. 960.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 39, л. 1315.

## 29.2. Марыноўскі Андрэй Антоні (31.08. 1750. — 08.10.1765 — ?)

Андрэй Антоні Марыноўскі атрымаў свой прывілей на струкцаства Менскае пасля смерці Ігнацы Трускоўскага 31 жніўня 1750 года (1). Вядома, што жыў яшчэ ў 1765 годзе, калі імя было ўнесена ў рэестр попісовы патрыётаў Менскага ваяводства ад 8 кастрычніка 1765 года (2). Неабходна адзначыць, што вялікай павагі да гэтага ўрада ў складальнікаў рэестра не назіралася. Калі ўсе іншыя ураднікі ваяводства Менскага былі ўнесены ў рэестр тройчы — у пачатку, у канцы рэестра ды і разам з суседзямі ў харугву па месцы пражывання, то Андрэй Марыноўскі запісаны толькі адзін раз — у складзе сваёй харугвы, ды і то без імені (2).

У актах Менскага гродскага суда пад 1721 годам упамінаецца яшчэ адзін Марыноўскі — Мікалай. Якраз 27 лютага гэтага года ён уносіць тэстамент сваёй жонкі, пані Юстыны з Шаблоўскіх, складзены ў пачатку гэтага ж месяца (3).

І ў матэрыялах Метрыкі знойдзена ўпамінанне пра Марыноўскага — Яна Казіміра. У дэкрэце каралеўскага асэсарскага задворнага суда ад 16 снежня 1692 года гаворыцца аб баніцыі, выдадзенай Яну Казіміру Марыноўскаму і яго жонцы Іаанне Ленкевічоўне на Яна Якубоўскага, Марціна і Станіслава Ленкевічаў з дакладам Дамініка Капусцінскага, які трымаў маетнасць Андрушкоўшчызна ў Лідскім павеце, належачую Ленкевічам. Справа ішла зноў аб неадданні пасаговых сум, прадугледжаных шлюбным кантрактам (4).

Крыніцы:
1. НГАБ. КМФ 18, воп. 1, с. 176, л. 652.
2. Там жа, ф 1769, воп. 1, с. 4, л. 85.
3. Там жа, ф 1727, воп. 1, с. 8, л. 218.
4. Там жа, кмф 18, воп. 1, с. 391, л. 418.

ІМЯННЫ ПАКАЗНІК

# Ураднікі Менскага ваяводства.

Спіс выпускаў даведніка з пазначэннем даты іх выхада ў свет.

| | Спіс раздзелаў даведніка | Нумар выпуска | Дата выхада ў свет |
|---|---|---|---|
| 1. | Ваяводы | Выпуск 9 | 2011г. |
| 2. | Старасты судовыя гарадавыя | Выпуск 9 | 2011г. |
| 3. | Кашталяны | Выпуск 9 | 2011г. |
| 4. | Войты | Выпуск 8 | 2010г. |
| 5. | Падкаморыі | Выпуск 5 | 2009г. |
| 6. | Харужыя | Выпуск 5 | 2009г |
| 7. | Палкоўнікі | Выпуск 4 | 2008г. |
| 8. | Суддзі земскія | Выпуск 6 | 2009г. |
| 9. | Падсудкі земскія | Выпуск 6 | 2009г. |
| 10. | Войскія | Выпуск 5 | 2009г. |
| 11. | Стольнікі | Выпуск 1 | 2007г. |
| 12. | Падстоліі | Выпуск 1 | 2007г. |
| 13. | Пісары земскія | Выпуск 6 | 2009г. |
| 14. | Падстаросты судовыя гродскія | Выпуск 7 | 2010г. |
| 15. | Суддзі гродскія | Выпуск 7 | 2010г. |
| 16. | Пісары гродскія | Выпуск 7 | 2010г. |
| 17. | Падчашыя | Выпуск 4 | 2008г. |
| 18. | Чашнікі | Выпуск 4 | 2008г. |
| 19. | Гараднічыя | Выпуск 4 | 2008г. |
| 20. | Скарбнікі | Выпуск 2 | 2007г. |
| 21. | Лоўчыя | Выпуск 1 | 2007г. |
| 22. | Мечныя | Выпуск 2 | 2007г. |
| 23. | Канюшыя | Выпуск 3 | 2008г. |
| 24. | Абозныя | Выпуск 3 | 2008г. |
| 25. | Стражнікі | Выпуск 2 | 2007г. |
| 26. | Крайчыя | Выпуск 3 | 2008г. |
| 27. | Мастаўнічыя | Выпуск 3 | 2008г. |
| 28. | Будаўнічыя | Выпуск 3 | 2008г. |
| 29. | Струкцасы | Выпуск 1 | 2007г. |
| 30. | Дырэктары ваяводскіх соймікаў | Выпуск 9 | 2011г. |
| 31. | Дэпутаты Галаўнога Трыбунала ВКЛ і сойма РП | Выпуск 9 | 2011г. |
| 32. | Ротмістры | Выпуск 2 | 2007г. |
| 33. | Каморнікі | Выпуск 8 | 2010г. |
| 34. | Возныя | Выпуск 5 | 2009г. |
| 35. | Лентвойты | Выпуск 8 | 2010г. |
| 36. | Менскі магістрат | Выпуск 8 | 2010г. |
| 37. | Рэгенты земскія | Выпуск 6 | 2009г. |
| 38. | Рэгенты гродскія | Выпуск 7 | 2010г. |

